

# 7

ЛІПЕНЬ

МІНСК, 1973

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ
ЧАСОПІС



# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМБ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ

Выдавецтва ЦК КП Беларусі * Заснаваны ў 1953 годзе







Вокладка **М. Пракапенкі.**

Шмуцтытулы **П. Драчова** (стар. 3) і **Р. Кадзета** (стар. 119).





# ПАЭЗІЯ

- Артур ВОЛЬСКІ
- Святлана БАСУМАТРАВА
- Эдуард ЯРАШЭВІЧ
- Алесь АДАМОВІЧ
- Янка БРЫЛЬ



- Уладзімір КАЛЕСНІК
- Фёдар ЯФІМАЎ
- Браніслаў СПРЫНЧАН
- Давід СІМАНОВІЧ
- Эдуард СКОБЕЛЕЎ

# ПРОЗА





***артур вольскі***

*

ПАЭЗІЯ

*

## *Слова ганаровага шахцёра*

О, Салігорск!
Яшчэ мне раз дазволь
грудзьмі ўвабраць твой дух саланаваты.
Перад людзьмі,
                    што здабываюць соль,
я вінаваты,
многа вінаваты.

І хто даўмеўся,
хто ім падказаў
мяне назваць шахцёрам ганаровым?
А я дасюль яшчэ не адказаў
здабытым з нетраў,
                    непаўторным словам.

Тым словам,
што з-пад тоўшчы слоў пустых,
як з-пад зямлі, адкрыцца мне павінна.
На жаль, пакуль не знойдзена машына,
каб раскідаць стаптаных слоў пласты.

Рукамі пракладаць я мушу штрэк,
нібы шахцёр,
                    да пошуку гатовы.
Як прагне солі кожны чалавек,
так прагну я здабыць жывыя словы.

Патрэбна соль —
                    найбольшая з патрэб —
і за сталом штодзень,
                    і жыту ў полі.
Вядома ўсім:
                    без солі хлеб — не хлеб
і верш — не верш,
                    калі няма ў ім солі.

Хто не дайшоў яшчэ да адкрыцця,
адкрые сёння,
                    заўтра,
                    трошкі потым:
як соль зямлі,
                    даецца соль жыцця
у шчырай працы
                    ды з салёным потам.

Таму шукаю словы,
нібы соль,
каб верш не быў сухі і праснаваты.
...О, Салігорск!
Яшчэ раз мне дазволь
грудзьмі ўвабраць
                    твой дух саланаваты.

## *Буслы на мінарэце*

Я гасціў у доме Ташпулата.
Браў рукой духмяны смачны плоў.
У Пулата — розуму палата,
хоць падчас і не хапае слоў.

Гаварылі мы пра ўсё на свеце.
Сонца азіяцкага цяпло,
збегшы ўніз па стромкім мінарэце,
ручаямі ў кубкі нам цякло.

І паглядам, трохі падагрэтым
сонцавай энергіяй знутры,
бачу птахаў я над мінарэтам
у спякотным небе Бухары.

Вось дык дзіва!
Кланяюся нізка
вам, сябры нязменныя — буслы.
Вы тут што — са сталаю прапіскай
ці маёй рэспублікі паслы?

Можа, як мяне, і вас, крылатых,
вабіў пагасціць пясчаны рай?
Можа, вам карціць, як Ташпулату,
паглядзець на мой сасновы край?

А яны не чуюць. Іх занятак
захапіў вялікі, як сусвет,
каб сваіх — бухарскіх — буслянятак
накарміць да вечара як след.

Ах, буслы!
Люблю я гэтых птахаў.
Колькі ўжо спрадвечных лет і зім
з мінарэтаў, вежаў, стрэх і дахаў
шчасце дораць —
                    мне,
                        табе,
                            усім.

І сябе нібыта ў роднай хаце
я адчуў. І зразумеў тады,
што і мы з табою, Ташпулаце,—
з аднае буслінай чарады.

## Рыбакі

Хоць горад іх з усіх бакоў
нямоўчным цісне гудам,
не менш як сотня рыбакоў
к сваім прыліпла вудам.

Не варухнуцца паплаўкі:
у скверы — не ў аеры.
Ды не здаюцца рыбакі,
найбольш — пенсіянеры.

Усё вядома ім даўно.
Любы з іх дасць параду,
як лепей выбраць вудзільна,
як насадзіць прынаду.

Якія рыбцы чарвячкі
і кашкі даспадобы.
У іх і лёскі і кручкі
адменнейшае пробы.

Сплыло ўжо шмат удач-няўдач
з жыццёвай плынню зыбкай.
Ды многіх лёс не звёў,
хоць плач,
З той —
залатою —
рыбкай.

Хаця б на момант горад сціх,
хаця б на міг кароткі.
Хапіла б сёння тут на ўсіх
адной маленькай плоткі.

А рыбка сноўдае па дне,
ды не кране прынады. Не.

## Нумараваныя дрэвы ў парку Чалюскінцаў

У акружэнні гарадскіх муроў,
як у няволі,
паміраюць сосны.
Пад чарнатой жалобных нумароў
схаваны боль і смутак невыносны.

На магілках — таксама нумары.
Як на дамах.
Над кожнай дамавінай.
Вось-вось абудзяць ранак тапары,
каб сталі дрэвы мёртваю драўнінай.



Яны маўчаць.
І я не закрычу.
Каго гукаць!
Мацней сцінаю зубы.
Бо нават дзятлу, добраму ўрачу,
не ўратаваць іх ад няўмольнай згубы.

Трохзначнымі ўжо сталі нумары,
выказнікі прысуду — не пагрозы.
Смалою з-пад парэпанай кары
бездапаможна застываюць слёзы.

І сэрца ахінаецца тугой
пад гэты плач,
пакуль яшчэ свядомы.
Ды ўсё-ткі
сам
шчаслівы я з таго,
што нумар мой дагэтуль не вядомы.

## Пакута

Яна, як хмара, наплыла.
З чаго б?
І сам яшчэ не знаю.
Але няўхільная, скразная
мяне пакута апякла.

Яна і сэрца мне і розум
гатова выпаліць датла.
Хутчэй бы вырвацца з жытла
насустрач соснам і бярозам.

Каб на далонь раса лягла,
каб скроні ветрам астудзіла.
Але дарэшты скрала сілы
падступнай немачы імгла.

Я не хацеў нікому зла.
Калі і крыўдзіў — ненаўмысне.
Чаму ж пакута прарасла
і гэтак цісне? Цісне. Цісне.

А ноч — як чорная смала.
І не заснуць мне:
што прысніцца?
Маланка неба апякла,
прашыла хмары і ўвайшла
у грудзі.
Будзе навальніца.

## Сусветы

Як да самай запаветнай мэты,
проста ў космас за табой плыву.
Гэта ў ціхі час,
калі паэтам
рыфмы лезуць самі ў галаву.

Не законнай —
законнай
сведкай
дзівіцца Венера нам услед.
Гэта ў позні час,
калі з суседкай
нецвяроза лаецца сусед.

Але мы,
узнятыя парывам
шчодрага ўзаемаадкрыцця,
спазнаём у гэты міг —
як дзіва —
тайну пераемнасці жыцця.

Не рыпіце пёрамі, паэты.
Не сварыся з жонкаю, сусед.
У адно сышліся два Сусветы,
новы адкрываючы Сусвет.

## Мікеланджэла

Яснасць раніцы,
ночы хмарнасць —
пераблытана ўсё ў жыцці.
Адсякае разец
бяздарнасць,
каб да вечнага шлях знайсці.

Пад крутым небасхілам храма
стаў Давід — рукатворны цуд.
Што там бог!
Ён свайго Адама
з мяккай гліны ляпіў.
А тут...

Да стагоддзя ракет і тэле
з простай прашчай юнак дайшоў.
І пульсуе ў каменным целе
крываносага майстра кроў.

Ён асколак шпурнуць гатовы,—
што яму да судовых граф! —
каб, асекшыся на паўслове,
паў бяздарнасці Галіяф.



святлана
басуматрава





паэзія

■

Мядзяны колас долу хіліць жыта.
Птушыны спеў над возерам дрыжыць.
Не шмат пражыта — многа перажыта.
А колькі давядзецца перажыць!
Жыццё маё, кастром з сухога вецця
Гары на ўсіх сямі вятрах — не тлей.
Я так хачу пражыць на гэтым свеце,
Каб стала ў ім хоць крышачку святлей.
А лёс такі не кожнаму даецца.
Не ў кожным сэрцы гэткіх сіл стае,
І як сланечнік ў неба ні імкнецца —
Да сонца галавой не дастае.
...Абрусам сінім неба разаслана.
Гарыць каліна — не згарыць датла.
Дала матуля мне імя Святлана,
Нібы часцінку вечнага святла.

■

Мы — дзеці вандроўнага веку.
Наш лёс — скрыжаванні дарог.
Ды трэба ў жыцці чалавеку
Адзін запаветны парог.
Чым можна суняць — невядома —
Усё хваляванне душы,
Калі да бацькоўскага дома

«Папутка» імчыць па шашы.
Шафёру падзякую, злезу
І раптам убачу з гары
Ліловае зарава бэзу,
У якім наваколле гарыць.
Папрок сабе хуценька кіну —
Не часта пісала лісты.
Я рукі шырока раскіну,
Нібы абдымаю кусты,
Што гронкі духмяныя туляць,
І ў сэрца прасочыцца май.
Дзень добры, сястра і матуля!
Дзень добры, мой бэзавы край!

## Танцы

Быў клуб нам галоўнейшым цэнтрам.
І мы ў ім кружылі не раз
Пад скрыпачку з польскім акцэнтам
То польку з прысядам, то вальс.
У клубе было цеснавата,
Падлога ўгіналася ў такт,
Ды танцы былі нам, як свята.
Скажыце, што гэта не так!
Патухне святло, дык газнічка
Была на выпадак такі.
Кароткая ночка, як знічка,
Канала ў лугах ля ракі.
...Грыміць навальніца аркестра,
Ды цуда чакаю дарма.
Святла ўжо даволі і месца.
Тапочуць — а свята няма.

## Жнівень

Пачакай, свавольнік-лівень,
Не чапай мае палі.
Самы шчодры месяц-жнівень
Гаспадарыць на зямлі.
Месяц жытні і мядовы,
Месяц яблыкаў і зор.
У жніўні шчырых песень словы
Рвуцца з сэрцаў на прастор.
У жніўні кожнае світанне,
Нібы свята для людзей.
Жнівень мой — увесь з кахання,
З самых сонечных надзей.







*эдуард ярашэвіч*

# ЛЕТНЯЯ ПРАКТЫКА Ў ВЕРБІЧАХ

АПОВЕСЦЬ

Мал. У. Конаша

**1**

Кастусь Ручай прыехаў у Вербічы ў панядзелак, у другой палове гарачага ліпеньскага дня.

Была на пачатку дарогі прывакзальная плошча сталіцы з яе шматлюддзем і несціханым гулам машын, а тут перад вачыма Кастуся паўстала шырокая і амаль бязлюдная вяскова вуліца. Сышоўшы з аўтобуса, ён пакрочыў гэтай вуліцай, спадзеючыся хутка знайсці саўгасную кантору.

Быў пачатак ліпеня, і тое, што на яблынях за платамі было поўна яблыкаў, не здзівіла Кастуся. Але падзівіла яго, колькі садоў у Вербічах — ад хаты да хаты густая зялёная засень, здаецца, пераскочыў бы цераз плот, упаў бы на траву і доўга ляжаў, на ўсе грудзі ўдыхаючы яблычны водар.

Вуліца прывяла Кастуся на плошчу, ад якой у розныя бакі разбягаліся яшчэ дзве вуліцы. Пільнае Кастусёва вока прыкмеціла найперш пафарбаваны ў ружовы колер будынак з шыльдай «Сталовая». Побач са сталовай быў сельмаг, а на другі бок плошчы, насупраць сельмага, стаяў двухпавярховы белацагляны будынак. Кастусь накіраваўся цераз плошчу да гэтага будынка. Здагадка яго не падвяла: шкляная шыльда сведчыла, што тут знаходзіцца кантора саўгаса «Вербічы».

Кастусь адчыніў высокія цяжкія дзверы, за імі яшчэ адны. У невялікім пакоі сядзела за сталом маладжавая жанчына, друкавала штосьці на машынцы.

— Мне трэба бачыць галоўнага інжынера,— прывітаўшыся, сказаў Кастусь.

— Адзінец у раёне на нарадзе,— адказала жанчына, не падымаючы галавы ад машынкі.

Кастусь у думках дараваў ёй абыякавасць: твар у жанчыны выглядаў стомленым.

— Я на практыку да вас. З інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Дзе я мог бы знайсці прытулак?

— У гасцініцы. Тут яна, за канторай.

Кастусь выйшаў, прыпыніўся на ганку. Што рабіць? Завітаць у сталовую? Ці адразу ў гасцініцу? Бадай, спачатку лепш пайсці ў гасцініцу — трэба атабарыцца, а калі потым і пойдзеш куды, то ўжо вернешся як бы ў свой дом.

Гасцініца — невялікі, па ўсіх прыкметах, нядаўна пабудаваны драўляны домік, з вуліцы да якога вяла вузкая сцежка, атуленая вішняком. Сустрэла Кастуся пажылая жанчына. Яна правяла яго ў пакой з чатырма ложкамі, двума крэсламі і сталом, на якім у добрым парадку стаялі графін з вадой, попельніца і рэпрадуктар. За акном убачыў Кастусь сад, да голля бліжэйшай яблыні было як рукой дастаць. Ён усміхнуўся:

— І хто гэта дадумаўся тут гасцініцу ўмасціць?

— Дзянісаў, дырэктар наш... А я ўжо колькі метраў ад саду адбіла,— адказала жанчына.

— Сад, значыць ваш?

— Мой. І хата вунь тамака. Садам сюды і бегаю. Ужо як хто панатой заверне, то пакажыце да мяне дарогу. У акно можна пастукаць. Прыду, пасялю чалавека.

— Дык вы загадчыца гасцініцы?

— Усё я тут. І загадчыца, і тэхнічка. А навошта каб яшчэ хто? Асельнікаў тут няшмат. Начальства, яно прыедзе на машыне ды і паедзе. Хіба рэвізор пажыве ці карэспандэнт. Не частыя госці.

— Прабачце, як вас завуць?

— Вольга Макараўна. А вы ці надоўга сюды?

— Амаль на два месяцы. Практыка ў мяне. Па трактарах.

— Сын мой трактарыст. Недзе ўведаеце яго.

— Вядома! А дзе мне памыцца можна?

— Хадземце, пакажу.

Рукамыйнік быў прымацаваны да сцяны невялічкай веранды. І пакуль Кастусь асвяжаўся даволі халоднай вадой, цётка Вольга павыцірала пыл у яго пакоі, памыла акно, павяла венікам па падлозе, хоць месці на ёй не было чаго. Ён заўважыў, што жанчына прытамілася, не ўтрымаўся, сказаў:

— Тут і так усё чыста, а вы яшчэ...

— Ці тое я рабіла?.. Даяркай на ферме болей за дваццаць год... Ды сэрца... Калі то не чую яго, а часам... Тут цяпер пылю патроху. Зараз я дахаты пайду, то от вазьміце ключ ад пакоя.

— Дзякуй. А я вам пакажу свой пашпарт. Ён у мяне тут,— палез Кастусь у кішэню пінжака.

— Пашпарт,— жанчына чамусьці ўздыхнула. Трымаючы пашпарт у руках, угледзелася ў Кастусёў фотаздымак: — Маладзенькі тут яшчэ...

— Было дзевятнаццаць, цяпер — дваццаць чатыры хутка.

Кастусь і сам спыніў позірк на здымку. Светларусы, круглатвары юнак з вельмі сур'ёзным паглядам... Цяпер у яго валасы куды цямнейшыя — самому на дзіва, і твар не такі круглы, і вочы бадай не такія наіўныя — пабачыў ужо тое-сёе на свеце.





Жанчына нечакана вярнула яму пашпарт.

— Бяры, Косцік... Я ведаю, калі пры сабе патрымаць, калі аддаць. Яшчэ што... Захочаш яблыка, то сарві. Нас усяго двое, я ды сын, а сад вялікі.

«Добры вы чалавек...» Кастусь задуменна пазіраў праз акно ўслед гэтай пасівелай, з павольным крокам жанчыне. Яна ішла па садзе, дзе нахіляючыся, а дзе адводзячы голле ўбок. Урэшце яе постаць схавалася за дрэвамі.

## 2

Кабінетаў у канторы саўгаса было шмат. Кастусь ішоў па калідоры, чытаючы на дзвярах шыльдачкі: «аддзел кадраў», «эканаміст», «бухгалтэрыя», «галоўны аграном»... Вось і кабінет галоўнага інжынера. Кастусь пастукаў у дзверы — у адказ пачуўся спакойны мужчынскі голас:

— Заходзьце!

Гэтак па-гаспадарску, схіліўшыся над стосам папер, мог сядзець толькі сам галоўны інжынер. Сярэдніх год мужчына, чорныя парадзелыя валасы з сівізной, твар паўнаваты, маршчын густа толькі на ілбе. Узняў на Кастуся крыху завузкія шэрыя вочы, запрасіў сесці. Кастусь падаў яму камандзіровачнае пасведчанне.

— Значыць, Ручай Канстанцін Паўлавіч... Вытворчая практыка па эксплуатацыі машынна-трактарнага парка,— уголас чытаў пасведчанне галоўны інжынер. Ён раптам павесялеў: — У пару да нас, у пару... Дзе спыніўся, Кастусь? Дарэчы, мяне завуць Станіслаў Сяргеевіч.

— У гасцініцы спыніўся, Станіслаў Сяргеевіч.

— Ага, добра...— Галоўны інжынер пацёр пальцамі падбароддзе.— Мы вось што зробім. Галаву тут ламаць няма чаго. Накірую я цябе ў першую трактарную брыгаду. Брыгадзір захварэў, замяняе яго цяпер Сушняк, запраўшчык. Чалавек як чалавек, але тэхнікі не ведае. Ну, а чатыры курсы інстытута... гэта нямала, нямала. Любіш тэхніку?

Пытанне было зусім натуральнае, але ва ўсмешцы гаспадара кабінета Кастусь улавіў нейкую хітрынку.

— Каб не любіў, не паступаў бы ў інстытут,— адказаў Кастусь.

— Правільна. Інакш не павінна быць. А калі любіш тэхніку, то і будзеш ведаць яе. Дык возьмешся, значыць, кіраваць брыгадай? Управішся?

— Паспрабую!

Станіслаў Сяргеевіч устаў, зашпіліў пінжак, што быў яму, ладна раздабрэламу, крыху цеснаваты, прыгладзіў далонямі валасы,— рукі ў яго белыя, чыстыя.

— Пойдзем у брыгаду.

На вуліцы галоўны інжынер не маўчаў. Распытваў, як даецца вучоба ў інстытуце, дзе і калі быў Кастусь на практыцы раней. Сказаў, што сам закончыў сельскагаспадарчую акадэмію пятнаццаць год назад.

— А калі бліжэй да справы, то яно так,— не змаўчаў галоўны ін-

---

**У чэрвеньскім нумары «Маладосці» за 1971 год, друкуючы нарыс «Памяць», мы заявілі аб сваім намеры стварыць кнігу пра беларускія Хатыні, асноўным зместам якое будуць дакладна запісаныя намі расказы тых людзей, што нейкім цудам ацалелі ад фашысцкага расстрэлу ці не былі спалены жыўцом.**

**За летнія месяцы 1971—1972 гадоў мы пабывалі ў дваццаці двух раёнах Гродзенскай, Гомельскай, Віцебскай і Магілёўскай абласцей, у дзевяноста васьмі вёсках і мястэчках. Больш за дзвесце дваццаць мужчын і жанчын расказалі нам кожны пра сваю трагедыю, пра страшны лёс свае сям'і, сваіх аднавяскоўцаў. Каб запісаць расказы толькі тых, што самі, непасрэдна перажылі той жах,— былі недабітыя і ажылі, гарэлі і выбраліся з агню,— спатрэбілася больш за дванаццаць кіламетраў магнітафоннай стужкі. Зроблена мноства фотаздымкаў, частка якіх публікуецца і дапаможа чытачу ўявіць вобразы тых людзей, іх родныя мясціны.**

**Хочацца ад душы падзякаваць усім, хто памагаў нам у працы: работнікам абкомаў КПБ і аблвыканкомаў, райкомаў партыі, райвыканкомаў і сельсаветаў, абласных, раённых і школьных музеяў, былым партызанам і падпольшчыкам, а ў першую чагу — былым пакутнікам, усім, каго мы сваімі роспытамі прымусілі яшчэ раз перажыць іхні боль па блізкіх, яшчэ раз вярнуцца ў кашмары мінулага.**

**Хай будзе светлым ваш сённяшні дзень, дарагія!**

**А перажытае вамі павінен ведаць увесь свет.** ▶

# «Я — З ВОГНЕННАЙ ВЁСКІ...»

**Раздзелы з кнігі**






- **Алесь АДАМОВІЧ**
- **Янка БРЫЛЬ**
- **Уладзімір КАЛЕСНІК**

жынер.— Абслугоўвае брыгада два вытворчыя ўчасткі. Трактароў усіх васемнаццаць, сем камбайнаў. Абнаўляем тэхніку, але і старызны хапае. Ёсць...

— Як у вас з рамонтам?

— Рамантуем. Я гэтага не люблю, каб машына гуляла. Не конь. А пара — бачыш якая. Касьба ідзе, зараз жніво падваліць... Тэхніка не павінна прастойваць. Найбольш клопату ў цябе будзе па трактарах. Камбайны мы падрамантавалі адразу пасля леташняга жніва, а вось з трактарамі не ўсё ладна. Ну, ды сам убачыш.

Яны павярнулі ў глухі завулак, прайшлі якую сотню метраў, і тут убачыў Кастусь такі знаёмы малюнак: на шырокім пляцы, абгароджаным металічнай сеткай, паміж доўгіх цагляных і невялікіх драўляных будынін стаялі трактары, прычэпы, касілкі, сеялкі, культыватары, бульбакапалкі... Далей, у левым рагу пляца, стаялі камбайны, справа ад іх былі відаць белыя ёмістыя бакі, чырвоныя калонкі нафтабазы.

Пахам металу і паліва было тут насычана паветра, пачарнелай была тут зямля.

Пасярод двара стаяла некалькі мужчын, курылі, гаманілі. Убачыўшы галоўнага інжынера і маладога незнаёмага хлопца з ім, гамонку спынілі. Павіталіся. Галоўны інжынер сказаў:

— Знаёмцеся, таварышы. Малады чалавек прыехаў да нас на практыку. Цяпер брыгадзірам будзе ён.

Кастусь назваў сябе. Мужчыны адзін за адным падалі яму руку.

— Сушняк тут дзе? — спытаў Адзінец.

— Клыпае вунь,— адказаў нехта.

Камлюкаваты, да чарнаты загарэлы мужчына з рудой кепкай на галаве падыходзіў павольным, ацяжэлым крокам.

— Дык так, Міронавіч, бярыцеся за справу,— за кароткай размовай сказаў яму Адзінец.— Перадавайце брыгаду. Адклад не ідзе ў лад, сёння і пачынайце.

Сушняк паціснуў акруглымі, як у жанчыны, плячамі, паморгаў, правёў далонняй па шчацэ.

— Калі трэба яно, магу...

Крыўду адчуў Кастусь у голасе Сушняка. Потым, калі галоўны інжынер пайшоў, Сушняк буркнуў:

— То прымай, то перадавай... Ужо прыехаў бы ты, хлопец, неяк раней...

— Прыехаў я па раскладзе. Ды што вам бедаваць? Столькі клопату збудзеце.

— Ужо ж... А з ім і аклад брыгадзіраў,— працягнуў Сушняк.

Кастусь уздыхнуў.

— Ну, добра, добра... Не ты прыехаў бы, дык нехта іншы.

Голас Сушняка крыху пацяплеў. Але памучыў Сушняк Кастуся, мо аб тым і не падазраючы. Напэўна, нічога гэты дзядзька не ўмеў рабіць хутка, больш увішна: недзе гэтак жа нудліва-павольна запальваў у печы, сек дровы, касіў, галіўся, як і вадзіў Кастуся ад сеялкі да культыватара, ад культыватара да бульбакапалкі. Зрэшты, куды было Кастусю спяшацца? Але ж не, такая марудлівасць не па ім.

— Так... Плугі пэ-эн-чатыры трыццаць пяць,— вычытваў Сушняк у кнізе ўліку сельгасмашын і потым азіраўся наўкол: — Дзе яны тут, халера на іх...

## «ПЛАН»—У ДЗЕЯННІ

У музеі пасёлка Акцябрскі можна ўбачыць такія лічбы:

Перад вайной жыхароў у Акцябрскім раёне было — 32 тысячы.

У канцы 60-х гадоў — 25 тысяч.

Нешта падобнае раскажа вам і Міншчына, і Віцебшчына (Лагойскі і Бягомльскі, Расонскі і Асвейскі раёны), і іншыя мясцовасці Беларусі.

Выконваць свой «план абязлюдзення», «вызвалення» ад людзей, ад насельніцтва, «жыццёвай прасторы на ўсходзе» фашысты пачалі з першых дзён вайны.

Але асабліва злавесны размах набыло гэта ранняй вясной 1942 года на Акцябршчыне.

Гомельшчыну мы выбралі для запісаў у 1971 годзе, бо лета было сухое.

Хоць і ведаеш пра тое, што Беларусь — нафтавая рэспубліка, і ўжо не першы год, аднак, апынуўшыся ў тых мясцінах, будзеш зноў і зноў шукаць вачыма вышкі, вялізныя бакі — такое ўсё незвычайнае сярод густой палескай зеляніны.

Трохі збоку — нязвыклыя газавыя факелы.

Ведаеш, што гэта дарагая, «нерэнтабельная» краса, але не глядзець не можаш.

І глядзіш па-асабліваму: сваімі, але ўжо і не толькі сваімі вачыма. Такое адчуванне, што ты ўжо бачыў гэтае палыханне пад палескім небам — але начное, трывожнае. Адзін з нас якраз на Палессі партызаніў, але не ў яго асабістай памяці тут справа. А ў той памяці, якую мы збіраем і з якой хутка і непазбежна зжываешся, як амаль што з уласнай...

Людзі з вогненных вёсак...

«Я не з гэтай, але таксама з вогненнай вёскі»,— сказала нам жанчына. І колькі іх на Беларусі — вёсак, якія страшна, жудасна парадніў агонь! «Я — таксама...»

Не аднаму, мабыць, чалавеку начныя водбліскі мірных газавых факелаў нафтавага Палесся не даюць заснуць. Бо яму бачыцца іншае, такое:

«...Знадворку запалілі нас. Вот узялі так пырснулі на гэты клуб, і гэты клуб пайшоў гарэць. І вот адзін наш, ён у канторы работаў бухгалтарам, дык ён у акно, у раму як даў і выляцеў з сынам. Сын быў роўны з ім. І яшчэ жанчына. Нас пяць душ выскачыла. Ага, дык яны,



Палессе...

Павесялеў Кастусь, калі Сушняк выкаціў з невялікага катушка-прыбудоўкі пры рамонтнай майстэрні аднацыліндровы, зеленаватай афарбоўкі «Іж».

— Праедзем да хлопцаў, мо каму што трэба... Вадзіць можаш? — неяк раўніва зірнуў Сушняк на Кастуся.

— Магу.

— І яго табе перадаю. Брыгадзіраўскі.

За руль Сушняк сеў сам. Сеўшы на задняе сядзенне, Кастусь хмыкнуў: «Мусіць і ехаць будзем, як з возам сена па грэблі». Але, на дзіва, матацыкл вёў Сушняк даволі порстка.

Сонца прыпякала ў плечы, а вецер прыемна студзіў твар, і ехаць Кастусь гатовы быў доўга. Ён паглядаў навокал, ведаючы, што абрысы гэтых шырокіх разлогаў, пагоркаў, лагчын хутка стануць для яго, як сваімі. Па-сялянску пільны позірк кідаў Кастусь на палеткі. «Капуста пайшла нішто, у качаны завязваецца. А кукуруза... дзёбам сядзіць. Мо тут пазней сеялі, на насенне... А вунь і «Беларус» пыліць... Па бульбе, здаецца, ходзіць».

Трактар ішоў да дарогі. Сушняк спыніў матацыкл, працёр пальцамі вочы, сказаў:

— Наш гэта. Канчаем ужо акучванне. Бульбы да чорта, хай яе...

Выехаўшы на дарогу, трактарыст — малады, дужы хлопец — скочыў з кабіны і спярша плюнуў убок, а потым падаў руку Сушняку і Кастусю. Густая чорная шавялюра на галаве, смуглявы, белазубы, а вочы быстрыя, жывыя — такія ўсё прыкмецяць.

— Скажаш, Змітрок, Жолуду, каб пад'ехаў,— прагаварыў хлопец.

— А чаму раніцой не запраўляўся?

як ляцелі ключэм цераз гэтае акно, дык немцы па іх вочарадзь выпусцілі — тыя, што каля жалезнай дарогі ляжалі. Яны беглі ўсе, як гусі якія, ключэм, так яны ўсе і паляглі, гэтыя людзі. А я зззаду так у акно выпала, і тут канаўка ж была, і кусцікі былі такія...»

**Фёкла Якаўлеўна Круглова з гарадскога пасёлка Акцябрскі.**

«...Запалілі Кавалі. На гэтым маменце. І гэтыя ж мужчыны паўзлазяць на крышу, глядзяць і бачаць, як лаваюць дзяцей і кідаюць у агонь...»

**Матрона Трафімаўна Грынкевіч з вёскі Курын Акцябрскага раёна.**

«...Той канец дзярэўні заняты, а наш канец яшчэ свабодны. Мы і пайшлі на пасёлак, што каля самага лесу. Потым у алешнічак. І тут нас мо баб пятнаццаць ляжала ў гэтым алешніку. Ужо ўпалі і ляжалі. Не бачылі, як яны палілі, як забівалі, толькі чутна, сільна крычалі, народ крычаў. Не чутна, што яна там адна гаворыць, толькі: «А-а-а-а!» Толькі голас ідзёт. Ідзёт голас, а потым і ўсё — анямелі...»

**Ганна Сяргееўна Падута з вёскі Лаўстыкі Акцябрскага раёна.**

«...Я адпаўзла так метраў можа са сто ад вёскі і ляжу ў жыце, думаю: «Што ж яны там будуць з імі рабіць?» Праўда, я далекавата была і ад іх, там дзе іх палілі,— метраў можа з чатырыста, а можа і больш. Ляжу я і слухаю, а іх там з аўтамата та-та-та-та — строчаць, строчаць з аўтаматаў, як завялі ўжо ў хату. Ляжу я, ляжу, а потым бачу — гараць ужо хаты, вёску ўсю асвяціла. Відна стала, бо ўжо цямнець збіралася.

А поезд прыйшоў, ды па вёсцы ўсё б'е ды б'е з кулямётаў ды з усяго — аж жыта косіць!..

А я ў разоры ляжу. Ляжала, ляжала я, ужо цямнее. Чую: машыны пагулі на Васілевічы. І поезд пайшоў той, што страляў. Я тады ў жыце ўстала, вярнулася на сваё селішча і пагукала, можа дзе хто ёсць. Аніхто не адказываецца, толькі тавар раве, ды каты мяўкаюць, ды сабакі брэшуць...»

**Кацярына Данілаўна Крот з вёскі Лозкі Калінкавіцкага раёна.**

Гэта ўсё ў нашых людзях вельмі ж блізка, на самым кончыку памяці:

«Калі так цягнецца,— гаворыць нам жанчына ў вёсцы Касцюковічы Мазырскага раёна,—думаеш, мо гэта ўжо скончылася. А як зноў, вось так напомняць...



— Калі было? Па радыё гімн, а я — сюды.

— Скажу. А што якое, то ўжо пытайся... во, у гэтага таварыша. Будзе за брыгадзіра.

Хлопец няўцямна зазіркаў то на Сушняка, то на Кастуся.

— Усё так. Прымаю брыгаду,— усміхнуўся яму Кастусь.— Ручай мае прозвішча.

— Іван Бабок! — хлопец зноў падаў руку Кастусю.— Будзем знаёмы і віншую з капітанскім мосцікам.

— Такі ён капітанскі...

— Нават адміральскі! Такіх во караблёў,— Бабок тыцнуў пальцам у бок трактара,— флот набярэцца!

Сушняк завёў матацыкл, паехалі. Якую хвіліну Кастусь думаў пра гэтага гаваркога Бабка. Спадабаўся яму хлопец адразу...

Дарога пайшла ўгору і крыху як звузілася, прашываючыся праз высокую сцяну жыта. Кастусь выцягнуў руку — калоссе зашлёгала па далоні, па пальцах. «Выбелілася жыта. Тыдзень, другі — і жніво», падумаў ён.

«Іж» пачынаў здаваць. Сушняк уключыў першую перадачу, і гэтак, з натужным гулам матора, адолелі апошнія метры пад'ёму. Тое, што ўбачыў Кастусь, узрадавала яго: удалечыні цямнеўся лес, а блізка, справа ад дарогі, серабрылася пад сонцам звілістая стужка ракі. Была рака ці шырэй роднае яго Волмы, і недзе з такой жа спакойнай плынню, з крынічкамі пад тым, правым, больш высокім берагам. Палеткі збажыны, бульбы падступалі да ракі з таго боку, а тут шырока развінуўся поплаў.



**Тут быў лагер смерці Азарычы...**

Поплаў стракацеў рознакалёрнасцю жаночых хустак, суkенак, кашуль і саколак на мужчынах — гурціліся людзі ля не завершаных яшчэ стагоў. Многа было і завершаных — яны стаялі скрозь вялізнымі шаломамі, а касілкам — бачыў Кастусь — яшчэ нямала было работы. Сушняк пусціў матацыкл накатам, і ўжо чуў Кастусь праз посвіст ветру гудзенне трактароў. Адзін з іх стаяў, а трактарыст увіхаўся ля касілкі, штось правячы. Да яго і падкацілі.

— Што ў цябе, Антон? — спытаў Сушняк.

Антон выпрастаўся — прысадзісты, шыракатвары мужчына з пахмурым позіркам.

— Нажы памяняў,— адказаў ён, выціраючы далоняй змакрэлы лоб.

— Тупяцца нажы? — перапытаў Кастусь.— Ёсць на чым... Густэча такая, ды і не абы-што тут у вас — мурог!

— На гэтых палосах. А далей там асака, круглец... І сіўцу, хоць тані ў ім.

У позірку гэтага чалавека не прабівалаося асаблівае цікаўнасці да незнаёмага хлапца. Ды Сушняк сказаў, што вось практыкант з інстытута прымае брыгаду, і шчылінкі вачэй у трактарыста яшчэ больш павузелі. Ён ужо пазіраў на Кастуся з дапытлівасцю.

— Добра, чаго ж,— адно і прамовіў.

Навіна яго не ўзрадавала — гэта было прыкметна.

— Жолуд тут быў?— спытаў Сушняк.

— Быў. У Сасноўку паехаў.

— Папылім туды,— павярнуўся Сушняк да Кастуся.— Шматгадовыя там, пад сянаж ідуць.

здаецца, што зноў пачынаецца».

Амаль дзве тысячы кіламетраў, якія таварыш Сулейка, малады шафёр, накруціў на колы абкомаўскага газіка, калі перанесці іх на карту, выцягнуцца спачатку ў ламаную лінію, на канцах і вуглах якой — Гомель — Рэчыца — Калінкавічы — Мазыр — Лельчыцы — Петрыкаў— Капаткевічы — Азарычы — гарадскі пасёлак Акцябрскі... І калі гэта палічыць ствалом дрэва, дык галіны і галінкі яго— ужо тыя вёскі, куды нам якраз і трэба ўвесь час адгаліняцца: Горваль — Глыбаў — Першамайск — Крынкі — Ліскі — Лозкі — Алексічы — Прыбылавічы — Вялікія Сялюцічы — Тонеж — Капцэвічы — Навасёлкі — Вялікае Сяло — Лучыцы...

Асабліва многа вёсак такіх вакол гарадскога пасёлка Акцябрскага (Рудабелкі) — больш за трыццаць.

Тут вось, на Акцябршчыне, яно і распачыналася. «Экспедыцыя», «акцыя» — па-рознаму яно называлася ў розных раёнах Беларусі, але азначала адно: масавае знішчэнне насельніцтва, запланаванае загадзя.

І Гітлер, і яго памагатыя па разбоі і расісцкім канібальстве многае гаварылі адкрыта. Але яшчэ больш хавалі да той пары, калі можна будзе (пасля перамогі над галоўнымі праціўнікамі) прыступіць да «канчатковага ўрэгулявання».

Гітлер:

«Цяпер важна, каб мы не раскрывалі сваіх мэт і ўстановак перад усім светам. Да таго, гэта і не патрэбна зусім. Галоўнае, каб мы самі ведалі, чаго мы хочам... Матывіроўка перад светам нашых дзеянняў павінна зыходзіць з тактычных меркаванняў. Значыцца, мы зноў будзем падкрэсліваць, што мы вымушаны былі заняць пэўны раён, навесці там парадак і ўстанавіць бяспеку. Мы былі вымушаны ў інтарэсах насельніцтва клапаціцца пра спакой, харчаванне, камунікацыі і г. д. Адсюль і ідзе наша рэгуляванне. Такім чынам, не павінна быць раскрыта, што справа датычыцца канчатковага ўрэгулявання. Тым не менш, мы ўсё ж будзем прымяняць усе неабходныя меры — расстрэлы, высяленні і г. д.»

І яшчэ:

«Рускія ў сучасны момант аддалі загад аб партызанскай вайне ў нашым тыле. Гэта партызанская вайна мае свае перавагі: яна дае нам магчымасць знішчыць усё, што паўстае супраць нас».

Борман:

«Пагроза, што насельніцтва акупаваных усходніх зямель будзе размнажацца хутчэй, чым было раней, вельмі вя-



— Папылім,— сказаў Кастусь, уздыхнуўшы: хацеў бы ён паплаваць у рацэ хоць якую хвіліну, ды яшчэ ім паўсаўгаса аб'ехаць. «Вечарам хіба»,— падумаў і сказаў Сушняку: — Можа я сяду за руль? Калі не баіцеся за сваё жыццё.

— Не кожнаму давярай... Ладна, кіруй, паглядзім, ці ўмееш,— згадзіўся Сушняк.

### 3

Сонца яшчэ не схавалася за небасхілам, але ўжо чырванелася, як прысак адпалаўшага вогнішча; пазванчэла паветра — выразна чуліся далёкія галасы; пагусцеў водар кветак, якіх процьма было ў кожным гародчыку,— гэтым часам Кастусь вяртаўся да свайго прыстанішча. Ішоў сцяжынкай як не хістаючыся — папаездзіў за дзень на «іжы», з непрывычкі гулі рукі, стома разлівалася па целе.

Ён доўга мыўся пад рукамыйнікам, потым зайшоў у пакой, пераапрануўся, і ў гэты час пачуўся голас на калідоры:

— Хто тут ёсць і дзе схаваўся?

Голас падаўся Кастусю знаёмым. Ён адчыніў дзверы і ўбачыў Івана Бабка — адразу запамяталася Кастусю і прозвішча і імя вясёлага хлопца.

— Я да цябе, брыгадзір...

— Калі ласка. Здарылася што?

— У зоне бачнасці абсалютны штыль. Маці загадала паглядзець, як ты тут...

— Вольга Макараўна?

лікая... Менавіта таму мы павінны прыняць неабходныя меры...»

Меры!.. Страляць кожнага, хто хоць бы коса глянуў! — крычыць яфрэйтар Шыкльгрубер — Гітлер. А Кейтэль перакладае гэта на генеральскую мову загада: «Фюрэр распарадзіўся, каб усюды былі пушчаны ў ход самыя крутыя меры... Пры гэтым трэба ўлічваць, што на адзначаных тэрыторыях чалавечае жыццё нічога не варта, а запалохаць можна толькі незвычайнай жорсткасцю»...

І вось нямецкія рэгулярныя войскі пачалі тут, на Акцябршчыне, рэалізаваць тую «зручную магчымасць»: пад выглядам барацьбы з партызанамі выконваць даўні і галоўны свой «план».

Для ваенных і гаспадарнікаў «зручна» было, што і партызанаў, як яны спадзяваліся, паменшае, мясцовасць стане «чыстай», даступнай. Але галоўнае — наогул менш будзе гэтых славян, гэтых беларусаў, рускіх, украінцаў... Чаму б загадзя, не чакаючы канчатковай перамогі, не пачаць на справе «зніжаць біялагічны патэнцыял» усходніх народаў? Справа распачата — у канцлагерах і ў лагерах для ваеннапалонных. Перанесці гэта і ў вёскі, адкуль кожная нацыя чэрпае найбольш «чалавечых рэсурсаў».

«Згодна з планам,— гаварылася на нарадзе ў стаўцы Гітлера 16.7.1941 года,— прадугледжана высяленне 75 працэнтаў беларускага насельніцтва з тэрыторыі, якую яны займаюць».

І «высяленне» пачалося. З першых дзён вайны, акупацыі. Але асабліва жудасны размах набыло гэта найперш у Акцябрскім раёне. А пачалі тут з вёскі Хвойня. Праўда, належала вёска гэтая да суседняга, Капаткевіцкага раёна, але на нямецкіх картах быццам лічылася за Акцябрскім. І таму з яе пачалі. Расклад, інструкцыю, план выконвалі са сваёй злавеснай дакладнасцю. Прыехалі і забілі 1.350 чалавек. За што? Бо на іхняй карце Хвойня — Акцябрскага раёна. Так і тлумачылі гэта і паліцаі, і самі немцы. Тлумачэнні павінны былі падтрымліваць у навакольнага насельніцтва веру, спадзяванні, што знішчаюць, караюць «за віну», а не «ўсіх падрад». Фашыстам, вядома, не хацелася, каб людзі кінуліся ў лясы. Дастань іх потым адтуль! Вось і «тлумачылі». Забілі Алексічы, вялікую вёску каля Хойнікаў, і пусцілі чутку: памылкова, не тую хацелі, а зусім у іншым раёне — таксама Алексічы, але тыя сапраўды «вінаватыя»! Знішчылі Лозкі, і зноў: хацелі Галявічы, бо каля іх партызаны цягнік падарвалі, да іх гэта блі-

— Ага. Яна ўжо колькі разоў прыходзіла сюды, а цябе ўсё няма.
— На планёрцы быў...
— То ўжо з начальствам пазнаёміўся? І з дырэктарам, пэўна ж?
— Ну, вядома. Цікавы чалавек.
— Дзядзька хоць куды. У авіяцыі служыў, прытым, у вайсковай...
— А з сялян ён, гэта відаць. Сушняк гаварыў, што пры ім, Дзянісаве, саўгас памацнеў.
— Не зманіў. Так і ёсць. Дырэктар у нас цяпер талковы... Каб і астатнія... А між іншым, выправіўся я на шпацыр, ёсць прапанова пайсці са мной... хаця б у клуб. Дабро?
Тое, што Іван выправіўся на шпацыр, было відаць. Яго, пэўна, непаслухмяны чуб быў прычасаны, укладзены так, што не хаваў ілба, моцна загарэлы твар быў паголены чыста. Белая тэніска шчыльна аблягала плечы, грудзі, а кантам на цёмна-шэрых штанах ён мог бы, як кажуць, мух рэзаць.
— Пойдзем.— Кастусь зірнуў на пінжак: надзяваць ці не?
Іван зразумеў ягоны позірк:
— Не чапай, такая цеплыня...
Кастусь закасаў рукавы сваёй таксама бялюткай кашулі, і яны выйшлі. З плошчы павярнулі ўправа, на галоўную вуліцу Вербічаў.
— Наш праспект,— сказаў Іван.— Без асфальту пакуль.
На вуліцы было людна. Сядзелі на лаўках старыя, дзе-нідзе пры весніцах размаўлялі суседкі, стаялі, узяўшы закурыць адзін у аднаго, мужчыны, лёталі, галёкаючы, дзеці. Ніхто не хаваў цікаўнасці да іх, Кастуся і Івана. Кастусь, як і Іван, вітаўся з вяскоўцамі, чуючы за сабой прыглушаную гаману.

— Новы чалавек — самы цікавы чалавек... Ведаюць ужо, што брыгадзірам будзеш,— сказаў Іван.
— Пазаўчора прыехаў, сёння во толькі акт падпісалі... Працуе тэлеграф у вас.
— А то як!
Яны падыходзілі да клуба, пабеленага, на высокім падмурку будынка з шырокімі вокнамі. Амаль на кожным акне стаялі вазоны, і густа было кветак на круглых вялікіх клумбах абапал асфальтаванай дарожкі, што вяла да ганка. Збоч клумбаў ценіліся невысокія яшчэ таполі і бярозы. Людзей ля клуба было нямала.
— А хараша тут у вас. Мусіць, у загадчыках дзяўчына,— сказаў Кастусь.
— Правільна,— пацвердзіў Іван.— І, між іншым, яна пазірае на нас. Глянь на дзяўчат пад таполяй ля таго крайняга акна. Яна, Насця, у жоўтай кофтачцы. А побач з ёю Ніла Стасевіч.— Іван зіркнуў на Кастуся: — Дачка Стасевіча, што брыгадзірыў у нас. Усіх ты тут будзеш ведаць, але найперш... з імі я цябе і пазнаёмлю.
Рушылі да дзяўчат. Тыя перапынілі размову, бачачы, што Іван са сваім спадарожнікам кіруецца да іх.
— Прашу пазнаёміцца,— надаўшы голасу ўрачыстасць, сказаў Іван.
Стрымана, спакойна ўсміхнулася, падаўшы Кастусю руку, Насця — чарнавалосая, з цёмна-карымі вачамі, што выдаюць вялікімі на хударлявым, з тонкімі рысамі твары. Проста, адкрыта зірнула на Кастуся Ніла. Яна крыху вышэйшая за сяброўку, не такая танклявая, як тая, і тварам круглейшая, а загар на яе шчоках цямнейшы за валасы, гладка зачасаныя назад.



У вёсцы Хвойня было больш за 300 двароў...

жэй было. А тут, у Лозках, памылачка выйшла.
Не толькі іх жудасныя справы, але і гэтыя ідыёцкія «тлумачэнні» лішні раз паказваюць, што і Хвойня, і Лозкі, і Алексічы, і ўся Акцябршчына, і сотні іншых вёсак у другіх раёнах знішчаны, забіты былі за адну-адзіную «віну». У вёсках гэтых жылі савецкія людзі, якіх «перавыхаваць» на пакорлівых нявольнікаў фашысты не спадзяваліся. Адзіны сродак і шлях яны бачылі: «высяляць». А што азначала гэта — адна з самых першых якраз адчула Хвойня, а за ёю — амаль усе вёскі Акцябршчыны.
Было тады ў Хвойні больш за трыста двароў. На іх месцы цяпер — шэсцьдзесят. Бязладна рассыпаліся гэтыя шэсцьдзесят хат па пясчаных узгорках. Па сыпучым пяску ідзеш і да брацкіх магіл, у якіх пахавана былая Хвойня — 1.350 чалавек. Што з імі зрабілі, **расказваюць нам муж і жонка Рэпчыкі — Мікалай Іванавіч і Вольга Піліпаўна:**

«...Значыцца, рана мы ўсталі і зірнулі ў акно,— пачынае Мікалай Іванавіч,— як цёмная хмара яны былі на той бок рэчкі. Куды яны едуць — чорт іх ведае.



Мікалай Іванавіч Рэпчык.

Іван, між тым, стараўся — забаўляў усіх:

— Заўважце, сузор'е спецыялістаў: Кастусь інжынер, Насця — вядомы работнік культуры, Ніла — не менш вядомы пчаляр!

Ніла — пчаляр? Кастусь міжволі загледзеўся на яе: ён яшчэ не сустракаў дзяўчыны-пчаляра. І было другое ў ягонай увазе да Нілы... Пра бацьку яе ў яго ўжо была думка,— людзі не забываліся на старога Стасевіча, што ляжаў у шпіталі,— і ён паглядзеў на дзяўчыну, бы шукаючы ў яе абліччы штосьці знаёмае.

Але і Ніла нібы ацэньвала кожнае яго слова, жэст, смех. І ён зразумеў: яму выпала заняць месца яе бацькі — і таму цікаўнасць дзяўчыны да яго мо нават не без раўнівага пачуцця: чаго ты будзеш варты супроць майго бацькі?

Усе разам зайшлі ў клуб, селі ў глядзельнай зале побач.

— Вы надоўга да нас? — спытала Ніла ў Кастуся.

— Амаль на два месяцы.

— А там, Ніла, акурат прыедзе твой бацька. Ці мо і раней? Што ён піша? — як адчуўшы віnаватасць перад ёй, спытаў Іван.

— Пісаў, што лепш. А калі прыедзе... сам не ведае.

Фільм нікога з іх не захапіў — чарговы, якіх было нямала, дэтэктыў,— адседзелі сеанс, як сказала Насця, «з горам папалам».

Ці то звыкшыся ўжо з тым, што Кастусь побач, ці проста Насця не бянтэжылася перад малазнаёмымі людзьмі, але калі яны выйшлі з клуба і пакрочылі вуліцай у бок плошчы, яна спачатку заспявала, ціха і задуменна, а потым гучна засмяялася.

— Ведаеце,— загаварыла яна,— я аднойчы падслухала размову маіх суседзяў. Малых, Віталькі і Лёнькі, ім год па адзінаццаць. Яны заўсёды ў мяне пытаюцца, пра што новы фільм. Ім як свята, калі фільм «пра шпіёнаў». Нядаўна, дні тры назад, чую, Віталька кажа Лёньку, гэтак сур'ёзна: «А што, шпіёнаў больш, чым людзей?» А Лёнька адказвае: «Шпіёнаў было тры, а тых, што іх лавілі, пяць. Ага!» Тады Віталька сваё: «Але ж яшчэ не зрабілі фільмаў пра тых, каторых не злавілі. От тады падлічым, каго на свеце болей». Вы чуеце, «на свеце», так і сказаў!

— Весела слухаць, сумна думаць,— вымавіла Ніла.

— Сумна,— пагадзілася Насця.

— А хто сюды прывозіць фільмы? — спытаў Кастусь.

— Раней, які фільм прышле пракат, той і паказваем. А цяпер... цяпер я ваюю з пракатчыкамі. Сама адбіраю, складаю план на месяц. Але «пра шпіёнаў» уткнуць абавязкова. Яны кажуць: дзе нам іх падзець, такія?

Іван махнуў рукой.

— Там тыя ж Віталькі ды Лёнькі, толькі дарослыя.

— Што праўда, то праўда,— падтрымаў яго Кастусь. І спытаў у Насці: — А што ў вас цікавае робіцца ў клубе, акрамя таго, што фільмы паказваеце?

Мусіць, гэта неяк закранула Насцю — адказала яна не без іроніі ў голасе:

— А нічога не робіцца. Толькі вось канцэрты ставім, самі, як умеем. А калі-нікалі запрашаем сталічных артыстаў. А яшчэ танцуем у суботу і нядзелю. І розуму набіраемся ў прыезджых... разумнікаў.

— Лектараў? — удакладніў Кастусь.

— Лектараў.

— І... слухаюць іх?

— А як жа!

---

Многа народу кінулася ў лес, мужчыны найбольш. Бабы з дзецьмі засталіся. Ну, і мужчын засталося многа. Што робіцца? Прыехалі яны, ахапілі вёску, занялі з канца і гоняць — і дзяцей, і малых, і вялікіх, і старых. Хто не можа ісці, з хаты не выганяюць. Астаюцца. Я тады акалечаны быў, мне перабіла нагу, і я ў гіпсе ляжаў. Ну, думаю, што будзе то будзе. Бачу, пагналі людзей. Мужчын аддзялілі, і дзяцей з жанкамі. Мужчын загналі ў гумно і запалілі,— я ўжо бачу, што агонь гарыць. Бачу — з гары гоняць пачкамі жанок, дзяцей. А гумно гарыць. Тое гарыць, каторае далей. А іх гоняць у другое. Кончылі гнаць сюды — раз, дзверы закрылі, аблілі бензінам і падпалілі. А мне ўсё гэта з акна відна. Я гавару на сваю сям'ю:

— Ведаеце што — хто куды! Не хавайцеся толькі ў будынку, а дзе якое калоддзе або карчы. І ў стагі не хавайцеся, бо ён запаліць, будзем гарэць.

Гэтыя бабы што робяць? Папужаліся! А ў мяне зямлянка была. Так во хата, а ад хаты так во зямлянка. Я сказаў ім, а сам па іх слядах іду, бо забуліся яны на мяне, што і я тут. Дык я ўзяў тады повад пачапіў,— быў у мяне повад такі,— спусціўся з ложка, нагу сяк-так униатаў і пайшоў. Перапоўз я парог, гляджу, куды яны пайшлі. Бачу — у зямлянку. Дапоўз я тады, стукаю, а яны зашчапіліся. Але ўжо к маёй хаце немцы не падышлі. Так мы і засталіся.

Хто быў дзе ў хаце, тых пабілі, папалілі, гараць у хаце. Увойдуць у хату — людзі ляжаць, а хто уцякае — страляюць. Валы ходзяць, каровы ходзяць, свінні пішчаць, а вёска гарыць. Людзей няма, а тавар па сяле гоняць, скот павыганялі.

Мужчын спачатку ганялі, патамілі іх, а тады ўжо загналі ў гумно. Жанок гналі пасцяпенна, пачкамі. А мужчын ганялі, каб аслабелі яны, каб не маглі супраціўляцца.

Палілі нас у сорак другім годзе, на прадвесні. Гэта эсэсаўцы былі. З чарапамі».

У жонкі, Вольгі Піліпаўны, свой тон, свая ўсяму афарбоўка: вельмі жывая, непасрэдная ў яе натура. Так, сапраўды забылася яна, цётка Вольга, пра свайго мужа. І сама пра гэта кажа, бо калі ўбачыла, што робіцца, а на руках — дзеці!.. Не, яна ўсё ж крыкнула мужу, мужчынам, і зусім не жаночымі словамі: «Такія-сякія, што ж вы сядзіце-ляжыце, немцы ж вунь!»..

«А ў мяне ж двое дзяцей, адно на руку і другое на руку. Адкрыта скажу: і не гляджу на таго мужыка. Дзяцей схапіла, і на мужыка забылася. А ён прышоў ды лаецца...»



Вольга Піліпаўна Рэпчык.

А потым **мы доўга слухалі Вольгу Андрэеўну Мініч,** трагедыя якой у той жудасны дзень у Хвойні толькі пачалася. Працягвалася яна ўжо не ў Хвойні і не адзін дзень.

Курын, Вежын, пасёлак Акцябрскі, Кавалі, Зацішша...— пакутлівы шлях Вольгі Мініч і пакуты тых вёсак звязаліся ў адзін клубок. Праз усю палаючую Акцябршчыну прайшла, прабегла, прапаўзла яна, ратуючы дарагога ёй чалавека.

Цяпер жанчыне гэтай трошкі за пяцьдзесят.

А было ў свой час дваццаць адзін. Была яна шчаслівая сваім замужжам, вось-вось чакала першага дзіцяці. І ўсё было б добра, нармальна...

Было б... Але была вайна, фашысцкая акупацыя...

Жанчына расказвае.

Гаспадыня хаты, цётка Рэпчык, што спачатку больш перашкаджала, чым памагала свайму павольнаму «дзеду» Мі-

— Тады не бяда,— не зважаў на Насціну іранічнасць Кастусь.— Я хачу сказаць, што маю даручэнне з інстытута прачытаць у вашым клубе нешта накшталт лекцыі.

— Праўда? — Насця імгненна перамянілася.— Гэта будзе вельмі добра. А на якую тэму?

— Тэмаў шмат. Але я бяруся расказаць пра наш інстытут механізацыі. Можа, нецікава?

— Гэта — як раскажаце. А калі? Добра было б у наступную суботу. Людзі прыдуць на танцы, перад імі і выступіце. Дамовіліся?

— Згодзен,— адказаў Кастусь.

— Толькі надта не распісвай, а то яшчэ вазьму ды з'еду ў твой інстытут,— кінуў Іван.

— Гэта яшчэ як мы цябе пусцім,— бліснула вачыма Насця.

— А раней чаму не сабраўся? — павярнуўся Кастусь да Івана.

— Раней? Я толькі і марыў, каб як хутчэй тут апынуцца. Тры гадкі ведаеш, дзе служыў? Пад Севастопалем. Помню, еду поездам па Украіне з такімі, як сам, на службу яшчэ, уяўляю: мора, карабель, я на палубе... А мяне раз — і сухапутным мараком зрабілі! З берага на тыя караблі пазіраў. Блізка локаць, а не ўкусіш, так і тое мора... дражнілася толькі. Дні лічыў — хутчэй бы дамоў. А прыехаў... то куды ўжо я ад яе паеду? — Іван моцнай сваёй рукой прыхінуў Насцю да сябе, схіліў галаву да яе твару, пацалаваў альбо не, а ўжо не зняў рукі з пляча.

Яны крочылі вуліцай, збольшага асветленай ліхтарамі, што былі падвешаны на тэлеграфных слупах, і Кастусю добра быў відзён твар Нілы. Здавалася, што Івана і Насцю ён ужо ведае, а ў Ніле было шмат

коле расказваць пра той сакавіцкі дзень, а потым і сама, ужо адна, спяшалася гаварыць, цяпер маўчыць, поўнасцю давяраючы талковасці маладзейшай суседкі.

Суседка гаворыць і час ад часу, не змаўкаючы, плача.

Гаспадыня схадзіла ціхенька за перагародку, у спальню, вярнулася з чысценькім ручніком і палажыла яго суседцы на прыпол. Слёз будзе многа...

Паслухаем.

І ўспомнім пасля старадаўняе: «Няма аповесці сумнейшае на свеце...» І скажам: ёсць! І вельмі сумная яна па горкай прастаце, па страшнай праўдзівасці, і гордая, прыгожая па сіле чалавечай любові, адданасці, нязломнасці...

«...Дзве калоны ідзе ў нядзелю: адна калона, бальшушчая, з Капцэвіч, а другая — з Лучыц. Тая калона там, а тая — там, яны сышліся, згаварыліся пра ўсё і сталі ісці ў сяло. Паставілі пасты — проста на дзесяць метраў адзін ад аднаго. Усю дзярэўню абставілі. І тады ўжо сталі заходзіць у кожную хату.

І да нас зайшлі. Колькі нас было ча-



**Вольга Андрэеўна Мініч.**



загадкавага. Яна слухала іх, усміхалася часам, стрымана, задуменна. Яму прыемна было ісці поплеч з ёю, і добра было б праблукаць па сцішаных вуліцах, па аселіцы хоць да раніцы, і Ніла, пэўна, штосьці расказала б пра сябе, але яны раптам спыніліся.

— Дык я, Нілачка, заначавала б у цябе, але маці прасіла прыйсці,— сказала Насця.— Заўтра ўбачымся.

— Ну, вядома. Да пабачэння.

Ніла зірнула і на яго, Кастуся, і адчыніла веснічкі. На момант яшчэ затрымалася каля іх і зайшла ў двор. І гэтыя нешырокія веснічкі пры невысокай, з закругленым верхам браме, і кусты руж у гародчыку, і два акны па-над імі, шыбы якіх цьмяна блішчалі ў святле ліхтара,— усё запала Кастусю ў памяць. «Буду ведаць, дзе ты жывеш, Ніла».

А Іван сказаў:

— Я сёння разводны. Цяпер цябе, Кастусь, давядзём да гасцініцы, а потым мне яшчэ ў Сасноўку...— Іван зноў прыхінуў да сябе Насцю, спытаў у яе: — Пойдзем ці паедзем?

— Што ж ты зробіш, пашкадую цябе, сяду ўжо на твой матацыкл,— адказала яна.

І пакуль ішлі яны да гасцініцы, Іван гаварыў, як ведае ён усе дарогі на Сасноўку: па кожнай з іх і ісці і ехаць на матацыкле мог бы з заплюшчанымі вачамі...

Каля гасцініцы развіталіся.

Кастусь уключыў у сваім пакоі святло. Цішыня, гулкая, крыху самотная. Але было ўжо не да суму: моцна хацелася спаць. Ён хутка распрануўся і кінуўся ў ложак. Якую хвіліну пазіраў у цёмную сінь

лавек? У Мікіты дзве дзеўкі, у нас... Восем чалавек было ў хаце. І мы тады тыфам былі бальныя. Адзін толькі бацька паправіўся, так во, як і я, каля стала сядзеў. Яны ўжо як увайшлі, дык усе мы ляжалі покатам. Яны гавораць:

— Ціф? — Ды на старога... Як гэта? Ага: — Цурык, цурык! Адзявайся, выходзь!..

Яшчэ ён, бедны, сабраўся, пайшоў. Наша крайняя хата была.

І ўсё ідуць ды ідуць нашы людзі... І ўжо нікога няма людзей, а толькі паставыя стаяць. А потым падводчыкі паявіліся. Ідуць, адкрываюць хаты, забіраюць, што там засталося ў хаце.

А мы з жанчынай адной гаворым:

— Выйдзем за сяло, пабачым, куды гэтыя людзі падзеліся.

Мы толькі пачалі ісці, падняліся на горку, а ўжо людзі там крычаць і агонь паявіўся... Сільны вельмі крык. Крычаць людзі так, што мы здагадаліся...

Прыбегла я ў хату і гавару:

— Спасаймася, як хто можа! Бо людзей зністажаюць!..

Бегаем мы па хаце — хто хворы, а хто так прытварыўся,— а выйсці няма як, бо пост ужо кругом. Нікуды з хаты не дзенешся — стаіць пад самым акном. Бачым мы, што ўжо і падводчыкі скрыліся і ідуць да нас чатыры мужчыны — высокія і косці на іх проста нарысованы. Як ішлі — так у хату.

Свякроў мая, мужыкова маці, выбегла з хаты прасіцца:

— Ох, паночкі!..

Хацела папрасіцца, а яны яе перад акном і застрэлілі. З нагана. Мы пабачылі, што яе застрэлілі, так і пападалі ўсе сюды, у адну кучу. А было ў нас два чалавекі, што і не маглі ісці, з тыфа. Сільна бальныя тыфам, не маглі нават устаць. Мы ўсіх іх на адну падушку пасцягвалі.

А яны зайшлі ў хату:

— Ціф? Ціф?..

Тут жа адразу завярнуліся назад. А тут ужо запалілі нас. Бутэлька нейкая чорная. І не падпальвалі — аблілі і загарэлася. Закрылі дзверы, выбілі акно і давай сюды гранаты кідаць. Кінулі адну, другую, трэцюю... І гарыць маё цела ўсё. Цяпер пазажывала, а тады абгарэла я многа. Спачатку граната першая Мікіце ў галаву. Падушкі ляжалі, дык яго неяк як саданула, дык ногі ўгару! А мяне... Во асколкам тут ранена, магу паказаць. Бачу я, што дзе хто, пабіла каго, раніла, дагарае ўжо... Гаспадзі... Я падцягнула стол да акна, **яго**

акна. Прыгадаў гэты дзень —усё ад самае раніцы... І калі вочы пачалі сплюшчвацца, калі не было ўжо сілы варухнуць павекамі, яму ўявіўся твар Нілы, яе востры, дапытлівы позірк...

## 4

Прачнуўшыся, Кастусь зірнуў на гадзіннік. Нездарма непакоіўся: быў самы час ісці на машынны двор. Нішто была б сітуацыя, каб новы брыгадзір заспаў. Пачынаць — толькі не пад смех ды кпіны.

Ён сабраўся хутка. Крочыў па вуліцы, прыгадваючы прозвішчы трактарыстаў: таксама не вельмі зручна звярнуцца да чалавека і не ведаць, як яго завуць. Зрэшты, ён новы чалавек у саўгасе, але за два дні, пакуль Сушняк перадаваў яму брыгаду, ён збольшага прыглядзеўся да кожнага трактарыста, стараўся запомніць і прозвішча, і імя.

А трактары ўжо падавалі галасы: ранішнюю цішу як ірвалі сваім гулам. Зусім не спаважна, не запавольна, як Сушняк ці хто з начальства, выйшаў Кастусь з завулка на машынны двор — ступаў хутка, расчырванеўся. Вітаўся з кім за руку, з кім — хто быў воддаль — кіўком галавы. «Што, хлопец, нос павесіў? Няўдалае спатканне?» — хацелася сказаць Алесю Салаўю, які дыміў цыгарэтай з пахмурна-санлівым тварам. «Дык як, папрацуем сёння? — гатовы быў кінуць ён Сіўчыку, трактарысту год трыццаці, дыбастаму, з чорным чубам — Сіўчык пазіраў на яго, Кастуся, прыхільна, добразычліва. І нешта прыемнае сказаў бы Раманюку, які кіраваўся да яго. На цёмным, апаленым сонцам многіх гадоў твары гэтага пажылога чалавека Кастусь яшчэ не бачыў іншага выразу — адно заклапочанасць, засяроджанасць. «А і дурны ў цябе характар,» — сказаў сабе Кастусь. Ну хто чакаў ад яго весялосці? Не яму зухаваць, не яму...

Павітаўшыся, Раманюк зняў з галавы шэрую, падношаную кепку, падкладкай прыклаў яе да ілба. Сівыя скроні яго таксама паблісквалі ад кропель поту.

— Нявыкрутка ў мяне, брыгадзір,— загаварыў Раманюк.— Хацеў бы, ды адчуваю, не змагу працаваць сёння.

— Што з вамі?

— Старасць, браце. Усё жыццё сонца не баяўся, а во ўчора напякло за дзень. Млосна было ўначы, не спаў, ды і цяпер... Трэба каго другога на стагакід... А я хоць на які трактар сяду, абы кабіна была, каб прыкрывала зверху.

— То ці варта ўжо... Адпачніце хіба,— сказаў Кастусь, згадаўшы, як загледзеўся ўчора на яго, Раманюка, там, на лузе: марудзіць, даваць прамашку ў рабоце ён не ўмеў.— А хто мог бы вас замяніць?

— Я думаў пра гэта. Шумскі тыя гады працаваў на стагакідзе, зможа...

Кастусь пашукаў вачыма таго трактарыста, што не надта ветла паставіўся да яго пры знаёмстве. Той завіхаўся ля трактара.

— Добра, зробім, як лепш.

Кастусь падышоў да Шумскага, які тым часам заліваў ваду ў радыятар. Шумскі не зірнуў на яго, пакуль вядро не апусцела. А зірнуў — як тою ж вадой абліў. Кастусь, вытрымаўшы яго позірк, сказаў:

— Трэба вам сёння на стагакід перайсці.

на стол усцягнула, а пасля вылезла сама праз акно. У хаце, у агні — пакуль ты дойдзеш!.. Я не то што, дарагія мае — не думала, што буду жыць, я думала, што выцягну яго на двор — хутчэй нас даб'юць. Бо ўся ў агні, уся паабгаравала, раненая... І пападалі мы тут каля акна. А тады, як я яго выцягала, якраз выганялі худобу нашу. Сарай запалілі, а худобу не пабілі, усю выганялі. Адвязалі яны тую скаціну, ідуць, бачаць: старая ляжыць забіта, і мы ляжым, паабгаравала на нас усё...

Яшчэ адна выскачыла, мужыкова сястра раненая, з гарачкі выскачыла і дайшла перад акном.

І ляжу я там, і не чуствую нічога, ужо і памяць пацярала... Пачалося ў нас у вёсцы ў дзесяць гадзін, а да нас яны прыйшлі ў гадзіну, а прачнулася я аж на захадзе сонца. Помніла, што я жывая, паднялася, паварушылася, паглядзела, што і ён жывы. А суседка нашая як уцякала, дык выкінула клуначак. А маё ўсё пагарэла, усё пагарэла...

Адна дзеўка ў хаце засталася, а страха як згарэла, як асела ўсё, дык яна толькі: «Ы-ы-ы!» — стагнала там. Храпяне. І зноў храпяне... Доўга даходзіла... Бо яна не ранена была. Ужо ўся хата абгарэла, а яна ўсё храпла...

Ну, я паднялася, паглядзела, тут жа два крокі і яе хата. Узяла я той суседчын клуначак, развязала. Ну, мы ж голыя. А я чуствую, што тут я ранена, тут у мяне вырвала. Развязала я той клуначак, знайшла яму штаны, з падцяжкі зрабіла вяроўку і падвязала іх, ручніка знайшла, перавязала яму тут. А яму граната ўпала вот тут пад коленкі і вены, і ўсё яму тут паперарывала, ён ніяк не мог устаць. Дык я вазьму вось так на адну руку палажу і на другую, і так яго цягла. Цягла я тры кіламетры яго на сабе. Працягну, астанаўлюся, а патом і змаглася, не магла цягчы. Чуствавала я, што яны будуць ісці... Я ў хмызнячок яго, наламіла галля, зняла з сябе адзяяльца, я тое адзяяльца на два перарвала, палавіну сабе на галаву, а другую — яго накрыла. А потым я тую палавіну адзяяльца, што на мне, яшчэ раз на палавіну перарвала, падаслала яго, палажыла і пайшла.

«Ну,— думаю,— яшчэ кіламетры два да атрада, дабяруся туды, там дадуць помач».

Прыйшла ў атрад. Сяйчас жа майму і матрац з печы гарачай, і валенкі. Я і сама голая была, абрываная ўся, кроў цячэ...



Ваколіцы Хвойні.

— З чаго б гэта?

— Раманюку нездаровіцца. Не можа працаваць.

— Дык мяне сасватаў? Я таксама магу сказаць, што... у пяты закалола.

— Ну, Раманюку не да жартаў. Дык я скажу дыспетчару, каб пуцёўку вам перапісаў.

Шумскі памыляў тонкімі вуснамі, звузіў шэрыя, з жаўцінкай вочы. Ён нібы хацеў паказаць, што сам вырашае, дзе яму сёння працаваць. І вымавіў:

— Пуцёўкі я шчэ не браў, няхай перапіша...

«Дзівак-чалавек, чым я яму не спадабаўся? Ці да ўсіх ён гэтак?» — падумаў Кастусь, адышоўшы ад Шумскага.

Насустрач крочыў Іван Бабок. Вось каго Кастусь быў рады бачыць: ніхто яму не быў яшчэ тут, у саўгасе, бліжэй, чым Іван.

— Пра што ты з ім? — спытаў Іван, цісночы Кастусю руку.

— Сказаў, каб Раманюка падмяніў. Не рады... А Раманюк прыхварэў.

Іван плюнуў пад ногі, узмахнуў рукой.

— Дзе ён будзе рады? Ён за гэту работу раней хапаўся — плацяць жа за яе добра... Прагнасць у яго і цяпер ваўчыная, але лішне пацець не хоча. Сабе не дурань... Ат! Мне, выпадкам, нарад не перамянілі?

— Не, на акучванне табе. Ну, падыйду я да Салаўя.

Салавей... Тое-сёе пра гэтага семнаццацігадовага хлопца Кастусь ужо ведаў. Два гады правучыўся Салавей у вучылішчы, атрымаў пасведчанне трактарыста-машыніста шырокага профілю. Было чым хлопцу ганарыцца, але як толькі ўзяўся за работу, адразу «падмачыў» свой гонар. Паслалі яго на баранаванне, папярэдзілі, каб перавярнуў барану зуб'ём угору. Перавярнуць барану трактарыст-машыніст шырокага профілю забыўся і навыдзіраў бульбы з зямлі — жанчыны за яго баранаваннем перасаджвалі бульбу рукамі. Потым, на акучванні, падрэзаў кусты. «Няўдаліца»,— так казалі пра яго.

Салавей ужо адышоў ад гурту мужчын да трактара. Кастусь бачыў: грукнуў хлопец нагой па адным пярэднім коле, па другім. І потым нахіліўся да правага кола, страсянуў яго рукамі. «Гэта мне падабаецца»,— падумаў Кастусь і голасна спытаў:

— Як справы, Алесь? Не запраўляўся яшчэ?

— Чаму? Пад'еў... аладак са смятанай.

— Ого! Жартуеш, то нішто ў цябе настрой. А мне падалося...

— Настрой — на дарозе лепш не стой,— удакладніў Алесь.— Стаяць розныя... хапае. Вось не сцярплю калі, пайду на таран.

— А што? Часам гэтак і трэба. Не кожнага аб'язджаць. Ну, як люфты?

Алесь зноў страсянуў кола рукамі.

— Ці даўно гайкі падкручваў, а во бачыш... Зноў круці.

— Трэба, калі хочаш, каб бегаў гэты буланы. Не падводзіць часам?

— Каб жа...

Алесь выпрастаўся, азірнуўся, і Кастусь заўважыў на яго твары цень нездаволенасці, прыкрасці. І зразумеў: Алесю не спадабалася, што многія бачаць брыгадзіра не дзе-небудзь, а менавіта ля яго — як няньку пры дзіцяці.

«Самалюбства — гэта порах. Ну, ды не дамо яму ўспыхнуць»,— падумаў Кастусь, тоячы ўсмешку. І сказаў:

Сані далі, запраглі каня. І Міхайлоўскі прыказаў мне:

— Сядзь. А калі будуць яны прадзвігацца сюды, немцы, дык ты тады з лошаддзю не ўцякай, кідай лошадзь, а сама — у лес, каб не злавілі цябе.

Я папрасіла, каб мне каго-небудзь далі. Але кожны баіцца ехаць пад Хвойню.

— Ну,— кажуць,— калі ты ўжо данясла яго, то цяпер і давязеш.

*Мой нічым не ўладзеў. Не бачылі,* дык думалі, што ён хоць што-небудзь памагаў мне ісці. Ён прыходзіў у памяць, прыходзіў, ну а як на печку яго палажылі, дык там нейкае зярно ляжала. Бедны, так і сплыло тое зярно. Да грамачка кроў выскачыла, усе жылы парваліся. Дык ён усё прасіўся. Скажа два словы... Адключаўся ўсё ўрэмя. Прыходзіў у памяць, казаў:

— Хлопцы, спасайце мяне, я ваш брат буду.

Ну і што, ужо назаўтра партызанскі атрад далажыў, што дзвіжуцца немцы на гэтую дзярэўню. Куды мне? Мяне адправілі, далі мне партызаны падводу... *Не далі, а проста прыказалі людзям* адвезці мяне ў Курын. Там быў тожа атрад, і Лапцейка быў, урач. Што б здзелаў майму перавязку, аказаў помач. Прывезлі мяне туды, ён паглядзеў, гаворыць:

— Мая ты міленькая, ён жыць не будзе. У яго ні аднаго грама крыві не асталася. Адно. А другое,— кажа,— ён яшчэ гэтак тры дні будзе жыць: сэрца яшчэ крэпкае, не раненае, а кроў гэтая ўся выйшла... Уліванне крыві яму трэба было б дзелаць... Намучышся ты з ім...

Пака тое-сёе, за пяць мінут вот далажылі, што немцы ў Доўгіх Нівах, і нада з Курына выязджаць.

Пака я выйшла, усе людзі да аднаго чалавека ў лес пабеглі. Ну, дзвіжуцца немцы, з людзей асталася я адна ў хаце. Урач мяса тое паабразаў з яго, перавязку зрабіў, аббінтаваў. Не знаю, што мне рабіць, не знаю, куды ўжо і бегчы. І толькі ўжо выю, выю... Гавару: «Госпадзі, лучша б я пагібла ў сваёй дзярэўні...» Не знаю, што і рабіць. Сяджу.

Дзякуй богу, бог нанёс мужчын хваенскіх. Ішоў гэта Рамецкі Рыгор, Уладзімер Міхалкоў... Багата, багата мужчын ішло. Пазналі мяне, сяйчас мне тут помач аказалі. Пабеглі па дварах, знайшлі саначкі мне. Палажылі гэта мой матрац, палажылі яго і давезлі да Глебавых Палян. Немцаў дажыдалі ў Курыне, дык мяне ўжо дальша туды павезлі. Давезлі мяне да Глебавых Палян, там людзі былі, але ўсе на чаку. Усе гэта ў лес выбіраюцца. Пераначавала я, мне саветуюць людзі:

— Едзь у Вежын, там сорак двароў толькі, сярод лесу. Там немцы, мoжа, і не найдуць.

Заехала я ў Вежын. Ужо ўсе людзі былі на вуліцы.

Яны ўжо чулі, што Хвойню спалілі і ў Курыне пабілі, папалілі.

— Едзь,— сказалі мне,— цераз поле, там будзе дзярэўня Грабнікі. Ты ў тую дзярэўню едзь, тожа,— гавораць,— дзярэўня ў лесе...

Толькі я ад'ехала ад Вежына, ну, да Грабнікаў не даехала, як палучыўся стрэл у Вежыне... Потым расказвалі людзі з Вежына, хто жывы астаўся, што вывелі ўсіх людзей на вуліцу, пашчыталі і вось так паставілі ў вочарадзь. І цераз два, тры чалавекі — аднаго сюды, другога туды. Дзве лінейкі зрабілі. Адну лінейку павялі ў хату, запалілі, а гэтая стаіць сярод вуліцы. Коржычыха... яна была з хлопчыкам і дзевачкай. Дзевачка асталася пры ёй, а хлопчыка ў хату, у другую вочарадзь яго паставілі. З тых дзеравень, дзе людзей папалілі, скот астаўся. Сорак чалавек іх аставілі, з Вежына, каб скот гнаць.

Ну, я даехала да Грабнікаў. У Грабніках тожа ніводнага чалавека няма ў хаце. Праехала праз сяло, няма куды зайсці... Адна жанчына толькі. Прыйшла, нейкіх каржоў напякла, бедная, сваім дзецям у лес. І гаворыць яна мне:

— Мы ўжо трэці дзень, як выехалі. Як Курын спалілі, дык і мы выехалі з сяла. Усе жывём у гэтым, у лесе.

А ў мяне цёця была, родная маміна сястра, у Акцябры [1]. Я думаю: «Ну, Акцябр яшчэ стаіць». Партызаны сказалі, што немцы ў Рабкоры, на станцыі. А яшчэ ў Акцябры іх не было. Паеду, думаю, туды, бо падыходзіць на трэці дзень... на другі, праўда, а я яшчэ нічога не ела, не піла... З Грабнікаў я паехала на Акцябр.

Прыязджаю я ў Акцябр, гэта зімой, у тры часы. Ужо цераз два часы будзе цёмна. Мая цётка як угледзела, што я абгарана ды ранена, ды на майго мужыка паглядзела:

— О, госпадзі,— гаворыць,— куды ты мне яго прывезла? Немцы агледзяць ды скажуць, што партызанская сям'я, партызана хаваем...

**Пытанне:** — Яна была ваша цётка?

— Родная цётка, маміна сястра. Во людзі як напалоханы!.. Я гавару ёй:

[1] Раённы цэнтр гарадскі пасёлак Акцябрскі.

— Дык даводзь свайго буланага да баявой гатоўнасці. Сёння дзянёк будзе гарачы.

«Вось так,— звярнуўся ў думках Кастусь да галоўнага інжынера.— Вы раіце быць уважлівым да маладых. І сам гэта разумею, але як прымаюць гэту ўвагу? Не цукар яна Салаўю, нават пры самым далікатным падыходзе. Ды і каму яна была б цукрам? Фармальна — я брыгадзір, а маральнага права падступацца з парадамі ў мяне няма. Сёння — яшчэ няма. Хоць зусім не грэх сказаць таму Салаўю, што пакратаць колы ды закруціць гайкі — гэта яшчэ не тэхнічны догляд. І кожны другі абразіўся б, падыдзі я са сваім кантролем. Прафесійны гонар толькі зачапі... Ды яшчэ нейкі практыкант... яечка супроць курыцы! Пакуль я сам не прайду праз нейкі экзамен, экзаменатар з мяне ліпавы. А ці здолею давесці, што і я нешта разумею і ўмею?»

Ад думак гэтых краўся ў душу Кастуся халадок хвалявання. Што ні кажы, а самавіта трымацца перад трактарыстам — гэта яшчэ не закасаць рукавы...

І вельмі хутка давялося яму закасаць рукавы.

Адзін за адным выкіроўваліся трактары ў поле, на лугі. А недзе праз гадзіну, паснедаўшы ў сталовай, Кастусь пакаціў на «Іжы» ў Сасноўку, невялікую, на паўсотні двароў вёску.

Пранёсшыся па Сасноўцы, ён павярнуў да ўрочышча — тут, пад выспамі, парослымі ядлоўцам, на шырокім абшары гусцілася канюшына і ладна яшчэ — бачыў Кастусь — было тут работы. Ён спыняў позірк на кожным з трактароў — не стаяў ніводзін.

Кастусь пачуў раптам шум за сабою. Блізка ад яго спыніўся сіні «Масквіч», з яго выйшлі дырэктар саўгаса Дзянісаў і начальнік вытворчага ўчастка Карнач. Кастусь падышоў да іх.

«Цётка, дайце мне платок вязаны, бо ў мяне з адзяяла касыначка, разарвала на дзве, холадна. Я,— кажу,— дабяруся дзе-небудзь, дык я вам вярну».

— А куды ты дабярэшся? Немцы цябе зараз жа ўністожаць. Куды ты з гэтым раненым дабярэшся?

Паехала я ў лес. Еду, а куды — не ведаю. Надаела ўжо. Думаю: «Хоць бы які канец ужо!..» І сілы няма. Была я бярэменная, два месяцы да родаў было. І такая абгарана... Еду я, еду... Да, мяне прадупрадзілі ў Акцябры, што ў Рабкор не заязджай. Язджай лесам кругом, і там казарма ў лесе, пуцявыя жывуць. Дык там, гавораць, пяць сямей, туды едзь нанач... А ў Рабкоры немцы стаялі. Гэта было тры кілометры, а можа і не было. Вязу яго санкамі, а ён кідаецца, бедны, брэдзіць — з гарачкі гаворыць. Даехала я, гэта, да казармы, тожа ўваходжу — стаіць на крыльцы жанчына.

— А мая ж ты,— кажа,— залатая жэншчынка! Не заяджай сюды, бо нашых ужо мужчын пабралі ў падводы. Учора,— кажа,— немцы пабралі ў падводы мужчын і сказалі: «Еслі ў вас, гэта, хто паявіцца... Сняжок чысты, і калі трапіначка будзе, дык гэта, кажуць, у вас партызаны былі. І вы іх корміце. Каб ні слядочка!»— І гаворыць тая жанчына яшчэ: — Яны вось, немцы, толькі што паехалі, на засаду паехалі. У нас тут между Дзёменкаю і Рабкорам цёмны ёсць гэтакі лес... Ну, дык на табе, — кажа,— спічкі і вось так едзь. Там гумно і там накладзеш агню. Адкрыта не кладзі, бо, — кажа, — немцы паехалі туды, на засаду ў Цёмнае.

Ну, я ўжо ўзяла гэтыя спічкі, ехала, ехала... Стамілася — госпадзі! — нідзе мне не давалі перадыхнуць... Тады снег бальшы, бальшы быў, і дзяржала повярху, па сарачу [1]. Стаіць ёлка. Я туды спусцілася,— пад тою ёлкай снегу няма, знізу, яно сухое, галлё, наламіла я галля і ўжо наклала агню. І сяджу. Што мяне ўжо стрэціць — тое і дзякуй богу. Не баялася смерці, ні трохі. Я ўжо думала, што ўсіх падрад уністажаюць. Ужо і не баялася».

«Я думала, што ўсіх падрад знішчаюць», «Я ўжо не баялася смерці»,— звярніце ўвагу на гэтыя словы. Словы такія не раз будуць гучаць у расказах многіх, і яны шмат што тлумачаць. Чалавек, бачачы такое, пачынае думаць, што ўжо ўсюды, «на ўсім свеце» так...

«... Я сяджу, ажыдаю, ужо трохі і пры-

[1] Сарач — па-мясцоваму — шарон.



— За табой, малады чалавек, не ўгнацца,— сказаў, падаўшы яму руку, Дзянісаў.

— Не ўпершыню на матацыкле.

— Гэта добра. І добра, што ведаеш, куды трэба спяшацца. Ну, глянем, як тут...

Яны падышлі да валкоў, дырэктар узяў у рукі пук травы і спачатку нейк задуменна пазіраў на сцяблiны, потым скруціў іх. Гэтак жа, яшчэ мацней, скруціў пук травы Карнач, задаволена сказаў:

— Прывяла. Як мае быць прывяла. Тут учора па абедзе касілі, сваё адлежала.

— Назіраць за гэтым, сачыць... Каб у сянажныя траншэі высушка больш не трапляла. Ну, што яшчэ там? — перавёў дырэктар позірк на трактар з касілкай, які спыніўся на павароце.

Трактарыст — то быў Салавей — разгублена тупаў ля касілкі.

Кастусь накіраваўся да яго.

— Што за бяда?

— Ды во... Колькі ўжо зрабіў развbabротаў — і ўсё нармальна. А тут раптам няма пад'ёму. Ніяк не падняць яе...

— Не падняць... Масла ў гідрабаку глядзеў?

— Глядзеў. У норме.

— Стопар на гідрацыліндры?

— Клапан не залёг. Во толькі праверыў.— Алесь то даставаў, то зноў клаў у кішэню камбінезона пасацiжы.

— Трэба шукаць...

Пазіраў хто на іх ці не, але Кастусю здалося, што не адны толькі вочы Алеся зараз сочаць за ім. Непрыемнае было адчуванне, як ча-



Пасёлак Акцябрскі. Помнік замардаваным фашыстамі жыхарам.

сам на экзамене, калі не мог адразу адказаць на нейкае пытанне. «Не хвалявацца. Падумаць»,— загадаў сабе ён.

— Вось што, Алесь. Даставай ключы, паглядзім перапускны клапан у размеркавальніку.

— Ці варта? Калі ўсё нармальна, толькі час патрацім.

— А ты ўпэўнены, што ўсё нармальна?

Не адна хвіліна прайшла, пакуль дабраліся да клапана, прамылі яго, зноў паставілі на месца.

У гэты час падышлі дырэктар і Карнач.

— Дык што тут у вас? — спытаў Дзянісаў.

Кастусь коратка растлумачыў:

— Перапускны клапан засмеціўся.

— Трэба касіць, час ідзе,— пахмурна сказаў дырэктар.— Калі зараз не наладзіце, бярыце трактар з транспарціроўкі.

— Вунь Сітнік ідзе,— прагаварыў Карнач.— Падкажа, дзе тут загвоздка. Чалавек з вопытам.

— Мы ўжо тое-сёе зрабілі. Паспрабуй падняць,— кінуў Кастусь Алесю.

Той палез у кабіну, завёў трактар — касілка паднялася.

— Ну, во-во. Дарма цябе сарваў,— павярнуўся Карнач да Сітніка, якому нічога не заставалася, як развесці рукамі.

— Працуйце, хлопцы, працуйце,— сказаў дырэктар, і, зірнуўшы на наручны гадзіннік, падаўся да машыны. Карнач пайшоў следам за ім, а Сітнік — да свайго трактара.

Кастусь пацягнуў тыльным бокам далоні па спацелым ілбе. Алесь засмяяўся:

— Лоб вымазаў!

---

драмала. А яму ў нагах агню наклала. А ён увесь халодны... Знаеце, і жывы, а ўвесь вот так дубам падымаецца. Усё патаму, наверна, што, гэта, кроў выйшла. Увесь адубеў, як нада сагнуць, дык ён як прут, як кій.

Ну, гэта, сяджу, а патом чую шорах. Гляджу я — у белай простыні з вінтоўкай хто-та ідзе ка мне. Падышоў так недалёка, к самаму агню не ідзе. Спрашывае:

— Хто такі?

Ну, мне ўжо прыйшло ў чуства, што па-рускі гаворыць, а адазвацца я не адазвалася: проста адняло ў мяне мову. Ён пабачыў, што я хачу падняцца, а не падымуся. Ён падышоў, гаворыць:

— Жэншчына, вот жа радам гумно.

А ў гумне гэта былі партызаны. Ён падышоў, той партызан, да мяне, узяў мае санкі. Сказаў, што гумно ўжо вон радам, што будзем умесце. Прыцяг мяне туды, далі мне місачку, натапіла я снегу, трохі прапіталася. Есці то нічога не ела, у мяне ўжо засхло. «Ну, — думаю, — дзякуй богу, што я ўжо к людзям прыбілася».

Ну, тут іх камандзір даў каманду збірацца.

— Мы паедам у разведку, узнаем, дзе ўдобнае месца на дзень, і тады прыедам, абагрэемся і паедам умесце.

Я і падумала: «Я так стамілася... Калі яны прыедуць, дык чаго ж мне? Я аддыхну за гэтае ўрэмя».

Гаворàць:

— Не тушы агню, агонь пускай гарыць.

Агонь бальшы-бальшы!.. Гэтыя паехалі партызаны, а мяне, дарагія, страх такі ўзяў!.. Ад'ехалі яны метраў трыццаць, а я стала гэтыя галавешкі выкідаць з гумна. Павыкідала, павыкідала... Гэты дым ідзе з галавешак. Увесь агонь затаптала. Снегу місачкай нанасіла, затаптала агонь, у куточку села на санках у яго і сяджу сабе смела, ужо не баюся. Гэтак, можа, час пасядзела, факт той, што скора і дзень быў. Чую: гаворàць... Думаю: «Ну вот, зра я агонь раскідала, стушыла. Едуць ужо мае друзья».

Пад'язджаюць вярхом і на лыжах. Немцы!.. І галавешкі гэтыя падкідаюць нагамі. Дым ідзе... Падкідаюць гэтыя галавешкі, гергечуць, гергечуць. Глядзяць, куды след, і гэтыя следам, цёплымі слядамі — за партызанамі!..

Госпадзі, а ўжо Акцябр гарыць!.. Калі я выехала з Акцябра, у тую ж мінуту немцы — туды...»



Ён, Алесь, быў задаволены. Павярнуў трактар, узяў новую паласу. «Вось і парадак у цябе, хлопец. А ў мяне? Выццам таксама...»

Кастусь падняў жменю травы, выцер забруджаныя маслам рукі. Выцер насоўкай і лоб, пазіраючы на «Масквіча», што запыліў па дарозе, на трактары, што паўзлі па полі.

## 5

Кастусь здалёк убачыў: трактар стаяў пры дарозе, а Іван сядзеў на зямлі, прыхінуўшыся спіной да кола.

«Што там яшчэ ў яго?»

Пусціўшы «Іжа» накатам, Кастусь з выключаным маторам падкаціў да Івана.

— Чаму стаіш? Што ў цябе?

— Не стаю, а сяджу. Нічога. Злазь і ты, разам цішыню паслухаем.

— Я ўжо думаў...— Кастусь апусціўся побач з Іванам на пацягнуты трыпутнікам узмежак.— Хіба скончыў акучванне?

— Дабіў тут... Іншы раз дамоў ляціш, як шалёны, а сёння... Угаманіў каняку, і ціха, добра. Дзе ты гойсаў?

— Маршруты ўсё тыя ж, ад трактара да трактара...

— Малы кабатаж. Прыбярэжнае плаванне. Пабачыш не надта многа.

— Але тое-сёе заўважаю. За тыдзень і не хацеўшы заўважыш...

— Цікава. Вока ў цябе свежае, кажы. Толькі давай перш закурым.

Ён, Кастусь, курыў мала, але не адмовіўся ад цыгарэты.

— Цікавага, Іван, не надта... Ды слухай... Вось пад'еду да Лагуна,

---

Вольга Мініч далей пацягнула тыя саначкі, і мы з ёй яшчэ сустрэнемся — каля іншых вёсак, у іншым лесе...

А тут, у пасёлку Акцябрскім, нас затрымае памяць Фёклы Якаўлеўны Кругловай, затрымае, а потым павядзе па другому кругу пакут — у суседнюю вёску Рудню. Бо **двойчы** ў той дзень забівалі гэтую жанчыну, а яна засталася жыць, амаль што адна з цэлай тысячы... Цяпер ёй шэсцьдзесят пяць гадоў.

«...У мяне раненыя, у маім доме, ляжалі. Партызаны. Ну, стаў калавур тут, ля нас. Партызаны ўжо гавораць: «Ты знаеш што...» Ага, ляцеў самалёт тут вось, на Бунёў, забраў гэтых раненых. Ну мне і сказалі: «Ты глядзі, атрад выбіраецца, і ты за атрадам едзь, бо цябе разарвуць, як прыйдуць гэтыя немцы». Ну, а я так думаю: «Як жа пайду за імі, куды я пайду? Тут, кажуць, абнялі нас кругом, ацапілі...» Ну, я не пайшла з імі ды асталася дома.

Я не на гэтым месцы жыла — проціў завода жыла. Дык я выбегла ў гэты завод і ў дымавую трубу палезла. Ну, палезла я, там сядзяць нашыя мужчыны, у трубе ў той, чатыры чалавекі. Дажа



**Фёкла Якаўлеўна Круглова.**

Сіўца, Шаблоўскага... каля іх няма патрэбы затрымлівацца. І такая табе карціна. Падкаціў учора да Гурыновіча. Рухавік ён заглушыў, сядзіць, абедае. Зірнуў я на шчыток прыбораў і бачу — вада на ста градусах. «Ты што, Барыс, вады ў радыятар не даліваеш?» «Зірні,— кажа,— вады па плешку». Сапраўды, хапае. І сэрцавіна радыятара чыстая. А рухавік на перагрэве. Барыс гаворыць — не паспеў яшчэ глянуць, дзе і што...

— Слухай яго,— махнуў Іван рукой.

— Ну, сказаў — добра. Падымаю капот — і вось табе прычына: пас вентылятара правісае. Генератар прытуліўся да рухавіка, як дзіця да маткі. Само сабою, пытаю, калі тэхнічны догляд па першаму нумару рабіў. Кажа: «Недзе тыдні тры назад». А Скакун сёння, бачу, шнурам пускач заводзіць. Тыя дні такога не было — і раптам. «Што з акумулятарам?» «Сеў»,— адказвае. «Калі ўзровень электраліту глядзеў?» Таксама — пры цары Гароху. Ну і трэцяму тое ж пытанне, і чацвёртаму. Не адсталі ад Скакуна і Гурыновіча. Напрошваюцца, Іван, вывады.

— Вывады такія: адзін свае боты чысціць штодня, а другі толькі на свята. Брыгадзірыў Стасевіч, то больш было парадку. Ён кожны трактар па голасе з-за ракі табе адрозніць. А Сушняк... што ён можа? Ну, як сам вядзе ўлік паліва, то гаворыць, калі каму пара тэхнічны догляд правесці. А каб умеў яшчэ рукі прыкласці... Мо і кумекае, ды лічыць за лепшае не высоўвацца. Ён з тых: маё — адсюль і дасюль,— узняў і апусціў Іван руку.

— Я разумею. Няхай той Скакун ці Гурыновіч уцякаюць ад клопату, а дзе тады Баброўскі? Хіба асоба, як гаворыцца, не зацікаўленая?

адзін партызан быў, а тры такіх было. Муж мой на фронце, а дзяцей у мяне не было — дык я адна. Я ў тую дымавую трубу. Пасядзела я там, і прыходзіць, праўда, сусед. Грыб яго звалі. Прыходзіць ды гаворыць: «Вы, гаворыць, вылазьце адсюль, немцы ахфішкі кідаюць і давацьмуць, гэта, нам чай і хлеб. Павылазьце, бо такія яны добрыя, гаворацць, закурыць даюць. Вылезьце адсюль». Гэтыя мужчыны ўзялі і вылезлі. Пайшлі яны, а іх там забралі ды ў клуб...

Я сядзела, сядзела ў той дымавой трубе, а далей, думаю, пайду я перабяруся ўжо ў свой сарай. А нашы рабочыя сарайчыкі ўсе ў рад былі за заводам. Як я ўжо к гэтаму сараю падышла, так і немцы ўжо там, тавар прыгналі і паставілі. Між тых сараяў, цэлы табун. Ага, дык я думаю: «Пайду я стану каля гэтых кароў, што яны прыгналі». А там ужо чатыры мужчыны стаяць, што тыя каровы глядзяць. Дык я думаю: «І я паганю гэтыя каровы. Што б хаця мяне не ўбілі, што б яны мяне не пазналі, што я гэтае хаты хадзяйка». Бо яны пыталі многа ў каго і ў мяне таксама пыталі: «Вы не бачылі хадзяйкі вось гэтае хаты?» Гэта калі я бегла ў завод хавацца. Дык я сказала: «Яна пайшла ўжо, гэстая хадзяйка, ужо няма яе». А тут я сама іду. Бо страшна ў той трубе, думаю, прыйдуць немцы, бомбу якую кінуць, узарвуць гэты завод — і я тут пагінула. Так хоць дзе пагіну, дык будзе хаця слабадней, а то ў гэтым залезе...

Пайшла я ў сарай свой — немец! Толькі я ў сарай, ногу на бервяно паставіла лезці на вышку, захавацца ад іх, а немец — ка мне! Дык я ўжо за гэтую сваю кароўку, выгнала яе і стала ля тавару, думаю, мо ён мяне не пазнае, дык і я паганю гэтыя каровы. У Глуск яны іх гналі. Але немцы падышлі, забралі мяне і пагналі перад сабою.

Я думаю, куды ж яны мяне гоняць. Прыйшлі ў клуб і загналі мяне туда. Ну ў клубе мы сядзім, сядзім.

**Пытанне:** — А колькі вас было ў тым клубе?

— Сто дзевяноста. Гэта мужчыны так лічылі.

Я ўжо ўзяла і кажу:

— Бабы, тут немцы нас паб'юць.

— Ой, не!

І Грыб гэты самы, што вызываў нас з трубы, тут ужо быў запёрты. Я і кажу:

— Яшчэ гэты Грыб прыходзіў быў, і сына свайго вызваў, і нас павызываў адтуль.



Дык ён кажа:

— Не бойся, твой муж на фронце. Сказалі, што ў каторых на фронце — тых не будуць расстрэльваць. Толькі партызанскіх сямей будуць. Будзе сабранне.

Ну, чакаем таго сабрання, калі яно будзе... Вот ужо пяць часоў, а няма таго сабрання. А немцы ляжаць усе на адкосах жалезнай дарогі. І аўтаматы дзяржаць на гэты клуб. Дык мы во глядзім, глядзім у вокны, а яны ляжаць. З чарапамі... Тут у іх белае нешта такое, і вось тут такія нейкія нашыўкі, і такія во бутылачкі па баках, жоўценькія, як чацвяртушкі, былі. Яны бутылачкамі па гэтым клубе — шах! Клуб і загарэўся наш! Ніякага сабрання няма! Знадворку запалілі нас. Вот узялі так, пырснулі на гэты клуб, і гэты клуб пайшоў гарэць. І вот адзін наш, ён у канторы работаў бухгалцерам, дык ён у акно, у раму як даў і выляцеў з сынам. Сын быў роўны з ім. І яшчэ жанчына. Нас пяць душ выскачыла. Ага, дык яны, як ляцелі цераз гэтае акно, дык немцы па іх вочарадзь выпусцілі — тыя, што ля жалезнай дарогі ляжалі. Яны беглі ўсе, як гусі якія, ключэм, так яны ўсе і палеглі, гэтыя людзі. А я ззаду ў акно выпала, і тут канаўка ж была, і кусцікі былі такія. А пад акном вада, а зверху снег. Дык я як ляцела ў канаўку — і ўпала. І ляжала ў гэтай канаўцы. Каб на мяне гэты агонь быў у клубе, вецер, дык я б згарэла, усё роўна згарэла б у той канаўцы, але вецер кланіў туды, на склады, склады таксама гарэлі. Дык я і асталася.

А далей ляжала, ляжала, гэтыя ўжо людзі пішчаць, выюць... Даходзілі ўжо... Ой, на розныя галасы, не можна!.. Вот ужо зноў мяне пачало калаціць!.. Крычалі людзі на розныя галасы. Так ужо, гэта, у тым клубе».

Пра самыя жудасныя хвіліны людзі з вогненных вёсак найчасцей гавораць адной-дзвюма фразамі: «пішчаць, выюць...» Тут усё ў адно спяклося: і людскія крыкі, і трэск пажару, і брэх аўчарак...

Ці, раптам, пра тое ж:

«Тыя людзі як заплакалі! Усялякімі галаскамі, як пчолы».

Ці яшчэ як... І замаўкае чалавек. Тут ужо перапытваць, распытваць не будзеш. Толькі — доўгая паўза (як спазма), толькі вочы і твар чалавека, якога

— Ён так: як набралася трактараў на прастоі, то лепей да яго не падыходзь — не да тэхнічных доглядаў яму. Сам можаш правесці — бярыся, а ў падмогу нікога не дасць.

— І наладчыка?

— І наладчыка будзе на рамонце трымаць. А ты паспееш, твой яшчэ бегае...

— Калі так ставіцца да тэхнічных доглядаў... гэта ж сабе на хвост наступаць,— усміхнуўся Кастусь.— Хіба ён, Баброўскі, не разумее, што гэтым толькі дадае сабе работы па рамонце? Ну, а галоўны... ці кантралюе, як трымаюцца графіка?

— Адзінец? — Іван задумаўся, кінуўшы позірк удалеч.— Як каму, а мне дык тое-сёе тут ясна. У яго стаўка на запасныя часткі. Стараецца, здабывае. Усяго сябе кладзе, абы былі. Едзе ў раён, у «Сельгастэхніку» — як няма чаго — шукае, імчыць у вобласць. Не знойдзе там, на базу, на завод заверне. Яго ўсюды ведаюць. Да нас ужо часам як у «Сельгастэхніку» едуць. Адзінец выручыць, у яго ўсё ёсць.

— Гэта і няблага.

— Вядома! Але на што іншае, акрамя як турбот пра запчасткі, яго ўжо часам як і няма. Прывык, што Стасевіч сам у брыгадзе ўправіцца. Стасевіч яму падпорка надзейная, у той бок хоць і не глядзі. Ён, Адзінец, відаць, спадзяваўся, што брыгада і без Стасевіча будзе сваю марку трымаць. Каб жа... Спачатку нішто было, ды Сушняк — гэта Сушняк. Не тая галава.

— Чаму ж яго паставілі брыгадзірам? З трактарыстаў бы некага.

— Ага! Вясна падышла, работы кожнаму трактарысту адмерана. Не сіраціць жа трактар. Ды і спадзяваліся, што Стасевіч хутка вернецца.

— Вось табе і «незаменных няма»...

— Галава галаве не раўня, што там і казаць. Той жа Сушняк, калі не цяміць у тэхніцы, мог бы патрабаваць, неяк кантраляваць, каб усё ў свой час рабілася — права на гэта ў яго было. Дык не, яму слова Бабpоўскага закон, разумнае яно ці на крывых ножках.

— Нішто сабе парадкі,— сумна працягнуў Кастусь.

— Вось такія... Не шкодзіла б тое-сёе паставіць з галавы на ногі.

— Трэба... Але як?

— Паспрабуй. Брыгадзірам быўшы, нешта можна...

— Падумаем, Іван. А цяпер паедзем хіба?

— Ты вось што... Падкінь мяне зараз да Нілы. На хвіліну, не больш... Насця прасіла пераказаць ёй тое-сёе. Пакуль я дадому, пакуль збяруся, а тут бліжэй...

«На хвіліну? Хоць і на хвіліну»,— узрадаваўся Кастусь.

Яму ўсе дні ад першай сустрэчы хацелася ўбачыць Нілу. Чамусьці ён быў упэўнены, што дзяўчына не адвернецца ад яго і загаворыць з ім, і, магчыма, пакіне яму надзею на блізкую сустрэчу. Вось убачыць бы яе...

Іван устаў:

— Туды, Кастусь, да лесу кіруй.

Селі на матацыкл, і Кастусь, колькі льга было, даў «газу». Шлейф пылу ўзняўся над дарогай, што павярнула ад ракі ўлева і ўжо да самага лесу бегла наўпрост цераз поле, то спадаючы ў лагчыну, то напаўзаючы на ўзвышша. Лес набліжаўся хутка: цёмная сцяна яго ўвачавідкі святлела, зелянілася, ажываючы ў фарбах бяроз, ляшчынніку, елак.

— Спыняйся,— азваўся Іван.

---

нанава пеканула памяць, а ён яшчэ і прабачэння просіць: «Вот ужо зноў мяне пачало калаціць!»..

«...Я ляжала, ляжала дый думаю... Пайду я ў Рудню, там жа ў мяне знаёмыя, можа, мяне хто скрые. Ці мо там жывыя людзі засталіся...

Устала я. Каб дзе кот, ці які верабей, ці што на свеце — усё, гэта, такая цішыня... А можа я толькі адна на свеце асталася?.. Дык я думаю — няхай гэтыя немцы ці прыстрэляць мяне, ці што ўжо... Бо як я буду жыць адна на свеце».

Такое дзеецца, што чалавек ужо не верыць, што гэта толькі тут: мабыць, усюды, на ўсім свеце! І куды ні кінецца — сапраўды, тое ж усюды: сцяна з агню, са смерці...

«...А далей думаю: пайду я ў Рудню. Ні немцаў, нікога няма. Ужо ўсе паехалі адсюля, з Акцябра,— запалілі і паехалі. Іду я туды цераз поле, уся мокрая, хустка мая асталася ў клубе, асталіся галошы мае з валенцаў у клубе, а гэта свае работы валенцы, дык яны ў вадзе, расцягліся... З мяне пара ідзе ўжо, такая пара ідзе з мяне, ўсё роўна як з-пад воўны, як дым. Дык я думаю, мо я гару дзе, мо дзе ўпала на мяне гэта, галуза гэтая, з клуба. Я і так, і кругом сябе — не, анічога нямашака! Прышла я туды без хусткі. Толькі я прышла, пад нейкі падышла сарайчык, і там маленькая хатка з краю. І стаю. Чую — крык... Такі крык там, што, божа мілы, які крык! А яны ўжо з таго канца ўзялі, і адтуль, і гоняць ужо на гэты канец пад саўхоз. Гоняць ужо гэтых людзей, бабаў усіх. І самалёты сталі па зямлі страчыць. Я стаю пад гэтым хляўком, а далей, думаю, пагляджу, што яны тут робяць, што такі крык. Толькі я голаў тык з-за вугла, а немец якраз глянуў сюды, калі я зірнула. Дак ён ка мне ляціць: «А-а-а»! Як стаў мяне прыкладам! Шчоку рассек, і губу ўсю парассякаў, і зубы мае адзін за адзін заходзяць. Поўны рот крыві. Я ўжо вазьму так гэтую кроў, выграбу рукамі — ой, каб хаця дыхнуць!..

І пагналі мяне ў калхозную канцылярыю. Дык гэтыя людзі рудзенскія таксама кажуць, як у нас казалі, што немцы будуць выбіраць: каторыя партызаны — расстрэльваць, а такіх будуць выпускаць.

Дык я кажу:

— Мае вы бабкі, ужо ў нас, кажу, зрабілі сабранне, ні аднае, кажу, няма. Усе, кажу, пагарэлі ўжо, канчаюцца там людзі. Ужо каторыя пішчаць, гавару, даходзяць, так што, кажу, не беспакойцеся, усім будзе адно.

Ну, і там нас дзяржалі, дзяржалі. Раней узяліся за мужчынаў, за тых, што ў другім будынку былі. У аднаго паліцэйскага немцы пытаюць:

— Дзе ў вас такі мужчына е, што ён можа па-нямецку гаварыць?

Вызываюць па імені, па фаміліі таго ўжо мужчыну. Падышоў гэты мужчына, з немцам нешта сказаў па-нямецку, а потым так яго ўзяў пад паху ды паставіў ракам. Немца таго. Дзед, а такі, знаеце, крэпкі! Дык яны: «А-ла-ла-ла!» А іх тры немцы каля хаты было, каля нашай. Патрулёў, што нас пілнавалі па падвоканнем. О, ляцяць гэтыя немцы і таго дзеда ўзялі і забілі.

— Давайце другога, які можа па-нямецку гаварыць.

Вызвалі другога. Той — таксама, яшчэ ў старую вайну, быў у Германіі. Той гаварыў, гаварыў, дык яму трах! — пулю ў лоб.

Вот тады ўжо мужчыны ламанулі ў дзверы!.. Каб яны тады ламанулі, калі ён таго немца ракам паставіў, ды выхвацілі гэтыя вінтоўкі! Калі б яны знали, што іх гэтак мала!.. Дык мужчыны ламанулі, і пяць чалавек выскачыла і жывыя асталіся. Па полі паляцелі.

Ну, пабілі мужчын, а тады скамандавалі возчыкам — мы ўсё чуем:

— Знімайце казачынкі, валенцы новыя і галошы новыя, і шапкі.

І знімалі яны з пабітых шапкі і гэтыя казачынкі, наклалі тры вазы.

А далей давай нас... Паставілі, прывезлі яшчык і паставілі на яшчык пулямёт. На скрыню, што бульбу возяць. Прыдзе немец, вупхне якіх, значыцца, душы тры, чатыры, пяць — сколькі ён адсюль вупхне. Хто ж гэта хоча ісці пад расстрэл? Ну, матка, гэта, забірае сваіх, сем'ю вот ахватвае і пáдае, бо яны крычаць: «Падайце!» Матка сваіх дзяцей, якая там радня,— абнімуцца і падаюць. І яны з пулямёта строчаць... Я ўсё так ззаду стаяла, не выходзіла, ага. Так усе бачаць, глядзяць у акно, кажуць: — «Вунь мая дочка гарыць і ўнукі гараць!..» І вы скажэце,— каб хто заплакаў, ці што на свеце... Вот яны так тут расстрэльваюць, а тут калхозная пажарная была. Дык там мужчыны сядзяць. Жанчын адзельна замыкалі, адных, а мужчын адзельна. Такіх хлапцоў, што большыя,

Кастусь затармазіў.

Злева, як вокам кінуць, бяleліся палеткі грэчкі, іх аддзяляла ад лесу вузкая травяністая дарога. Дарога ж, па якой яны, Кастусь і Іван, ехалі, заглыблялася ў хвойнік.

— Дык дзе пасека? — спытаў Кастусь.

— А перад намі, во ў прылеску. Бліжэй не варта было пад'язджаць.

Прайшлі колькі крокаў па зялёнай дарозе, збочылі з яе, падняўшыся на невысокі пагорак, і тут, сярод бярэзніку, Кастусь убачыў сінія, жоўтыя, карычневыя вуллі.

— Ніла! — гукнуў Іван.

— Іду! — пачуўся яе голас.

Яна выйшла неўзабаве з-за дрэў — у белым халаце, з ахоўнай сеткай у руцэ. Здзівілася, убачыўшы Кастуся, але твар яе нібы прасвятлеў.

— Нечаканыя госці!

— Мы да цябе з даручэннем. Заўтра Насця са сваімі артыстамі едзе ў Жарцы, хоча ведаць, ці зможаш ты далучыцца да іх.

Ніла звяла бровы.

— Калі не будуць спяшацца, то, мусіць, змагу.

— Куды спяшацца? Сонца сядзе, тады і паедуць. Раней — толькі час марнаваць.

— Добра. Няхай чакае,— згадзілася Ніла.

— Але я сумняваюся,— усміхнуўся Іван,— што ты зможаш спяваць. У хоры і памаўчаць можна, а ў дуэце... Табе ж слова цяжка сказаць.

— Ну што ты прыстаў да мяне? Змарылася крыху...

---

дык туды, а малыя, дык з намі былі. Многа ж бежанцаў было з усіх... Дажа каторыя з Бабруйска былі. Гэта ж ехалі сюды на сховазень, дзе партызаны жывуць. Ну, вот яны і папрыязджалі...

Ужо асталося нас толькі сем чалавек,— усіх павыпіхалі. У палу шчэлі вялікія. Я гэта прышла ды рукі ў шчэлі ўсадзіла, ды раз — падняла гэту памасніцу.

— Бабы, сюда,— гавару.

І сама ўжо ў яме. Етыя бабы ўсе і ўбеглі ў яму.

Прышоў немец па нас ужо, па астальных, а мы закрыліся, у яме ў гэтай. Па астальных прышоў, а нас ні аднае душы няма. Гэтыя дзеці ў яме... божа мілы,— нарабілі крыку там. Еты немец адкрыў яму і прыкладам:

— Вылазьце!

Не хочуць. Хто хоча пад пулю лезьці? Крычаць.

— Вылазьце!

Не хочуць, ага. Ён гэтым прыкладам у галовы біць. Вот і сталі вылазіць. Каторая не можа выйсці на двор, дык тут, над гэтай ямай, і папрыстрэльвалі, гэтых бабаў.

А я, і яшчэ тут адна — у Рудні яна, і цяпер жыве, ага. У яе была дзевачка, такая маленькая яшчэ, паўтара года. І мы ўзялі падлезлі далей сюды, пад брус. Я ўжо ўся ў крыві была, у пяску была, твар — у пясок, каб нам не кашлянуць... Вот мы ляжым ужо, нам чуваць — яма адкрытая, а яны ўжо ўсунулі головы сюды, паглядзелі, ці можа яшчэ хто ёсць. Не відна ўжо, цёмна. Толькі месяц свяціў,— добра помню. Дык яны паглядзелі, ды тады на звозчыкаў на гэтых гавораць:

— Бярэце салому, кладзеце касцёр.

Гэтыя звозчыкі — яны ж падчыняліся, ведаеце, са страху,— сюды наклалі саломы, і ў гэтае памяшканне і ў тое. А тады:

— Выдзірайце вокны!

Яны выдзерлі, сталы, дзверы пакідалі на салому.

— Запальвайце!

Ага, запалілі.

— Вярчыце вярчэ![1]

Яны парабілі гэтыя вярчэ.

— Запальвайце і кідайце ў яму!

Ён думае, а мо' там людзі е, каб ета ўжо там пазадыхаліся. Асмальваецца на тых вярчах салома, а дым да нас не заходзіць. З ямы ўсё на хату выходзіць. І вот яны запалілі гэты касцёр...

[1] Вярчэ—па-мясцоваму—жгуты.



— Гэта пчолы столькі сілы могуць адбіраць? — спытаў Кастусь, зазірнуўшы ў вочы дзяўчыне.

Іранічная ўсмешка кранула вусны Нілы:

— А вы што-небудзь ведаеце пра пчол?

— Увогуле... тое, што і ўсе.

— Тады вы нічога пра пчол не ведаеце,— засмяялася яна.— Пчолы — гэта мёд, мёд — гэта пчолы,— і што яшчэ нам трэба?

Кастусь збянтэжана развёў рукамі:

— Не мой профіль.

— Піць хачу, Ніла. Нясі нам вады, калі ласка, ды паедзем,— сказаў Іван.

— Дык зайдзіце ў маю кватэру,— запрасіла яна.

«Кватэрай» быў сіні вагончык, што стаяў на чатырох калодах. Зайшоўшы ў вагончык, Кастусь здзівіўся: тут было ўтульна, і, безумоўна, таму, што кожная рэч займала сваё месца. Тры акенцы, адкідны столік, газавы таганок, канапа, палічкі для харчу і палічка над канапай — на ёй былі кнігі.

А Іван адразу пачаў піць ваду з вядра, што стаяла каля століка. За ім прагнаў смагу і Кастусь. Павярнуўся да Нілы:

— Дзякуй. Тут, заўважаю, гасцінныя і гаспадары, і пчолы. Я напачатку падумаў, што абавязкова каторая ўджаліць.

— Што пчолы... Людзі мацней джаляць,— кінуў Іван: — Ну, трымайся, Ніла. Насці так і скажу: будзеш.

— Прыязджайце,— сказала Ніла, неяк сумна зірнуўшы на Івана і весялей — на Кастуся.

Ён падумаў, што абавязкова будзе тут, на пасецы, зноў, але не сказаў пра гэта Ніле, адно ўсміхнуўся ёй на развітанне.

---

Мы сядзім, сядзім усю ноч, а тут яны ракетамі свецяць — відна там у нас у яме, хоць іголкі збірай, такая відната. Што нам, бедным, рабіць? Божа мой мілы!.. Яны запалілі, і мы чуем, што страха ўпала. Але гэта не наша — гэта пажарная, а наш агонь узяў і патух...»

А побач, у пажарнай, адбывалася тое самае... У той пажарнай, і яшчэ ў двух дамах у Рудні, і яшчэ ў дзесятках, а потым у сотнях іншых вёсак Беларусі... Страшна перамнажаць такія лічбы, бо за кожнай з іх — чалавек і яго сям'я, яго маці, яго дзеці, брацікі, сёстры. Бо за кожнай — невымерны чалавечы жах, боль. Іх сотні тысяч — тых, хто ўжо ніколі не раскажа, за якіх расказваюць вось гэтыя людзі, вельмі і вельмі нямногія. А ў кожнага з тысяч загінуўшых было **гэта,** было так, і яшчэ, магчыма, страшней, і ўжо не змогуць жывыя ўзяць на сябе хоць бы частачку тых пакут...

Пажарная стаяла недалёка ад калгаснай канцылярыі, дзе схавалася пад падлогу Фёкла Якаўлеўна Круглова, і вось што рабілася ў той пажарнай. Жыве ў новай, адбудаванай Рудні жанчына, якая і была там, у тыя страшныя гадзіны і хвіліны.

**Ганна Іосіфаўна Гошка,** пяцьдзесят гадоў:

«...Нас паставілі прама ў шарэнгу, на калхозным двары. Тады гэтых мужчын аддзельна. Тады за гэтых мужчын — раз, пагналі ад нас зусім, пагналі ў канюшню. А нас у пажарную набілі, бітком набілі. Пальца не ўсунуць туды. Загналі нас і паставілі немца над намі. Тых ужо мужчын ганяюць, бяруць па дзесятку і вядуць у другі сарай. З аднаго сарая ў другі вядуць... Немец сядзіць. І паставілі на лаўках пулямёт,— прама сюды ў дзверы... Дык мы сядзім ужо ў гэтай *самай*... Там не сядзець — там не было як сядзець, там паздушваліся ўжо... А я на самых дзвярах. А са мной маленькая сястрычка. Я яе дзяржала з сабой на руках. Так сціснулі...

Праўда, я ўсё бачыла, як тых мужчынаў вадзілі. Тады мужчыны бачаць, што іх расстрэльваюць, і яны прама як выйдуць — дык і ў ход! Уцякаюць. Адзін у нас калека быў, кульгавы, дык немец гэта яго лупіць-лупіць!.. Каторых назад пазаганялі, а каторыя па полі пабеглі, уцяклі.

Тады жанчына на гэтага немца:

— Пан, што, гэта нас — будуць страляць?

Вярнуліся да матацыкла. Іван загледзеўся на лес, прымружыўшы вочы. Было прыкметна па твары — штосьці невясёлае набегла ў яго думкі.

— Спёка... грыбоў няма... не будзе.— І раптам, як не могучы трымаць у сабе прыкрае, набалелае, выгукнуў: — Ох, Кастусь... Як хочацца іншы раз узяць чалавека загрудкі і патрэсці... Каб дайшло да яго... праз косці, калі душа закамянела.

Здзіўлены рэзкай пераменай у настроі Івана, Кастусь спытаў не адразу:

— Ты пра што... пра каго?

— Пра яго... Насцінага бацьку. Як валун які... і на маёй дарозе, і на Насцінай. Ну, паехалі.

Кастусь завёў матацыкл. І пакуль ехалі, ні словам не азваўся Іван. Спыніліся каля трактара, Іван злез з сядзення, неяк разгублена зірнуў на Кастуся і кінуў:

— Ат, глушы. Пасядзім яшчэ крыху, расказаць хачу табе...

Яны зноў селі на ўзмежак каля трактара. Іван паклаў рукі на калені, сплёў пальцы. Доўга пазіраў на поле, кінуў позірк на Вербічы — толькі шаты дрэў былі відаць адгэтуль. І загаварыў — ціха, быццам не хацеў заглушаць голасам спеў жаўранка, што завіс недзе ў вышыні над імі:

— Скажу табе, Кастусь, як ёсць. Насця мяне кахае, не сумняваюся... Можа не так, як я яе, крыху інакш... Але кахае. Я ў халасцяках і на дзень не застаўся б, каб усё было ў маіх руках. Дык жа ён, Шумскі... Я казаў табе, як валун на дарозе... Валун яшчэ адкінуць можна, раструшчыць, урэшце, а яго як абысці?

— Чаму ён перашкаджае вам?



Дык ён адразу махнуў. Нейкі немец быў, чорт яго... А потым:

— Не, матка, не, не, не!..

Ужо здагадаўся, мабыць, што людзі будуць уцякаць, ці чорт яго ведае...

А бабы гэтыя галосяць, крычаць. А гэтых мужчын ужо як пабілі, дык сталі там па вуглах чым-та ліць. І ўжо раптам загарэўся той сарай. Тады яны ўсе сюды, к нам. Падыходзяць. Былі там, праўда, і паліцаі. Са Смыковіч тут у нас адзін такі, чорт яго... Дык адна жанчына ў яго пытаецца:

— Андрэечка, што гэта нам будзе?

— Нічога не будзе вам! — так гэты паліцэйскі.

**Ганна Іосіфаўна Гошка з дачкой.**

— Вораг я яму. У яго да мяне нянавісці... як у аціхлага камара крыві чужой.

— Адкуль яна, нянавісць?

— Не з таго поля я, з якога ён. Былі стычкі, ведаем адзін аднаго. Ён хоча ў хату мужчыну, каб слова насуперак не сказаў. Каб цягаў у двор, як ён, каб за трэцяе плячо яму быў. А я і дня побач з ім жыць не хачу.

— Чаму б Насці не перайсці да цябе?

Іван узмахнуў рукой:

— Гэта адзінае выйсце! Пра гэта ёй ужо другі год б'ю... Не! Не можа без іхняе згоды. Матуля яе таксама без ласкі да мяне... за бацькам піша. А адкуль ёй узяцца, добрай згодзе? Калі яны мяне чатыры гады назад знаць не хацелі, калі сёння знаць не хочуць, то з чаго раптам пераменяцца? — Іван замоўк, потым загаварыў цішэй: — Я, Кастусь, страшэнна не люблю няпэўнасці. Чакаць, спадзявацца, гадаць, як яно будзе — гэтым нікога і ў дробязі мучыць не стану. Адчуваю, нервы ўжо пачынаюць здаваць. Штодзень пра адно думаю — і ні прасвету...

— Ці Насця не разумее, як табе не соладка?

— Разумее. Але і іх разумее, бацьку, маці. Каб хто іншы ёй пярэчыў, а то ж яны... Ёй самой не да песень, бліжэй да слёз... адно што ўмее схаваць сваё, што ў душы. Але куды яна кінецца, я не ведаю. Быць павінна ці так, як я хачу, ці так, як яе старыя — адно з двух, рана ці позна. Ну, што, па-твойму, будзе? Як?

— Мне цяжка меркаваць, Іван. Цябе я ўжо ведаю, а Насцю тваю... амаль што не. Але думаю, калі яна хоча шчасця, то ад яе самой яно і залежыць.

Праўда, ён за сваю матку, і той, другі паліцэйскі, таксама, забралі сваіх з хлява і з сабой павялі.

А нас, шасцярых дзевак і адну жанчыну, якая была ў нас дэпутатам, павялі ў пустую хату. І іх прышло з намі тры, немцы. Два, а трэці ззаду ішоў. Ну, мы ідзём туды... Гаварылі, што яны здзекуюцца з дзяўчат. Ну, мы ідзем, і пазгіналіся, *каб не такімі маладымі здавацца...* А той жанчыне, дэпутату, ён паказвае: «Садзіся!» Яна, праўда, не хоча садзіцца. Яна і сюды і туды, гэтая баба. А ўсе астатнія паўскаквалі: о божа, прашчаюцца са сваімі! А гэтай жэншчыне як далі сюды ў затылак, так зразу яна і кончылася. А я ўзяла і ўпала зразу на падлогу. Адстралялі нас і пайшлі абратна. Другіх прыгналі. У трэцюю вочарадзь ужо я пачула — сястрычка мая ідзе. Яна ўжо так плача: відна ж ёй — я наверсе яшчэ. Яна прама мне сюды на ногі ўпала... Забілі ўжо ў трэцюю вочарадзь...

Тады я ўжо ляжала, чакала, не ведаю — чаго... І тут ужо столькі набілі! А *потым — раз! —*вокны *павыбівалі і з* кулямёта давай сюды біць. Ну, усё роўна мне нідзе не папала, толькі мне тут смальнула, руку і рукаў прасмаліла. А людзі так ужо стогнуць! А я думаю, што мне рабіць,—ці мне вылазіць? Я думаю, што ўжо ўвесь свет — нідзе на свеце нікога няма. І відна было, як Акцябр гарэў. Дык думалася, што ўжо ўсё...»

І зноў тая ж думка, што апаноўвала і Вольгу Мініч, і Фёклу Круглову. Калі гараць усё навокал і такое робяць з людзьмі!.. *Думка, адчуванне, што гэта,* што гэткае, мабыць, усюды, на ўсім свеце пачалося, робіцца. Бо не ўкладваецца ж у розум — у нармальны, чалавечы. Не ведаючы пра той «план», што сапраўды быў для ўсяго свету складзены і прыхаваны, людзі інстынктыўна адчувалі яго дзікі замах. Побач, навокал пачынала працаваць страшная машына забойства, і простая жанчына з Палесся раптам адчула пагрозу цэламу свету, усім добрым людзям, і сваё нязмернае гора, сваю бяду вымярала ўжо тым, усечалавечым маштабам. Бо яна ж за ўвесь свет, за ўсіх людзей так зблізку ўбачыла, што гэта такое — фашызм, які пачаў *на прэктыцы рэалізоўваць свае далёкія* мэты...

«...Я гляджу ўжо — цёмна, так толькі месячко ўсходзіць, толькі пачынаў ўсходзіць. Тады, вот тут у нас старая была

— Дык жа нерашучая,— сціснуў Іван кулакі.— Ох, жаночы характар!

Ён раптам лёгка ўскочыў на ногі.

— Затрымаў я цябе, Кастусь. Сонца вунь нізка ўжо...

## 6

Размова з Бабpoўскім... Да яе Кастусь мусіў рыхтавацца, як да бою. Яна ўяўлялася яму цяжкай.

Ён не мог забыцца на першае пачуццё, якое выклікаў у яго Бабpoўскі. Падалося, не надта далікатны, не надта паважлівы да чалавека гэты загадчык рамонтных майстэрань. Прыглядаўся да яго ў наступныя дні — заклапочаны, ні хвіліны не патраціць на пустую размову, не будзе стаяць, сунуўшы рукі ў кішэні і азірацца наўкол. І ўжо думаў Кастусь: чаго хацець ад чалавека, які за клопатам штодзённым мо неба над сабой не бачыць?

Але Іван Бабок унёс свае карэктывы ў яго, Кастусёвы, адносіны да Бабpoўскага. З голымі рукамі да гэтага чалавека лепей не падыходзіць, не...

Кастусь накіраваўся да Бабpoўскага з блакнотам, у якім было занатавана ўсё неабходнае для сур'ёзнай размовы. Мала не дзве гадзіны праглядаў Кастусь лімітна-заборныя карткі, якія Сушняк падаў яму без ахвоты: «На, папарыся». Цяпер ён, Кастусь, дакладна ведаў даты, калі павінны былі праводзіцца тэхнічныя дагляды трактароў. Цяпер ён быў узброены фактамі, на якія нельга не зважаць, над якімі нельга не задумацца.

Бабpoўскі выйшаў з майстэрні, і тут Кастусь спыніў яго. Адразу загаварыў, колькім трактарам трэба неадкладна правесці тэхнічны дагляд.

— Ведаю,— пазіраючы сабе пад ногі, кінуў Бабpoўскі.— Але ні сёння, ні заўтра нічога не будзе. Не выпадае.

— Чаму?

Бабpoўскі паморшчыўся: не цяміш ты, хлопец, ці што? Бачыш, колькі на прыколе? Не адарвацца ад іх. Хлопцы не гуляюць.

— Але не сёння, дык заўтра могуць стаць і другія. Ніякай гарантыі, што трактары не пастануць...

— Я не ведаю, ці буду жыць заўтра.

— Мне гэта дзіўна,— Кастусь стрымліваў сябе, чуючы, што голас яго пачынае трымцець,— шасці трактарам... гэта не аднаму... тэхнічны дагляд па другому і трэцяму нумару трэба было правесці яшчэ два месяцы назад.

— Значыць, было не да таго,— ужо раздражнёна вымавіў Бабpoўскі.— А стануць ці не стануць — гэта яшчэ Параска надвое гадала. Ацярэбімся — дойдуць рукі і да іх.

— А наладчык навошта? Па-мойму, ён павінен сваёй справай займацца.

— Каму чым займацца, мне знаць. Не як хачу, а як выходзіць. І дэбаты разводзіць няма часу. Хочаш управіцца хутка — бярыся сам.

— Я не змагу правесці рэгуліроўкі так, як належыць. Проста не змагу, бо не маю вопыту.

— Тады... пазней.

Больш Бабpoўскі не жадаў размаўляць. Ён не меў часу на пустыя размовы. Зірнуў на свой наручны гадзіннік і, ні словам, ні жэстам больш не азваўшыся, пайшоў.

адна (яна памерла, здаецца, запрошлы год), дык яна:

— А мая ж ты,— галосіць,— дачанька, за што ж цябе забілі, хай бы лепей мяне!..

Гэта яна над сваёй дочкай. А я, праўда, тады адзываюся:

— Гэта вы раненыя?

А яна мне:

— А мае дзетачкі, ці гэта ты цэлая?

А я не ведаю, бо я ног не чуствую сваіх: народу столькі на мне. Знаю толькі, што галава мая цэлая. Ну, праўда, гэта жанчына, спасіба ёй, дапамагла мне вылезці. А тут з намі ў гэтай хаце быў хлопчык адзін. Бацьку яго забілі ў тым хлеве, дзе былі мужчыны, а яго адзелі за дзяўчынку: бо гаварылі, што хлопчыкаў забіваюць. Дык яны ўзялі яго сюды, адзеўшы дзевачкай. А яго, беднага, параніла крэпка: растрапалі тут вот, жывоцік, усё, усё... Дык ён, бедны, просіцца:

— Выміце мяне, каб я не гарэў.

А тут ужо ўсё гарыць. А ён просіцца... Мы, праўда, за яго, і — цераз акно. І самі праз вакно вылезлі. З гэтай самай жанчынай. І што ж,— па нас яны сталі страляць, а мы так за дым гэты захіліліся і пайшлі. А тады былі хлявы, гумны, даўнія яшчэ. Старая гаворыць:

— Давай пабяжым у лес.

А я гавару:

— Э, не, хадземце сюды, да вашай брацiхі.

За рэчкай там яна жыла. А старая — усё ў лес. Сядзім мы за гумном гэтым, і я гавару:

— Нікуды я не пайду, буду тут.

А потым бачым: людзі бягуць, дзяцей на плячах пруць — ужо з другой дзярэўні. У лес бягуць. Тады і мы пайшлі...»

Згарэў пасёлак Акцябрскі, згарэла больш за восемсот чалавек у Рудні, а Вольга Мініч, а сотні такіх, што кідаюцца ад вёскі да вёскі, ад дрэва да дрэва, бачаць, як успыхнула ўжо і там, дзе Курын, дзе Кавалі, дзе Лаўстыкі...

«...Каровы рыкаюць,— працягвае свой расказ Мініч,— тавар гэты, што застаўся дзе, сабакі брэшуць».

А ў гэты час — у Курыне, куды яна спачатку, пасля Хвойні, бегла ратавацца, адбывалася такое:

«...Як немцы былі ўжо ў Хвойні, дык нам сказалі, што яны паляць людзей,— расказвае жыхарка вёскі Курын Матрона Трафімаўна Грынкевіч.— Мы вышлі ўсе ў лес: і мацеркі нашы, і бацькі. А потым ужо пабылі ў лесе да вечара. Ну што ж, ціха, ніхто не ідзе і не едзе. Прыходзім у дзярэўню, нас было трох: дзеўкі,— дык іх няма ні аднае, а я толькі адна асталася. Мы ідом, і гэта ж яшчэ мо па шаснаццаць нам лет было, мы ішлі, паглядзеліся ў люстэрка на гарэ, а немцы ўжо кармілі коней. Мы яго з сабой неслі. Схапілі ў хаце і неслі. Ну, ведама, дзяўчаты. А люстэрка вялікае,— пагля-дзеліся. Паліцаі потым казалі, што яны бачылі, як мы на гары спыніліся і глядзеліся. Ну, дык мы і пайшлі ў дзярэўню. Прышлі ў дзярэўню, а мая матка была дома. Яна кажа:

— Донька, уцякай, бо маладых забіраюць у падводы. Ну, ідзі, кажа, на Смугу. Не ў лес, а ў Смугу.

Ну, я і пашла. А там быў бацька. Мы пераначавалі там. Што ж, паўставалі, усе глядзяць. Кажуць: «Хто ў Курыне дома, тых не займаюць». Ну, дык я кажу:

— Бацька, я пайду дадому, бо мацеры ж багата работы. Дык я ей там штонебудзь памагу.

Пайшлі мы, нас шэсць чалавек пай-



Матрона Трафімаўна Грынкевіч.

Кастусь, сцяўшы вусны, пазіраў на шырокую спіну Баброўскага. Павярнуўся і таксама пайшоў — у кантору, да галоўнага інжынера.

Адзінец быў у сваім кабінеце, размаўляў з кімсьці па тэлефоне. Кіўнуў Кастусю — сядай. Нарэшце паклаў трубку, і Кастусь не стаў марудзіць:

— Станіслаў Сяргеевіч, я маю да вас некалькі пытанняў.

— Ну-ну, кажы, што табе не падабаецца.

Амаль слова ў слова Кастусь паўтарыў размову з Баброўскім — і якія яшчэ патрэбны каментарыі? Адно дадаў:

— Навошта ў такім выпадку складалі графік тэхнічных аглядаў? Якая карысць з яго?

— Графік, вядома, арыенціровачны. Але на два месяцы зацягваць... непарадак.— Станіслаў Сяргеевіч пабарабаніў пальцамі па стале. І неяк пакутліва ўздыхнуў: — Ах, як яно ўсё закруцілася без Сасевіча! Трэба было мне часцей там бываць. Дык жа часу бракуе, Паўлавіч. Еду то ў раён, то куды далей. Ужо наважуся — ці аднойчы? — па брыгадах праехаць, а тут табе звоняць, выклікаюць на нараду. Сядзіш там, слухаеш некага, а думаеш, што пярэднія масты трэба здабываць, рысору, гуму, помпы. Станкоў у майстэрнях не хапае. Фермам сваё абсталяванне патрэбна. Кручуся, як вавёрка. Другі з маіх калег да галавы не бярэ: няма дык няма, не сівець праз якую рысору. А я ўжо сэрца сваё чуць пачаў, ці паверыш?

— Веру, Станіслаў Сяргеевіч. Але бачу, што ваш кантроль патрэбен... нават у нейкіх... нібы дробязях.

— Згодзен. Людзі працуюць, і большасць добра, але арганізацыя працы ў нас яшчэ... не тая, не тая...

шло. Мы прыходзім, у нас тут былі склады недалёка ад дзярэўні. Там стаіць ужо дзевяць немцаў, часавыя. Яны нас прапусцілі ў гэтую дзярэўню. Як мы ўжо ідом, дык мы бачым, што на свеце нідзе ўжо ні аднаго чалавека, акрамя немцаў, няма. Ішла жэншчына (яе потым спалілі, а сын яе, інвалід, і цяпер жыве), дык яны з яе знялі і галошы — наверна, шкада ім было, што ў яе былі гэтыя галошы на нагах. Ну, і яны ўжо вядуць нас у нашую кварціру. Мы прыходзім, і няма ўжо нікога-нікога. Я зайшла ў хату, дык віжу, што маці была ў хаце. Дык толькі вісіць яе хвартук на вешалцы.

— Недзе, кажу, людзей падзелі, бо іх няма.

А тады прыводзяць к нам пяць мужчын, нашых, курынскіх. Майго дзядзьку. Мы пытаем:

— Дзядзька, а дзе ж нашы мацеркі?

Ён кажа:

— Скора прыдуць.

Ён знаў усё, але ён нам не сказаў. Ну, а немцы аднаго старыка тут вельмі білі. Б'юць, б'юць, а ён сам быў з Хвойні, такі старэнькі дзядок, і з унучкаю. І паставяць яго ў куток, што малое дзіця. Старога гэтага. А потым адзін падышоў і кажа:

— Паненкі, мы вас паб'ем і папалім. У нас пастанова такая.

Так нам кажа. Дык мы заплакалі.

А яны, як ужо людзей палілі,— вывелі іх вонь туды за гору, дзе вон гэты памятнік стаіць. А ў нас зачынілі аканіцы, у нашай той кварціры, каб мы не бачылі. А тады, як загарэліся гэтыя людзі, дык ён зноў прышоў:

— Ідзеце, кажа, ідзеце глядзець, як гараць людзі.

Мы ўбачылі, заплакалі. Я кажу:

— Нашто ж нам гэта яшчэ бачыць, як яны нас будуць жывых паліць ды біць, ды яшчэ здзявацца будуць з нас. На ляту хай паб'юць.

Ну, і мы сталі ўцякаць... І нас уцякло шэсць чалавек. Толькі той дзядзька, якога крэпка збілі, які нам гаварыў, што мацеркі прыдуць,— ён ужо не змог уцячы... Сталі мы ўцякаць, але нікуды не ўцяклі, толькі два чалавекі забеглі на кладбішча, дык аднаго ранілі, а адну ўбілі на могілках і вяроўкай зацяглі ў агонь. А мы ўцяклі ўдваіх з гэтаю вот дзеўкаю. (Паказвае на немаладую сяброўку-суседку, Любоў Мордус). Ну, куды мы ўцяклі? Як сараяў у тыя гады было многа — гэта цяпер у мяне толькі адзін сарай, а ў бацькі было чатыры, і клець, і стопка, і дзве хаты,— так такое ўжо было



З галоўным інжынерам размаўляць было лягчэй.

Кастусь нават усміхнуўся:

— Каб крыху меней балела, Станіслаў Сяргеевіч, чаму не даць наладчыку магчымасці займацца тым, чым ён павінен займацца? Навошта адрываць наладчыка ад яго галоўнага клопату?

— Трэба сказаць Баброўскаму. Яго, праўда, можна зразумець. Мы і перавялі Андрэйчыка ў наладчыкі толькі таму, што ён у нас вялікі знаўца тэхнікі. І руплівы чалавек. У рамонце без яго часта не абысціся, але ўсе жылкі цягнуць з чалавека не варта. А Баброўскі... Добра, Кастусь, скажу. Што яшчэ ў цябе?

— На сёння хопіць. Будзе прычына — буду турбаваць вас, Станіслаў Сяргеевіч.

— Давай. Маіх вачэй на ўсё не хапае.

Кастусь вышаў з канторы і ўбачыў Насцю. Тая кіравалася ў сельмаг, але павярнула да яго.

— Добры дзень, Косця! Што робіш у канторах? — весела запытала яна.— Можа чым памагчы?

— Мае праблемы — трактары.

— А хоць? О, ты мяне не ведаеш? Я з начальствам не цырымонюся, калі што трэба. Ты бачыў, які наш клуб? Які месяц назад мы рамонт закончылі. Дык от, муляўся нават Дзянісаў, ці адпускаць сродкі на рамонт. Прыдзе ў клуб, кіне вокам — усё яму падабаецца. А я тады і паказваю яму «дробязі». Вазоны на вокнах — прыгожа? А пад вазонамі фарба аблезла. І на падлозе пазбівалася. І дошкі ссохліся, ці адна з дзяўчат, танцуючы, падала, як абцасік трапіць паміж дошак.

— Слаба хлопцы іх трымаюць.

— Ёсць і разяватыя,— усміхнулася Насця.— Ну, трэба рамонт?

цеснае страенне, дык мы як выскачылі, па нас як сталі страляць — на хаце быў кулямёт. Пулі як ляцяць — дык яны ўдаль ляцяць, тут блізка ўжо не білі. Мы пакруціліся ўжэ на гэтым на дварэ. Ды і за хлеў, ды і паселі. Адтуль хлеў, адтуль — суседні і наш. А адсюль такая куча гною. Немцы глядзелі і ў сене вілкамі шукалі. Бо яны зналі, што не ўсе. А мы за хлявом, як на смех, паселі. Уцякалі мы ў абед і даседзелі да ночы. Даседзелі і ўсё адно ж нам ноччу няма ніяк уцякці. Крэпка месячная была ноч, і часавыя стаялі ля гэтых могілак — вот, цераз тры шагі стаяў часавы. Мы выйшлі так вот із-за плота, паглядзелі: ну, мы ўцякці не ўцяком! А патаму што ў нас яшчэ не было і вопыту. Было б цяпер, дык мо б яшчэ, мо б паўз які хлеў, мо б далей прайшлі. А то мы сядзім. І я, мабыць, са спуду праспала ўсю ноч. Яна мяне будзіць. Кажа:

— Моця, не спі.

А я кажу:

— Я не буду.

А як толькі скажу — і сплю. Наверна, са спуду. Ага, яшчэ ўвечары (яшчэ ж забыла), увечары, калі сцямнела, прывялі расстрэльваць гэтых самых людзей, што ў хаце былі: мужчын, шэсць чалавек. Ну, і іх ужо стралялі, дык як выстрал дадуць, ну, дык мы сядзім, толькі так рукамі ўзялася за вочы. Гэта ж пуля, бывае, ляцецьме, бо іх расстрэльваюць у гэтым хляве, каля якога мы сядзім. Дык яго тры разы стралялі. Дый кажуць:

— Бі, яшчэ жыў.

А потым ужо прынеслі дзіця, можа, два годзікі. Дык тое дзіця, на яго ўжо выстралу не было. Што яны яму зрабілі, я вам ужо сказаць не магу. Яно ўжо толькі дзяціны голас правяло... А выстралу не было. Яно і згарэла ўжо ў том нашам хляве. І тыя мужчыны.

Ну, яны сталі ўязджаць. І як даедуць ужо сюды да кладбішча, дык ужо выскажуцца і ў ладкі пачэпаюць. Што ўжо спалілі партызанаў, давольныя. А тады наязджаюць ужо другія, тыя ад'язджаюць, і ўсё: выкажуцца — і ў ладкі гэтак. Яны ўязджалі да абеду. Так іх было многа. Ну, і патом яны ўжо выехалі, дык мы ўсталі, дык я мо тры разы ўпала. Ведама, усю ноч сядзелі, наверна ж, ногі і пазаклякалі, дык я ўпала тры разы. Покуль адышла ад гэтага места. Сабраліся і пайшлі. Паціхоньку апяць на тую Смугу, дзе і былі. Мы не зналі, куды ісці. Ну і пайшлі. А яны ехалі вакруг і не займалі нас, хоць і бачылі, што мы ішлі. Ну, яны тожа ду-

Трэба. Дзянісаў: «Крыху пачакай». А я— не, чаканка да зімы зацягнецца, а там і на год. Пахадзіла ў кантору, але рамонт зрабілі. Дык табе твае праблемы не перашкодзяць выступіць у суботу? Падрыхтавацца будзе час?

— Пра інстытут я магу расказваць хоць зараз.

— Тады буду даваць аб'яву. Да суботы тры дні. Напішу тваё прозвішча буйнымі літарамі. Сама малюю!

І, развітаўшыся, Насця пайшла ў сельмаг. Імклівы крок, тонкі стан, чорная сумачка на сагнутай у локці руцэ,— усё было прыгожа ў гэтай дзяўчыне. Але не таму заглядзеўся Кастусь на Насцю. Як Станіслаў Сяргеевіч, і яна, Насця, вось крыху падняла яму настрой. Толькі ці здагадвалася яна пра тое?

## 7

Ён крыху захваляваўся, убачыўшы, што ў зале поўна народу. Адзін перад групай, калі ты робіш даклад на сходзе — гэта зусім не тое, што вось выступаць перад хлопцамі і дзяўчатамі, якія цябе не ведаюць. Тут цябе спачатку агледзяць з галавы да ног, тут зважаць на твой голас і на вымаўленне, пашэпчуцца пра цябе, а ўжо потым стануць разбіраць, пра што ты гаворыш... Няхай будзе так, сваё ён скажа, і можа нехта стане пазяхаць, бо прыйшоў сюды не па байкі, а на танцы, а нехта, магчыма, і не даспіць сёння, думаючы пра свой лёс...

— Ідзём! — сказала Насця.

Яны выйшлі на сцэну, і Насця, счакаўшы, калі ў зале пацішэла, аб'явіла, што студэнт інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі Ручай цяпер на практыцы ў саўгасе «Вербічы» і сёння Кастусь выступіць з расказам пра свой інстытут.

малі: — «Ідзеце, вы апяць пападзецеся. А ў гэты самы агонь». Ну, мы і пайшлі. Прыходзім мы ў тую Смугу, там быў мой бацька. Ну, усе пытаюць, мы ім расказалі, што людзей ужэ спалілі, ужэ ўцякайце усе. Ну, дык ніхто ж не змог: усюды паляць... Запалілі Кавалі. На гэтым маменце. І гэтыя ж мужчыны паўзлазяць на крышу, глядзяць і бачаць, як лаваюць дзяцей і кідаюць у агонь... Ну, мы яшчэ там адну ноч пераначавалі з Любаю, гэтай самаю. І бацька мой з намі. Ну, ноч пераначавалі... Патом уранне ўсталі і я кажу:

— Знаеш што, бацька. Пайду ж я зноў пабачу, дзе маці згарэла.

— Не ідзі, ты ўчора пайшла, дык у такую бяду папала.

— Не,— кажу,— пайду. Пайду, не буду тут...

Што то ў маёй душы чуствуецца, што не хочу я быць тут. Ну, дык ён кажа:

— І я пайду.

— Не ідзеце, тата, бо вы слабыя, вы не ўцячэце, а я ўсё адно ўцяку.

Усю войну была і чуствавала ў сэрцы, што я ўцяку ад немцаў. Ну, і пайшла. Кажу на гэтую дзеўку, Любу:

— Хадзем зноў з табою. Ці мо застанемся, ці нас паб'юць, але хадзем зноў.

Толькі мы прыходзім сюды, на гэтае селішча, тут і яе бацька жыў, і мой, на краі жылі. Не прайшло мінут пятнаццаць, як гэтыя немцы зноў акружылі Смугу, і спалілі ж на гэты мамент.

Ідуць партызаны. Мы пасталі: думалі спачатку,— немцы, зірнулі — пазналі, што гэта ідуць партызаны. Вось гэты мельнік Парфім, ён і цяпер жывы, ён за лесніка. Ён прыбягае к нам і пытае: як, што, як уцяклі? Ён ускочыў тут на драбіну і кажа:

— Дзеўкі, не ідзеце, бо гарыць Смуга з людзьмі, а ідзеце ў такое і такое месца, у лес. Ідзеце, кажа, вось за тым мужчынам, ён вас завядзе, дзе нашы сем'і.

Мы толькі выбеглі з ёю на гэтую вось гору і бачым — бацька мой бяжыць з лесу, са Смугі. Ну і разам пабеглі мы».

Хвойня, Курын, Смуга, Акцябр, Кавалі (у Кавалях па два, па тры чалавекі бяруць з хаты, загадваюць: «Раздзявайся!», затым: «Лажыся!» — і ўсё, каб радочкамі, каб галовы людзей ляжалі на спінах забітых раней...) Агонь, смерць, жудасць коціцца па вёсках усё далей — Лаўстыкі, Карпілаўка...

Частка людзей у лесе, іншыя, не ведаючы, як лепей, куды ім кінуцца з



Гул апладысментаў — такія падбадзёрваюць, а не намякаюць: хутчэй і карацей... Насця падалася са сцэны, і ён застаўся адзін каля трыбуны, не надта высокай, не надта масіўнай. Узышоў на трыбуну, зірнуў у залу («Нілы не відаць»,— мільганула думка), і загаварыў...

Ён прадумаў пачатак выступлення: некалькі слоў пра сябе — пра таго юнака, што чатыры гады назад падаўся вучыцца ў інстытут механізацыі. Увагі дамогся, і гаварыць стала лёгка, і ён адразу зразумеў, чаму — гаварыў пра інстытут, як пра свой дом... Чатыры гады вучобы — яны хутка праляцелі, але ж гэта час, і немалы, і хіба мог ён дрэнна ведаць гэты другі свой дом? Расказваў пра факультэты і спецыяльнасці, пра выкладчыкаў і выпускнікоў інстытута, пра яго спартсменаў і музыкантаў, пра «трэці семестр» — працу студэнтаў на будоўлях Поўначы, Казахстана, Сібіры... Зала слухала, і Кастусь не спяшаўся закругляцца, але яму здалося, расказаў пра ўсё. Пацікавіўся, ці ёсць да яго пытанні.

Першым азваўся рыжы хлапчына — ён сядзеў на заднім радзе:

— А як закончыш інстытут, сам паедзеш у калгас ці ў горадзе прыжэнішся?

Кастусь пачырванеў, разгубіўся. «Прыжэнішся». Не надта паважліва, як варам абліў... Хтосьці там зашыкаў на бесцырымоннага хлапца, а зала чакала адказу.

— Я ведаю адно: я хачу і буду працаваць. А ў калгасе ці саўгасе — гэта не так важна. «Прыжаніцца» ў горадзе — такі варыянт пакідаю вам, даражэнькі!

У зале засмяяліся.

— Каму ён там патрэбен? За ім і тут не кідаюцца! — пачуліся воклічы.

дзецьмі, бо ўсюды, здаецца, тое ж, па ўсім свеце! — трымаюцца хаты, суседзяў. Спрадвеку так больш надзейна было. Але тут пачалося, абрынулася на свет, на людзей нешта такое, да чаго нармальны чалавечы вопыт ужо не стасуецца...

«...Яны з Курына прыехалі к нам,— успамінае Ганна Сяргееўна Падута з вёскі Лаўстыкі.— Ну, мы дома сядзелі, гадалі, а патом партызаны нам саабшчылі, што паляць, што ў Курыне спалілі ўсіх людзей, жыўём. Ну, мы паўцякалі ў лес. Пастаялі ў лесе. А патом ужо... Дымы з печак з труб ідуць усюды — у Акцябры, у нас. Ну дык мы вярнуліся назад, бо страшна ж у лесе, што зловяць, і холадна. Толькі мы дадому — і немцы сюды, разведка іхняя... Прыехалі, як цьма, і распалажыліся у нас. А частка паехалі ў Акцябр. І ў Кавалях распалажыліся. Якраз нас захвацілі ў сяле тут з жэншчынай адной (яна ўжо ўмерла). Нам адзін возчык падказаў, што з намі будзе тут. Мы стаім на вуліцы, дык некаторыя нічога не гавораць, а ён падышоў да кажа:

— Дайце, цётачкі, малака.

Мы гаворым:

— Пажалуста.

Дык ён на хаду стакан дзяржыць і кажа:

— Ох, цётачкі мілыя, усё роўна вас, кажа, усіх жыўём спаляць. У сарай заганяць.

А яны ідуць, гады гэтыя... У белых халатах у гэтых, на грудзях з гэтымі чарапамі, ну, гэтыя немцы.

Ну, мы і разбегліся, хто куды, па хатах, як возчык нам сказаў пра тое. Я да суседкі прыбегла, кажу:

— Што ж мы будзем рабіць?

Дык яна кажа:

— Выйдзі паглядзі на вуліцы, ці е немцы, ці не.

Той канец дзярэўні заняты, а наш канец яшчэ свабодны. Мы і пайшлі на пасёлак, што каля самага лесу. Потым ў алешнічак. І тут нас мо баб пятнаццаць ляжала ў гэтым алешніку. Ужо ўпалі і ляжалі. Не бачылі, як яны палілі, як забівалі, толькі чутна — сільна крычалі, народ крычаў. Не чутна, што яна там адна гаворыць, толькі: «А-а-а-а!» Толькі голас ідзёт, ідзёт голас, а потым і ўсё. Анямелі...

**Пытанне:** — А той возчык, што сказаў вам, ён адкуль?

— Гэта проста селянін, паліцай не сказаў бы. Адзін паліцай да нас прышоў хлеба ўзяць, дык мы спрашываем, што

— А на якім факультэце найменшы конкурс? — устаў і хуценька сеў чарнявы хлапец — па ўсім відаць, ён толькі закончыў школу, а мо і дзевяць класаў.

— Па-мойму, трэба пачынаць з выбару спецыяльнасці,— усміхнуўся Кастусь.

— А то — абы прашыцца! — кінуў хтосьці рэпліку.

Устала высокая, бялявая дзяўчына, запытала:

— Вы пра гэта не сказалі... Ці многа дзяўчат у вашым інстытуце?

Кастусь адказаў, што хлопцаў больш, але нямала і дзяўчат.

Было яшчэ некалькі пытанняў — пра інтэрнат, ці можна перавесціся з завочнага факультэта на стацыянар, пра стыпендыі...

Кастусь адчуў той момант, калі пытанні да яго можна было ўжо толькі прыдумваць. Ён падзякаваў за ўвагу і падаўся са сцэны, а ўслед неслася хваля воплескаў.

Ступіўшы за шырму, ён здзівіўся і ўзрадаваўся: побач з Насцяй і Іванам стаяла Ніла. Ён прывітаўся, яна весела сказала:

— Мы вас слухалі таксама!

— І як?

Нілу апярэдзіла Насця:

— Я зразумела, што лектараў трэба запрашаць маладых. Зусім іншы эфект!

— Эфект? Ну, калі хтосьці вырашыць, што няма лепшага інстытута, як інстытут механізацыі, то большага не трэба.

— Вы пачакайце,— сказаў Іван Кастусю і Ніле і пайшоў з Насцяй у залу.

Яны, размаўляючы аб тым-сім, пасядзелі ў Насціным кабінеце, пакуль у зале перастаўлялі да сцен крэслы. Кастусь не зводзіў вачэй з Нілы. Колькі было стрэч з ёю? А здавалася, даўно ўжо думаў пра яе, і ўсё ў ёй было даўно-даўно яму знаёмае — і адкрыты і разам з тым поўны таямніцы пагляд, і звычка крыху моршчыць лоб, і голас, не звонкі, але мілагучны. Гэты добры, вясёлы вечар ён не мог уявіць без яе.

З залы даляцела музыка. У дзвярах паказаўся Іван:

— Можна танцаваць!

Кастусь устаў:

— Пойдзем, Ніла?

Народу ў зале ці не пабольшала, але і зала, здалося, папрастарнела. Было многа святла, а вокны парасчынялі ўсе як адно, і пад люстрамі ўжо плоймай круціліся начныя матылі.

— Што робіцца,— усміхнулася Ніла, убачыўшы начніц.— І кожны раз так...

— Лета, Ніла!

Яе рука была ў яго руцэ. І хацелася Кастусю размаўляць з Нілай, чуць яе голас, і нішто не перашкаджала гэтаму, толькі нейкую хвіліну мусіў ён услухоўвацца ў сябе: дзіўная ўсхваляванасць авалодала ім, ён адкрываў у сабе штосьці новае. Вечар, музыка, шум, весялосць навокал — ён ведаў, як гэта ўсё зачароўвае, але цяпер вось незвычайна востра білася ў ім радасць ад стрэчы з Нілай. Яна танцавала лёгка, з ахвотай, не ўнікала яго позірку і жыва азвалася на запытанне, як ёй спявалася на канцэрце ў Жарцах.

— Апладысменты былі, значыць, нас чулі.— І спытала: — Якія навіны ў цябе, брыгадзір?

Неяк незаўважна яны перайшлі на «ты»...

Добрая навіна ў яго была: ён дамогся свайго — Баброўскі мусіў

ён з народам робіць. А ён нам (мы яму паўбулкі адрэзалі): «Давай усю булку!» — і нічога не сказаў. А гэты вось — такая душа знайшлася, што сказаў. Дык яшчэ вось хоць трохі нехта застаўся.

Тут франтавыя былі немцы, мо б яны і болей палілі, але нашы націснулі, і яны пайшлі. Гэта было 2-га апрэля ў сорак другім годзе. Да вайны ў нас мо сто дваццаць двароў было. Багата ў нас было, і сем'і вялікія, дзяцей многа. Усіх пабілі. Нас туды не пускалі мужчыны хадзіць, бо, ведама, жанчыны пачыналі плакаць, крычаць, а тут недалёка паліцыя была. Толькі партызаны хадзілі сюды, а мы баяліся. Увесь час у лесе жылі. Пака аслабадзілі, усё ў лесе былі. Толькі што-небудзь пасеем, убяром — і ходу. Нас яны бамбілі. Дзе нашы печышчы, іншы дзень самалёт вісіць, не злазіць, усё кідае бомбы. Можа б, пабіў бы ўсіх, ды яны не паразрываліся. Вот, як парасята ляжаць. Усіх, усіх пабілі. Яны казалі: «У вас і курыца партызан, не то што дзіцёнак!» Пашчады не давалі, гады гэтыя».

Ну як жа, гэтулькі «партызанаў» знішчылі! У адной Рудні — 800. Ды ў Кураіне — амаль столькі ж. У Лаўстыках. У Забалоцці. У Перакаллі. У Колбіку... Пастралялі, папалілі дзяцей, жанчын, мужчын вясковых — і ў ладкі: лясь, лясь, лясь! Паапладзіравалі самі сабе, як ля тых курынскіх могілкаў. Нешта ж і гаварылі ў тых прамовах — вядома, пераймаючы сваіх берлінскіх фюрараў. Лясь, лясь, лясь! — выканалі задачу, план. А там, вышэй — свой план, агульны, і свая арыфметыка — ужо на мільёны чалавечых галоў вядзецца падлік. На дзесяткі мільёнаў, калі не на сотні. Бо замахнуліся ж на цэлы свет! Там свае мітынгі, свае прамовы, «святы» рыхтавалі — калі будуць знішчаны, нарэшце, разам з жыхарамі Масква, Ленінград і іншыя гарады, якія берлінскаму маньяку здаваліся «лішнімі» — «каб не карміць іх паўднёвым хлебам». Бо яны ўжо лічылі сваім — той разбоем узяты, украдзены хлеб.

А пакуль што — як частачка ўсё таго ж вар'яцтва і таго ж «плана» — забіваюць вёску Карпілаўку — усё на той жа Акцябршчыне.

**Гэта бачыў, пра гэта расказвае Павел Лявонцевіч Пальцаў,** які памятае ўсё з іншымі, чым звычайна жанчыны запамінаюць, падрабязнасцямі, дакладнасцямі. Ён па-партызанску помсліва трымае ў памяці справы, аблічны, прозвішчы, таксама і памагатых нямецкіх фашыстаў, мясцовых і немясцовых «бобікаў» — паліцаяў.

«...У апрэлі 1942 года яны прыехалі сюды. Ну, і сабралі людзей у клуб, і сталі спрашываць пра партызанаў. Ніхто не выявіў, народ не сказаў.

— Нет у нас партызанаў, і ўсё.

Патом адзін паліцэйскі, ён з Бабруйскага быў гарнізона, ну, значыць, ён сказаў:

— Еслі так, партызанаў нет, дык вы — партызанскія, бандыцкія морды!

І за гэты спісак, у карман і пайшоў к каменданту на двор. А я таксама ў клубе стаяў. Жэншчынаў па адну сторану паставілі, а мужчын — па другую. Там чалавек шэсцьдзесят мужчын было, рознага ўзросту: і старыя, і маладзейшыя. Ну, ён спісак забраў, а там былі прозвішчы ў спіску. Вот ён спытаў:

— Кавалевіч Грыша?

А жэншчыны гавораць:

— Кавалевіч Грыша ў арміі.



Павел Лявонцевіч Пальцаў.

вызваліць наладчыка ад рамонту, і той цяпер заняты тэхнічным доглядам трактароў. Праўда, Бавроўскі косіцца цяпер на яго, Кастуся, як серада на пятніцу, але тое яго не турбуе... Пра ўсё гэта ён не стаў гаварыць — не час, не месца,— сказаў коратка:

— Абжываюся. Ёсць ужо сябры і ёсць... не аднадумцы. Інакш быць не можа, значыць... парадак?

Яна кіўнула — так...

— Прывітанне! — раптам пачуў Кастусь над вухам.— Як на палубе, не цесна?

Іван... Ён танцаваў з Насцяй, вочы якой свяціліся гарэзлівасцю. Ці было ў іх жыцці нешта сумнае, прыкрае? Кастусь згадаў раптам размову з Іванам у полі... Хіба яны, такія, не пераможуць усё, што замінае іх шчасцю?

— А вам не цесна? — кінуў ён.

— Ніколькі! Мы прывыклі,— адказала Насця.— А ты ж чалавек сталічны...

— Паглядзелі б вы, што робіцца на танцах у сталіцы!

...Ён выйшаў з клуба разам з Нілай раней, як закончыліся танцы. Адчуваў, што Ніла не спяшаецца дамоў. Прайшлі каля яе хаты і далей крочылі вуліцай — да шашы. Было ціха і цёпла, пах кветак струменіўся з гародчыкаў. Далятаў ад шашы роўны гул матораў.

Кастусь крануўся пальцаў Нілы:

— Ніла... Рэдкае імя. Хто табе даў яго?

— Бацька. Ён у сорак пятым быў паранены. І выратавала яго Ніла Арцёмаўна, шпітальны ўрач. Ён сказаў той жанчыне, што сваю дачку Нілай назаве. Вось і ўся гісторыя. Праўда, не ўся... Мы з ім ездзілі ў

А ў нас быў Кавалевіч, які партызанам хлеб малоў. Ён інвалід быў. Дык жэншчыны:

— Ён у арміі.

А паліцай:

— Какой ён у арміі, калі ён хлеб партызанам меле!

Дык жэншчыны змоўклі, бачаць, што ведае... Дык ён за гэты спісак, у карман і пайшоў к каменданту, пагаварыў там. І той, наверна, даў прыказ страляць. Ну, тады выходзіць і зразу пачынае па-нямецку шчытаць: «Драй, фір...»

Адсчытаў дзесяць чалавек і павёў на вуліцу. Паліцай адшчытаў, але па-нямецку. Адкуль ён — не знаю, фамілія яго Шубін. Потым ужэ гаварылі, асталіся некаторыя паліцаі, выпівалі, дык гаварылі, што яго Шубін фамілія. Залаты зуб у яго быў... Адшчытаў гэтых дзесяць чалавек і павёў. Ну, куда павёў,— думалі, можа куды так, дапрос ці што. А потым чуем, што страляюць у канюшні. Ну, а патом у другую партыю ўжо я пападаю. А ён толькі здае: выводзіць на двор дзесяць чалавек, здаў немцам — і тыя павялі... Жана мая ў клубе таксама была, а дзеці — аднаму чатыры гады было — на печцы схаваліся дома. Жану тады і ўбілі. Ну, я і папаў у другую дзесятку. І дзесяць немцаў ідуць з намі, з вінтоўкамі. Вот у Кавалях — там, кажуць, адзін з пісталета палач біў, а ў нас дык па-другому: дзесяць немцаў вядуць дзесяцярых. Ну, прывялі ў канюшню і камандуюць:

— Станавісь к сценке галовамі!

Ну, мы пасталі, нахіліліся. У мяне палушубачак быў, дык я так варатнічок наставіў, гляную, дык яны ўжо ў канал патроны загналі і наізгатоўку ўзялі. Ужо відна, вот, а я ці са спуду, ці хто яго знае — ногі падкашваюцца... І так выстралілі. Дзесяць вінтовак залпам ды ў памяшчэнні — дык гул глушыць, як з пушкі. Мне зазвінела ў вушах, я ўпаў і не помню: ці я ўбіты, ці жывы? Ну, і ляжу. Патом вушы сталі адлягаць, адлягаць вушы, стаў чувстваваць і сам сабе не веру: жыў я ці не? Сам сабе не веру — але глаза пазіраюць. Патом чую разгаворы. Паліцаі два стаяць і разгаварваюць па-руску. Немцы «гер-гель», пастраляюць і пайшлі. А гэтыя... Цішыня, дык чуваць, што па-руску хто-та разгаварвае. Ага, дык я ляжу. Не помню, колькі я ляжаў — час-два. Проста ўжо і заснуў, сэрца, наверна, слабее, я проста заснуў. Патом, чую, яшчэ вядуць партыю, яшчэ партыяў пяць расстралялі мужчынаў. Патом ужо жанчынаў. Там і мая жана галосіць, крычыць:



Маскву, хацелі сустрэцца з Нілай Арцёмаўнай. Не пабачылі яе. Спазніліся...

— Раскажы яшчэ пра сябе. Як ты стала пчаляром?

— Таксама нічога дзіўнага,— засмяялася Ніла.— Прафесія ў мяне ад дзеда. Ён тут на ўсю акругу першы пчалярствам заняўся. Даўно, як прыехаў з Украіны пасля грамадзянскай. Вось жа доля ў іх абодвух... дзед у грамадзянскую таксама быў паранены і лічыць, акрыяў толькі таму, што добрыя людзі мёду яму не пашкадавалі. Ён заўсёды сцвярджаў, што мёд — найлепшыя лекі. Дык вось, даглядаў ён пасеку саўгасную і да вайны і пасля вайны, а ўсё старэў і хацеў, каб я яго пры пасецы замяніла. «Бацьку твайго,— казаў,— пчолы ніколі не палюбяць, бо ад яго бензінам патыхае, а цябе будуць заўсёды любіць». І стараўся ля сябе мяне трымаць, усяму вучыў. Памагала яму... і пашыраць гнёзды, і чысціць, і мёд адкачваць, і да зімоўкі раі рыхтаваць...

— Ты ўжо пчаляр з добрым стажам,— заўважыў Кастусь.

— Магло стажу і не быць... Мне вельмі хацелася медыкам стаць. І маці ўсё спадзявалася, што я ўрачом буду. Сварылася на дзеда: «Адпусці ты яе ад вулляў, дзе гэта бачна, каб дзяўчына пчалярыла?» А дзед сваё: «Каму ж я пасеку перадам?» Я ўжо экзамены за дзесяты здаю, разгубілася: каго слухаць? І дзе ні хаджу, а ўсё часцей на пасеку іду, бачу, цяжка ўжо дзеду — аслабеў. І вырашыла: буду памагаць яму, а ў інстытут і пазней можна паступіць. Год папрацавалі разам. Прастудзіўся дзед, злёг і ўжо не ўстаў... Думала, не змагу без яго з пасекай управіцца. Засталася адна, і адразу некалькі раёў загінула. Не дагледзела... І ўжо не ведала спакою, чытала многа, завочна

— Пан, у мяне дзеці!

Ну, і прывялі ўжо жэншчын тожа, наверна ўжо беспарадачна стралялі, як папала, бо гэта жэншчыны — яны бягуць. Ну, патом, гэта так перастралялі — часа два-тры прайшло. Не знаю. Цішыня, хоць бы што, па канюшні. Я так ляжаў, ляжаў і ў чувства ўжо настаяшчае прышоў, у чувства, што я ўжо жыў. Цэлы, не ранены нічога. Ага, а далей чую, хто-та па мне ёрзае па спіне. Убіты, але ёрзае па мне — ранены, мабыць. Толькі я падумаў, што немец будзе яго страляць і мне пападзе, толькі я падумаў, а немец, наверна, ішоў і ўбачыў. Дабіваў яго, і мне пуля вот сюды папала, у сцягно. Праўда, не ў косць, па мякішы. Пеканула, а я як ляжаў — ляжу. А чую — кроў так пабегла. А той перастаў ёрзаць... Ну, а потым я паслухаў і ўстаў: няма нікога. А дзярэўня была ад канюшні метраў пяцьдзесят, ну, шэсцьдзесят. На дзярэўні немцаў поўна — поўная вуліца. А тут няма нікога. Думаю, выбягу я — кругом жа немцы, страляць будуць. Пачакаць, пакуль запаляць, каб па дыму бегчы. Было не было! Я, значыць, па канаўцы, вот жалезны мост, ён і цяпер на рэчцы. Я пад гэты мост, скінуў гэты паўшубак — і драпака. Бягу, ніхто не страляе ў мяне. Тады я падбег да рэчкі — вот рэчка Нератоўка, вады напіўся і гляджу, не бяжыць ніхто. Я ўжо думаю так: калі за мной будуць гнацца лыжнікі ці кавалерысты, скіну ўсё з сябе, голы, але ўдзяру. Быць жа не можа. А там недалёка кусты ўжо. Ну, праўда, ніхто не гнаўся. Жэншчына адна відзела, як я бег. Яна і цяпер жыва, Рулега Мар'я.

Ну, і пайшоў у лес... Я ў партызанах і да гэтага быў. Але ў нас так было: у нас спачатку ва ўсіх аружжя не было. Дык мы дзяжурыць хадзілі на пасты — вось у Карпілаўцы тут пасты стаялі, у саўгасе, але адна вінтоўка на пяць чалавек была.

У аснаўным немцы былі тут, калі забівалі, але і паліцаі былі, нават месныя былі. З Рудні былі паліцаі. Адзін паліцай быў з Смыковіч, па фаміліі Лось. Я знаю, разам з ім работаў да вайны... Гэты Лось дык есць сала на возе і ўлыбаецца — у акно я відзеў.

Яму дажа радня там была. Просяць:

— Максімка, спасай!

Матруна такая была — яго радня. У-у, ён дажа ўніманія не звяртае... Ён цяпер работае недзе, у Смыковічы яго мачыха, дык дабівалася нават нейкай спраўкі на пенсію для яго. Ён ужо там здароўе пацяраў, ці што, я не знаю, толькі спраў-

школу пчаляроў закончыла — і цяпер нібы няма за што на сябе злавацца.

— Пра медыцынскі інстытут забылася?

— Не. Але так прывыкла да пасекі, што і сама думаю: на каго яе пакіну?

— Знайшоўся б нехта.

— Ты, як мая маці, гаворыш. Вядома... Але нешта ўжо моцна мяне трымае на пасецы. Здаецца, не я яе пакіну, а сама буду як пакінутая. Не змагу, відаць. Каб адной ніцінкай была прывязана, а то іх столькі... не перарваць.

Яны выйшлі на шашу, пакрочылі па асфальце. Наперадзе з-за пагорка выбіўся, прарэджваючы цемру ў вышыні, шырокі прамень святла, хутка затым паказаліся дзве яркія кропкі, яны набліжаліся, заліваючы святлом прастору між бяроз, і Кастусь не прамінуў зірнуць на Нілу, якая прыкрыла вочы рукой, а другой адвяла яго далей ад машыны, што з цяжкім гулам прайшла абоч.

Гэты яе ўладны клопат азваўся ў ім хваляй пяшчоты, і Кастусь не стрымаўся, прыгарнуў Нілу да сябе, кранууўшыся вуснамі яе валасоў. Яна хутка вызвалілася, але адчуў Кастусь, што гэтая хвіліна толькі зблізіла іх.

— Прыехала б ты калі-небудзь у Мінск,— узрушана вымавіў ён.— Час так хутка бяжыць, скора мне зноў быць там... Прыедзеш?

— Мне не проста надоўга ехаць, нават на адзін дзень. Ты ўжо прыязджай. Калі не забудзешся на Вербічы...

— Не. Людзей я не ўмею забываць. І тых, што спадабаліся, і тых, што не люблю... Неяк так у мяне. Каб з Іванам мы ніколі, як паеду, ужо і не ўбачыліся? Не ўяўляю... Прывык я да яго.

— Ён добры хлопец. І Насця... Толькі не ўсё ў іх добра. Перажываюць абое...

— Я ведаю. Іван мне расказваў. І вось аб чым думалася мне... Як стала Насця такой? Бацька яе цяжкі чалавек, і маці, я чуў... А яна да людзей... птушкай ірвецца.

Ніла ўздыхнула.

— Яна даўно, яшчэ мы дзецьмі былі, адчула, што бацька яе... ну, не з лепшых людзей. У школу штодзень ляцела, як нехта здалёк у родны дом. Перабрала ці не ўсе гурткі... звычайна заняткі ў гуртках пасля ўрокаў пачыналіся, вось кожны дзень яна чымсьці займалася, абы дамоў пазней прысці. А потым захапілася самадзейнасцю. І адразу пасля дзесятага яе загадваць клубам запрасілі. Яна, Насця, на сваім месцы.

— Столькі ў яе запалу, энергіі... а на шчасце сваё... нібы не хапае.

— Вам, хлопцам, гэта ці зразумець,— з лёгкім дакорам вымавіла Ніла.— Паспрабуй уявіць... Вось перайшла Насця да Івана. А ці шчасце гэта — не знаць ужо дарогі ў родную хату? Яна ж пра адно думае, пра адно марыць: каб усім добра было ад іх жаніцьбы, каб вяселле было, як у людзей. А калі пойдзе Насця да Івана без дазволу бацькі і маці, то што там будзе? Якое ж вяселле без бацькоў? Яны не пайшлі б... І такое жыццё ўжо, калі Насця ім чужая, і яны ёй... Яна спадзяецца, што яны зразумеюць усё.

— А ты як лічыш, зразумеюць?

— Не ведаю. Хутчэй, што не скора... Цяжка Насці з імі... Не выбіраюць бацькоў, але не хацела б я мець такіх.

— А дзе, Ніла, твая маці працуе?

---

ку брала... Цяпер ён прыязджаў, але я яго не бачыў, а бачыў адразу пасля вайны, калі з арміі прышоў я. З вёдрамі ён ішоў: печкі там рабіў, ці што. Я яму кажу:

— Сволач ты... Так і тәк...

Ён голаву ўніз апусціў, ні слова проста. Яму ж некрасіва, панімаеце. Во такое дзела».

Бачыце, ужо «некрасіва» ім, гэтым, сярод нашых людзей. І, вядома, боязна людскіх вачэй. Але жывуць, і не каб асіну шукаць, а пра пенсію ў яго думкі.

А ўжо тыя саўдзельнікі злачынстваў, вырадкі з вырадкаў, што лічылі сябе нават «ідыёлагамі» гэтых, а цяпер схаваліся за спіну заходніх разведак, тыя нават галоў, вачэй не апускаюць. Вунь як гучна крычаць (каб перакрычаць, мабыць, той нязмоўчны жудасны крык дзяцей і жанчын!), што яны хоць і служылі ў фашыстаў, але былі «трэцяй сілай» і нават «народ ратавалі».

Як жа ім не хацелася б усё гэта бачыць у люстры народнай памяці! І там — побач са звярыным аскалам прыблуды-фашыста — бачыць і сваю фізіяномію. Такую вось, такія вось! І яшчэ страшнейшыя, яшчэ больш агідныя...



**Пасёлак Акцябрскі. Помнік Герою Савецкага Саюза Ц. Бумажкову.**

Мы забеглі наперад, аж у пасляваенны і ў наш час...

А Вольга Мініч сярод тых жахаў, у пекле тым усё яшчэ хоча выратаваць бездапаможнага, дарагога ёй чалавека — цягне тыя саначкі праз усю Акцябршчыну. Спалілі вёскі, не схавацца людзям ужо і ў лесе, партызаны, дзе могуць, як могуць, ратуюць насельніцтва ад таго самага «плана», аднак—малая яшчэ сіла, слабая зброя, а супраць іх і супраць жанчын, старых, дзяцей — франтавыя дывізіі. Гэта потым, у канцы 1942-га і ў 1943 годзе, Акцябршчына стане недасягальнай для эсэсаўцаў і «бобікаў». А пакуль што працягваюцца жудасныя блуканні Вольгі Мініч — адной з тысяч жанчын з такім лёсам.

«...Паехалі партызаны, а за партызанамі немцы трапінаю гэтай, а я ззадзі еду. Прыдзе дзень — будзе відна, куды я выеду...

І вось я выехала на пуць, на жалезную дарогу. Сонечка ўсходзіць. Я астанавілася: пуцёю дарожка ідзе, і па адзін бок пуці дарожка ідзе, і па другі бок. Ну, я думаю: «Паеду пуцёю, бо вышэй і відна». Праехала я метраў пяцьсот ад пераезда — чалавек дзесяць ля кастра, жанчыны сядзяць. Я напрацію іх села аддыхаць.

— Мае цётачкі дарагія,— кажу я,— мо ў вас ёсць што есці? Я ўжо трэці дзень так, ужо не магу, дажа вады ў роце не дзяржала.

Яны кажуць:

— Нашы мужыкі пайшлі ў Заціша, мо што там дастануць, а пры нас нічога няма. Будзь з намі.

Двое дзяцей і дзевяць было жанчын. Я падумала: «Яны пайшлі, а ці дастануць, а калі прыдуць?..» А мой, бачу — ужо ўсё, ужо і не кідаецца, ужо і рот не закрыўся, і на зубах такое... Я вазьму рукавіцай і сатру. Пашці што ўжо не жывы.

У мяне сястра ў Дземенцы была. Думаю: «Паеду пуцёю туды». Я не рашылася каля іх аддахнуць.

Праехала я метраў мо пяцьсот. Бачу: ах, божа ж мой, немцы мне напярод едуць! Тыя, што ехалі на засаду...

Калі б я кінула яго на пуці, дык я б не ранена была, а то я з санкамі — убок. Бачу, што немец адзін кінуўся за мной. І я санкі кінула. Бягу, бягу, путаюся, а па мне яны не маглі страляць, таму што яны ўгледзелі тых, ля агню. І калі б яны

— У агароднай брыгадзе.

— Ёй недзе пад пяцьдзесят?

— Не. Як і бацьку, пяцьдзесят пяць. Але яна ў нас дужая, я нават дзіўлюся. Ужо як бывае наробіцца... работы ў агароднікаў шмат, і ўсё рукамі... і дома ўпраўкі багата, а ніколі не вохне, не пажаліцца, што натамілася. Была б я ў яе гады такою!

— Будзеш... Неяк ехаў я па вуліцы і бачу, з вашага двара выйшла жанчына. Невысокая, у зялёнай хустцы...

— Яна, маці.

— Як завуць яе?

— Усе на вёсцы — цёткай Ганнай. А дзе твой дом? Не адвык яшчэ ад яго? — раптам спытала Ніла.— Мусіць, не часта дома бываеш?

— Не часта. Але адвыкнуць ад маіх Красевіч... Што там у нас ёсць? Усяго адна вуліца. Шырокая, з ліпамі пад неба. Рэчка блізка, Волма... Лазняк па берагах, кладка, ля якой купаемся... Поле, лугі навокал, лес, як ісці на ўсход. Усё звычайнае. І людзі як людзі... Але ведаеш... У мяне ёсць таварыш. Ён служыць у арміі, лейтэнант. Два гады не быў ён у Красевічах. І вось мы сустрэліся нядаўна. Кажа, як пад'язджаў да Красевіч, то слёзы на вочы навярнуліся. Вось так яно, Ніла.

Яны далёка адышлі па шашы ад Вербічаў. Павярнулі назад. Ужо цягнула з палёў перадранішняй свежасцю.

— Не хочацца дахаты, але ў шэсць уставаць і на пасеку,— сказала Ніла.

— Якія там у цябе клопаты?

— Звычайныя. За лётам пчол трэбаназіраць. Магазінаў ужо многа паставіла, праверу, як іх пчолы асвойваюць. Раення нельга дапус-

па мне выстралілі, дык тыя б уцяклі ўсе. Пака яны тых не абцапілі, дык па мне не стралялі. А потым немец выстраліў некалькі разоў, пабачыў, што я пабегла і кроў за мною па снезе. І не чула, што пуля вот прарэзала руку,— ні болі, нічога. Калі б не пабачыла, што кроў, не чула б, што і ранена. Немец прайшоў за мною следам і вярнуўся. Пайшоў к санкам маім...

Што яны ўжо там рабілі, дых хто іх знае, бо ён пашці што мёртвы быў.

Я ўжо папала туды цераз дзве нядзелі, на тое месца...

Ну, я ўжо ішла ў гэты лес, ішла, ішла і найшла ўсіх тых, той атрад, што сядзеў у гумне. Ну, расказала, як было, што не іх тады прыждала, а немцаў. Усё, як было расказала. Прывезлі мяне ў Заціша, прывезлі... Зайшла я ў некалькі хат: пуста, вада пазамярзала ў вёдрах, нічога не найду. «Ну, гібель,— думаю,— госпадзі! Дзе гэтая смерць? Дзе мне яе стрэціць, гэтую смерць?..» Ужо і людзей не магу знайсці, нікога няма. Я ішла, ішла, перайшла Заціша, прышла ў Бубнаўку. У Бубнаўцы адна баба нясе малако. Падаіла кароўку, нясе ў лес малако. Я папрасіла, яна мне стаканчык наліла. Я выпіла стаканчык, але мяне тут жа сарвала. Хто яго ведае, чаго, тры дні ўжо не ела... Я папытала, ці цэла Дземенка.

— Сказалі,— гаворыць яна — што два двары толькі немцы спалілі.

Ну, і мне так хочацца ўжо аддыхнуць. Сесці мне на дарозе, дык я чуствую, што не знаю, цераз якое ўрэме я падымуся... Я сышла ў поле, пад хвою, села, пасядзела, а падняцца не магу. Ужо што ні паднімалася — ніяк не магу падняцца. Сілы няма, руку ўжо не магу падняць. Я і заснула там. І знаеце, што яшчэ мне гэта жыць была судзьба. Ішлі партызаны з нашай дзярэўні, гэтай Дземенкі. Пазналі мяне, будзілі і не разбудзілі. Пайшлі ў дзярэўню, узялі санкі і завезлі мяне да сястры. Завезлі мяне сястры, знеслі, сталі будзіць, дык гаварылі, што я гаварыла нешта без памяці. Я суткі спала.

А праспалася, апомнілася — рвала ўсё на сабе!.. Потым папрасіла ўжо партызанаў, завезлі мяне на тое месца, дзе я кінула яго. Прышлі мы. Санкі там, дзе я кінула іх. А тых усіх, усіх, ля агню пабілі. Казалі людзі, што дзеткам галовы пазавярнáлі. Дзве дзевачкі, дык ім пазавярнáлі, як пяўнём, галовы, паказнілі іх... Закопваў іх усіх нейкі Гарбуз з Курына. Ён і цяпер жывы. І яшчэ людзі былі. І майго закапалі там недзе.



каць, таксама глядзі... Усё трэба рабіць, бо мёд... гэта пчолы,— усміхнулася Ніла.

Зноў ішла насустрач машына. І калі яна наблізілася, цяпер ужо ён, Кастусь, адвёў Нілу ўбок. І, прыхінуўшы яе да сябе, не адпусціў.

Гарачыя былі яе шчокі, гарачыя вусны...

## 8

Брама, праз якую адзін за адным выязджалі з двара трактары, была даволі шырокай, але не настолькі, каб прапусціць стрэчную машыну ці трактар. Кастусь убачыў, што там, каля брамы, мусіў спыніць трактар Шумскі. Стаяў ён нядоўга, ды, нібы раззлаваны тым, што яму заміналі, імкліва рвануўся з месца. «Па нарад спяшаецца?» — падумаў Кастусь. Ды Шумскі не спыніўся каля яго, на ўсёй хуткасці пафугаваў да нафтабазы. «Запраўляцца? Учора вечарам набраў з бензавоза поўны бак. Дзе падзеў? Але... можа да Сушняка на якую размову?» Здзіўлены, Кастусь міжволі пазіраў услед Шумскаму. І праз хвіліну ўжо не сумняваўся, што пад'ехаў той да Сушняка на запраўку.

«Начной змены ў яго не было, дзе ж ён падзеў цалюткі бак паліва?»

Пра гэта Кастусь адразу спытаў, калі Шумскі ад нафтабазы падкаціў да яго.

— П'ю я ваду ды квас, а паліва... яно згарае.— І Шумскі з-пад ілба зіркнуў Кастусю ў вочы: — Куды мне сёння?

— Скажу. Але спярша я хачу ведаць...

— Якая табе розніца, дзе яно падзелася?

І пыхлівая ўхмылка на твары: знаюся з большым начальствам, як ты, і не лезь ты, хлопец, не ў сваю тачку.

Ну, жывом ужо ў Дземенцы, і зноў тут стала блакіроўка. Такая блакіроўка, што не можна было ні ў лесе, ні дзе схавацца. Папаліся мы ў куранёх, нас палавілі. А потым мы паўцякалі, усё спалілі ў нас, усё — да грама, нічога не засталося. Мы другі зрабілі ўжо курэнь.

А потым аднажды такі стрэл далёка паявіўся. Мы сабраліся: куды ж нам усім з вострава? Ужо людзі саветуюцца: стаім на грэблі — куды ж мы пойдам?.. І вот толькі мы панадзявалі торбачкі, у каго што было, як на нас:

— Стой, руская!..

І па матушцы.

Хто мог — пабег. А ў мяне тады дзіця ўжо было на руках, хлопчык паўтара года. У Дземенцы, у сястры сваёй, тое першае і нарадзіла. Я ўжо не кінула яго. І сястры маёй хлопчык застаўся са мной.

Дзямян хацеў з канём уцячы, а немец каня застрэліў, а Дзямяна за варатнік — і сюды.

У вочарадзь паставілі нас, трыццаць чалавек у вочарадзь, і давай страляць.

Гэтага самага чалавека, Дзямяна, хлопчык уперадзе стаяў на вочарадзі. Маці яго, гаспадыня з дачкою, стаяла ззаду за людзьмі. Як сталі страляць, дык Дзямяна першага. У патыліцу — ён і ўпаў, ні славечка не сказаў, ні славечка.

А хлопчык ужо ідзе, бедны, ідзе ды ўсё: «Ой, баюся, ой, баюся!» А як стрэлілі, дык ён яшчэ крыкнуў: «Ой, не баюся!» — і ўпаў.

**Пытанне:** — Калі ўжо стрэлілі — тады ён крыкнуў?

— Крыкнуў. Спачатку «Ой, баюся!», а потым — «Ой, не баюся!»

Ну, як застрэлілі хлопчыка, дык яна, маці, што ў самым канцы стаяла:

— Ой, падажджэце, паночкі,— няхай ужо сямейка за сямейкай. І я прыду.

Прышла тая ўжо маці ды на дачку:

— Ідзі, Волька, і ты.

Дзевачку гэта застрэлілі, тады яна падышла:

— Я сама.

Дык так вот узялася за галаву ды падшылася пад яго. Дык ёй у шыю — як дасць, яна галавою як матане і нагой як дрыгне. Тры разы страляў у яе, а і тры разы яна нагой...

Мы стаім усе, а ў мяне сястрын хлопчык, гадоў, можа, сем, і майму паўтара года. Вот усё тут гарыць, кажацца, разрываецца,— што мне рабіць?.. Ці гэта дзяцей упярод, ці самой?..

І прышоў такі, у ачках. І пракраціў расстрэл. Пракрацілі расстрэльваць. Пагаварыў ён па-рускі, абыскаў нас па карманах.

— Добра. Я пацікаўлюся...

— Шукаеш канцы, а знаходзіш вянцы. Часцей гэтак. Ды шукай, твая справа...

Кастусь праз сілу сказаў:

— Сушняк вам такіх пытанняў не задаваў...

— Сушняк — не ты, разумее без пытанняў.

— Разумее? Смалі паліва — не маё, ганяй трактар — не мой...

— А тваё? А твой?

Кастусь махнуў рукой:

— Едзьце. Касіць. Дзе і ўчора — у Рачным...

Нейкі момант ён яшчэ пазіраў на гэтага камлюкаватага, з дужымі рукамі чалавека.

Было жаданне ў яго пагаварыць з Шумскім пра Івана і Насцю. Ён часам бачыў: Шумскі падыходзіў да каго з трактарыстаў, браў у рукі паламаную ці зношаную дэталь, раіў, што з ёю рабіць... У такія моманты здавалася Кастусю мажлівай больш-менш даверлівая размова з ім. Наіўнае спадзяванне... Знарочыста-паказной бачылася цяпер яму гатоўнасць Шумскага памагчы чалавеку.

Хіба такі дазволіць хоць каму пераступіць цераз мяжу, за якой ягонае, асабістае, крэўнае?

Па двары крочыў, кіруючыся да яго, Карнач. Дыхаў цяжка, змарана — мучыла чалавека задышка. Падаў руку Кастусю і, выціраючы нейкім жаночым насавіком твар, спытаў:

— Хто ў цябе на падвозе торфакрошкі?

— Салавей.

— Дзе ж ён?

— Не ведаю. Не паказваўся. Пачакаем крыху...

— Гэты ўмее. Не тое што спазніцца, а і не выйсці на работу...

Крыху аддыхаўшыся, Карнач палез у кішэню па папяросы. Ведаў Кастусь: пакуль будзе курыць Карнач, датуль і стаяць тут, каля яго — на хадзе ніколі не курыў начальнік вытворчага ўчастка. І не кіне цяпер...

Але займалі Кастуся думкі пра Шумскага. Як умеў ён дамагчыся сабе нейкіх прывілей... Нікому не дазвалялася ставіць трактар нанач у сваім двары, а Шумскі такое права меў. Вось адкуль яшчэ яго самаўпэўненасць, ганарлівасць...

— Сцяпан Данілавіч, хачу спытаць... Хто дазволіў Шумскаму пакідаць трактар нанач у сваім двары?

— Хто ж... Начальства. Галоўны...

— Вам гэта падабаецца?

Карнач дапытліва зірнуў на Кастуся і адвёў позірк.

— Мне каб работа рабілася. А ён сваё заўсёды зробіць. Працавалі б так усе іншыя...

— Выбачайце, Данілавіч, але вы не адказалі на маё пытанне.

— Многа ты, хлопец, хочаш: душу перад табой выкладвай.

— На такі гонар я не замахваюся. Я чакаў шчырага адказу...

— Шчырасць... як сваёй раскідаешся, то, лічыш, столькі і збярэш? Раз на раз не прыпадзе, не спадзявайся.

— Воля ваша. Я пад'еду да Салаўя...

— Куды? Дамоў?

— А што чакаць яго? Можа хварэе.

— Ну, пад'едзь,— ужо мякчэй загаварыў Карнач.— Іч ты... як Стасевіч пачынаеш. Сушняк не спяшаўся дахаты ехаць.

— То Сушняк...

---

А яны, гэта, уехалі ў такую твань,— яны коньмі, верхам ехалі,— што коні лёд не могуць паламіць, бо ногі парэжуць. Дык яны — нас. Мы ідом, рукамі лёд ломім, а яны за намі коньмі едуць, верхамі. Дык я свайго пацана на лёдзе падсуну, і ламлю той лёд. Ды даламілі ўсю даліну рукамі, ды паабразалі рукі. Выбраліся мы з гэтай даліны, дык у каго якая сумачка была, дык пераабуўся. А суседчына маці, яна старая была, выйшла яна, бедная, з вады, а ў яе ніякай клуначкі. Яна не пераабулася і так акалела, так акалела, на калені так і ўпала. А ён падышоў, немец, каленам у плечы — яна так і заткнулася. Ён яшчэ і стрэліў у яе.

Ну, а нас ужо гоняць, гоняць... А хлопчык адзін... І штонікі ўпалі, голенькі, голенькі. Ідзе голымі ножкамі, ужо не можа ісці, замерзлі ногі так. Дык немец з разрыўное пулі... Кішачкі вымятала, ён енчыць, ён енчыць, а нам аглядацца не даюць на таго хлопчыка. Пайшлі, а яно чутно — як хлопчык енчыць той. Чуствую я, што вот-вот партызанскія курані. А немцы ж не знаюць, дзе гэта...

І вот партызаны ўгледзелі з кураней, што гэта... А яны нас першых гналі. Едуць немцы на канях, а нас наперадзе,—жанок з дваццаць яшчэ было засталося, а чалавек дванаццаць застрэлілі. І гэтыя партызаны сталі страляць па немцах. Дык мы пападалі ды паўзём к кураням. А немцы таксама пападалі, і іх дваіх тады забілі, немцаў, на Рудніцкім балоце.

Прыпаўзлі мы ўжо к партызанскім кураням, і так ужо засталіся мы жывыя.

Столькі раз мы потым гарэлі ў куранях!.. Самі выскачым, а адзёжа згарыць. І ўжо няма ў чым, голыя. І мы што рашылі? У зямляначкі ісці.

Потым немцы прыехалі і сюды. Сначала не чапалі. І гавораць:

— Збірайцеся, людзі, збірайцеся. Мы вас не тронем. Мы вам ужо есці прывязём.

Хто парэжа руку, дык ужо прывязуць ёду, замазваюць, залечваюць. Яны ўжо збіралі, каб усіх сабраць. І ў адно васкрасенне прыехалі, падагналі закрытую машыну і гэтых людзей давай грузіць у машыну. Пагрузілі, пагрузілі і паперлі.

Прывезлі нас у лагер, а ў том жа лагеры сорак тысяч людзей! Божа ж мой, ды і ціфозныя! Ціфозныя не могуць ісці, дык прыедзе самазвал, і згружаюць, згружаюць у тым лесе. Гэта Азарыцкі лагер. Ну, што ж, і дзеткі з намі, і сястры маёй дзеткі. Нада якога агню накласці. У вадзе. Хвойнічак вось такі і вада. Пракапаем калодзезек, вады набраць, ён прыдзе і, гэта,— прасцеце, што скажу,— прыдзе і... наверне. Вот, у калодзезь. Мы ўжо пракапаем ямачку такую, накрыем гэта чым і сядам ля яе. Што б не агледзеў. А патом, што там ужо намерла людзей, так намерла! Сядзяць ля агню дый пазвальваюцца адзін на аднаго... Бо звезлі ж ціфозных, усякіх. А потым прывезлі хлеба. Тры дні нічога не давалі, а потым прывезлі буду́ хлеба. Аб'явілі, што будуць даваць хлеб. Дык такая ж вална зрабілася вакол тае машыны, такая вална! А ён пускае так, штоб у галаву папасці, штоб у галаву. А хлеб мёрзлы, як кірпіч. А людзі гэтыя бедныя... Каторага вось так падымуць — зямлі не дастае нагамі, а яго носяць у вочарадзі. Паднясуць к машыне, дык немец палкаю, палкаю. Той чалавек ужо млее, а немец жа бачыць, што той жа не сваімі нагамі падышоў, проста па валне яго паднеслі, паднялі і паднеслі, так душыліся за хлебам... Госпадзі мілы!.. Мы так здалёк стаім, а ён далёка папускае. Схваціш буханачку, дасі дзіцяці, яшчэ хочацца схваціць, каб на душу па буханачцы...

Вечарам там, ужо ў чацвер, даваў, а ў пятніцу ўжо бачым...

Да, як мы яшчэ хадзілі, дык там пастройка стаяла, сарай. Яны, немцы, жылі ў тым сараі, і хлеб у ёй ляжаў. А дроў няма, няма каму агню накласці. Дык вось яны мужчыны, проста лезуць на тую пастройку. Немцы страляюць, — той падае, а той ломіць, той падае, а той ломіць!.. Раскідалі тую пастройку. Нада жа агонь які раскласці, гэта ж зіма. І што яны ні стралялі,— там яны настралялі мо сот якіх з тры людзей,— а ўсё роўна разабралі тую пастройку. Раскідалі. Тыя падаюць, а тыя ўсё роўна ломяць!..

А патом, раніцаю ў пятніцу мы заўтракалі. Хто які хлеб у апілках... Бо яны ж перад тым прывезлі. Пасты так густа стаялі, а тут бачым — ні духу!.. Не бачылі, у якую сторану яны пайшлі, тыя немцы. Ніводнага паста няма. Гэтыя людзі — хто куда з заграждзення. А яны замініравалі так во. Людзі пабачылі, што пастоў няма — сталі выбягаць за провалаку і — узрывацца!.. І такі падняўся, гэты... Ніхто ж не знае... Кажуць: уністажаюць людзей. Хто блізка ля аграждзення, дык той знае, што такое, што гэта — міны. Ну, і крычым. А што ты там накрычыш, гэта ж не па радыё аб'явіш, каб не выходзілі людзі, бо замініравана...

Потым мінёры прышлі. Нашы, савецкія! Яны ўжо нас усіх гэтых людзей чатыры дні выводзілі з лагера па адной трапіначцы. Так замініравалі лагер.

Выязджаючы з двара, Кастусь заўважыў, што Карнач пазірае на яго.

«Пазірай... Але што галава, то розум. Калі адзін нахабны, то другі завельмі асцярожны...»

Вуліцай ехаў Кастусь не больш хвіліны. Стараватая, пад шыферным дахам хата з антэнай-страказой па-над вільчыкам — тут жыў Салавей. Кастусь прайшоў па вузкім чыстым двары, адчыніў сенечныя дзверы, у наступныя пастукаў.

Алесь толькі ўсхапіўся з ложка. Заспаны, у трусах, стаяў перад Кастусём, усміхаўся. Запрасіў сесці. Не, ён не быў хворы.

— Па цябе трэба ганцоў пасылаць...

— Я ўжо не збіраўся выходзіць сёння. Учора быў у аднаго, пацягнулі... Позна лёг.— Алесь прапускаў праз пальцы свой чуб.

— Падумаў бы пра тое-сёе... як ні позна лёг.

— А пра што думаць? Зараблю менш? З мяне хопіць.

— Пры бацьку жыўшы, ці не так? Але што ты з сябе пачынаеш, Алесь? Работа цябе чакае не ў садочку...

Алесь засмяяўся:

— Я якраз хацеў падпоры ставіць. Яблыкаў да гібення...

— Ды мо не цяпер? Зрэшты, угаворваць я цябе не буду.

Кастусь павярнуўся, ступіў да дзвярэй.

— Чакай, падвязеш,— раптам пачуў за сабой.

Па твары Алеся ён убачыў сябе: пахмурнага, злоснага.

— Я зараз... Есці не буду, не хачу,— ужо хутка, без лянотнае запаволенасці прагаварыў Алесь. Ён схапіўся апранацца.

Кастусь выйшаў, спыніўся на ганку. Тут жа выскачыў з сянец Алесь.

Здаецца, усё я вам расказала, а хто яго ведае...

**Пытанне:** — А як ваш хлопчык той, малы?

— Хлопчык мой памёр у лагеры, заразіўся і памёр. Нам жа, бедным, не давалі ні агню налажыць, ні зварыць нічога.

**Пытанне:** — А сям'я ў вас якая цяпер?

— Цяперашні мой муж перад вайной пайшоў у кадравую, аставіў жонку, матку і сына, а прышоў — ужо не застаў нічога. І мы з ім пажаніліся сіротамі. І займелі шэсць сваіх дзяцей. Дзеці ўжо павучыліся, самому меншаму вот ужо трынаццаць гадоў. Усе дзеці ўжо, слава богу, жывыя: тры дочкі і тры сына. Двое ў Бабруйску, адна работае за эканаміста па связі, а адзін, гэта, кончыў лесатэхнікум у Бабруйску, а адна дзеўка ў Пінску, на трэцім курсе педвучылішча. А хлопец у арміі адзін. Кончыў адзінаццаць класаў. Адна ў дзесятым класе, а самы меншы — у пятым.

**Пытанне:** — А першы ваш муж быў таксама мясцовы?

— Мясцовы. Зайцаў. Гэта цяпер я Мініч. Яго брат брыгадзірам у нас. Дружылі мы, я тры гады з ім дружыла. Я сагласна была ўмесце... Я прасіла таго ўрача, каб разам нас атравіў... І ваабшчэ я такая душэўная: гінуць, дык умесце гінуць...

Ручнік яшчэ ўсё ляжыць на каленях, але жанчына, ўжо даўно не выціраецца. Слёзы былі толькі спачатку.

Закончыўшы сваю аповесць, яна маўчыць. І мы маўчым.

І ў гэтым маўчанні яна схамянулася: «...Божа, божа, яшчэ ж адно забылася я!.. Такое праісшэсцвіе было, што я проста на сябе віну бяру. Яй-богу, і колькі я жыцьму, я буду стольки віну на сабе імець!..

Адна жанчына — у яе племяннік быў у партызанах, а меншыя хлопчыкі, яго брацікі, дома. Калі яны сталі нам, немцы, гранаты кідаць у хаты, дык гэтая жанчына і свае дзевачкі, і гэтых хлопчыкаў... Выскачыла з хаты і крычыць:

— Дзеткі, бяжыце, куды вочы глядзяць!..

Гэтыя дзевачкі, большанькія яны, дык яны пабяжалі за мацераю, а тыя хлопчыкі, меншанькія ўдвох,— па колькі ім было годзікаў не прадстаўляю,— дык яны прабеглі трохі з цёткай, ды ўжо і не ведаюць, куды яна пайшла...

Я цягла мужыка, ужо вечарам, гэта, і, вы знаеце, што вот так, метраў трыццаць, яны ад мяне ішлі назад, за рукі пабраліся хлопчыкі, ішлі назад у сяло,



— Едзем?

— Ідзі паеш... Ідзі, я пачакаю. Многа ты наробіш, не еўшы.

Алесь завагаўся.

— Ну, добра... Але я лепей што з сабой прыхаплю.

Праз хвіліну яны імчалі па вуліцы — куры ледзь паспявалі выхлыпвацца з-пад колаў.

Алесь крычаў над вухам:

— Ты, мусіць, з-за мяне раззлаваны? Не перажывай. Хто які, а я такі... А ты перажываць будзеш! З-за кожнага дурня... не варта!

Кастусь зірнуў у Алесеў твар. «Ох, вы, людзі...»

Але засталося, не апала з душы прыкрае пачуццё ад размовы з Шумскім і Карначом.

Яно не спадала і пазней, калі ён даў ладнага круга па полі. Недзе пад абед ён пад'ехаў да Раманюка, які дакошваў прыбалаткі.

— Перадыхнём,— вымавіў Раманюк, выбраўшыся з кабіны з туга напакаваным цэлафанавым мяшэчкам.— Сядай, Кастусь, во побач, хрумстані са мной.

Раманюк пачаў выкладваць на паперу агуркі і яечкі, парэзаную на скрылі кілбасу і сыр.

Кастусь сеў — не дзеля частунку, яму хацелася пабыць з гэтым чалавекам. Давер, якому ці была мяжа, адчуваў у сабе Кастусь да Раманюка — можа і таму, што ён моцна нагадваў яму бацьку: і ўсім сваім абліччам, і голасам, і адданасцю да працы.

— Бяры, бяры,— падсунуў Раманюк ежу бліжэй да Кастуся.— Адзін аднаму нечага апетыт нагонім. Я ўжо не той ядок, што раней.— І пільна зірнуў на Кастуся: — А ты таксама падаўся. Круглейшы быў, як прыехаў. І не такі ты весялун цяпер.

І чаму мне розуму не было,— яй богу, ну, проста непрасціцельна! Чаму мне было не сказаць: «Дзеткі, вяртайцеся назад!» Мне неяк на вум... Проста я расцерана была. А патом ужо, назаўтра, я апомнілася. І вот на сягоння, вот, дзе пабачу двое дзетак роўных, дык абязацельна я напамяну тых дзяцей. І я вот на сябе віну бяру: чаму я іх не вярнула, тых дзетак... І пайшлі яны, і так нітко не знае, дзе яны дзеліся. Ці яны іх таксама, немцы, у агонь пакідалі?..»

Гэта праўда — душэўны вы, Вольга Андрэеўна, чалавек!

І як ні добра, як ні ладна жывецца вам сёння,— не забыцца ніколі пра тое ўсё, што было. І тыя хлопчыкі маленькія, пабраўшыся за ручкі, будуць ісці ды ісці па снезе... Крывавым снезе вашай памяці.

Цяпер — ужо не толькі ў вашай...

Выконваючы свой расісцкі «план», фашысты спадзяваліся, што гэткім спосабам яны атрымаюць і спакойны тыл. Каго не заб'юць, не спаляць, той змярцвее ад жаху. Правялі ля ног кожнага рыску: паварушыся — смерць табе, і блізкім, і вёсцы ўсёй, вуліцы ўсёй (калі гэта горад).

Аднак, хутка пасля «пераможных» рэляцый аб тым, колькі знішчана партызан (тых самых курынскіх ці акцябрскіх дзяцей, жанчын) пайшлі ў стаўку фюрэра зусім іншыя.

Фон Клюге: «А тут у тыле ў мяне усюды партызаны, якія ўсё яшчэ не толькі не разбіты, але яшчэ больш моцныя робіцца... А 400 гэтых праклятых дыверсій на чыгунцы!»

«Сабатаж на чыгунках: у ліпені было 1560 выпадкаў падрыву чыгуначнага палатна, у жніўні — 2121 выпадак, у верасні — 2 тысячы выпадкаў...» Гэта — з даклада начальніка штаба аператыўнага кіраўніцтва ад 7 лістапада 1943 года.

«Тым лепш»,— сказаў Гітлер у ліпені 1941 года, упершыню пачуўшы пра савецкіх партызан: ён разлічваў, што пад выглядам барацьбы з партызанамі будзе выконваць свой расісцкі «план» («Размова ідзе не аб набыцці людзей, аб набыцці прасторы, прыдатнай для сельскай гаспадаркі»). У 1942-м, а тым больш у 1943 і ў 1944 годзе, калі фашысты гублялі апошнія надзеі на пераможны вынік вайны, а ў Беларусі не засталося ў іх чыгунак — тут ужо Гітлер не гаварыў «тым лепш». Цяпер ужо загадзя запланаванае знішчэнне народаў Савецкай краіны ўсё больш пачынала набываць характар

— Бывае... крыху не той настрой.
— З чаго гэта?
— Раяць людзі, воўка ды ліхога чалавека абыдзі,— сказаў Кастусь.— Я не ўмею абыходзіць. Таму і...
— На каго ж нарваўся?
— На Шумскага. Хацеў з ім гаварыць па-чалавечы, але... не выйшла.
— Пра што?
— Пра ўсё. І пра тое... Колькі гаворак пра эканомію паліва, а Шумскага, бачу, гэта не датычыцца. І наогул, адкуль такія патачкі яму? Трактар у яго — нібы ўласнасць.
— Гэта ёсць, цацкаюцца з ім...
— Чаму?
Раманюк кончыў агурок, загаварыў:
— Было яно раней так. Калі каму з нас, трактарыстаў, далёка клыпаць дахаты ад машыннага двара, то выгадвалі і не клыпаць, адрабіў — і дамоў на тым трактары. Сам разумееш, што за такім парадкам цягнецца. Ну, цярпелася, а як стаў дырэктарам Дзянісаў, скончылі з гэтым. Шумскі тады рабіў у лясгасе, Адзінец стараўся перацягнуць яго сюды, у саўгас. Перацягнуў. Шумскі скора паказаўся. За што ні возьмецца, зробіць і ў пару, і добра, трактар у яго заўсёды дагледжаны, як што — сам адрамантуе. І што з яго ўзяць, калі іншы раз не прыгоніць трактар на машынны двор? А не прыгнаў, то ўжо недзе па заробкі ўпаляваў. Стасевіч, пачуўшы пра тое, загадаў прыганяць трактар сюды, на двор. Прыкрыў промысел. Ды тут захварэў, Сушняк прыняў брыгаду, і зноў Шумскі за старое... Волю вольную пачуў пры Сушняку. Сквапны ён, прагны, вось і выганяе грошы, дзе

помсты. Садысцкай помсты жанчынам, дзецям за тое, што савецкія людзі не захацелі скарыцца і ў самых цяжкіх умовах працягвалі барацьбу за жыццё, Радзіму, савецкую ўладу, за будучыню, вартую чалавека.

Адзін за адным зверху ідуць загады — помслівыя, злачынныя, жудасныя, у якіх вар'іруецца ўсё той жа злавесны план «абязлюдзення ўсходніх тэрыторый».

У некалькіх загадах Гітлера — Гімлера «вобласці паўночнай Украіны» (тут мелася на ўвазе і беларускае Палессе), «серадзіннай Расіі» і наогул усе раёны «заражаныя партызанамі» планавалася ператварыць *у плантацыі... кок-сагыза*. Каб ніякага насельніцтва — адзін кок-сагыз!.. А на ўскраінах гэтых тэрыторый — канцлагеры з дзецьмі ды жанчынамі. Для працы на плантацыях. І для знішчэння людзей голадам і непасільнай працай. (Дакумент гэты надрукаваны будзе ў адным з наступных раздзелаў кнігі).

За гэтымі загадамі, праектамі — новыя *і новыя* Хатыні, дзесяткі, *сотні, уся тая* жудасць чалавечых, дзіцячых пакут, аб якіх расказваюць, памятаюць і сёння людзі ў нашых вёсках.

Але і другое за тымі загадамі і кок-сагызнымі «ідэямі» катаў: бяссілле і страх. Перад савецкімі людзьмі страх і бяссілле, перад народам, які з першых дзён вайны, акупацыі ўзняўся на смяротэльны бой.

Злосна, помсліва, сваёй расісцкай мовай, але вось як спалохана крычаў Гебельс пра гэта, хаваючы за тупой жорсткасцю ўсё той жа *спалох перад народам*, краінай, дзе фашысцкая ваенная машына ўпершыню забуксавала, а потым пакацілася, як з гары, назад да нямецкіх граніц.

«Салдаты не здаюцца, як гэта прынята ў Заходняй Еўропе, калі яны поўнасцю акружаны, але змагаюцца далей, пакуль іх не выб'юць да аднаго. Бальшавізм *толькі* ўзмацніў гэтую *расавую* рысу рускага народа». «...Гэта датычыцца як цывільнага народа, так і салдатаў». «...Інакш кажучы, мы маем справу з небяспечным праціўнікам».

І сярод самых «гарачых» для фашыстаў зон была і заставалася ўсе гады акупацыі *шматпакутная і геройчная* Акцябршчына. Таксама як і савецкія раёны Віцебшчыны, Магілёўшчыны, як і многія партызанскія зоны ў Мінскай, Гродзенскай, Брэсцкай абласцях.

Бязлітасным полымем партызанскай вайны сустрэла ворага легендарная Рудабельшчына, сустрэла ўся Беларусь, усе часова акупаваныя раёны Савецкага



прыдасца. Каму дровы падвязе, каму торф, якому забудоўшчыку гліну ці каменне падкіне...
— Але я не бачыў, каб ён калі прычэп браў.
— Гэта ўжо ягоная палітыка. У лясгасе прыхопіць ці яшчэ дзе... Пасобнікі ў яго ёсць. Ты, браце, толькі не думай, што мы бачым усё і маўчым. Хто маўчыць, а хто крычыць. Нядаўна, да цябе, сход быў, я сам сказаў пра патачкі Шумскаму. Ды Адзінец штосьці не спяшаецца сваю пячатку налажыць.
— Цікава, чаму...
— Ты во потым будзеш думаць, а цяпер давай памагай мне. Мяшэчак пусты прывязу дамоў — жонку, глядзіш, парадую,— усміхнуўся Раманюк.

Кастусь задумліва пазіраў на яго. Вось яна, тая шчырасць, якой жадаў ён. «Раз на раз не прыпадзе»,— згадаў словы Карнача. Шчэ як сказаць... І быў шчыры з ім Адзінец, але як будзе гаварыць зноў? Бою з Шумскім яму, Кастусю, не абмінуць, але на чыім баку будзеце вы, Станіслаў Сяргеевіч?..

## 9

Яму так хацелася убачыць яе хутчэй, што, скочыўшы з матацыкла, ён толькі прыгладзіў рукамі валасы і адразу пакрочыў да вагончыка.

Ніла стаяла на верхняй прыступцы сходаў. Кастусь улавіў момант, калі яна яшчэ не заўважыла яго, адно ўслухоўвалася, чакала... Нейкая сушнячына трэснула пад яго нагамі. Ніла павярнулася і ўбачыла яго. Здзіўленне і радасць у вачах, ва ўсмешцы яе...

Саюза, увесь наш народ, у якога фашысты паспрабавалі адабраць усё тое, што даў яму ленінскі Кастрычнік.

# МУЖЧЫНЫ

Тры выпадкі з трох розных куткоў Беларусі. З мужчынамі, якім не проста пашанцавала вырвацца з пекла, але якія цуду гэтаму дапамаглі сваёй асабістай мужнасцю.

Адразу агаворымся: гэтая мужнасць не прыніжае мужчынскай годнасці тых, што не змаглі зрабіць тое ж самае. Захопленыя, як гэта звычайна бывала, знянацку, акружаныя ўзброенымі ворагамі, а самі толькі з голымі рукамі, ды яшчэ побач са старымі бацькамі, жонкамі, дзецьмі, яны былі як скаваныя.

У вёсцы Касцюковічы каля Мазыра людзей знішчалі «тэхнічна» — душагубкамі. Мы яшчэ раскажам пра гэта, а цяпер прыгадаем адтуль толькі адзін выпадак.

Мужчын аддзялілі ад жанчын, дзяцей пакінулі з жанчынамі. Хлапчук ад маці кінуўся да бацькі... Карнік схапіў малога за руку і хацеў яго кінуць у калодзеж. І вось бацька, Сафрон Каменскі,— ад плоту, дзе паставілі мужчын,— ірвануўся на карніка, паспеў ударыць яго і нават самога ўкінуць у той калодзеж.

Аднавяскоўцаў, што бачылі гэты выпадак, нікога не засталося. Пра гэта, праз пяць гадоў, на судзе, расказаў паліцай. Па наваколлі пайшла легенда пра горкую мужнасць. Яе паўтараюць, часамі асцярожна дадаючы, што так яно «бытта было», не кажучы, што бацька той там жа і ўпаў,— легенда жыве людской патрэбай мужнасці, яе красой.

А вось і жывыя расказы тых, што ацалелі не толькі таму, што ім пашанцавала.

* * *

**Міхаіл Андрэеевіч Казёл. Вёска Красное ў Шчучынскім раёне.**

Крыў хату шыферам. Запрасіў нас у чысты пакой, застаўлены вазонамі, і расказаў, як неаднойчы ўжо, відаць, за трыццаць год расказваў,— і без прыкрас, і з новым хваляваннем.

«...Цяпер я жыву ў Красным, а тады жыў у Ляхаўцах.

Бацька раніцамі малаціў, а я шавецкую работу рабіў. Бацьку жывот забалеў нешта, дык ён прыходзіць, будзіць мяне:

— Падыміся — ідзі малаціць.

Я падняўся, абуўся, узяўся за ручку

— Гэта ты? Я чую, нібы матацыкл...
— Я, я... А хто тут яшчэ можа быць?
— Было гэтыя дні людзей. Мёд адкачвалі.
— Ужо? І ў цябе ёсць час, каб прымаць гасцей?
— Ёсць. Выбачай, адну хвілінку...

Ніла зайшла ў вагончык і паказалася ўжо не ў халаце, а ў лёгкай, без рукавоў, пад колер верасовага цвету сукенцы.

— Калі ласка. У нас парадак ужо. Не тое было, як медагонка стаяла.

— Ці ведаеш ты, пра што я ўчора марыў? Каб сёння разам з табой пахадзіць па лесе.

Ніла задуменна ўгледзелася ў яго.

— Марыцца звычайна пра нешта далёкае... А ты марыў, каб сёння пабыць са мной у лесе. Проста падумаў, мусіць?

Ён моўчкі ўсміхаўся.

— Добра,— згадзілася яна.— Пойдзем!

Лясная цішыня — асаблівая цішыня. Яна напоўнена гукамі, але ні пошум лісця, ні несціханы спеў вяршалін высокіх соснаў, ні голас зязюлі ці стук дзятла не замінаюць чуць адно цішыню, якая бярэ цябе ў свой палон, прыглушаючы твае хваляванні, неспакой, але тым часам яна насычае цябе новымі думкамі...

Як не хапала яму гэтага адвечнага спакою, ціхамірнасці — толькі тут, у лесе, адчуў Кастусь.

І побач ішла Ніла...

— Ты заўважаеш,— паглядала яна на яго,— восень пра сябе напамінае. Колькі жаўцізны навокал...

— Ёсць... Але восень яшчэ пачакае. Я летам не надыхаўся.
— Ты малін хочаш?
— Яшчэ як!

Яны дагэтуль ішлі без аніякага кірунку, а тут Ніла павярнула ўлева — блізка вілася дарога, але на яе не сыходзілі. Кастусю прыемна было крануць рукой тонкі камялёк бярозы, павесці далоняй па казытлівай купіне ядлоўцу, падняць у чарнічніку адну-другую ягаду ды ўкінуць у рот. Ніла раптам паднесла яму цэлую жменю чарніц:

— Еш, пачарніся крыху... Салодкія? На зводзе заўсёды салодкія...

Успаміналася дзяцінства. Кастусь маўчаў, ахоплены, як у тую незабыўную пару, адчуваннем незвычайнасці ўсяго, што бачыў. Толькі мала чуў яго лес, а ён жа ўмеў некалі галёкнуць, што рэха громам разбягалася, засвістаць так, што лісце затрымціць. І яшчэ ён умеў...

Неўпрыкмет для Нілы сарваў ён з бярозы тонкую бярэсцінку і, адышоўшы ў гушчар арэшніку, прыклаў тую бярэсцінку да вуснаў і засвістаў-зацёхкаў.

— Кастусь, дзе ты? — гукнула Ніла.

Ён азваўся і зноў засвістаў, а потым выйшаў да яе.

— Як бы салавей... Але ж гэта ты?

Ён кіўнуў.

— А цяпер слухай. Адзавуцца сініцы.

Сапраўды, лес адгукнуўся посвістам сініц. Ніла як не верыла.

— Сам не магу разгадаць. Салаўём зацёхкай — заўсёды сініц пачуеш.

Яна пазірала на яго так, быццам штось адкрыла ў ім... Ён ўспомніў дзіцячыя забавы, а яе гэта займала, нават ці не важна было ведаць яго і такім...



Міхаіл Андрэевіч Казёл.

дзвярэй — а тут мяне — назад... Пагналі туды, дзе з усёй вёскі народ сабраны быў.

Сагналі ўсе Ляхаўцы. Спачатку людзі стаялі, як авечкі, без усякага парадку, а потым яны паставілі ў тры шэрагі. І праз нейкі час выйшаў іхні камісар і зачытаў, што забілі лесніка, значыцца,— усе тут «памочнікі бандытаў». Вось за гэта сёння і будуць расстрэлены дваццаць пяць чалавек. Тады ён дастаў спісак і пачаў па спіску зачытваць: такі, такі, такі... Выклікалі нас і адразу акружылі кулямётамі.

Усе яны былі ў шэрай нямецкай форме, гаварылі па-нямецку паміж сабой, а да нас — па-польску. Цераз перагаворшчыка. А амтскамісар сам троху папольску гаварыў.

У хату нас Вераб'ёву загналі, а тады прыходзілі і не вычытвалі, а проста бралі, хто пападзецца — па пяць чалавек.

Калі мы ў хаце сядзелі — я сеў за стол, і вось мы ўсе атабраныя, друзья і падругі, папрашчаліся паміж сабою... Калі павялі першую пяцёрку, нам у хаце было чуваць, як там затрашчалі аўтаматы... І як толькі затрашчалі аўтаматы — мінут праз пяць зноў прышлі немцы, зноў пяцёрку ўзялі — павялі.

Я, канешне, мог бы пайсці і ў паследнюю вочарадзь, бо яны бралі першых ад дзвярэй. А каб вы ведалі, што ў гэтай хаце тварылася! Хаос цэлы. Я не плакаў, нічога... Пасядзеў я, падумаў. Расстралялі адну пяцёрку, павялі другую пяцёрку расстрэльваць. Мог бы я ў паследнюю вочарадзь пайсці, але, думаю: «Колькі ні сядзі — ад кулі не ўцячэш». Я тады выходжу і кажу:

— Хто больш ідзе?

Немец астальных чатырох выкінуў у дзверы за мной.

Выйшаў я — адразу камісар стаіць. Пытаюся ў яго па-польску, за што мяне расстрэльваць будуць. А ён:

— Лёўз![1] Бандытэ!

Пра ўцёкі я не думаў, бо куды тут уцячэш? З аднаго боку плот высокі, могілкі, а з левага боку вуліцы — фельчараў высокі плот, штыкетнік. Куды тут уцячэш? Пасля падышоў я з метраў дваццаць і штурханула мяне нешта: «Уцякай!» Але куды ўцякаць? На плот скочу — адразу ж заб'юць, бо хутка не пераскочыш. Тады я ішоў, ішоў... Направа вуліца. Думаю сюды. Прама — заб'юць. Бачу, расстрэляных у яму кідаюць. Засталося мне метраў дваццаць — трыццаць. А ў Мікалая былі вароты прыадчынены ва двор. Я параўняўся з варотамі і таму немцу, што справа ад мяне ішоў,— ка-лі даў! — дык ён адразу і пайшоў куліка. А я — у вароты. А тут радам дом. Я — за вугал, а па мне стрэл... Не папалі. Я па загаццю і ў вуліцу. Цераз плот пераскочыў і — па вуліцы. А па мне,— ад тых людзей, што стаялі сабраныя,— цераз могілкі пачалі з кулямёта біць. Дабег я ў самы канец вуліцы, да Любы, а там, дзе расстрэльвалі, стаяў станкавы кулямёт. Пачаў ён па мне біць. І яшчэ чалавек трыццаць б'юць... Ну, праўда, бег я, па́даў. Нават не ранілі. Я помню: поўз, поўз, а кулі, як толькі пачнеш паўзці,— цёх, цёх, цёх!.. Больш за ўсё біў па мне кулямёт. Ялавец рос. Я да таго ялаўца падпоўз, і — прыжок. І — у сасняк. Бягом, бягом па гэтым сасняку. Сасняк канчаецца. Направа хутар і поле ўжо. З левага боку ў мяне ўвесь час немцы, а справа, дзе хутар, немцаў няма. «Перасяку я,— думаю,— гэтае поле». Азірнуўся, бачу — стаяць тры немцы! Але я ўсё роўна пру да ху-

[1] — Пайшоў!

Раптам апынуліся сярод малінніку. Непадалёк чуліся галасы — збіралі людзі ягады. Ніла пашкадавала, што не ўзяла ніякае пасудзінкі.

— Колькі нам трэба? — усміхаўся Кастусь.— Пакаштаваць ды і хопіць, абы на смак не забыцца.

Ды Ніла зноў жменю за жменяй падносіла яму ягады і прымушала браць, бо сама яна штодня можа падбегчы сюды і хоць аскому набіць малінамі.

Яны памалу прайшлі праз усё займішча малінніку. Сонца тым часам ападала ўсё ніжэй, але ў прагале, між дрэў, на яго было яшчэ не глянуць.

— Усё сёння пад мае жаданні,— прагаварыў Кастусь.— Вось такой цішыні мне хацелася, і каб неба было чыстае, без хмар, каб сонца сосны залаціла...

— А на крыніцу хочаш глянуць? — спытала Ніла.— Пойдзем, я сама хачу яе праведаць.

Яны ішлі не так і доўга. Сталі трапляцца кусты алешніку, па чым Кастусь вызначыў, што паблізу павінна быць вада. Выйшлі на невялікую паляну. Ніла спынілася.

— Расказаць табе нешта? Вось тут мой дзед Васіль схаваў пасеку ад немцаў, у сорак першым. І аж да сорак трэцяга здолеў пасеку зберагчы. Партызаны яе ахоўвалі... Той мёд параненым, хворым яшчэ як быў патрэбны... Але потым была блакада. Загінула многа партызанаў, а пасеку немцы знішчылі. Дзед паспеў толькі дзесятак вулляў перавезці ўглыб лесу, у рове схаваць... А тут яны, фашысты, паказалі сябе. Пазалівалі вуллі вадой, мёд, колькі яго было, забралі, а потым і спалілі вуллі. Вось на гэтай палянцы... А крыніца на той бок, блізка зусім.

тара. Як пачалі яны па мне страляць... Дабег да хутара, забег за хутар — агонь спыніўся. На рэчачцы кладка ляжала, я па гэтай кладцы — як цудам нейкім, перабег. За рэчкай — метраў трыста алешнік, я туды і дабег. А немцы падышлі да самай рэчкі, пастаялі, пастаялі і вярнуліся назад.

З нашай вёскі ніхто больш тады не ўцалеў. Толькі Мікалай Стасюкевіч паспрабаваў уцякаць, але адбегся метраў дваццаць і — на плоце — яго забілі.

Тады забіта было, здаецца, дваццаць сем чалавек. Калі я ўцёк, тады тыя немцы, што гналіся за мною, вярнуліся. Старшы немец, каторы там камандзір,— людзі потым расказвалі,— даваў, даваў, даваў таму, што мяне гнаў. А потым бацьку майго за мяне забралі і застрэлілі. Хацелі яшчэ матку забраць, але нешта яны паміж сабой пагаварылі, пагаварылі, і так яна засталася...»

Перад растрэлам Міхаіл Андрэевіч, як «заходнік», быў салдатам польскай арміі, у верасні трыццаць дзевятага года сустракаўся з немцамі ў баях. Пасля расстрэлу ён, зусім натуральна, стаў партызанам. Мужчына. А расказвае і... час ад часу плача, аж не можа гаварыць. З-за бацькі?.. Ці гэта проста крыўда і гнеў — чалавечая крыўда і справядлівы гнеў, якія не праходзяць, не заспакойваюцца нават помстай?..

* * *

На Клічаўшчыне, у вёсцы Усакіна.

Багаты домік, зялёна-таямнічы сад, злосны сабака. А гаспадар — высокі і мажны мужчына, вельмі прыкметна маладзейшы за свае «семдзесят з гакам». На руках — маленькая, гарадская ўнучка. А дзед, хоць ён і вусаты такі, і грымучы, відаць, і добры, і вясёлы.

**Макар Карпавіч Заяц:**

«...Тут у нас многа Зайцаў у вёсцы, але адзін я — Макар Карпавіч.

**Пытанне:** — Дык гэта вы — той самы Заяц, што немца забіў?

— Той, той! **(Смяецца.)**

Адступалі нашы. І тут ішлі нашы. Дзівізія. А я жыў з канца. І ка мне ўсё прыходзіць начальства, пакушаць што-небудзь. У лесе мы жылі. Я раз даў, другі раз даў, а потым нет чаго даваць. І кажу я:

— Рабяты, я вас не выкармлю, а мае дзеці астануцца так. Вунь картошка ўжо падрасла калгасная. Усё роўна хвашысты забяруць.

Ну, а яны ў акружэнні былі. Яны картошкі накапалі.



Перайшлі паляну, і сярод густа пароблага лазняку Кастусь убачыў ручаіну. Ніла, узяўшы яго за руку, падвяла да вытоку гэтай ручаіны — невялічкага азерца з пясчаным дном. Вада была чыстая, зусім спакойная — глядзіся, як у люстэрка. Кастусь пашукаў вачыма: дзе яна, тая мясцінка, адкуль б'ецца вада, ірвецца з нетраў на волю? І спытаў пра тое ў Нілы.

— А глядзі вышэй, вунь, дзе аплётка. З-пад таго беражка. Раней бруілася, як вар, а нешта ацішэла.

— Хто аплёў там?

— Да вайны гэта дзед заўсёды рабіў і пасля вайны яшчэ доўга, а потым бацька. Гэтыя лазіны ён нядаўна, вясной паклаў. А некалі пясчаныя былі берагі.

Яе бацька... Яму ўсё больш хацелася пабачыць гэтага чалавека.

І калі вярталіся назад, да пасекі, Кастусь спытаў, ці скора прыедзе са шпіталю Рыгор Сцяпанавіч.

— А я маўчу... У мяне чамусьці так: пакуль не прывыкну да нейкай радаснай навіны, весткі, то нікому не пахвалюся,— прагаварыла Ніла.— Бацька прыедзе ўжо хутка. Пісаў, ад сілы два тыдні яшчэ пабудзе. Кастусь, а чаму ты мне нічога не гаворыш пра свае клопаты? Бацька мне пра ўсё расказваў.

— Ну, я не думаў, што табе гэта цікава...

— Лічыш, што я са сваімі пчолкамі адгарадзілася ад усяго свету і нічога ведаць не хачу?

— Не, так не лічу... Я нават размаўляю з табой... у думках.

— Не трэба толькі ў думках! Я вось чую, што цябе нешта турбуе. Давай сядзем, і ты мне пра ўсё раскажы.

Убачылі старую, ветрам паваленую сасну. Хтосьці абсек ужо гол-

— Лошадзь есць?

— Ёсць.

— Завязіце нам.

Завезлі. Назаўтра зноў прыходзяць, ужо больш. Лейценант, у гражданскую вайну ваяваў, Іван Мінавіч. Гэта яны ў мяне пра яго пыталіся: ці ёсць яшчэ хто-небудзь з акружэнцаў. Я павёў іх і паказаў, дзе ён хаваецца. Яны яго ўзялі. Мы два вазы картошкі накапалі, завезлі ім на палігон.

Ахрэм Бабовік узнаў — пайшоў у паліцыю і немцам данёс. А ўжо нашы прарвалі недзе каля Друці. Яшчэ фронт ішоў. А Ахрэм гаворыць:

— Вот гэты вазіў бандзітам есці.

Ну, мяне ноччу забралі.

**Пытанне:** — У вас сям'я вялікая была?

— Чэцвера дзяцей і жана. І ўсіх нас забралі. Яшчэ з лесу людзей узялі: прачоска лесу была. Сталі расстрэльваць.

Мяне б'юць:

— Вядзі, дзе парцізаны! Вядзі, куды вы бандзітам есці вазілі!..

І Іван Мінавіч тут жа, і яго забралі.

А вот яны мне гаворацць:

— Завядзёш, будзеш жыць, не завядзёш — расстраляем!



Макар Карпавіч Заяц з унучкай.

ле, яно ляжала збоч невысокай сціртай. Парыжэлая гліца пасыпалася, ледзьве Кастусь крануўся рукой сцірты. Ён прымасціўся супроць Нілы.

Хіба блага было і не размаўляць, адно бачыць яе твар перад сабой, засяроджанасць і летуценнасць у вачах? Ды штосьці адбылося з ім за гэты час, як блукаў з Нілай па лесе. Супакоенасць, суцішанасць, якое жадаў, ужо адступала, хацелася расказаць Ніле пра ўсё.

— А ты не здагадваешся, што турбуе практыканта? — спытаў ён.

— Крыху здагадваюся. Нейкія нязручнасці, хочацца дамоў, да мамі, яшчэ да каго... Але пэўна не ведаю, што цябе хвалюе.

— Спачатку не хвалявала... Але сёння праводзіў я інструктаж па тэхніцы бяспекі. Ну, можна сказаць пра тое-сёе і лічыць, што сваё зрабіў. Але ж я заўважаў, хто і як трымаецца правіл тэхнікі бяспекі. Падрыхтаваў пытанні. Атрымаўся свайго роду экзамен. Аднаму кіну пытанне, другому, трэцяму... Хто адказвае, а хто і не ведае, што сказаць. Тлумачу сам ці нехта са старэйшых... І раптам Скакун узрываецца: «Хопіць! Бяда табе, жыў я ці не жыў. Адбудзеш сваё ды паедзеш, то нечага выстаўляць мяне на смешкі...» Ён не сцярпеў, выказаў, а ў іншых тое ў вачах бачу. Не ва ўсіх, але не па сабе мне стала... Практыкант ты тут, чужак... Няхай так глядзяць на мяне Гурыновіч ці Скакун, яны наогул лішне варухнуцца не любяць... Няхай Шумскі... хаця пра яго іншая размова. Але і Баброўскі... У яго многа клопату, ды і ягоны і мой супадаюць, пра адно нам дбаць, а пазірае на мяне... нібы на якую назолу, што таўчэцца пад нагамі.

— Ён і з бацькам не заўсёды ладзіць,— сказала Ніла.— Перад ім нельга адступаць.

— Пасаваць я не стану. Але от занеслі яны ў душу нейкую бацылу... Вось уяві: планёрка, ідзе абмеркаванне графікаў-маршрутаў камбайнаў, тэрмінаў уборкі... Ці сход — зноў размова пра жніво, пра гатоўнасць тэхнікі. І да ўсяго гэтага я, як брыгадзір трактарнай брыгады, маю дачыненне, і мне ёсць што сказаць! Але цягне ўжо на аглядку: ці не многа я бяру на сябе? Ці будуць лічыцца з маім словам? Не хацеў бы я такіх аглядак, непрыемна ад іх...

— Выкінь ты гэтую бацылу з душы.— Ніла ўсміхнулася яму.— Разумныя цябе зразумеюць, а хто не пажадае ці нават не здольны зразумець... не зважай на іх.

— Бадай-што... Нехта лічыць, што калі я да вас прыехаў усяго на месяц-два, то я нібы недзе паміж небам і зямлёй. А я па зямлі хаджу. І добра чую яе пад нагамі.

Кастусь устаў. Працягнуў Ніле руку, яна падала сваю. І зноў ішлі нейкі час наўпрост па лесе, а потым сышлі на дарогу. Сонца ўжо зайшло за небасхіл, з гушчару пацягнула вільгаццю. Над дарогай звінелі камары.

Недзе ў лесе пачуўся гул трактара. Праз хвіліну-другую гул гэты памацнеў. Кастусь і Ніла мусілі саступіць з дарогі. У кабіне сінягa «Беларуса» яны ўбачылі Шумскага, а побач з ім чарнявага мужчыну. Шумскі кінуў на іх востры погляд — і трактар прагрукатаў міма, цягнучы прычэп, напоўнены бярозавымі двухмятроўкамі.

— Хто з ім? — спытаў Кастусь.

— У твар ведаю гэтага дзядзьку. З Кругавіч ён, — адказала Ніла.

— Трэцяя змена ў Шумскага... хто папросіць, таго паслухае. Добры чалавек,— з іроніяй вымавіў Кастусь.

---

Вот я іх на край поля прывёў, і няма мне куды круціцца... А ён б'ець мяне. А я ўсё не даваўся: як ён замахнецца, немец, дык я ўсё ў бок, у бок. Усё роўна як які-небудзь — каторыя б'юцца... баксёр. А потым па затылку мне прыкладам як ударыў — я ўпаў.

Тут жа і сям'я мая ўмесце. Бяруць дзіцёнка — расстрэльваюць.

— Вот завядзёш — гэтых не будзем страляць!..

А я знаю, што як завяду — больша чужой крыві нап'юся, чым маёй разальюць. Я не павёў.

**Пытанне:** — І тут застрэлілі ваша дзіця?

— Тут аднаго рабёнка застрэлілі, другога застрэлілі, а трэцяга падводчыкі схавалі. Чацвёртага, тоесць, самага большага. Ён і сяйчас жыве ў Ленінградзе.

**Пытанне:** — А як яны яго — у воз схавалі?

— Не. Далі пугу, і пайшоў коні адварачваць. У баразне схаваўся. Яму так сказалі падводчыкі. Вот ён і астаўся жывы, і сягоння жывой. А тады і хазяйку расстралялі. А патом і мяне вялі страляць.

Ну, мяне вядуць расстрэльваць, а я думаю ўцеч. Што ж тут здзелаеш? Адзін двох вядзець. Падходжу я наперад — немец. Як білі нас, то ён стаяў, па-нямецку разгаварываў. Тады зайшоў наперад, ідзе напроціў нас і па-рускаму гаворыць:

— Вы не знаете, может, куды вас вядуць? Вядуць расстрэльваць.

**Пытанне:** — Ён так гаворыць, каб не пачулі немцы?

— Не, немец ішоў, але ён жа па-рускі не панімае. І гэты надзеты ў нямецкае, і наган у яго. Тады па-нямецкі з немцамі гаварыў, а цяпер з намі па-рускі. Гэта не пераводчык — пераводчык астаўся, а ён, як нас тронулі, то ён наперад зайшоў, уродзе яму прысесці трэба... І ён тады напроціў ідзець:

— Вас,— кажа,— вядуць расстрэльваць.

О-о-о, госпадзі! Сям'ю расстралялі, і мяне расстраляюць... Давай папробую ўцеч. Я так да краю вярну з гэтай сцежкі, каб у лес. А ён мне вінтоўкай р-раз у плечы. А я... Гэта ў мяне патом, на фронце, рукі пабіты, а тады я яму як вурзну! — дык ён дагары, і яго аўтамат адляцеўся. Я верхам, за аўтамат — шарах! — яго застрэліў. Іван гэты ў адну сторану пабег, а я ў другую. Пад мяне гранату другі падкінуў, ну, але граната мяне не тронула нісколькі...

**Пытанне:** — Дык вы ў яго яшчэ і з аўтамата стрэлілі?

— А як жа! Калі б я яго не застрэліў, дык у яго ж наган быў. А другі немец, кажаце? Многа іх немцаў было. Але ў гэтым шуму... Я тры вайны праваяваў, і ведаю, што ў шуму ніхто не знае нічога і не ведае, Яны пакуль агледзеліся... Гэта якіх-небудзь я быў метраў дзесяць ад немцаў адышоўся, недалёка, а гэта ж — шум!..

Ну вот, гэта мая ўся і гісторыя.

**Пытанне:** — А потым вы куды, у партызаны пайшлі?

— Не. Мне зрабілася плоха. Плоха зрабілася. Ну, куды? Я ў Закуцце, у атрад. Гэта начальнік атрада быў знаком, дык я к яму. Іду і здаецца — іграюць, пяюць... А нікога нідзе няма. Гэта ў мяне ў галаве. Расстроіўся. Да... І ён гаворыць мне:

— Знаеш што, вызаву я табе ўрача. Урач мне ўколы даваў і гаворыць:

— Ідзі ў ціхае месца.

Пабыў я ў ціхім месцы. А тады ўжо пры штабе находзіўся. Я ў яго давер'е імеў. У таго, што заведываў атрадам. Я забываю яго фамілію. Лёшкай завуць. Я яго так і называў. Ён у вашых гадах быў. У Закуцці сядзеў. І я там усё ўрэмя і знаходзіўся.

**Пытанне:** — У гаспадарчым узводзе?

— Не, як днявальны. Ну, па дзярэўні прайду калі-небудзь: можа, немцы? Людзі падскажуць...

**Пытанне:** — Тады у сорак другім, Сушу два разы палілі?

— Не, першы раз партызаны не далі. Ведалі, што будуць Сушу паліць. Здзесь, як відзён лес, і на гарэ там — са станкавымі кулямётамі партызаны. Яны іх сільна многа перабілі, немцаў. Заяц, Бабовік па-вулічнаму, які вёў немцаў, стаў зваць іх: «Сюда!» — і рукой махаець, каб беглі ўслед за ім. Знае, куды. Тут ён і радзіўся, толькі не здох тут...

Ну, гэта першы раз як ехалі. Другі раз ужо большай сілай... І ніхто ўжо не прыступіўся да іх.

**Пытанне:** — І што яны тут натварылі?

— Ну што, людзей перабілі. Два пасёлкі цалкам выбілі. Сем чалавек асталося, што дома не былі. «На сабранне! На сабранне! На сабранне!» — выгналі. Вот так пасёлак і во так пасёлак, а пасяродку на картаплянішчы і пабілі...»

Славуты Сураж, што вельмі зручна прымасціўся, як на покуце, паміж Дзвіной і Каспляй, якая тут упадае ў Дзвіну. Сураж, каля якога пачалася трагічная

— Бацька з ім на нажах. Насця малайчына, разумее, не крыўдзіцца на яго,— прагаварыла Ніла.— Але вось зноў ён раз'язджае... Не ўпершыню сустракаемся. Ты што, Кастусь, думаў, калі сказаў, што пра Шумскага іншая размова?

— Вось гэта і меў... Патурае яму Адзінец. І чаму? Не, маўчаць не буду.

— Бацька не маўчаў...

Ніла больш не дадала ні слова, адно запытальна зірнула на Кастуся.

— Ты дамоў сёння паедзеш? — спытаў ён.

— Трэба...

— То са мной? А раніцай я цябе сюды падвязу. Няхай веласіпед адпачне.

— Няхай,— згадзілася Ніла.— Толькі рана табе ўставаць давядзецца.

— Было бяды!

Ён зірнуў ёй у вочы і зразумеў, што будзе так, як яму падумалася: прыедуць у Вербічы і расстануцца мо толькі на гадзіну. Сёння ім яшчэ да світання блукаць недзе ў полі, па шашы, чуць цяпло рук і гарачыню вуснаў...

На дарогу выбегла пліска, пакруціла галоўкай туды-сюды, прабегла па пяску, пырхнула зноў у гушчар.

## 10

Кастусь спадзяваўся, што Адзінец ранкам пакажацца на машынным двары — той не паказаўся. Была хвіліна забегчы ў кантору — і там Адзінца не знайшоў. Сустрэў яго ў сталовай. Адзінец сядзеў адзін за сталом, запрасіў Кастуся прысусedзіцца, сказаў:

— Усе мае ў горад паехалі, сёння мой абед тут. Праўда, добрыя людзі хутка вячэраць будуць...

— Як каму выпадае. А я выглядаў вас. Ці далёка дзе былі?

— У другой брыгадзе. Там два камбайны ніяк да ладу не прывядуць... Што маеш?

— У пару ці не ў пару, Станіслаў Сяргеевіч, а гаварыць трэба. Я пра Шумскага... Ганяе ён трактар без усялякіх нарадаў. Бачыў яго... у лесе.

— Ясна... Не можа-такі ўтрымацца. Я нядаўна сказаў яму... трактар ужо няхай пасля работы ставіць у сябе там... Як-ніяк, жыве ў канцы Сасноўкі, а чым сюды штодня дабірацца, то лепей адразу на поле... А гэтага паменей... сказаў жа, паменей выездаў напрыхваткі. Дык не...

— А чаму так... Усяго што «паменей»?

— Чаму?

У гэты момант да іх падышла афіцыянтка. Прыняўшы заказ, пайшла, і Станіслаў Сяргеевіч загаварыў, качаючы ў пальцах хлебную крошку:

— Хто такі Шумскі? Ведаю, хапуга. Але ведаю і тое, які ён работнік. Не кожны так працуе. Умелец, ці на трактары ці на камбайне. Такіх у саўгасе на пальцах можна пералічыць. Думаеш, мне прыемна вочы закрываць на яго нахабства? А мушу. Бо інакш ён возьме ды вернецца ў лясгас. Рукі ж яго патрэбны нам, саўгасу. Кожны чалавек на ўліку, а такога механізатара, як ён, паспрабуй знайдзі.

— Мусіць, трэба шукаць выйсце, Станіслаў Сяргеевіч.

— А то я не шукаю?— У вачах галоўнага інжынера адбіўся да-

---

слава «бацькі Міная», зялёны гарадок, імя ў якога пазычылі ў свой час так званыя — «Суражскія (або Віцебскія) вароты» — саракакіламетровы разрыў у нямецкай лініі фронта, які нашы воінскія часці і партызаны трымалі ад зімы да восені 1942 года,— як наземны шлях паміж «вялікай зямлёй» і партызанскім тылам.

У Суражы знайшлі мы Васіля Мяркуравіча Іванова, ужо нямоглага, семдзесят пяць, але яшчэ бадзёрага пенсіянера. Сустрэлі яго на вуліцы, пазналі — дзякуючы старшыні сельсавета, які ішоў з намі.

У кабінеце старшыні Васіль Мяркуравіч нам расказаў:

«...Гэта, значыць, так. Была ў нас экспедыцыя, летам, у Касплянскай дачы. Мы прарваліся, парцізаны. Прарваліся і — хто куды. Выскачылі мы з лесу — якраз засада была. Ну, але, знаеш, як я быў месны, дык выскачылі са мною чалавек пяць і давай беч — на Марчонкі. Руччом. Усе аўтаматчыкі былі. Только падхадзя, панімаеш гэта, пад Балашы — яшчэ засада была. Вот мы і пачалі, панімаеш, з імі сражэнне. Пяць аўтаматчыкаў нас было. Яны нас кругом акружылі, дваіх як-та ўбілі, а мы — сюды руччом. У мяне толькі ў пісталеце астаўся адзін патрон. Тут мы ўскочылі ў сажалку. А яны там ваколіцу ачышчаюць — там яшчэ якія-та парцізаны былі ў акружэнні. І нас выцягнулі адтуль... У мяне, як я камандзірам узводу быў, была адзёжа ваенная. Мне адзін з-за лініі фронта даў, Растаргуеў,— пілотка і ўсё. Ну, і аказалася, яны падумалі, што я камбрыг. Начальства іхняе пад'ехала і давай адганяць, каб не расстрэльвалі: «Комбрыг, комбрыг». Нас траіх паймалі. Рукі звязалі траім. Быў Зуеў, камандзір узвода, гэтага ў плячо ранілі. Рукі назад, звязалі. Адзін за адзін, і — у Сураж.

І я ж знаю, што расстраляюць, і разгавору не можа быць... Прывялі нас у Сураж. Ну, там паліцэйскіх! Яны ж зналі мяне. «А-а, во-о, старога чорта ўзялі!..» Сядзелі мы. Білі нас. Дапытвалі. Ну, што я буду гаварыць? Ну, парцізан, з аружыем. А дзе брыгада? Экспедыцыя — хто куды. Білі-білі — пасадзілі нас. Пераначавалі мы. А ўтраём сядзём. Міхайлаў, Зуеў і я. Я гавару:

— Во што, рабята. Нас, канечна, ці павешаюць, ці расстраляюць — разгавору нет. Імейце ў віду — адразу хто куды! Не дажыдая пятлі, не дажыдая гэтага — саскаквай і бяжы!

Раніцаю прыходзяць зноў нас біць. Распытвалі. І ты скажы — точна, і дзе я з узводам быў у экспедыцыі, і дзе ўбіваў немцаў — усё точна ведаюць, правільна. Як хто сказаў! А я гавару, што я там не быў, дзе чатырох немцаў забілі. Хоць я там і быў, канечна.

А патом прыходзіць старшы:

— Гавары! Забіваў нашых там і там у экспедыцыі?

Я кажу:

— Не!

Зноў па мордзе мяне. Немец.

Патом сталі маіх дапытваць. Ну, мае тожа так населі: «Былі ў парцізанах і больш нічога».

Павялі, пасадзілі нас.

І вот якраз надвечар прыходзіць машына, прыходзяць тры шуцкоры. І нас тры. Рукі не звязаны. Садзяць у машыну. Не звязвалі нас. Іх тры, сабака чацвёрты, і нас тры. А кладбішча тут во — як едзеш на Будзянку, брацкае. Тут жа мосцік быў, дзе цяпер робяць мост. Мы праязджаем цераз мост, ізноў: «Ай-яй-яй!..» — рабяты мае, а я ім гавару:

— Помніце, пра што гаварылі.



Васіль Мяркур'евіч Іваноў.

кор.— Штогод накіроўваем хлопцаў у вучылішча, рыхтуем кадры. Але не так яно складваецца, як хочацца. Акалічнасці... Маладыя ідуць служыць у армію, старыя — на пенсію. Нехта жаніўся ды з'ехаў на край свету, нехта захварэў, а той знайшоў работу лягчэйшую. Міліцыя за гэты год у трох правы адабрала. Як тут не трымацца за Шумскага? Можна яго паставіць на сваё месца, але... мы нямала страцім, калі ён у лясгас ці яшчэ куды перакінецца. Яму гэта проста.

— Нямала страцім... Страты, Станіслаў Сяргеевіч, ужо ёсць. І, па-мойму, вялікія. Я ўжо не буду казаць пра паліва... Колькі яго глуміць Шумскі. Людзі ўсё бачаць. І думаюць, і чакаюць, што з гэтага будзе. Што пры гэтым траціцца, паспрабуйце ўзважыць. Выбачайце, але такое...— Кастусь успомніў словы Раманюка,— такое цацканне з Шумскім можа адбіцца і на павазе людзей да вас.

— Яно, бадай, ужо адбілася...— Адзінец зірнуў у акно і затым зноў перавёў пагляд на Кастуся: — Але ж ты вось разумееш, што не аб сабе мой клопат? І іншыя зразумеюць. Магу, магу хоць сёння даць загад, ды ўжо не варта чапаць яго, зараз пяройдзе на камбайн, і ўсё яно само сабой... Дарэчы, яго камбайн у выдатным стане. Сам глядзеў. Іншыя да абкаткі яшчэ падводзяць, а ён ужо ўсё зрабіў, што належыць. І папрацуе, не аднаму ў прыклад... Дык вось уяві, Кастусь, сябе на маім месцы. Круці не круці, а даводзіцца ісці на кампрамісы.

Афіцыянтка прынесла абед, пара вілася над талеркамі баршчу, над катлетамі. Нейкі час маўчаў Станіслаў Сяргеевіч. Маўчаў і Кастусь, а думкам супынку не было: «Шчырасць вашу, Станіслаў Сяргеевіч, я знайшоў. І логіка нібы ёсць у вашых меркаваннях. Але недзе вы дапусцілі памылку. Недзе яна тоіцца, ваша памылка...»

Управіўшыся з абедам, Станіслаў Сяргеевіч неяк пажвавеў.

Вот нас прывезлі якраз туды да кладбішча. Там выкапаны ямы. Астанавілася машына і — выкапана яма. Яны выскачылі па баках, тры немцы, і сабака. А нам камандуюць, каб мы ішлі. Метраў дзесяць да ямы.

А мы,— як толькі з машыны выскачылі, як у нас быў разгавор,— хто куды! У розныя стораны. Зуеў — на магілкі, там яўрэйскія кладбішчы былі. Міхайлаў — туды. А я з-за машыны — сюды.

А тут провалачныя загражджэнні! Ну, я ж чалавек ваінсцвенны... Хто куды!.. Зуева адразу ўбілі. І Міхайлава. Потым гэта расказвалі. Там не было калі глядзець,— мы хто куды, у якія стораны! Я падбягаю да провалачных загараджэнняў і адразу захваціў... Я ж чалавек быў сільны, ваінсцвенны. І адразу пераскочыў цераз гэтае провалачнае заграджэнне. І стада было, каровы хадзілі. Я — у стада. Сабака калі бег... Шчасце маё было! Аўчарка гэтая,— пастухі потым расказвалі,— запуталася там у провалаку і ўсё вішчала. А я — у стада. А яны давай аббягаць тудою, дзе ў іх вароты былі. А я ўжо метраў дзвесце адбег. Выскачыў адтуль. Яны — па мне. Жыта было — я ў жыта...

Мяне ранілі, праўда, во ў гэтую нагу. Боты ў нас не былі зняты. У жыце я боты зняў, кінуў. А тут жа рака была якраз, каля Шпурова. Ну, я ж месны. Калі б хто-небудзь другі, то не знаў бы, а я адразу з гары — крута было — крута было — і ў ваду. На тую сторану перабраўся і — у кусты.

Ну, думаю, цяпер ладна! Я ж тут і з атрадамі хадзіў, і праводзіў, і ўсё, я — месны. Сяджу ў кустах і думаю: «Калі яны перабяруцца цераз раку, то ў мяне ёсць хады — і туды, і туды...» Сяджу. Гляджу — чалавек пяцьдесят па жыце. І з сабакамі. І нашлі яны боты мае. «Вот дзе ён здохне, тут іскаць трэба». А жыта вялікае было! І вот сонца ўжо залазюець. А сабакі да рэчкі дабягуць і — назад, панімаеш, зноў туды. А ўжо сонца садзіцца. Ну, яны ўзялі, кінулі тут часавых, відна, а я — наблюдаў усё.

Сцямнела, і я ўдарыўся туды, дзе мы з атрадам хадзілі — у адну дзярэўню, у другую. І тут — часавыя іхнія стаяць. Я ў другое месца, дзе парцізаны пераходзяць,— там тожа. Ну, што рабіць? Ну, а я ж раку знаў. Дзе проціў Курашчан мелка было — я туды. Ноч маленькая. Я прабег ужо колькі. А мне трэба ў Касплянскую дачу. Падышоў я да ракі, раздзеўся, штаны гэта звязаў і давай ісці. Як толькі што — нырну. Я ж плаваць умеў. Перайшоў — ужо сонца чуць-



— Праедзеш са мной да рамонтнікаў? Там, у другой брыгадзе, марнуюць хлопцы час. Перакуры, анекдоты... Даў ім накачку. У Баброўскага тэмпы свае, але хачу глянуць.

Выйшлі са сталовай, і Станіслаў Сяргеевіч сеў за руль «газіка», Кастусь — побач. Галоўнай вуліцай, а потым завулкам ехаць на машынны двор галоўны інжынер не пажадаў — звярнуў з плошчы да гравейкі.

Выскачылі з гэтай цяністай, кароткай, на дзесятак дамоў, вуліцы на гравейку і воддаль, каля жывёлагадоўчага гарадка, пры дарозе ўбачылі гурт людзей.

— Пад'едзем туды,— вырашыў раптам Станіслаў Сяргеевіч.— Апошнюю сянажную траншэю закрываюць сёння.

Яны кінулі «газік» на дарозе і пакуль падыходзілі да людзей, адчуў Кастусь, што адбываецца штосьці незвычайнае. Амаль кожны дзень бачыў ён людзей тут, каля траншэй — іх пяць адна пры адной, размясціліся ўздоўж дарогі,— але то былі ўсё звыклыя воку малюнкі працы: падыходзілі машыны, асцярожна падбіраліся да траншэй трактары з прычэпамі, і тыя вялізныя зялёныя падушкі, што мясціліся ў кузавах машын і на прычэпах, выкульваліся, нібы ў бездань, якую нельга запоўніць, ды вось трактар, што ўціскаў тое зялёнае пер'е, усё вышэй і вышэй выдаваўся з бездані, і ўрэшце, здаволена грукочучы, хадзіў ужо як па гары, невысокай, але доўгай і шырокай.

Цяпер іншае бачыў Кастусь: не было каля зялёнае гары руху машын, трактароў, людзі стаялі вокал, назіраючы, як некалькі мужчын раскочваюць па ёй бела-празрысты сувой. Бачыў Кастусь тых, што працавалі тут штодня, але каго яшчэ тут не было? Падышлі жанчыны, нехта пехаваў ці ехаў дарогай і таксама спыніўся, затрымаўся



Помнік ахвярам на месцы канцлагера Азарычы.

чуць усходзіць. Я па ручаінцы і ў лес.

Дзён пяць-шэсць хадзіў я па лясах. І знаў я, дзе ў нас прыпасы аставаліся: вінтоўкі клалі, усё... Пайшоў я туды, на Задняе поле. Нас чалавек восем знала гэтае месца, дзе аружыя. Ваагужыўся я там — усё-такі мне смялей. На восьмы дзень чую — тут павінны быць або нашы парцізаны, або нашы легулярныя часці. Там была ў нас разведка легулярная. Гляджу самалёт наш — у-у-у!.. «Яшка» гэты. Топ-топ-топ і спусціў парашут. Прадукты. І падумаў я: «Каго ж тут-небудзь я свайго знайду».

тут — ляжалі ўбаку на зямлі некалькі веласіпедаў. Былі тут дырэктар саўгаса, галоўны аграном, заатэхнік.

І ўжо зблізку пазіраў ён на мужчын, што развіналі на ўсю шырыню траншэі цяжкі скрут поліэтыленавай плёнкі. І зірнуў на тых, што стаялі, як і сам ён, без справы. Твары, знаёмыя, незнаёмыя... Непадобныя, былі яны неяк падобныя ў гэты час — адно штосьці адбівалася ў вачах людзей.

Ці не пра тое думалі яны, пра што вось падумаў ён? Было яно, было незвычайнае перад вачыма: не адзін дзень, не тыдзень — багата дзён забрала ў людзей работа, ды як завершваецца ўрэшце стог, так надыходзіць пара заканчэння вялікай работы. І было чым усцешыцца, было чаму радавацца.

Станіслаў Сяргеевіч неўзабаве гукнуў яго. Ён ішоў да машыны адзін: дырэктар і заатэхнік падаліся на ферму.

Выкіраваўшы машыну назад, лёгка пакручваючы руль, Станіслаў Сяргеевіч прагаварыў:

— Вось у чым сэнс нашых старанняў: аддача. Ёсць яна — і не важна, напрамую ты ішоў ці лавіраваў.

— Разумець трэба... пераможцу не судзяць?

— Гэта як сказаць... Але, галоўнае, сам сябе судзіць не будзеш. Калі сябе не шкадаваў, то ўжо даруйце: як змог.— І з націскам паўтарыў: — Як змог!

«Сам сябе судзіць не будзеш... І гэта як сказаць. Адзін умее сябе судзіць, другі не... Ці не пажадае.— Кастусь скоса зіркнуў на галоўнага інжынера: — Але ж нешта вас точыць, Станіслаў Сяргеевіч, калі вы не забываецеся на нашу размову. Нешта вас точыць...»

---

Толькі іду па расе, гляджу — двух ідуць.

— Хто такі?

А я кажу:

— Калі партызаны — ка мне, а калі паліцэйскія — страляць буду!

Бо я ж, відзіш ты... А яны кажуць, што легулярнікі.

— А-а, гэта ж дзядзя Вася! — гаворачь.— Ну, як было дзела?.. Нас,— гаворачь яны,— асталося дванаццаць чалавек, спаслі рацыю, і вот па рацыі нам гэта збросілі.

Я пытаюся:

— Ёсць нашы партызаны дзе-небудзь?

І сказалі яны мне, што адзін атрад тут збіраецца, кіламетры за два. Пайшлі мы туды. Яны мне, канечна, кой-што далі, з парашута гэтага. І завялі мяне да партызан. Там атрад Ляшчэўнікава быў, чалавек пятнаццаць. Пачалі яны мяне распытваць, што і як. А я ім кажу:

— Наце вам маю вінтоўку і патроны, разведайце маёй судзьбы. Уведайце, як гэта было. Магу я з вамі быць ці не магу.

Бо і такія былі, што пападаліся і прадавалі дзела.

І Ляшчэўнікаў гэты разведку — туды і сюды. І ўсё пра мяне ўзналі. Тады Ляшчэўнікаў знімаець пісталет, даець мне пісталет і гаворыць:

— Бяры гэтых рабят і камандавай тут, а мы ў Заямнічы пойдзем.

Тады я і застаўся там камандаваць.

І вот такія судзьбы мае».

Адзін, наймаладзейшы, плача, калі расказвае.

Другі, трымаючы на каленях унучку, не можа забыцца, як у яго на вачах стралялі яго дзяцей. А ўсё ж — па даўнасці, па весялосці характару ці што? — расказвае нібы зусім спакойна. Як пра кагосьці другога, што калісьці рабіў так, як трэба.

А трэці, найстарэйшы, трохі залішне любуецца сам сабою. Мы сустракалі і такіх, і ў падарожжы нашым, і ў мемуарах. Слабасць, што мае сваё апраўданне.

Але галоўнае — мужнасць — яно застаецца.

*(Працяг у наступным нумары)*



## 11

За тры тыдні, што жыў Кастусь у Вербічах, толькі два-тры разы прайшлі над вёскай дажджы. Ціхія начныя дажджы, што прыбівалі пыл ды асвяжалі палеткі — праз тое і ведаў пра іх Кастусь, бо ці мог прабудзіць яго ледзь чутны шум за акном? Спаў ён штоноч моцна, як ніколі мо не спаў у інстытуцкім інтэрнаце.

Вербічанцы казалі: пашанцавала ім, сена скасілі, а ніхто пят не замачыў.

Касьба прайшла, а шугала новая хваля вялікага клопату, абдаючы сваім дыханнем кожнага, хто жыў пад гэтым сінім, бяздонным небам, хто хадзіў па гарачай зямлі.

Жніво — як свята. Ведаў Кастусь святочнасць жніва і ведаў цяжар яго, што ўгінае плечы да пары, пакуль не развінуцца яны з новай, набранай у працы сілай. Недзе з год чатырнаццаці-пятнаццаці колькі папералапачваў ён збажыны, колькі папацеў на пагрузках ды разгрузках, колькі паўкладваў саломы на сціртах... Такія былі ў яго школьныя канікулы, а, закончыўшы школу, падступіўся ён бліжэй да тэхнікі — той «газ», на якім падмяніў на час жніва бацьку, яму не забыць, і таго не першагодка «Беларуса», якога даверылі яму на наступнае лета, таксама будзе ён доўга-доўга помніць.

Праз усе гады пара жніва заставала яго неяк знянацку, і асабліва, як стаў студэнтам — час за вучобай, за экзаменацыйнымі сесіямі пралятаў імкліва. Ён, Кастусь, толькі дзівіўся, што адзеляне ўжо колас, выспеў, ды зноў і зноў прылучаўся да людское рупнасці, чуў, якое яно, зерне, важкае — ці апынуўшыся са сваімі аднакурснікамі ў далёкім Казахстане, ці працуючы блізка ад роднага дома.

Цяпер ён быў сярод тых, каго пара жніва не павінна была застаць неспадзеўкі, ад каго патрабавалася вялікая абачлівасць, пільны погляд у заўтрашні дзень.

У канторы саўгаса ў гэты час было людна, шумна. Складаўся, удакладняўся рабочы план, і незаменнымі здаваліся словы, што можна было тут пачуць: манеўраванне, аператыўнасць, рубяжы... Да жніва рыхтаваліся, вялікіх і малых турботаў было не перабраць, ды праз усе прабівалася адна трывога: што там паказвае неба? Ці не пераменіцца надвор'е, ці не нагоніць з якога краю дажджу?

Кастусь заўважыў за сабой: ён сам паглядаў на неба часта. Той юначай бяздумнасці, вясёлай безуважнасці да таго, пагода будзе ці набягуць хмары, ужо прайшла пара — ягоная пара...

І настала раніца, калі з машыннага двара рушылі ў поле камбайны. Яны спыніліся непадалёк ад вёскі перад палеткам пахілага да дарогі, як не ў рост чалавека жыта. Зажынкі... Сюды, зірнуць, як упадзе першы колас, сабралася народу, колькі не чакаў убачыць Кастусь. Тры пажылыя жанчыны, у белых вышываных кофтах, чорных спадніцах, падышлі да сцяны жыта, і замільгалі сярпы ва ўвішных руках, і вось ён, першы сноп, і вянок з калосся. Жанчыны павольна, паважна накіраваліся да дырэктара саўгаса. Іх галасы, высокія, звонкія, спляліся ў свой вянок:

Гаварыла поле шырокае,
Жыта ядранае гаварыла:
— Не магу я на полі стаяці,
Каласочкам махаці,
Не магу я...

Кастусь углядаўся у твар дырэктара. Ён быў узрушаны, гэты чалавек, мала не пажылы, позірк яго цёмных, пад сівымі бровамі вачэй, як бы страціў звычайную вастрыню. Ён азіраў усіх зноў і зноў і крыху марудзіў з гэтым словам, якога чакалі ад яго. Але ўрэшце загаварыў — спачатку ціха, ды голас затым памацнеў, неяк паярчэў. І кожны наперад ведаў, пра што будзе гаварыць дырэктар, але ў гэты часці не кожнаму неставала менавіта гэтых слоў, сказаных услых — яны былі звычайныя і незвычайныя, бо за імі праступалі не чаканне, не надзеі, а шырокія абшары палёў, сама праца, вялікая, на ўсю мажлівую сілу чалавека.

— Таварышы,— сказаў на заканчэнне дырэктар,— ганаровае права зрабіць першы заезд мае пераможца ў леташнім уборачным сезоне Ігнат Раманюк.

Гатовага да працы камбайнера — быў на ім камбінезон, кепка на галаве — віталі дружнымі воплескамі. Здалося, Раманюк хацеў штосьці сказаць, ды толькі кіўнуў галавой — дзякуй, прымаю ваша вітанне,— і пайшоў да камбайна. Загуў рухавік, камбайн крануўся з месца і пайшоў, пайшоў, пакідаючы за сабой невысокую, пры самай зямлі, шчотку ржышча.

Хтосьці крануў Кастуся за плячо, ён абярнуўся — Ніла! Адной рукой яна трымала веласіпед, а другою папраўляла валасы, старалася ўкласці непаслухмяную пасму пад капронавую хустку.

— Еду на пасеку,— сказала яна.— Баялася на зажынкі прыпазніцца, ды не...

Зірнуў — і не мог адвесці позірку ад яе твару. Не сонцам, не святлом дня быў азораны твар — так святлее ад добрых думак, ад ціхай радасці, шчасця. Іх учарашняе спатканне з адкрытасцю, шчырасцю ў кожным сл.ве застанецца як нябачны масток паміж імі на ўвесь доўгі дзень — пра гэта падумаў Кастусь і гэта знаходзіў у вачах Нілы. Ціха сказаў ёй:

— Не сумуй там...

— Не. А трэба ўжо ехаць... Жадаю табе добрага дня.

Ён падзякаваў ёй позіркам. Ніла адышла, села на веласіпед і паціху паехала, паглядаючы туды, дзе набіраў свой разгон, свой спор камбайн.

«Жадаю добрага дня...» Гэтыя словы Нілы Кастусь успамінаў потым, успамінаў з усмешкай, бо сапраўды харошы выдаўся дзень, без тых прыкрых, малапрыемных хвілін, калі адзін клопат набягае на другі: нехта з трактарыстаў не выйшаў на работу, у некага стаў трактар, ды ніяк нельга знайсці няспраўнасць, а хтосьці вымушаны пасвіць варон, бо няшчаснага сальніка на складзе няма...

Але надвячоркам... Кастусь ніяк не чакаў таго, што здарылася. У добрым настроі ён зноў пакіраваў на матацыкле на поле — хацелася глянуць, што паспелі за дзень камбайны. Ён спыніўся там, дзе раніцай стаяў побач з Нілай. Поле выглядала ўжо інакш: доўгімі радамі на ім узвышаліся копы саломы.

І змяшаліся, збіліся пачуцці... «Блізка восень»,— падумаў Кастусь, упершыню за лета адчуўшы ў сабе той лёгкі сум, што заўсёды, штогод, несла яму стрэча з прыкметамі восені: ці то бачыў таполі, з якіх раней, як з іншых дрэў, пачынала ападаць лісце, ці пажоўклую на пагорках траву, ці першыя копы саломы на ржышчы. Ён любіў лета, яго фарбы, яго доўгі, як несканчоны дзень...

Побач спынілася машына, што вярталася з току да камбайнаў,—





Карнач, прачыніўшы дзверцы кабіны і высунуўшыся, колькі льга было закрычэў:

— Дзе Салавей?

— Што значыць «дзе»? А дзе ён мог падзецца? — выгукнуў Кастусь.

— Табе, брыгадзіру, і ведаць! Тут няма і на таку яго няма — шукай цяпер сам!

Карнач зачыніў дзверцы, і то быў сігнал шаферу — машына пайшла да камбайнаў.

«Што яшчэ за ліха? Што там магло здарыцца? Адладзілі трактар як мае быць...» Кастусь завёў матацыкл, паімчаў на машынны двор.

Рамонтнікі сказалі, што Салавей да іх не падыходзіў.

«Дзе яшчэ шукаць яго? Дадому можа завярнуў?» Кастусь праехаў па вуліцы — старая, што сядзела на лаўцы пад вокнамі Алесевай хаты, сказала, што яго, унука, бачыла толькі раніцай.

«На рэчцы? — мільганула ў Кастуся здагадка.— Ну, калі там...»

Ён зноў выехаў на гравейку і звярнуў з яе на прасёлак, што вёў да ракі — прашыўшыся праз алешнік, гэта дарога выводзіла на цвёрды, травяністы бераг. Тут Кастусь і ўбачыў сіні «МТЗ» з прычэпам, а Салавей плыў па сярэдзіне ракі стылем «брас» і ніколькі не здзівіўся, убачыўшы Кастуся.

— Давай сюды! — гукнуў-запрасіў ён.

— Вылазь, Алесь.

Алесь залыпаў вачыма, падплыў да берага.

— А што такое?

— Вылазь, калі наплаваўся.

— Наплаваўся! Во скура як на гусаку,— засмяяўся Алесь, выходзячы з вады. Паскакаў на адной назе, на другой, прыкладаючы далоні да вушэй. Спытаў: — Што, па мяне хіба?

— А то па каго? Хіба не ведаеш, дзе тваё месца?

— Ведаю. А хіба ўжо не абыходзяцца без мяне? Я толькі два разы і загружаўся, за машынамі не падступіцца да камбайнаў. Паглядзеў, паглядзеў, як шуруюць адна за адной, ды і сюды... Бо надакучыла, рабіць там няма чаго.

— А што табе загадана, Алесь?

— Ну, быць на полі, каб ніводзін камбайн не прастойваў, калі не падаспеюць на разгрузку машыны.

— Дык значыць, прастойвалі, калі Карнач цябе шукаў, а цяпер я...

— От халера...— Алесь вінавата заморгаў і палез у кабіну трактара.

Кастусь адпусціў яго далёка і толькі тады сеў на матацыкл. Падзівіўся з сябе: здавалася, раззлуецца, і моцна, на Алеся, а было адно самотна-прыкра на душы.

Спыніліся яны на полі, паблізу ад камбайнаў, амаль адначасова. Алесь вылез з кабіны, падступіў да Кастуся:

— Ну вось бачыш... Буду сачкаваць.

Кастусь бачыў: адна машына ішла побач з камбайнам, у кузаў яе вадаспадам сыпалася з выгрузнога шнэка зерне. Дзве другія машыны чакалі, калі напоўняцца бункеры камбайнаў. Ды момант такі настаў неўзабаве: яшчэ два камбайны выгрузілі зерне, і машыны адна за адной пайшлі на ток.

— Дык што, вартаваць цябе ці ўжо нікуды не з'едзеш? — кінуў Кастусь Алесю.

— Чаго там... Тут буду.

— Эх, Алесь, Алесь... Умееш ты настрой людзям псаваць.

— А ты будзь такі, як я! Ніколі не засумуеш,— параіў Алесь.

— Цябе вунь клічуць, шпар хутчэй да камбайна!

Алесь азірнуўся, убачыў, што з бліжэйшага камбайна рукой махае ім памочнік. І не надта борзда палез у кабіну трактара. «Ох, наждачок табе, хлопец, патрэбен». Прасачыўшы, як Салавей падкіраваў прычэп пад выгрузны шнэк камбайна, Кастусь завёў матацыкл. Больш трываць ён не мог: хутчэй змыць з сябе пыл, збіць, сагнаць гэтае раптоўнае адчуванне стомленасці, якой памалу насычаў яго незвычайна-святочны, добры і гарачы дзень.

## 12

Штовечар, вяртаючыся ў гасцініцу, прымушаў сябе Кастусь зрабіць запісы ў дзённіку вытворчай практыкі. Было, што прапусціў некалькі дзён, не адкрываў «гросбух», як называў ён дзённік, і даў сабе работы: запусці справу — на плечы каменем ляжа. З таго разу хоць нахапкам, за якія хвіліны, але стараўся занатаваць на вялікіх, падзеленых на графы, старонках, галоўнае са свайго клопату на працягу дня.

І сёння, адчыніўшы акно, паклаў на стол перад сабой дзённік, але... Плыў у пакой густы і вабны водар, ён дражніў, перабіваў думкі, і Кастусь не вытрымаў, кінуў ручку на стол і рушыў у сад. Гэты казытлівы пах ішоў ад наліваў, якія паспелі, набрынялі сокам і свяціліся ў лістоце, просячыся ў рукі. Многа іх пападала на зямлю, і Кастусь ступаў асцярожна, то падымаў яблык з травы, то адрываў каторы з голля.



І падышоў блізка да Іванавай хаты, два акны якой ужо віднеліся праз лістоту — на верхніх шыбах адбіваўся ружовасцю захад. Ціха было ў хаце, не чулася нават гукаў радыё, якое Іван ніколі не забываўся ўключыць.

Кастусь зайшоў у двор. Іван сядзеў на ганку, вочы ў яго невясёлыя — жартам на жарт ці азавецца...

— Наеўся я наліваў, Іван. А ты... усяго што паветрам дыхаеш?

— Не ведаю, чым ужо дыхаць, Кастусь... Ты сядай.

Кастусь сеў побач, асцярожна спытаў:

— Ну, хто табе жыцця не дае?

— А ўсё тое, Кастусь. Насця гне сваё, палірыць нас хоча. У яе хутка дзень нараджэння, вось і надумала... Дваццаць год ёй ужо будзе, хацела б яна адзначыць гэта як належыць. Ды і трэба, гэта ж дваццаць! Ну, думае сабраць усіх сваіх сяброў, і я, значыць, прыду. Я ёй кажу: «Ты яшчэ спытайся ў сваіх, ці захочуць бачыць мяне». А яна на гэта і разлічвае, што пад такое яе свята яны падабрэюць. Хаця б... А калі і падабрэюць, то я, Кастусь, не магу прыкідвацца. Сябрамі з яе бацькам мы не будзем, то як ісці да іх? А Насця — ледзь не ультыматум ставіць: «Паспрабуй не прыдзі!» Не хачу яе крыўдзіць, але, мусіць, давядзецца...

— Ну, дарэ ўрэшце,— няўпэўнена сказаў Кастусь.— Павінна ж і цябе зразумець.

— Ты вось разумееш.— Іван павярнуўся да яго тварам.— Уяві сябе на маім месцы... Ты пайшоў бы туды?

Іван прыкурыў ад недакурка новую папяросу. Твар яго ў гэты момант уразіў Кастуся: па дваццаць чацвёртаму ім, аднагодкі, а падалося, што Іван куды старэйшы: шчокі запалыя, над пераноссем дзве глыбокія, бы ў пажылога чалавека, маршчыны. І гэта ён умее так весела жартаваць, смяяцца?

Памагчы б Івану... Чым, як? Ці не найгоршы момант у жыцці: чуеш сябе дужым, моцным, здольным горы варочаць, а паспрабуй вось разагнаць яго змрочныя думкі...

«Але павінна знайсціся выйсце... Павінна... Не Івану б бедаваць, не яму,— думаў Кастусь.— Ён рук не апускае і не апусціць, хіба яму так і не знайсці свайго шчасця?..»

— Цёмна,— зірнуў Іван на неба.— А давай падскочым да Насці?

Іванаў «Іж» стаяў пад паветкай. Іван падняўся, знайшоў пруток, праверыў, колькі бензіну ў баку. Сказаў Кастусю:

— Бензіну хопіць.

На ганак выйшла цётка Вольга.

— Куды вы нанач?

— Праедземся,— адказаў Кастусь, бо Іван маўчаў.

— Ага, удвух весялей...

Кастусю падалося, што жанчына ведае, куды сабраўся Іван.

Вёскай не паехалі — выскачылі на гравейку. Ні людзей, ні машын — Іван шпарка вёў матацыкл. Праз некалькі хвілін пад'язджалі да Сасноўкі. І тут Іван не паехаў вуліцай, а скіраваў на сцежку, што бегла ўсцяж агародаў. І спыніўся.

— Пачакаем тут,— сказаў, узіраючыся ў купы дрэў, за якімі ўгадвалася хата.— Зараз Насця прыдзе.

— Як гэта? Дамаўляўся?

— Не. Калі дома, то яна нас чула. У яе слых на матацыкл настроены.

Прайшла хвіліна, другая... І дзесятая. Насця не паказвалася.

— Можа, зайшла да каго? Давай па вуліцы пройдзем, якраз сустрэнем,— прапанаваў Іван.

Падаліся да вуліцы вузкім — машыне якой ледзь прашыцца — завулкам.

Іван раптам спыніўся, падаўшыся бліжэй да плота. Шапнуў Кастусю:

— Ціха... Мо Насця дзе тут...

Ні шолаху ў садзе, ні крокаў... А галасы яны пачулі.

— Насця... На двары з кімсьці,— узрадавана прагуў Іван.— Падыдзем бліжэй, дам ёй знак.

Было штосьці займальнае ў гэтай іхняй прыхаванасці — Кастусь прыгадаў сваю вёску, сябе, падлетка, што вось гэтак вечарамі чакаў Зіну, аднакласніцу, да якой саромеўся заходзіць у хату... І разам з тым востра адчуў ён нядобрае ў гэтай скрытнасці іх — не зайсці ні ў двор, ні ў хату, не зайсці, маючы не пятнаццаць падлеткавых год, а ладную сталасць. Шкада было яму Івана ў гэтую хвіліну...

Яны спыніліся каля хаты, пры глухой сцяне. І чулі ўжо амаль што кожнае слова:

— А я мо ў горад праеду, прыкуплю яшчэ чаго... Хоць і свайго хапае, але каб не падумалі, што паскупіліся на прысмакі. Толькі танцы можна на двары ладзіць. Падлогу пафарбавалі, то нечага лішне таптацца...

— Мама, але я хачу запрасіць Івана. Як жа без яго?

— Івана? Гэта катарага? Бабка?

— Каго ж яшчэ...

— Не ведаю... Пытайся ў бацькі, што ён...

— Мама, усё можа рашыцца. Памажы мне... Скажы бацьку. Мо паслухае... Колькі ж мне чакаць, калі вы да яго пераменіцеся?

— Дарэмна ты чакаеш... Хочаш замуж, то хоць заўтра, ці мала хлопцаў.

— Што ты кажаш? Ніхто мне не трэба! Я цябе прашу... Не падай ты перад бацькам. Можа змірацца... Тады ўсё па-людску пойдзе.

— Гавары з ім. Ідзе вунь...

Было чутно: стукнулі дзверы. Кастусь зірнуў на Івана: пойдзем адсюль, так будзе лепш. Іван варухнуў вуснамі:

— Стой!

— Тата,— зноў пачуўся голас Насці.— Я хачу запрасіць Івана... Бо мне гэта не свята... усе будуць, а ён не.

— Запрашай каго хочаш, хоць усю вёску, я нічога не пашкадую... А пра Івана не кажы. Нагі яго тут не будзе.

— Тата... Я хацела, каб гэты дзень быў мне святам... Ты зразумей! Адзін такі дзень...

— А чаго мы табе шкадуем? Святкуй, калі тваё свята. Толькі не вядзі сюды ніякіх Бабкоў! Абыдзешся.

— Ты... ты...

Сцішэлы голас Насці пачуўся праз плач. Яна хутка, амаль бегма, прайшла па двары, крокі яе заціхлі недзе ў садзе.

Іван, таргануўшы Кастуся, пашыбаваў назад, у глыб завулка. Спыніўся, гукнуў:

— Насця... Насця...

Зноў яны спыніліся, дайшоўшы да прасла — за ім раскашаваўся бульбоўнік, тут Насцю адразу ўбачылі б, пакажыся яна з саду.

Яна не азвалася, не ішла. Кастусь чуў адно дыханне Івана — лёгка было ўявіць, што тварылася ў яго душы.

Зашаргацела голле паблізу, крокі... Насця выйшла з-за дрэў.



— Я з Кастусём, Насця... Ідзі сюды,— нецярпліва гукнуў Іван. Яна спынілася ля іх па той бок прасла.

— Я чула матацыкл...— Голас яе дрыжаў.— Прышла б раней. але...

— Мы... я... я ведаю. Я ўсё чуў. Пайшлі, не стойма тут.

Іван пераскочыў цераз прасла і, не зважаючы на Кастуся, прыхінуў яе да сябе.

— Не плач. Хопіць табе праз іх...

Яны выйшлі на дарогу: Кастусь — завулкам, Іван і Насця — разорою.

Кастусь не ведаў, што яму рабіць: ці пабыць з імі, ці адысці куды ўбок. Сказаў:

— Я прайдуся, пакуру.

— Добра, Кастусь,— згадзіўся Іван,— мы будзем тут.

«Чаго ты, Насця, чакаеш? Калі кахаеш Івана, ідзі да яго і ўсё,— думаў Кастусь.— Не дома тваё шчасце. А ім будзе пра што падумаць, ім варта падумаць...»

Ноч надышла ціхая. Густа пахла трава, а наймацней — палын; недзе высока ў небе ішоў самалёт — гудзеў слаба, нібы камар; ад вёскі даносіліся гукі музыкі, галасы, брынчанне вёдраў — усё чуў Кастусь, як праз якую заслону.

Было яму не па сабе сярод такога звыклага свету... А што, якая драбніца, якая праява жыцця магла цешыць, радаваць у гэтыя хвіліны Івана і Насцю? І колькі малых і вялікіх радасцяў адабрана ў іх — каму ведаць?

Ён не заўважаў бегу часу. Курыў, слухаў, думаў. Пачуўшы Іванаў вокліч, вярнуўся да іх.

— Пусцім Насцю спаць, няхай адпачывае,— прагаварыў Іван. Быў ён узрушаны, неспакойны — выдаваў сябе ў голасе: — Але скажы ёй ты, Кастусь... скажы, чаго ўжо чакаць? Якога ліха? Хопіць! Ты от ёй скажы!..

— Я думаў пра вас,— зірнуў Кастусь на Насцю, твар якой свяціўся зблізку мала як не ўдзень.— Не цярпеў бы я, Насця, не спадзяваўся. Трэба табе самой вырашаць, што рабіць. Ёсць рэчы, якія не звесці ў адно... Вырашай, і хутчэй, бо гэта не жыццё.

— Ну, ты чуеш? — Іван злёгку трасянуў яе за плечы.— Не застанешся ты адна!.. Ты са мною будзеш!.. І з людзьмі, мала іх, не раўні бацьку? Вось зараз пайшлі да мяне — і канцы ўсяму. Насця, ну?..

— Потым... Не спяшайся. Вы едзьце зараз,— прагаварыла яна. Вочы яе блішчэлі, і голас крыху ажыў. Яна дадала: — Будзе па-мойму. Толькі не трэба так... адразу.

Яна падала руку Кастусю, потым Івану. І хутка пакрочыла ў сад. Постаць яе неўзабаве знікла.

Іван завёў матацыкл.

## 13

Кастусь не пазнаваў Насцю. Не бачыў яе два дні, у яго ўяўленні яна заставалася гаротліва-сумнай, а тут, у полі, перад гуртам камбайнёраў, іх памочнікаў, шафёраў і рамонтнікаў, якія толькі-толькі паабедалі, яна была такою ж вясёлай, як у той вечар, калі пазнаёміўся з ёю. Нібы не было размовы з бацькам, нібы не было яе слёз... Белая кофтачка, вузкая чорная спадніца, лёгкі, хуткі крок — мужчыны пазіралі на яе з любаваннем. Сярод гледачоў, побач з ім, Кастусём,

сядзеў і Іван, ён пазіраў на Насцю па-свойму, задуменна-маўкліва. А голас яе звінеў:

— Дарагія таварышы! Мы ведаем пра вашы поспехі, пра вашу самаадданую працу на палях роднага нам саўгаса «Вербічы». Мы віншуем Ігната Аўдзеевіча Раманюка, які і сёлета трымае першынства ў сацыялістычным спаборніцтве камбайнёраў, і шафёра Дыбу Паўла Сяргеевіча, і трактарыста...— Насця запнулася — тым трактарыстам, каго трэба было назваць сярод першых, лепшых працаўнікоў на жніве, быў Іван Бабок,— і яна толькі зірнула на яго і дадала: —...мы віншуем усіх вас і жадаем вам яшчэ большых поспехаў! Гэты канцэрт мы падрыхтавалі для вас, у ваш гонар. Хачу сказаць, што многа часу ў вас мы не адбярэм. Спадзяёмся, што наш канцэрт спадабаецца вам! Свой верш, прысвечаны вам, працаўнікам палёў, чытае Святлана Лучок.

З гурту артыстаў, якіх было каля дзесяці чалавек, выйшла высокая бялявая дзяўчына. Кастусь пазнаў яе: гэта яна запытала ў яго, ці многа дзяўчат сярод студэнтаў інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі... Яна добра чытала верш. Кастусь пазіраў на яе і паглядваў на Насцю, што адышла да артыстаў. Цяпер не да яе была прыкавана ўвага, але нічога ад журбы, тугі не прабілася на яе твары. Яна аб'яўляла нумар за нумарам і заставалася ўсё такой жа ўзнёсла-вясёлай, жвавай. У Кастуся крыху адлегла ад сэрца — перажываў за Івана, перажываў за яе, Насцю, ды што ж, бачыў, што не надта паддаецца яна тузе, панылласці.

Гэтыя дзяўчаты і хлопцы, што чыталі вершы, спявалі і нават танцавалі пад спякотным сонцам, на зямлі, збольшага ўгладжанай коламі машын, парадавалі сваіх гледачоў. Яны закончылі свой канцэрт — і папыліў газік, павёз іх у Вербічы. А гледачы паспяшаліся да камбайнаў, машын, трактароў — поле чакала.

— Ну, Насцю я не пазнаваў,— прызнаўся Кастусь Івану.— Калі ў яе такі настрой, то не так усё яно страшна.

— Думаеш, яна сапраўды такая вясёлая? І не блізка, я то ведаю. Артыстка,— сумна сказаў Іван.

— Цяжка паверыць...

— Паверыш. Калі трэба, яна табе і смяяцца і спяваць будзе, хоць на вачах слёзы...

— Тады... гэта не што іншае, як сіла волі ў чалавека!

— Вядома. Ёсць яна ў яе, сіла волі. Калі трэба перад людзьмі быць вясёлаю, то знаходзіць сілу волі. А на што іншае... хоць пазыч ёй. Яна ўсе гэтыя вечары маўклівая, куды ні вядзі, свету не бачыць... І не магу яе ад гэтай нуды пазбавіць. Дзень нараджэння ў яе сёння. Давай арганізуем што вечарам. Ты, я, Насця, Ніла... дзе-небудзь на беразе ракі пасядзім. Можа і сапраўды павесялее?

— Трэба — зробім, Іван.

— Даваймa. Ты, папрашу, заедзь да маці, скажы... ад мяне скажы, каб тое-сёе падрыхтавала.

— Добра, Іван.

Недзе праз гадзіну Кастусь сядзеў перад цёткай Вольгай, піў халодны квас, якім яна пачаставала яго, слухаў яе:

— Люблю я Насцю, Кастусёк. Большага шчасця мне ўжо не мець, каб толькі пажаніліся яны ды ціха было. Але ці дачакаюся? Іван марнее, і я за ім. Часам ужо думаю, мо не суджана ім разам быць... Лягчэй пешкі зямлю абысці, як Антона, яе бацьку, пераўпарціць. Я змалада ведаю яго: за сваё з кім хочаш у сварку кінецца, з яго-то галавы



ні валасінкі не павінна ўпасці. От не магу ўсё забыцца... Ты сам не ведаеш, як пасля вайны жылося, але ж нехта расказваў табе...

— Ну як жа, бацька, маці...

— Дык от, людзям было хаця б у хаціну ўлезці, папялішчы тыя жытлом закідаць, а дзе ўжо дабром абжывацца? Няма з чаго... З вайны які мужчына вяртаўся, яму шынель ды гімнасцёрка служылі, а жанчынам горш было. Тады, у сорак пятым, дэмабілізаваны быў і Антон, з Германіі прыехаў. І пайшла чутка, што ён не з пустымі рукамі прыехаў, трантаў розных прывёз. А і праўда, пачаў ён прадаваць сукенкі, хусткі, каснікі. Аддавалі яму апошняе, абы адзежыну прыдбаць. Узяла ў яго ўсяго што хустку і Вера Грышанюк. Адразу не было чым заплаціць, мела яна на тую часіну зямлянку ды яблыню пры ёй. Так ужо берагла яна тую яблыню... дачка ў яе, Веры, была маленькая, кволае дзіця. Антон усё памінае: калі за хустку заплоціш? Просіцца Вера, каб пачакаў трохі, бо капейкі няма на тое. То што ён? Як яблыкі паспелі, пад'ехаў на кані, атрос іх амаль што да апошняга з адзінага таго дрэва і забраў. Не магу я на тое забыцца... А такі ён і сёння. Сквапны... Во дзякуй богу, Насця не па ім. Я сабе думаю, не з Антонам, а з Насцяй Івану жыць, то слова проці яе нічога не сказала і не скажу. Калі самі сойдуцца, то няхай бы і жаніліся.

— Ад Насці ўсё залежыць...

— Ад яе. Але і ад усіх, хто пры ёй.

— Хіба?

— Так, Кастусёк... Калі чалавеку трэба біцца, то супроць ворага лютага ён і сам люты. А за шчасце сваё пастаяць... не кожны ўмее. Ды яшчэ дзяўчо...

— Бадай-што,— згадзіўся Кастусь.

— Дык кажаш, вечарам збераcеся? То я паспею, усё прыгатую.

Іван радаваўся, як дзіця. Усё падабралася найлепшым чынам: і Насцю ўвечары знайшоў хутка, і Нілу нішто не затрымала ні на пасецы, ні дома, і ён, Кастусь, быў побач — надзейнае плячо яму, а маці пастаралася — сумка ажно трашчала ад прысмакаў. Адно што ноч не чакала: змрок апаў на зямлю.

— Дык можа не трэба вам нікуды ісці? Во ў хаце, пры святле, і пагулялі б? — спыталася цётка Вольга.

— Не! — рашуча сказаў Іван.— Сядзець у хаце?.. Мы там касцёр запалім — вось і святло. Так, Насця?

Што ні гаварыў Іван, які жарт ні кідаў — ва ўсім чуўся яго настрой. Нібы сёння ў яго самога быў дзень нараджэння, нібы ўсіх сабрала яго свята... Зрэшты, хіба жыццё Насці не было ягоным жыццём? Але сама яна не была ўжо такой прыўзнята-вясёлай, якой бачыў яе Кастусь на полі. І перад цёткай Вольгай, і ў тыя хвіліны, пакуль ішлі яны да ракі, была Насця задуменнай, журба прабівалася ў яе голасе.

Яны ўсё бліжэй падыходзілі да ракі, але не сышлі на самы бераг — спыніліся каля старога, з густою кронай дуба. Тут было высокае месца: куды ні павярніся, бачыліся агні. Яркімі кропкамі праступалі агні з боку Вербічаў і Сасноўкі, з боку шашы, дзе гулі машыны, і добра бачыліся агні далёкіх вёсак за ракой.

— Кажуць тут, пад гэтым дубам, спыняўся Напалеон. Цяпер мы,— абвясціў Іван.

Кастусь засмяяўся.

— Цікава, ці ўспомніць хто хаця б праз сто год, што тут спыняўся Іван Бабок са сваімі паплечнікамі?

— А мы самі? А нашым унукам хіба мы не раскажам пра гэты вечар? Абавязкова! А калі іншыя нічога пра нас не будуць ведаць...

гэта неістотна,— заключыў Іван. І ўжо без пафасу ў голасе дадаў: — Размяшчайцеся, дзяўчаты, а мы з Кастусём пашукаем ламачча. Без кастра нам сапраўды не ўседзець тут, заядуць камары.

Хутка вогнішча падняло свае чырвоныя языкі ўгору, а Ніла і Насця расклалі на белай сурвэтцы ўсё, што прынеслі ў сумках.

— Прашу слова,— сказала Ніла.— Мне, між іншым, яно належыць па праву нашага сяброўства, якому ўжо трынаццаць год. Нягледзячы ні на што, цябе, Насцечка, я лічу шчаслівым чалавекам: ты любіш людзей. Гэта шчасце, якое ў цябе ніхто не адніме. І жадаю табе такою і заставацца ўсё жыццё!

— Дзякуй, Ніла. Якой жа яшчэ мне быць? Без вас усіх прапала б я,— сказала Насця.

— Не прапала б і не прападзеш! Не з тых мы. Хіба не так, Кастусь? — вымавіў Іван.

— Толькі так! Будзь шчаслівай, Насця!

Кастусь трымаў свой келіх: «Ах ты, Насця, Насця... Быць не можа, каб не памаглі мы табе, каб не знайшла ты той смеласці ў сабе, якой так чакае Іван. Быць таго не можа...»

Ён перавёў погляд на Нілу — яна кіўнула яму, яна разумела яго... Ярчэў агонь вогнішча — і загарэлы твар яе рабіўся бледным, спадаў агонь — і ў чырвоных водсветах твар Нілы смуглеў.

— Мы марсіяне,— усміхнуўся Кастусь.— Між іншым, у нас, у студэнцкім інтэрнаце, шмат спрачаліся пра тое, якія яны з выгляду, іншапланетныя істоты. Марсіян, нажаль, няма, але мы з Аркадзем... гэта мой таварыш, верым, што недзе ёсць нам падобныя. І вельмі падобныя.

— Як сказаць,— кінуў Іван.

— Можа і лепшыя, як мы,— сказала Насця.

— Якія б яны ні былі, але ў разумных істот абавязкова будзе і сваё гора і свае радасці,— прамовіла Ніла.

— Гэта так. Але галоўнае тое, што там у іх пераможа,— дабро ці ліха якое,— зазначыў Іван.

— У разумных павінен перамагчы розум,— дадаў Кастусь.

Насця задуменна-пільна зірнула на яго. Нібыта хацела аб чымсьці ў яго спытаць...

Яна падышла да яго, калі яны ўсе шукалі сушняку — у цемры, каля ракі, знайсці сухое голле было няпроста.

— Косця... Адзінец разумны чалавек? — раптам запытала Насця.

— Па-свойму,— няпэўна адказаў Кастусь.— А чаму ты яго ўспомніла?

— Калі ён усё разумее, то як не ўкароціць рукі майму бацьку? Чаму не паставіць яго на месца? Ён жа ім, Адзінцом, усюды казырае. І цягне, цягне, што толькі можа.

— Па Адзінцу гэта дробязі, Насця. Я сам хачу, каб ён убачыў усё, узважыў... У мяне то з тваім бацькам адносіны, ведаеш...

— Ён цябе не ўзлюбіў. А каго не ўзлюбіць, я тых паважаю. Ну, пойдзем. А то агню вунь не відаць, ці не пагас касцёр?

— Не пагасне!

## 14

Ранішнюю цішу над Вербічамі парушылі грымоты. Яны і пабудзілі Кастуся. Прыўзняўшы ад падушкі галаву, ён прыслухаўся: няўжо навальніца? Раскацісты грукат пачуўся зноў. Шумеў неспакойна сад, па шыбах забарабанілі кроплі дажджу. Дождж набраў сілы ў адно



імгненне. Кастусь падышоў да акна, што ўсю ноч было адчынена — халодныя пырскі абдалі грудзі, твар.

— Лівень,— сказаў уголас.— Прыгнала-такі...

Дождж бушаваў з паўгадзіны, потым перастаў. А неба не праяснялася, ад густой хмарнасці раніца выдавала надвячоркам.

Надзяваючы плашч, Кастусь пачуў крокі і галасы ў калідоры. У пакой услед за Іванам зайшла цётка Вольга.

— Бачыў? Раса не лягла — і не трэба барометраў,— сказаў Іван.— Толькі не чакаў я навальніцы.

— Нядобрая навальніца,— цётка Вольга кінула пагляд у акно.— Ранішнія, яны не самі па сабе, статкам ходзяць. Праз увесь дзень ачомацца ці дадуць... Пагуляць вам, хлопчыкі, сёння.

— Нам-то работа будзе,— сказаў Кастусь.— А вось камбайнам ці не стаяць давядзецца...

— Дзень вялікі, і неба вялікае... Пабачым, як будзе,— сказаў Іван.

Цётка Вольга засталася ў гасцініцы, а яны пайшлі на машынны двор. Скрозь па вуліцы, дзе толькі была выбоіна, стаялі лужыны, вільгаць і холад чуліся ў паветры.

— Запамятаю я гэты дзень, Кастусь,— прагаварыў Іван.— Надвор'е, яно заўжды ў палосачку, то штыль, то заштарміць, але... Першы дзень на дваццаць першы год у Насці — і такі...

— Знаходзіш нешта сімвалічнае?

— Не. Але думкі наганяе... Хацеў бы я ведаць, што з намі праз год будзе...

На машынным двары людзей сабралася ўжо нямала. Кастусь і Іван падышлі да гурту, у якім быў Раманюк. Мужчыны курылі, гамонка ішла невясёлая — не чакай, відаць, пагоды.

— Начальства не паяўлялася? — спытаў Кастусь.

— Раней нас,— адказаў Раманюк.— Паехалі на поле глянуць. Будзе палёгвіцы, мусіць... На спелы колас такая бура.

Далёка распырскваючы ваду з лужын, у двор імкліва ўляцеў газік. За рулём сядзеў Адзінец. Ён першы выбраўся з машыны, за ім Мікуліч, парторг саўгаса, і Карнач. Іх чакалі, і яны падышлі да гурту.

— Ну што там, на полі? — пачуліся нецярплівыя галасы.

— Ячмень, можна сказаць, выстаяў, а жыта палегла. Не скрозь, ды багата дзе,— адказаў Мікуліч.— Пшаніцу меней прыбіла, ды ёсць. Сёння, значыць, дабіраем пшаніцу. Калі дажджу больш не будзе, то павінны ўправіцца.

— У тым і дзела — калі дажджу не будзе,— сказаў нехта.

— Будзе не будзе, а час нам не марнаваць,— загаварыў Адзінец.— Хачу, таварышы, папярэдзіць. Касіць, як і касілі, будзем на нізкім зрэзе. Хуткасць трымаць адпаведна. Сцяблоўздымальнікі стаўце на кожны трэці палец рэжучага апарата. І яшчэ. Абароты барабана трэба адрэгуляваць, улічваючы вялікую масу вільготнага сцябла. І не забывайцеся чысціць рэшата, падбарабанне, клавішы саломатрэса. Толькі гэтак, бо самі разумееце...

Неўзабаве разышліся ўсе да камбайнаў, да трактараў.

Да Кастуся падышоў Шумскі. Кастусь здзівіўся — упершыню, стаўшы каля яго, Шумскі прапанаваў свае цыгарэты. І ён не супраць быў закурыць, але адмовіўся ад цыгарэты.

— Прапаў дзень,— сказаў Шумскі. Пакруціў галавою, пазіраючы на неба.— Прапаў...

— Бывае,— коратка кінуў Кастусь, гадаючы, куды Шумскі павядзе размову.

— Вазьму трактар,— усё гэтак жа стоячы бокам да Кастуся, прамовіў Шумскі.— Як нудзецъ ад чаканкі, то справа зробіцца...
— Якая... справа? — спытаў Кастусь.
— Шулы трэба дамоў прывезці. Перакупіў у аднаго... Каторы дзень не збяруся праехаць.
— Трэба дык трэба. А далёка вам...
— Недалёка. Гадзіну-другую адно і затрымаюся,— не даў Шумскі дагаварыць Кастусю.
— Дык вось, далёка ці блізка, ды трэба зайсці вам у бухгалтэрыю,— дагаварыў сваё Кастусь.
— А... на ліха яна? — На вуснах Шумскага мільганула ўсмешка.
— Функцыі бухгалтэрыі, па-мойму, усім вядомыя.
— Вядомыя то вядомыя, але па такой дробязі...
— І па такой. І хачу вас папярэдзіць, што будзе не інакш і надалей.
— Як надалей, гэта пабачым.— Шумскі зазлаваў.— А сёння дарэмна я цябе зачапіў. Начальства многа і без цябе... Але от ты... Што ты з гэтага выйграеш? Што табе, хлопец, ваду муціць, калі ты тут госць... пабыў і збыўся навек? Відаць, птушка ты яшчэ тая... абы паздзекавацца з чалавека!
— Выйгрыш мой не вам ведаць! А паздзекавацца... гэта ўмееце вы. І з чужых і са сваіх умееце. Гэта і здзек, калі вы жыццё людзям паламаць гатовы. Гэта здзек, запамятайце!
Шумскі нібы не разумеў, на што намякаў Кастусь. Потым азірнуўся — ці не чуе хто? — і загаварыў з ухмылкай:
— Вунь ты пра што... Ясна цяпер. Займеў прыяцеля і за яго мне помсціш? А чаго ён варт, прыяцель твой? Яшчэ ў зяці меціць... Не яму раўняцца да мяне, гаспадару недапечанаму. У заступнікі рвешся... Не хапаўся б надта, не табе тут свае парадкі наводзіць.
— Мае парадкі з тых, што вашы не церпяць. Быў я тут ці не быў, а толькі і не вам свае наводзіць.
Кастусь павярнуўся і пайшоў да матацыкла. «Вось так, Станіслаў Сяргеевіч... Ён вам на галаву гатовы сесці, а вы яшчэ і падтрымаеце. Я гэтага рабіць не збіраюся».
Ён выехаў з двара і павярнуў на гравейку: збіраўся праехаць да трактарыстаў, глянуць, як там Салавей...
Вецер — чуў усім целам Кастусь — перамяніў напрамак: раніцай дзьмуў з усходу, цяпер — з поўдня. І там, на поўдні, з-за небасхілу выплывала злавесна-чорная хмара, яна забірала паўнеба, кінуўшы наўкол прыцемак,— прыгаслі фарбы палёў. Успыхвалі маланкі, але грому пакуль не было чуваць. «Ці не лівень зноў... Але паспею»,— падумаў Кастусь, хутка коцячы па дарозе.
Іван Бабок быў бліжэй як хто да дарогі, да яго Кастусь адразу і падкаціў. Іван спыніў трактар, скочыў долу.
— Ці ўсё ў парадку, Іван?
— Ходзім пакуль, лушчым... Парадак, можна сказаць. Вось толькі курыць хачу. Так узрадаваўся, цябе ўбачыўшы.
Кастусь дастаў з кішэні цыгарэты.
— Бяры сабе ўвесь пачак. А як Алесь, не бастуе?
— Назіраю за ім. Заўважыў быў, хуткасць ён перабраў. Едзем у адзін бок, хоць далекавата, а, бачу, наперад выходзіць. Ну, спыніў яго, сказаў, што гэта не лушчэнне...
— Праеду да яго.
— Спяшайся. Навальніца лезе вунь. Маці праўду сказала... Улупіць дождж, то давядзецца зматваць вуды, колы і так дзе-ндзе вязнуць. Ох, дурны дзень...



— Ды ўжо ж,— кінуў Кастусь.— Ну, будзь!
Пракаціўшы па дарозе, ён з'ехаў на ржэўнік, наганяючы Салаўя. Той не спыняўся, пакуль Кастусь не параўняўся з трактарам.
— А я думаў, не дагоніш! — пракрычаў, па-блазенску ўсміхаючыся, Алесь.
— Сяджу, Алесь, на «Іжу»! Ну, што ў цябе, дыскі не скачуць, як гладуны па вадзе?
— Не ім танцаваць!
— Глядзі. Цішэй едзеш — глыбей возьмеш.
Буйныя кроплі дажджу раптам ударылі па руках Кастуся, па галаве. Ён разгублена ўзняў позірк угору — хмара сваім краем пачала як бы прыстрэлку, але прыстрэлка гэта імгненна змянілася густымі, цяжкімі струменямі.
— Лезь да мяне! — гукнуў Алесь.
— Ну і лінуў! Б'е па загрыўку, як толькі хоча,— прамовіў Кастусь, мосцячыся на сядзенні побач з Алесем.
— Сячэ! Як з прорвы якой,— ахвотна падтакнуў той.
— Не выйсці камбайнам... І вецер такі... Палёгвіцы яшчэ больш наробіць,— сказаў Кастусь, чуючы, як гудзе за кабінай.
— А калі было без дажджоў? — Алесь з радасна-прасветленым тварам узіраўся за вокны.— Вечарам аціхшэе, то рыба будзе лавіцца. Ох, будзе брацъ! Пайду, яшчэ і сома падчаплю. Муці сёння ў рацэ будзе, а ён гэта любіць.
— Вуды ў цябе нішто, Алесь?
— Хваліцца не буду. Але ёсць чым лавіць. От сома люблю ўпалявацъ. Толькі не проста браць яго.
— Ведаю, Алесь. Сам хадзіў на сома. Было... Чарвякоў пяць-шэсць на дванаццаты ўкавырну, ён тут і падыдзе. Смокча, смокча, забіраць пачынае... Схапіў, павалок— тут ужо памучышся! Рукі самлеюць, усе жылкі дрыжаць...
— Ага! — радасна выгукнуў Алесь.— Вось-вось, здаецца, твой, а ён абарвецца, у ціну, пад адвал шасне. Ух, думаеш, гад.... Аж сніцца потым! — Пасмяяўшыся, Алесь прапанаваў: — А давай разам сёння на сома?
— Ці змагу? Планёрка сёння.
— А ты сарвіся з той планёркі. Абыдзецца, што там!
Зусім не наіўнасць адбілася ў вачах Алеся.
«Вось адкуль і тыя прагулы, і ўсё, чым ты няславіў сябе, хлопец»,— сумнавата падумаў Кастусь. І спытаў:
— А як ты, Алесь, трапіў у механізатары?
— Не рваўся. Гэта Сяргей Матуз усё хацеў хутчэй восьмы клас закончыць, каб у вучылішча паступіць. А я не думаў пра тое вучылішча.
— Пра што ж думаў?
— З'ехаць куды, а там знайшоў бы нешта па сабе... Дык Адзінец умяшаўся. Сустрэне і даваў угаворваць, каб у вучылішча мы падаваліся. У школу заходзіў і бацьку сказаў, а той таксама націскаць пачаў. Лётчыкам, кажа, ці будзеш, а трактар павядзеш. І хлопцы цягнулі, так і апынуўся ў вучылішчы.
— Трактар, значыць, не па табе...
— Што тут цікавага? Тарабаніш штодня на поле, і ўся музыка. Механізатар... Ого! Нібы не абы-што. Ты на важным участку, за табой вялікая адказнасць. А на гэтым важным участку можа працаваць

хто толькі захоча. Кожнаму дзверы адчынены. Вось каб рабіць нешта...— Алесь шчоўкнуў пальцамі,— нешта такое, каб другі глянуў і вачыма залыпаў!

— Гэткае, здаецца, у цябе здаралася,— не ўтрымаўся ад усмешкі Кастусь.

Алесь не пакрыўдзіўся:

— Я не пра тое...

— Разумею. Тут табе работа не золата. Значыць, можна абы-як? Няцяжка ўявіць: ты ўзяўся рабіць нешта іншае, ды, глядзіш, і тое не па табе, то зноў абы-як? Так і прывыкнеш... Па-мойму, любіш не любіш, а ўзяўся, то рабі як след. Загартоўка табе, Алесь, у гэтым сэнсе патрэбна. Інакш і на што ахвочае цярпення ў цябе не хопіць.

— Загартоўка... А ў цябе яна ёсць?

— Мусіць жа, ёсць...— Кастусь паслухаў дождж — лівень нібы сціхаў. Раптам сябе малога ўспомніў Кастусь: ля кароў пад такім вось дажджом...— А пачыналася ўсё, бадай, даўно. Маці будзіць карову пасвіць, хочацца спаць, ды ўстанеш... І ці мала што не пад ахвоту было? Іншы раз па холадзе і ў школу не хацелася бегчы, ды адтупаеш усе тыя кіламетры. І задача якая не даецца, а сядзіш, пакуль не рошыш. Ці мала што ў цяжар было... Затое цяпер, у інстытуце, неяк само сабой усё робіцца. Ты ведаеш? За пяць гадоў у заліковай кніжцы павінна стаяць сто дзесяць... сказаць толькі — сто дзесяць! — подпісаў выкладчыкаў. Усё экзамены, залікі. Да кожнага трэба падрыхтавацца...

— Пасівець можна...

— Можна,— згадзіўся Кастусь.— А ці не ў лётчыкі ты хацеў падавацца?

— Не адмовіўся б.

— Не позна. Табе яшчэ ў армію ісці. Але стаць лётчыкам... усяго сябе ты павінен будзеш перабудаваць. Пачынай, браце, тут, на гэтым «Беларусу».

— Ён мяне трасе... Душу вытрасае,— прамовіў Алесь і замоўк.

Маўчаў і Кастусь, зірнуў улева, на поўдзень. Небасхіл паяснеў, прабілася за хмарамі блакітная палоска. Дождж сыпаў дробны, верх кабіны ўжо не грымеў.

І перастаў дождж. Алесь павярнуўся да Кастуся:

— Дык можа парыбалім разам? Калі выпадзе табе?

— Калі выпадзе,— зазірнуў Кастусь у сінія вочы Алеся. І, адкрыўшы дзверцы, скочыў долу.

— Не ляці там,— крыкнуў наўздагон Алесь.— Слізгота.

Кастусь махнуў яму рукой:

— Ногі ёсць, не паваліліся!

Кастусь завёў матацыкл, паціху паехаў па размяклым ржэўніку да дарогі. І зноў успомніў пра Адзінца.

«Няхай Алесь не такі работнік, як Шумскі. Але і Шумскі... Не, Станіслаў Сяргеевіч, як паля гнілая, то мост не трымае...»

## 15

«...Вельмі хачу вас пабачыць. Хутка практыка мая ўжо заканчваецца. А пакуль што ў мяне ўсё добра, не хвалюйцеся. Абдымаю вас, ваш сын Кастусь».

Паставіўшы дату, ён перачытаў ліст. Зірнуў у акно — і здзівіўся: па дарожцы лёгка і хутка ішла Ніла. Светлая суконка, белыя басаножкі, без хусцінкі на галаве — значыць, з дому. Ён паспяшаўся насустрач.

— А я на пасеку хацеў ехаць. Як ты тут?

— Бацька прыехаў. Мне перадалі — і я адразу дамоў. А цяпер па цябе.

— Ісці да вас? — Кастусь збянтэжыўся.— Чалавек з дарогі толькі...

— Пайшлі! — Ніла засмяялася.— Я ж пісала яму пра цябе. Няхай і цябе памучыць, бо ўсё распытвае ў мяне пра брыгаду, а ці я тое скажу, што ты? Ён чакае нас.

Як ні стараўся Кастусь трымацца спакойна, ды даймала хваляванне, калі падыходзіў да хаты Стасевічаў. Думаў пра бацьку Нілы, хацеў сустрэцца з ім, а такая вось неспадзяваная сустрэча...

Рыгор Сцяпанавіч быў на двары — сядзеў на лаўцы пры штакетніку, пад голлем старой антонаўкі. Як і чакаў Кастусь, убачыў ён мужчыну немалога росту, шыракаплечага, але хударлявага, з маршчыністым тварам. Уразілі Кастуся вочы Стасевіча: у іх, цёмнакарых, таілася тая пільная ўвага, не заўважыць якую нельга... І бровы ў яго чорныя, і валасы, яшчэ густыя, той чарнаты, што не паддаецца сонечным праменням. Знешнасцю не па ім, не па бацьку, пайшла Ніла — уся ў маці ўдалася.

— Тата, гэта і ёсць цяперашні брыгадзір,— сказала Ніла.

Стасевіч падаў Кастусю руку.

— Ну-ну, чуў пра вас...

— Добрае ці... благое?

— Калі праўду кажуць, то благім не свеціць...

Кастусь сеў на лаўку, а Ніла падалася ў хату, сказаўшы, што пакідае іх ненадоўга. Стасевіч павярнуўся да Кастуся, спытаў:

— Як працуецца?

— Памалу. А вы... як сябе адчуваеце?

— А нішто... Сваё адлежаў, хопіць. Трохі падправілі мяне, зноў паваюем... да наступнага разу. Забыцца б хутчэй на той шпіталь... Сяджу ў сваім двары, вокны перад вачыма, ганак, а нешта не адпускае... нібы зараз укол будуць рабіць, а там нанач укладвацца трэба.

— Дзень-два — і забудзецеся на той рэжым,— сказаў Кастусь.

— Заўтра падыйду ў брыгаду. Рамонту многа?

— Па трактарах. Камбайны ходзяць добра. Увогуле і па трактарах не больш рамонту, як звычайна, але людзей цяпер малавата...

— Гэтак у жніво заўсёды... Дзесяць камбайнаў ды столькі памочнікаў — трэба сабраць... Мне пакуль што не хадзіць надта, але ў майстэрні нешта змагу рабіць. Ага... а як жа Раманюк маецца?

Раманюк... Першы, каго ўспомніў Стасевіч. Мусіць, так і павінна быць, калі яны здаўна прыяцелі, таварышы... Кастусь сказаў:

— Часта вас успамінае. Працуе... Пачынаў зажынкі і не здае пазіцый, па намалоту пакуль усіх абышоў.

— Колькі выходзіць?

— Каля дваццаці шасці цэнтнераў.

— Добра, гэта добра...— Стасевіч раптам спахмурнеў.— Ну, а Скакун не даламаў трактар?

— Мала заставалася... Сачу за ім, трымаю кантроль... Ужо нібы не муляецца, на штодзённым доглядзе ўсё зробіць, што належыць.

— А ён такі... Спусці вока, то, як ёсць, і паехаў з двара. З лянотай хлопец. Ёсць парода. Ты яго ў адзін бок, яна, лянота — у другі. Гады прамінуць, пакуль будзеш біцца з ім...

— Ды трэба...

— Вядома што... Але ведаю, браток, і такіх: змалада не вымаў рук з кішэняў і памёр, не вымаючы.

Кастусь засмяяўся:

— І ў нашых Красевічах знойдзеш такога.

За брамай у гэты час спынілася машына.

— Хто гэта там? — Стасевіч устаў, але не ступіў і кроку, як веснiцы расчыніліся і ў двор увайшоў Адзінец, а ўслед за ім дырэктар саўгаса Дзянісаў.

— Нарэшце, нарэшце, Сцяпанавіч,— зводдаль загаварыў Адзінец, усміхаючыся Стасевічу так, як усміхаюцца доўгачаканаму госцю.

— Як жыў, Сцяпанавіч? — Дзянісаў доўга не выпускаў рукі Стасевіча.— Зачакаліся мы цябе...

— Вырваўся... Сам трываць не мог,— узрушана прагаварыў Стасевіч.

З хаты выйшлі Ніла і яе маці. Адзінец і Дзянісаў павіталіся з імі, а тыя запрасілі ўсіх у хату. Кастусь падумаў, што яму лепей бы сустрэцца з Нілай пазней, і позіркам сказаў ёй пра тое, але яна кранула яго за руку, і праз хвіліну ён ужо сядзеў у хаце за накрытым сталом паміж Адзінцом і Нілай.

Адзначыўшы чаркай прыезд Стасевіча, разгаварыліся пра жніво.

— Праблема ў нас сёлета не зусім звычайная, Сцяпанавіч,— гаварыў Дзянісаў, па звычцы сваёй раз-пораз моцна сціскаючы вусны.— Ты памятаеш, сяўбу і азімых, і яравых правялі ў найсціслыя тэрміны. І што ні вазьмі — жыта, пшаніца, ячмень — усё паспела ў адзін час. Першыя два дні выбарачна ўбіралі, а потым дзе ні кранi колас — пара, пара... Яшчэ б нам два камбайны, і абышліся б прамым камбайнаваннем. Ну, але пусцілі жняяркі, і, можна сказаць, страт пакуль што няма.

— Вось казалі мне, дажджы даліся ў знакі,— прагаварыў Стасевіч.

— Вядома, даюцца,— загаварыў ужо Адзінец.— Але мы тыя гады дарэмна выстойвалі за дажджамі, сонца чакаючы. Паспрабавалі, Сцяпанавіч, так: нават пасля моцнага дажджу не тры-чатыры гадзіны чакаем, пакуль сонца ці вецер падсушыць, а паўтары-дзве, не больш. Цяжэй з вільготнай масай, гэта так, але сваё бяром.

— А хто ж то думку падкінуў? — спытаў Стасевіч.

— Друг твой, Раманюк,— адказаў Адзінец.— Чалавек ён спакойны, але дажджы яго выводзілі з цярпення. Паспрабаваў неяк скора за даждом, пайшло ў яго, а за ім і ў іншых. Сушым адразу, на прыёмачным прэтэнзій да нас не маюць.

— То ў тэрмін і ўпраўка, бадай, будзе? — зірнуў Стасевіч на Дзянісава.

— Гэта яшчэ пад пытаннем.— Дзянісаў зноў сціснуў вусны.— Я наведваўся да суседзяў, у «Рассвет». Яны са жнівом раней, як мы, управяцца. Перахопім у іх адзін-два камбайны, то таксама па днях укладзёмся.

Гаспадыня дагэтуль маўчала. Але як толькі Стасевіч сказаў, што заўтра пойдзе на рамонт, пачала ўшчуваць яго — хваробе вярнуцца не доўга, тым больш, што ўрачы наказвалі многа не хадзіць.

Ніла падтрымала маці:

— Татка, ты характар свой хоць трошачкі змяніў бы.

Стасевіч прыўзняў рукі.



— Вы бачыце, як яны ў мяне падбяліліся? Страх глядзець — як у нябожчыка. Ды што рукі... душа па рабоце знецярпелася. Чытаў крыху, за тэлевізарам выседжваў, у даміно ляскаў, а спакою не меў я там... Ат, ды што казаць...

— Разумею вас,— зірнуў Дзянісаў на гаспадыню і Нілу,— разумею і Сцяпанавіча. А ведаеце,— штосьці ад летуценнасці адбілася на яго твары,— я вось успамінаю сябе. Я некалі думаў, што траплю ў авіяцыю. Але, так выпала, лётчыкам адваяваў і заставаўся лётчыкам у вайсковай, пакуль узрост дазваляў. Палюбіў неба, а пра зямлю марыў. Душа селяніна, што ты скажаш... Там, у небе, любіш кожную травінку, кусток зялёны, успамінаеш пах кропу, сена... І хочацца, так хочацца сваё яшчэ на зямлі адрабіць. Развітаўся з арміяй і адразу ў абком, адразу... Дня не адгуляў, мая ажно зазлавалася... «Хоць бы на курорт з'ездзіў, адпачыў». Нічога не хачу, хутчэй бы па полі прайсці, штодня бачыць яго, чуць пад нагамі... Так у вас і апынуўся. І адарві мяне сёння ад зямлі... не, ніхто і нішто ўжо, пакуль сэрца не здасць. Тое і ў Сцяпанавіча. Амаль чатыры месяцы без работы... гэта многа. Але ты, Сцяпанавіч, глядзі, каб не пашкодзіць сабе. Бяры па сіле...

— Так і зробім. Пахаджу на рамонт, пакуль Кастусь тут будзе. Хаця, можа, Кастусь хацеў бы перадаць мне ўжо брыгаду? Не натаміўся?

— Што пра гэта гаварыць? Работа...— сказаў Кастусь.— Ці столькі яшчэ будзе.

Дзянісаў задумліва зірнуў на яго. Спытаў:

— Пасля заканчэння інстытута ў якой старане хацеў бы асесці?

— Не ведаю,— няпэўна сказаў Кастусь.

— Давай да нас прыязджай,— сказаў Дзянісаў.

Адзінец — нечакана для Кастуся — падтрымаў дырэктара:

— Прыязджай! Нам, сам ведаеш, патрэбен інжынер на пасаду галоўнага механіка. Арыентаваліся б на цябе...

— Нечакана ўсё гэта... і так адразу не проста абяцаць,— прамовіў Кастусь.

— Падумай, падумай,— згадзіўся Дзянісаў.— Гаспадарку нашу ты ведаеш, людзей таксама, то ўгаворваць цябе не трэба. Вырашай сам.

Адзінец і Дзянісаў не сталі заседжвацца — пайшлі, пажадаўшы Стасевічу хутчэй набрацца здароўя. А яго, Кастуся, Ніла завяла ў свой сад. Пачынала цямнець. Кастусь прыхінуў Нілу да сябе, пацалаваў.

— Ну вось,— засмяялася яна.— Навошта я цябе сюды вяла, калі ты на яблыкі не глядзіш?

— Іх многа, а ты адна...

— Хіба мы так рэдка сустракаемся?

— Мне здаецца, не часта...

— Адвыкай часта бачыць. Скора паедзеш.

— Буду прыязджаць...

— А што ты...— нясмела спытала Ніла,— а што ты адкажаш ім, Адзінцу і Дзянісаву?

— Яшчэ не ведаю,— шчыра сказаў Кастусь.— Ведаю толькі адно...

Ён замоўк, і Ніла прыклала палец да яго вуснаў:

— Ну?

— Ведаю тое, што мне не захочацца быць ад цябе далёка.

Ён моцна абняў яе. Цішыня стаяла наўкол. Падалі, шэргаючы па лісці, б'ючыся аб голле, яблыкі...

## 16

Раніцай Кастусь убачыў тое, што і чакаў. Адным з першых прыйшоў Стасевіч на машынны двор, і хто ўжо ні паяўляўся, абавязкова падыходзіў да яго. А за ўсмешкамі, поціскамі рук, роспытамі пра здароўе як не кожны гаварыў Стасевічу нешта пра сябе. «Мая меншая тасама паляжала ў бальніцы...» «Канчаю, Сцяпанавіч, хату, скора наваселле згуляем». «Лёнька мой у водпуск прышоў, сержантам ужо...» Штосьці шчымлівае прахапілася ў грудзях Кастуся, калі да Стасевіча падышоў Раманюк, калі не ўтрымаліся яны, абняліся пры народзе — усяго на нейкі момант, а потым пазіралі ў твар адзін аднаму, не знаходзячы слоў. «Ваявалі разам,— ціха сказаў нехта. — Раманюка самога пашчыпала кулямі, не надта і ён дужак».

І Баброўскі, сухаваты, скупы на ветлае слова Баброўскі заўсміхаўся Стасевічу і таксама пытаўся пра здароўе, а потым загаварылі пра работу — і нечакана для Кастуся паскардзіўся гэты цягавіты чалавек, што заціскае яго работа, дыхнуць няма калі. Хіба трэба было яму, каб хтосьці яго пашкадаваў, паспачуваў? — ніколі за Баброўскім не заўважаў Кастусь такога жадання. Перад Стасевічам прабілася яно...

А павесяліў яго, Кастуся, Іван Бабок, як і самога Стасевіча. Падляцеў, загаманіў, засмяяўся:

— Па боку, Сцяпанавіч, той шпіталь! Няхай нашы ворагі з іх не вылазяць, а мы тут віражыць будзем! Павароты, развароты — толькі паспявай запраўляцца, на якары стаяць няма калі.

— Што, Іван, гэтым часам робіш? — спытаў Стасевіч.

— Цяпер на лушчэнні. Камбайн прайшоў, а за ім трактару дарога... У адну прамую — то вакол свету абяжыш. Ды тут у мяне куецца, не плешчацца. Ну, а дзе па курсу і мель, і рыфы...— Іван на міг пасумнеў, ды закончыў жыва: — Пройдзем і там, Рыгор Сцяпанавіч! Ужо назад не павернем.

— Ведаю, Іван... На цябе яно не падобна, ты не павернеш.

Не цярпелася Стасевічу падысці да камбайнаў, агледзець сваім вокам кожны. Вока ў яго было пільнае: адразу заўважаў, якія ланцугі трэба мацней зацягнуць, які пас падрэгуляваць, дзе больш змазкі даць... Хадзіў Кастусь з ім ад камбайна да трактара, ад станка да станка ў майстэрні і ўсё больш пераконваўся: тут ён быў гаспадар, вельмі і вельмі патрэбны ўсім.

У майстэрні Стасевіч і застаўся, а Кастусь выйшаў і, убачыўшы Адзінца, падаўся яму насустрач.

Штодня цяпер паказваўся Адзінец раніцай на машынным двары. Сёння, было прыкметна, не збіраўся затрымлівацца. Азіраючы двор, спытаў у Кастуся:

— Ну, што тут бяжыць, што ляжыць?

Нічога не кажучы, Кастусь падаў яму заяўку на запасныя часткі.

— Кісларод... дыск счаплення... галоўка блока... рэдуктар... Набралася... Дзе Баброўскі?

— Паехаў з «лятучкай» у Жарцы.

— Тады паедзеш са мною ты. Выклікае мяне ўпраўленне. Магу там засядзецца, тым часам усё на базе аформіш.

Па шашы да раённага цэнтра — каля трыццаці кіламетраў. Адзінец вёў газік з хуткасцю, якую ніколі, як заўважыў ужо Кастусь, не перавышаў: стрэлка спідометра трымцела на лічбе шэсцьдзесят.

— Чаму не хутчэй? — пацікавіўся Кастусь.

— Увайшло ў звычку. Пры такой хуткасці менш стамляюся. А табе б усё гнаць? — усміхнуўся Адзінец. І потым дадаў: — Рваўся некалі і я... ці ехаць, ці рабіць, абы хутчэй... І гузакоў папанасіў. Балючыя часам былі. Але з гадамі выйшаў, як гаворыцца, на аптымальны рэжым.

— І гузакоў паменела? — не ўтрымаўся ад кплівай ноткі Кастусь.

Адзінец адчуў гэтую нотку, з дакорам зірнуў на Кастуся: блазнуеш, маўляў, ды дарую, што з маладога ўзяць... Адказаў міралюбна:

— Не з рукі ўжо іх набіваць. Але і не абысціся без іх. Ды толькі таму, што нехта не ў тваім рэжыме працуе. Вось і праз цябе маю...

— Як гэта? — падзівіўся Кастусь.

— Ты Шумскаму не даў трактара, а ён вечарам да мяне. І так, і гэтак, абрэж хлопцу кіпцюры... Непрыемная была размова.

— Чаму дазваляеце так з сабою гаварыць?

— Ну, так склаліся адносіны... Але ж ты ведаў, што я з ім па дробязі гандаль не стану весці, мог бы не заядацца з ім.

— Станіслаў Сяргеевіч, у гэтым мы адзін аднаго не зразумеем.— Кастусь угледзеўся ў доўгі рад бяроз, што імкліва, адна за адной адбягалі назад.

— Зразумеем! Абавязкова зразумеем,— сказаў Адзінец.— Ты думаеш, я пад дырэктарава слова запрашаў цябе прыязджаць да нас? Не, сам гатовы за руку цябе ў саўгас прывесці. Ты мне падабаешся, твая энергія, твой запал — тое, што трэба. Будзем працаваць разам, і я гатовы буду ў нечым уступіць табе. І вось чаму, скажу адкрыта: з цягам часу разбежак між намі стане менш. Будзем разумець адзін аднаго з паўслова. Трошкі вопыту табе трэба, блізкага майму, і ты ўжо не лебедзь, я не шчупак... параконкай будзем цягнуць. І многа пацягнем, многа. Работы процьма ў саўгасе. Калі толькі, выбачай, не станеш шукаць лёгкай.

— Не шукаў і не буду. Але параконка з нас, Станіслаў Сяргеевіч... ці атрымаецца?

— Гэта гаворыць твая няўрымслівасць. Яна ад маладосці. Цвярозы розум табе яшчэ нажываць.

— А што гэта, па-вашаму, цвярозы розум?

— Можна доўга гаварыць, а можна і коратка. Скажу табе так: здольнасць рэальна глядзець на рэчы. І зыходзіць не з уласнага памкнення, не з капрызу свайго, а з сукупнасці абставін. Якія б яны ні былі, а ты здолей вывернуцца, павярнуць іх на карысць справе.

— Здольнасць рэальна глядзець на рэчы... Гэта, калі меркаваць па вашых адносінах да Шумскага, і здольнасць на нешта закрываць вочы? Адкрывай, закрывай... Атрымоўваюцца нейкія прыцемкі, Станіслаў Сяргеевіч. І так жыць?

— Злосны ты хлопец, Кастусь. Але не будзем сварыцца, не да таго. Давай лепей закурым.

Закурылі. Адзінец маўчаў, маўчаў і Кастусь. Думаў: «Жыццёвы вопыт у вас, Станіслаў Сяргеевіч, багаты, хоць пазайздросці... Дапусцім, у мяне яго, жыццёвага вопыту, некалі будзе не менш. Але не ўяўляю сябе падобнага да вас...»

Пакуль ехалі, сонца падымалася ўсё вышэй, а белыя аблокі на небасхіле знікалі, сплывалі кудысь. Дзень абяцаў быць пагодлівым, гарачым.

Адзінец спыніў газік каля сквера, навокал якога скрозь размяшчаліся адміністрацыйныя будынкі.

— Управішся — падыходзь сюды,— сказаў ён Кастусю. — Нам хутчэй бы дамоў,— зірнуў на неба,— сёння не выседжвацца.

Адзінцу да ўпраўлення ісці было блізка — лічаныя крокі, Касту-

сю да «Сельгастэхнікі» — крыху далей, за некалькі кварталаў ад сквера. Ён заспяшаўся, прыпыніўшыся толькі каля газетнага кіёска. На хаду і прагледзеў газеты, запыніўшы ўвагу на прагнозе надвор'я: дажджу сіноптыкі на бліжэйшыя дні не абяцалі.

Каля будынкаў гандлёвай базы «Сельгастэхнікі» стаяла некалькі грузавікоў, легкавушка. «Людзі не спяць у шапку. А што нам перападзе?» Кастусь накіраваўся ў кабінет групы попыту.

Больш гадзіны прайшло, пакуль хадзіў ён з кабінета групы попыту на склад, са склада ў бухгалтэрыю, пакуль знаходзіў патрэбнага чалавека. А потым каля гадзіны, седзячы ў скверыку паблізу ад машыны, чакаў Адзінца. Той выйшаў з упраўлення спатнелы, перш чым сесці ў машыну, зняў пінжак, гальштук, закасаў рукавы кашулі. Сеў, паклаў рукі на баранку і тады загаварыў:

— Усё тое ж... Рацыянальнае выкарыстанне тэхнікі. Стараемся, як жа... Што ты выхадзіў?

— Кіслароду балон, дыск счаплення, пальцы. Больш нічога.

— Няма, значыць? — Адзінец спахмурнеў.— Добра, завернем туды яшчэ раз.

Праз хвіліну Адзінец спыніў газік каля гандлёвай базы «Сельгастэхнікі».

— Пасядзі. Я зараз.

Марудна цягнуліся хвіліны. Кастусь махаў газетай перад тварам, потым вылез з машыны, прайшоўся туды-сюды, каб менш даймала гарачыня. Лісце на дрэвах знерухомела: пройдзе машына, толькі тады яно страпянецца і зноў замірае — як заміраюць раніцой мітуслівыя начныя матылі.

Адзінец нарэшце падышоў да машыны.

— Цяпер можам ехаць дамоў,— стомлена сказаў ён.

Хутка вырваліся з духаты вуліц на шашу.

Тугія струмені паветра ўрываліся праз адчыненыя вокны ў кабіну, віхурыліся, асвяжалі твар — Кастусь ажно павесялеў. Павярнуўшыся да Адзінца, які засяроджана пазіраў наперад, спытаў:

— А што паабяцалі вам на базе?

— Заўтра ці паслязаўтра падвязуць наканечнікі цяг.

— А ўсё астатняе калі будзе?

— Усё астатняе ёсць. Трэба падаслаць каго-небудзь на склад.

— Ёсць? І рэдуктар і галоўка блока?..— Кастусь, здзіўлены, пазіраў на Адзінца.— Цікава...

— Цікава? Я думаю... Як жа, табе не перапала, а мне адразу...— Адзінец усміхнуўся.

— Разумею. Я — гэта я, а вы — Адзінец, якога ўсе ведаюць. Але хіба для вас яшчэ адзін склад запчастак трымаюць?

— Ніхто не трымае. Пайшоў да Доўгага... гэта намеснік загадчыка базы. Сказаў яму: трэба! Знайшоў.

— Дзе ён мог знайсці, калі гэта не сакрэт?

— Які сакрэт... Па разнарадцы з аднаго калгаса не забралі рэдуктар і галоўкі... Доўгі аддаў мне.

— Мусіць, не паспелі забраць?

— Ды, мусіць...

— Вам не здаецца, што...

— Не здаецца! — Адзінец не чакаў, пакуль ён дагаворыць.— Справа, Кастусь, перш за ўсё! І хто там не паспеў забраць рэдуктары, няхай вучыцца паваротлівасці. Мы зараз жа адрамантуем трактары і пойдуць яны рабіць. А ці гарыць там яшчэ ў каго, гэта невядома...



— Ну, свая кашуля бліжэй да цела,— з відочнай іроніяй кінуў Кастусь.

— Свая, але не ўласная, заўваж. Розніца ёсць. І таму не спяшайся з прысудамі. Саўгасу трэба шмат, і тут не варонь. І падыдзеш, і падмажаш, абы з носам не застацца. Я разумею, як бы ты хацеў. А калі не заўсёды выходзіць? Падумай вось пра што. Тое, што нельга фарсіраваць сёння, з цягам часу само сабой перастае быць праблемай. Час... ён наш добры памочнік... Прыдзе пара, абжывемся і запчасткамі і шмат чым... Карацей, што мне ясна, як на далоні, у цябе пад пытаннем. А хопіць, браце, і больш сур'ёзных пытанняў.

— Хопіць, вядома... Вы шчыры, Станіслаў Сяргеевіч, буду шчыры і я. Мне падабаецца, што вы так неабыякавы да работы, да сваіх абавязкаў. Падабаецца ваша дзелавітасць,.. але ў гэтай дзелавітасці шмат таго, чаго мая душа не прымае. З вамі працаваць — па-вашаму і дзейнічаць, вы да гэтага мяне падводзіце. А ў мяне заўжды ўсё па-свойму... Са мною вы не адзін гуз наб'яце, то ці варта вам браць мяне ў памочнікі?

Адзінец прымружыў вочы. Зірнуў на Кастуся. Кінуў з усмешкай:

— А бадай, трэба яшчэ падумаць...

Імчаў па чорнай гарачай стужцы асфальту газік. Стаялі на шашы людзі. Пазіралі на машыну, бачылі: сядзяць у ёй двое. Блізка адзін ля аднаго...

## 17

Высокай чорнай сцяной выступаў лес па правым беразе ракі, памерклым, адпалаўшым сонцам вісела па-над лесам поўня — у цьмянажоўтым святле яе прывіднымі здаваліся постаці Івана і Алеся, што стаіліся над вудамі зусім непадалёк ад яго, Кастуся. Рыба любіць цішыню, і яны маўчалі, не перагаворваліся, пакуль каторы з іх не выцягваў ляшча ці мянька. Найменш шанціла Кастусю, але што з таго — ён рады быў гэтай начной рыбалцы.

Ні Івану, ні Алесю не давялося надта падахвочваць яго — прапанаваў Алесь падацца на патаемныя яго мясціны, і ўжо цемнатою паімчалі яны на матацыклах, па дарозе завярнуўшы на хвіліну на пасеку. Яны ведалі, што дзядзька Максім, вартаўнік, прыхварэў, і Ніла павінна была начаваць на пасецы, а, як заўсёды ў такіх выпадках, Ніла папрасіла Насцю пабыць з ёю. Ім, дзяўчатам, яны, рыбакі, паабяцалі прывезці ўлоў — які ні будзе, а на юшку хопіць. Нацягалі ўтрох з дзесятак ладных ляшчоў і мянькоў, і Іван спытаў ужо, ці не пара ім зматваць вуды.

Ён, Кастусь, разумеў Івана: хутчэй бы да Насці... А ён думаў пра Нілу, пра сябе... Чамусьці вось тут, у начной цішы, у гэтым лясным кутку, дзе раней ніколі не быў, праняло яго вострае адчуванне скорага расстання з Нілай, з Вербічамі, з полем, што бачыцца яму, толькі заплюшчы вочы, з гэтым лесам... Калі на першым часе не лічыў, колькі прайшло дзён у Вербічах, то цяпер кожны дзень быў яму як дарунак. І чуў ён радасць у сабе, кідаючы позірк на лес, на цёмную, размежаную серабрыста-жоўтым паскам роўнядзь ракі, на постаці хлопцаў...

— Хлопцы... хлопцы! — загалёкаў раптам Алесь.— Ёсць!.. Узяў!..

Кастусь не ўтрымаўся, кінуўся да Алеся. Падышоў і Іван, нетаропка, як не верачы, што Алесю пашанцавала. Але ўбачыўшы, як дугой выгінаецца вудзільна ў руках Алеся, захваляваўся:

— Трымай!.. Гні вудзільна!.. Папасі яго!..

Ніхто з іх не ведаў, што там трапілася на кручок, але не было сум-

ненняў у сіле рыбіны. Алесь кідаўся па беразе то ў адзін, то ў другі бок, толькі б не паслабіць леску — вымарваў рыбіну.

— Ганяй, ганяй... Замаруся я, а ты хутчэй. Не сарвешся, сябра, кінь дурыць,— прыгаворваў сабе Алесь на зайздрасць Івану і Кастусю.

Рыбіна ўрэшце падышла пад бераг, стаілася ў аеры. І тут убачылі, што гэта не карп, як думалася Кастусю, а сом — не з вялікіх, ды ладнаваты.

— Трымаю, лезьце ў ваду, выкідайце!— закрычаў Алесь.

Іван прамарудзіў — Кастусь першы па калені ўлез у ваду, і, прасунуўшы рукі пад сома, выкінуў яго на бераг.

— Бач ты, кілаграмы на тры смела пацягне,— сказаў Іван.

— А што? Вы сабе лешчыкаў цягаеце, а я думаю: быць не можа, каб сомік не сеў! Сеў. Здагадаўся, што я яго чакаю. Лупач вусаты! — Алесь з любасцю ляпнуў далоняй сама па спіне.— Ну, лезь цяпер у сумку... Дык паехалі, хлопцы? Што нам тут яшчэ рабіць?

Сабраліся хутка і паехалі. Іван з Алесем рушылі наперадзе, ён, Кастусь, трымаўся за імі, пад'язджаючы да іх часам зусім блізка, калі Іван знячэўку тармазіў. «Пераскочу да цябе!» — весела-пагрозліва крычаў Алесь. Удалая рыбалка — шчаслівы чалавек...

Ніла і Насця не трацілі часу дарэмна: паблізу ад вагончыка, на палянцы паміж маладых елак запалілі вогнішча. Не да вагончыка, а на агонь і пайшлі, злезшы з матацыклаў, рыбакі са сваім уловам.

Дзяўчаты, расчырванелыя, разамлелыя ад цяпла, ускочылі на ногі: ну, ці не пасмяяцца нам з вас, рыбакі? Іван падаў Насці сумку з рыбай:

— Трымай. Не паваліся хаця ж...

Насця недаверліва ўзяла сумку ў руку, але, адчуўшы цяжар, падзівілася:

— Ты бачыш, Ніла? Нешта ёсць...

— А вось што! — Алесь узяў сумку і выкуліў рыбу ў траву. Сом плёхнуўся блізка ад ніліных ног, і яна адскочыла: спалохалася.

Са смехам і жартамі чысцілі рыбу, варылі юшку. І з апетытам елі — недзе пад поўнач.

— Я там паранага гароху падсыпаў учора, ведаў, што і сёння лешчыкі на гарох ласыя будуць,— гаварыў Алесь.

— Рыбак ты, Алесь, хоць куды,— хітравата зірнула на яго Насця.— Але я не магу зразумець... няўжо ты не можаш адкласці рыбалку, калі трэба выступаць? Колькі разоў было: усе ўжо збярэмся, пара ехаць у Камейкі ці Залессе, ці Выжары, чакаем цябе — няма.

— Дарэмна я ў артысты запісаўся. Калі ведаю, што рыба клюе, стаяць недзе на сцэне ды песні спяваць? Уратуй мяне бог,— падняў Алесь рукі ўгору.

— Ой, Алесь, сапраўды ратаваў бы ты сябе. Ці ж можна людзей падводзіць? — насядала на Алеся Насця.

— Як сказаў Абламаў, трэба падумаць.

— Трэба, Алеська, трэба,— засмяялася Ніла.

Вочы яе блішчэлі, шчокі ружавеліся. Кастусь узіраўся ў кожную рыску яе, быў шчасны яе весялосцю, жвавасцю. А калі адыйшлі яны ад вогнішча, Ніла прамовіла з непакоем у голасе:

— Ні я, ні мама не бачым... Скажы ты, што робіць бацька ў майстэрні? Учора паўночы не спаў... Кажа, проста сон не бярэ, а мо гэта нага яму спакою не дае?..

— Вось уся і бяда, што там, Ніла, работы шмат. Рамонт... гэта ж усё на нагах. Нешта падніме. Сілай браць шмат што даводзіцца. Я гэта бачу і гаварыў яму, але дарэмна... Вы ўжо націсніце, хай бы яшчэ адпачыў.

— Слухаць слухае, а робіць па-свойму... Як гэты Алесь.

— З Алесем лягчэй. Ён апошнім часам на рабоце конікаў не выкідвае... можа і зразумеў тое-сёе... А бацька твой і сам разумее ўсё, але не можа без работы.

— Адзін — уцякаў бы ад яе, другога — не адарваць,— з самотай у голасе вымавіла Ніла.

Яны выйшлі на дарогу перад пасекай. Па гэтай дарозе ці аднойчы ўжо хадзілі... Лес шчыльнай заслонай уздымаўся па-над ёй з аднаго боку, і шырокі абшар поля прыцінаў з другога. Набягала на месяц хмарка — і ў густым змроку патаналі абшары, адкрываўся твар месяца — і поле праглядалася далёка праз сіне-жаўтаватую смугу.

— Ці не застацца нам у вас? Да раніцы? — сказаў Кастусь.— І адразу тады на службу... Не ў такую ноч спаць!

— І потым увесь дзень кляваць носам? — кінула Ніла.

Але ці жадала і яна хуткай ростані? Яны доўга не вярталіся да вогнішча. Раптам адыйшло ўсё, што вымагала слоў, размовы — Кастусь абняў Нілу, і не адхінулася яна, не адвяла вуснаў...

— Гэй, Ніла, Кастусь! — пачулі нарэшце Алесеў голас.

Яны вярнуліся на палянку. Вогнішча мала не згасла. Алесь стаяў, пазяхаў.

— Іван і Насця панеслі ў вагончык талеркі,— сказаў нехаця.— Прачнуўся — адзін палюю. Вам добра, а мне хутчэй бы ў ложак.

— Сядзеш са мною, я цябе хутка дадому давязу,— сказаў Кастусь.

— Едзем ужо, Алесь,— сказаў, падыходзячы з Насцяй Іван.— Прыхопім яшчэ пару гадзін да раніцы.— І зірнуў на Нілу: — А то, калі баіцеся чаго, застанемся?

— Гэта мы з Насцяй? Не смяшы, Іван,— адказала Ніла.

Дзяўчаты прайшлі з імі да матацыклаў. Развіталіся — і пакацілі хлопцы ў Вербічы, і бачылі дзяўчаты плямкі святла на дарозе, пакуль не перавалілі матацыклісты за ўзгорак.

Алесь трымаўся за Кастусёвы плечы, галавой прыхінуўся да яго спіны. Яны скаціліся па доўгім пакатым схіле з узгорка, і Кастусь зноў прыбавіў «газу», каб не адстаць ад Івана, але той нечакана спыніўся, з'ехаўшы на край дарогі.

— Што такое? — спыніўся і Кастусь.

— Стойма! Зірні вунь туды, лявей,— паказаў Іван на поле.— Нешта не тое там...

Узняў галаву Алесь:

— Конь, здаецца... Ат, блудны які, паехалі, хлопцы.

— А калёсы ты не бачыш? — кінуў Іван.

Кастусь прыўзняўся... Каня ён ужо добра бачыў, і спярша падумаў, што конь стаіць каля капы саломы, але прыгледзеўшыся, зразумеў, што то былі калёсы. І чыясь галава, падалося, мільганула па той бок калёсаў.

— Чакайце, я пайду гляну,— сказаў Іван.

Ён адышоў мо на дзесятак метраў, і тады Алесь скочыў з сядзення на дарогу.

— Пайшлі! Цікава, хто там пасецца?

Кастусь мружыў вочы:

— Сапраўды, сярод ночы... Не рыбу ж тут вудзяць.

Яны падаліся ўслед за Іванам, дагналі яго.

— А но, падла... а каб цябе...— данёсся да іх мужчынскі голас.



А. ВЯРЭЙСКІ. Новая дарога. (РСФСР.)



М. ДАНЦЫГ. Мой горад старажытны, малады.



**В. КІРЭЕЎ. Жаночы партрэт.**



**С. БАБІКАЎ. Каспійскія рыбакі.** (Туркменская ССР.)

Моўчкі ішлі трое, гучна шарахцела ржышча пад нагамі, і чалавек, што падганяў каня, абышоў яго спераду, нібы знарок, кажучы тым, што не хаваецца.

— Шычка, вартаўнік палявы,— сказаў Іван.

— Ён,— падтакнуў Алесь.

Падышлі, спыніліся.

— Здароў, дзядзька. Памагчы, калі не цягне? А ну давай, хлопцы...—Іван ухапіўся за драбіны, але дарэмна: Шычка сцебануў пугай каня, і той ірвануў з месца.

І зразумеў у гэты момант Кастусь, што дзядзькавы пануканні былі знарочыстыя, што ён, пачуўшы рокат матацыклаў, не хацеў выпінацца на дарогу і не хацеў вось цяпер, каб Іван крануўся рукамі таго, што было пад саломай.

Іван не разгубіўся, у два крокі нагнаў калёсы.

— Тррр... Чаго ўжо, дзядзька Шычка, спяшацца, калі ён так цягне,— гучна сказаў Іван.

— Ды я не ўцякаю, не падумай,— з лагодай загаварыў Шычка.— Чаго там... Во ўкінуў саломкі, колькі тут яе... На раз карове падаслаць.

Шычка павярнуўся ўжо тварам і да Кастуся і Алеся. Бачыў, і не аднойчы, Кастусь гэтага чалавека. Год пад пяцьдзесят яму, у дужасці яшчэ, а чым здзіўляў — вось будзе ісці міма, ногі твае агледзіць, а ў твар не зірне. Стаяў перад імі ў кепцы, ватоўцы, ботах, і цяпер нібы ўзіраўся ў яго, Кастуся.

— Дзе гэта вы гуляеце?

— Мы на рыбалцы былі... А што гэта ў цябе за парасяты пад саломай, га, дзядзька? І чаго гэта ты іх у мяшкі пазапіхаў? — Іван раптам перамяніў голас, знікла ў ім насмешка: — Зерне тут, хлопцы. Вось так... Лічыце як хочаце.

— Ну што, калі зерне? З Камеек еду, у сваяка ўзяў. Вінен ён мне быў, от сваё і забраў. Ты, Іван, не намякай, калі не ведаеш,— спяшаўся гаварыць Шычка, прымякчаючы зласнаватасць у голасе.

— Ад сваяка? Ноч схавае ад людзей, а салома ад дурнога вока? Не хітруй, дзядзька.— Іван павярнуўся да Кастуся: — Што рабіць будзем? Байкі слухаць няма калі.

За гэтым поўным чыстых, светлых хваляванняў вечарам, за раднаснымі думкамі пра Нілу, як добра было б паверыць дзядзьку. Але не верылася. Адказаў Івану спакойна:

— Трэба разабрацца. Не нам тут зводзіць канцы з канцамі. Едзем на цэнтр, а там участковага паклічам.

— Цяпер гані, дзядзька, свайго каня. Спыніцца — паможам,— сказаў Іван.— А ты, Алесь, бадай, каці на маім матацыкле да ўчастковага, будзі яго. Чакайце нас каля канторы.

— Добра,— з гатоўнасцю адказаў Алесь.— Хутчэй будзе, а то і не паспіш сёння...

Алесь падаўся на дарогу, але тут Шычка гукнуў яго:

— Чакай, хлопец, чакай! Чуеш, прашу цябе! Іван, паслухай мяне, затрымай яго. Я табе два словы скажу, аднаму табе... От ты пабачыш на ліха ўсё яно, ты пабачыш... Паслухай, Іван!

Дзядзька гаварыў так умольна, што Іван махнуў рукой:

— Прайдзі, Кастусь, і ты да дарогі. Пагляджу, чым брацЬ будзе.

Кастусь падышоў да Алеся. Той стаяў разгублены. Вымавіў:

— Калі міліцыі баіцца, то ясна... Папаўся. Пра яго даўно казалі... даўгарукі, але ніхто не ўлавіў. На нас наскочыў... А каб мы раней паехалі?.. І ўсё, ніхто б і не ведаў.



— Калі такі ён, Алесь, то да пары да часу... Не на нас, то на каго іншага нарваўся б.

— А той і вочы ў бок... Хіба так не бывае?

— Бывае... А што, і нам адвярнуцца?

— Хаця б! Ды паеду я, чаго чакаць?

У гэты час пачулі гучны Іванаў голас:

— Кончана! Паганяй.

Калёсы рушылі да дарогі. Іван хуткім крокам падышоў да хлопцаў.

— Едзь, Алесь, а мы за ім...

Алесь подбегам кінуўся да матацыкла. Трэск матора разнёсся ў цішыні, Алесь ірвануўся з месца, імкліва паімчаўся у бок Вербічаў.

Смуглявы твар Івана ў святле месяца здаўся Кастусю бледным. Іван быў усхваляваны. Закурыў, не прапанаваўшы папяросу Кастусю, хутка, таропка зацягнуўся раз, другі.

— Што ён гаварыў табе? — спытаў Кастусь.

— Прасіўся, круціўся, а потым... апошняга козыра кінуў.

— Якога ж?

— Першы злодзей — Шумскі. Па дамоўленасці ў іх... Шумскі высыпаў з бункера, гэты падабраў. Ну, тым і спрабаваў узяць... Насцін бацька, не ўзрадуецца яна... Калі будуць судзіць, то і яго, Шычку, і, кажа, цесця твайго.

— Пахне ўсё гэта судом. А не хлусіў Шычка? Не нагавор?

— Не. Больш яму не было чым крыць. Але той... Ну, ты падумай, ты падумай... Што рабіць!.. Колькі Насці зноў слёз...

Не пра Шумскага — пра Насцю думаў і Кастусь, і было шкада яе, шкада, калі праўду сказаў Шычка. Бацькаву ганьбу будзе чуць яна, за бацькаву ганьбу будзе расплачвацца доўгімі днямі болю, скрухі...

Шычка тым часам вывеў каня на дарогу.

— Ты давай памалу едзь, а я пайду пры кані на ўсякі выпадак,— сказаў Іван. І дадаў, не шукаючы іншых слоў — як падумаў: — Вынішчаць іх, гадаў, трэба. Ох, гадаўё!..

Ён пакрочыў проста сярэдзінай дарогі, якая бралася ўгору, і постаць яго вырастала, шырэла на фоне неба, закрываючы сабой чалавека, што ступаў пры кані.

Жоўты круг месяца ападаў за раку.

## 18

Зноў бязлітасна пякло сонца. Ад раніцы да вечара неба было яснае ад краю да краю, праз увесь дзень ні хмара, ні аблачынка не набягала на сонца. Пакуль ехаў, вольна і лёгка дыхалася Кастусю, а спыніўся — і кашуля прыліпла да спіны, і адразу захацелася схавацца куды ў цень. Тут ценю не было — поле навокал, высяцца на ім толькі копы саломы ды сціртa, яшчэ невысокая, яшчэ і падоўжыцца ёй, і шырэць, і забіраць угору. Ад гулу трактараў звінела ў вушах, усе яны, тры, якраз згурціліся, ды вось два зноў павярнулі да бліжэйшага раду копаў — як было ім, хлопцам-трактарыстам, як трывалі яны гадзіну за гадзінай пад гэтым пякучым сонцам? Адзінае, што крыху ратавала Івана ад гарачых сонечных праменняў — саламяны капялюш. Іван другі дзень працаваў на стагакідзе, усяго і вопыту, але быў ужо спрыт у яго моцных руках, толькі спёка давалася яму — злез Іван з трактара, і зблізку ўбачыў Кастусь твар ягоны: па ілбе, на шчоках ручайкі поту, кроплі поту аселі ў бровах. Спачатку далонямі, а потым рукавом кашулі правёў Іван па твары і спытаў:

— Што там чуваць?

— А нічога асаблівага... Я толькі з майстэрні. Стасевічу памагаў на рамонце.

— Насці не бачыў?

— Не, Іван, каб што, ужо адразу сказаў бы...

— Піць хочацца. Халоднай бы... Калі надта не спяшаешся, мы вось што...— Іван задуменна-напружана зірнуў у бок Сасноўкі.— Вада вадою, набяры, дам табе біклажку... Але ведаеш, завярні ты да Насці. Яна, пэўна, дома будзе... Як яна там? Адна недзе... Дабро, Кастусь?

Кастусь кіўнуў. Адчуваў, што на душы ў Івана. А той шыбануў да трактара, дастаў з-пад сядзення нязменную, нямала паслужыўшую і людзям і яму, Івану, алюмініевую біклагу. Кастусь узяў біклагу, кінуў:

— Чакай. Я скора...

Гэтыя дні былі яму сумней ад усіх, пражытых у Вербічах. Даліся па-свойму размовы пра адно і тое: вёў апытанне ўчастковы міліцыянер, потым на тыя ж пытанні трэба было адказваць следчаму, і кожны больш-менш знаёмы стараўся дазнацца, як яно было ў сапраўднасці, бо людзі чаго не навыдумляюць. Але найцяжэй было ад думак пра Насцю. Чутка, што Шумскі меў дачыненне да пакражы, адразу разышлася па Вербічах. Сам ён, Антон Шумскі, паводзіў сябе, як і не ведаючы пра тое: прыходзіў раніцай на машынны двор, з заклапочаным выглядам увіхаўся каля камбайна і не раней і не пазней, як заўсёды, выпраўляўся ў поле. І перад участковым, і перад следчым ён сцвярджаў, што Шычка паклёпнічае на яго. А Насця... Яна гэтыя дні не паяўлялася ў Вербічах. Івану толькі раз удалося сустрэцца з ёю. «Слова не выцягнуць. Цямней хмары»,— адно што сказаў Іван яму. Пра што магла думаць яна? Ці мала што прыйдзе ў галаў, ці мала пра што магла ўздумваць яна, але пра бацьку... Як ты ні жывеш сярод людзей, якую павагу ад іх ні маеш, але такой ганьбы не меў. А як жа хадзіць, пазіраць у вочы людзям, калі памечаны ты ганьбай, на якую ніхто не забудзецца, якую ўспомніць кожны, ледзьве трапіш ты на вочы, успомніць раней, чым падумае пра цябе што іншае. Ты прайшоў па вуліцы, табе глянуць услед: «Злодзей...» Ты зайшоў да некага ў хату — і бачыш у вачах запытанне: «Чаго табе трэба?» Дзе ні павернешся ты сярод людзей — ніхто слова не кіне, але кожны ўспомніць: «Ты той...» І не выбіцца табе з гэтага чорнага кола, не ступіць за мяжу, бо пазначана яно не рысай, не тычкамі якімі, а памяццю людской... Гэтак думаў пра Шумскага ён, Кастусь, і хіба не такія думкі пра бацьку даймалі недзе Насцю?

Але насуперак гэтаму меркаванню набегла раптам думка, ад якой стала яшчэ цяжэй... А калі затаіла Насця крыўду — на Івана, на яго, Кастуся, крыўду за тое, што не адступіліся яны ад таго Шычкі? Памянуў ён такое прозвішча — Шумскі — і ім трэба было адвярнуцца, забыцца на ўсё, што бачылі...

Калі ёсць у яе такая крыўда, то не з тою Насцяй сустрэцца яму, якую ведаў. Не з тою...

Спыніўшыся каля хаты Шумскіх, Кастусь зняў з багажніка біклагу, падаўся да весніц. Перад весніцамі прыпыніўся. Не простае даручэнне даў яму Іван... Але ён і сам хацеў убачыць Насцю, і як хутчэй — здавалася, нешта адразу азначыцца ў яго настроі, у яго думках пра яе.

Ці дома яна? Ён адчыніў весніцы і зачыніў іх за сабою. Павольна, крок за крокам, пайшоў да ганку, паглядаючы на вокны.



Ён не дайшоў да сенцаў, як з хаты выйшла Насця. У руцэ — чамадан, на ёй — лёгкая, без рукавоў,— як на луг пабегчы,— сукенка, капронавая хустка на галаве. Ён няўцямна пазіраў на Насцю, і гэтак жа, не зводзячы вачэй, пазірала на яго Насця, але як бы і не здзівілася, што бачыла яго на сваім двары.

— Добры дзень, Насця.

— Добры...

— Я тут недалёка быў... Папрасіў Іван вады прывезці яму... І вось, да цябе...

— Вады? Набяры,— сказала яна, паказаўшы вачыма ў кут двара.

Там, убаку ад брамы, быў калодзеж. Стаяла на вечку вядро, а па-над вечкам узвышалася стрэшка, пафарбаваная жоўтай фарбай. Адно ўзяцца за ручку калаўрота, і будзе Івану вада... Але Кастусь толькі глянуў на калодзеж.

— А ты гэта... куды, Насця?

І задуменнасць, і глыбокая скруха, і рашучасць, і крыўда — усё адбілася на яе твары, і здалося Кастусю, што нічога не скажа яна,— здалося, што і запытання яго не чула яна.

Але яна сказала:

— Адсюль пайду... Не хачу я тут быць...

— І куды?

— Няважна... У Нілы пабуду... А потым... пабачу...

— Але чаму, Насця?

— Ты ведаеш, чаму...

Яна апусціла чамадан, села на ганку, і, неяк зусім па-дзіцячы прыклаўшы пальцы да вуснаў, пачала азіраць усё на двары: дрывотнік, вялізны, на двое шырокіх дзвярэй хлеў, склеп, той жа калодзеж. Потым затрымала позірк на кветках — яны густа красаваліся пад вокнамі,— і ўстала.

— Усё. Пайду я. Бяры вады...

Падхапіла чамадан і пайшла ў сад. Чаму ў сад? Але, калі да Нілы, то пэўна сцежкай намерылася ісці...

Кастусь хутка дастаў з калодзежа вады, наліў у біклагу і выйшаў з двара. Завёўшы матацыкл, скіраваў у завулак. Насця ішла ўжо па бульбянішчы, а ён, пракаціўшы па завулку, павярнуў направа і спыніўся. Насця ішла проста на яго. Паднырнула пад жардзіну прасла, перахапіла з рукі ў руку чамадан, глянула на дарогу, потым на Кастуся.

— Чакай, Насця. Толькі ты шчыра... Ты крыўдуеш на ўсіх нас?

— На вас? — Яна пакруціла галавой.— Не... Але я спадзявалася, што бацька ні пры чым... Што нагаварыў на яго той... Не нагаварыў. Усё праўда.

— Ты адкуль ведаеш, што праўда? — узрушана, нецярпліва спытаў Кастусь.

Ён часам думаў: а раптам сапраўды паклёпнічае Шычка на Шумскага? Які б ні прагавіты, сквапны быў гэты чалавек, але не можа ён, не павінен так зняважыць сваю працу. Дзень адстаяць за штурвалам камбайна, стаміцца, потам абліваццa — і пайсці на такое...

Кастусь перапытаў:

— Дык што табе вядома, Насця... што праўда?

Яна варухнула бровамі. Цяжка было ёй гаварыць. Перасіліла сябе:

— Маўчаў ён, але я не вытрымала, спытала. У істэрыку кінуўся... «Я, я ссыпаў... Але хто ты мне? Дачка... Дык от загадай свайму Івану, каб язык прышчаміў...» І патрабаваў, і прасіў, каб я сказала Івану не

гаварыць на судзе тое, што перад следчым... Бачыў бы ты яго... То кулакі, то гатовы на калені ўпасці...

— Ну, калі так,— няпэўна працягнуў Кастусь.

Насця зірнула яму ў вочы.

— Не, Кастусь... Што ён пакрычаў, гэта мне не страшна. Пакрычаў і сціх... Ты не ведаеш пра іншае... Колькі я гаварыла яму, каб не сквапнічаў, не ганьбіў сябе перад людзьмі. Пяўся, цягнуў, падбіраў, што толькі мог... Ён задарам пальцам не варухне, каб памагчы каму... Няхай раней не слухаў мяне, але апошнім часам... Я ўжо не маленькая... Іншы раз як і пагаджаўся са мной. І я ўжо думала, спадзявалася, што не марна гаварыла яму... Марна. Не зразумеў ён. Не хацеў разумець... Больш мне няма на што спадзявацца. Пайду я, Кастусь...

— Памагчы табе? — кіўнуў ён на чамадан.

— Не трэба.

Насця падняла чамадан і пайшла ўздоўж прасла — крок за крокам па палыну, па рамонках. Потым звярнула на дарогу і пайшла шпарчэй. Не азірнулася.

## 19

«Ну, што скажаце, Станіслаў Сяргеевіч?» Гэтыя словы Кастусь гатовы быў кінуць Адзінцу пры кожнай сустрэчы, але штораз змоўчваў. Можа каб не бачыў галоўнага інжынера надта заклапочаным, то не ўтрымаўся б, упікнуў... Ды пакуль было толькі паспагадаць Адзінцу: ад раніцы да вечара ён ці знаходзіў і хвіліны спачыну. Тое заўважылі перш жанчыны: паблажэў галоўны інжынер за час жніва. Удзень знайсці яго ў канторы звычайна нельга было, хто яго шукаў, той кіраваўся ці на ток, ці ў рамонтныя майстэрні, ці на поле да камбайнаў. Часта бачыў Кастусь Адзінца, але не было іншае гутаркі, як пра няспраўнасці ў камбайне ці трактары, пра магчымыя тэрміны рамонту, пра запасныя часткі.

І сустрэў ён Станіслава Сяргеевіча, дзе не спадзяваўся напаткаць— на рэчцы, на сваім улюбёным месцы. Зводдаль не пазнаў яго: ад купкі адзежы павольна ступаў да вады прысадзісты шырокаплечы мужчына. Дзіўна было, што мужчына гэты за лета ніколькі не загарэў, постаць яго бялелася надта выразна сярод кустоў лазняку.

А мужчына азірнуўся на шум матацыкла, і Кастусь убачыў, што гэта не хто іншы, як галоўны інжынер саўгаса Адзінец.

— Не перашкодзіў я вам, Станіслаў Сяргеевіч? — спытаў Кастусь, злазячы з матацыкла.

— Наадварот, весялей будзе...

— Я тут часта бываю. Колькі пылу за дзень назбіраю, столькі яго па гэтай рэчцы і сплывае.

— Трэба. Распранайся, разам і паплаваем. Я гляджу, лета праходзіць, а ўсё дома плёхаешся, спешкам, нібы рака не на тое...

Станіслаў Сяргеевіч зайшоў у ваду, услед за ім кінуўся з берагу і адразу паплыў Кастусь. Яны доўга плавалі — цёплай, як звычайна на вечар спякотнага дня, была вада. Толькі змарыўшыся, выйшлі на бераг. Кастусь паскакаў, прабегся, Станіслаў Сяргеевіч тым часам расціраў сваё цела ручніком, заружавеўся ўвесь, з галавы да ног.

— Добра, добра, браце... Ах ты, скажы... Як і дня не было, усю стому скінуў,— пакрэктваў, ганяючы ручнік па плячах, Станіслаў Сяргеевіч.



Апранаўся ён павольна, відаць было, не спяшаўся дамоў. Пагля-даў на неба, што зіхацела на захадзе ўсімі фарбамі вясёлкі, на луг па той бок ракі. І раптам спытаў:

— Дык што, Кастусь, позвы на суд яшчэ не атрымаў?

— Не. А хіба...

— Следства закончылася, перадалі справу ў суд. Экспертыза зерня пацвердзіла вінаватасць Шумскага. Так сябе апаганіў...

— Вам... не шкада яго?

Адзінец грэбліва паморшчыўся.

— Шкадаваць? Яшчэ што... Ён злодзей. Але непрыемна, брыдка. Не чакаў я...

— Маглі і чакаць...

— Чаму гэта? Кепска яму жывецца? Ці мала ён меў увагі ад мяне? І на́ табе...

— Увагі вашай было яму шмат, Станіслаў Сяргеевіч. Але якой?

Адзінец зірнуў на Кастуся. Дапытліва, пільна. Кінуў:

— Ты што хочаш сказаць?

— Ці варта? Вы самі разумееце...

Адзінец запярэчыў:

— Не-не! Ты давай не ўвільвай.

Кастусь сеў на траву, надзяваючы сандалеты, прамовіў:

— Магу, калі ласка... Ваша ўвага была Шумскаму як сцяна, з-за якой ён паплёўваў на ўсіх і на ўсё... Вы ведалі, што ён хапуга, але... Скажу вам, як людзі кажуць... толькі не крыўдзіцеся: кідалі вы яму галлё пад колы...

— Моцна, гэта ўжо моцна...— Адзінец сцяў вусны. І апусціўся на невялікую, пабраную травой купіну. Гаркотна ўздыхнуў:

— Значыць, лічаць, што я патураў яму?..

— Пэўна ж.

— Але гэта няпраўда. Не патураў я Шумскаму. У думках такога не трымаў. І таму перш за ўсё, што ведаў пра яго замашкі... А бачыш, якая слава пра мяне...

— Хто ж у ёй вінаваты? Вы, як галоўны інжынер, маглі падрэзаць апетыт Шумскага. Але...

— Ну-ну, дагаворвай ужо.

— Калі ў думках у вас не было патураць яму, то ні ў чым вы і не перашкаджалі яму.

— Твая логіка вядзе да таго, што праз маю ласку ён і на крадзеж пайшоў...

— Не, гэта яго віна. Але я вось пра што ўвесь час думаю: як далёка ідуць кругі... Мне цікава, што вы скажаце... Мусіць, ведаеце, што Іван Бабок сябруе з Насцяй Шумскай?..

— Ведаю.

— У іх усё ідзе да вяселля. Ідзе, але не даходзіць... Да Івана ў Шумскага варожасць. Насці ён не дазваляе выходзіць за яго замуж. Ясна, чаму... А не быў бы Шумскі такі прагавіты, даўгарукі, мусіць, інакш усё склалася б. Не быў бы Іван за ворага яму. І, бадай, яны ўжо даўно былі б разам...

— Ланцужок тут ёсць. Ды чаго хочаш: натуру чалавека змяніць!

— Хутчэй як хто, вы маглі нешта падправіць. Адным словам, я на вашым месцы інакш бы з Шумскім гаварыў.

Адзінец мружыў вочы, пазіраючы кудысьці за раку:

— Што ж, відаць, быў я да Шумскага залішне добры. Але з якіх пазіцый?

— Апраўдаў ён вашу пазіцыю...

Адзінец маўчаў. І Кастусь устаў, не ведаючы, пакінуць яго аднаго ці паехаць разам. Ды сказаў:
— Можа падвезці вас, Станіслаў Сяргеевіч?
— Не. Едзь сабе. Я прайдуся. Недалёка тут...
Ён зразумеў: цяпер Станіслаў Сяргеевіч хацеў пабыць сам-насам. Кастусь завёў матацыкл.
— Да пабачэння!
Сцежкай, вузкай і цвёрдай, паімчаў Кастусь да дарогі. Азірнуўся на павароце: далёка ззаду, перакінуўшы пінжак на руку, па гэтай жа сцежцы крочыў Станіслаў Сяргеевіч.
Пачало цямнець. «Ці дома ўжо Ніла? Што ў іх там?». Кастусь падумаў, што толькі на хвіліну заверне ў гасцініцу...

## 20

Лёгкі пошум за акном змусіў Кастуся адарваць позірк ад папер. Хутка, не затрымліваючыся каля дрэў, ішоў па садзе Іван. Угледзеўшыся, што Кастусь сядзіць за сталом, Іван падышоў да акна.
— Што робіш?
— За справаздачу ўзяўся, Іван.
— Гэта ў цябе не гарыць?
Кастусь міжволі ўсміхнуўся. Сам усё думаў, што напісаць справаздачу па вытворчай практыцы яшчэ паспее, а час не чакаў — колькі засталося яму пабыць у Вербічах? Работы ж над справаздачай нямала: не на адзін дзень.
Кіўнуў Івану: работа не чакае.
— А можа... пазней пасядзіш?
— Калі што трэба...
— Трэба, Кастусь. Давай сходзім да Стасевічаў.
Там была Насця... І штодня бачыў яе Іван, але не згасаў, не атухаў у яго вачах неспакой за яе.
Ён, Кастусь, быў упэўнены і гаварыў пра тое Івану, што настрой у яе, Насці, пераменіцца, палепшае, але калі ёй стане лягчэй, хто ведаў? Антона Шумскага, як і Шычку, народны суд прысудзіў да двух гадоў пазбаўлення волі ўмоўна, яго адхілілі ад работы на камбайне — колькі размоў пра гэта на вёсцы, Насця адчула, прайшоўшы па вуліцы. І больш ніхто не бачыў яе ні ў клубе, ні дзе на вёсцы — яна не выходзіла з хаты Стасевічаў.
Яны крочылі па вуліцы, і стрэчныя — бачыў Кастусь,— паглядалі на Івана. А ён не зважаў ні на кога, гаварыў:
— Ці ведаеш, што яна надумала? Учора раптам як абухом па мне... Кажа, каб з'ехаць куды. У свет... Ну, пры яе настроі... Але ж тыя дні яна такога не казала. Стаў дапытвацца... І вось ты ўяві. Звычайна яна сама вядзе канцэрт. Колькі іх было ўжо — без ліку! І кожны раз, калі паяўляецца на сцэне, сотні вачэй з залы — на яе. Ёй учора было выходзіць на сцэну, нешта сказаць, аб'яўляць нумары. Ну і... не змагла.
Лёгка было тое ўявіць... Ён, Кастусь, не пайшоў на канцэрт — засеў над справаздачай. Але сапраўды: убачыў бы Насцю на сцэне, то абавязкова ўспомніў бы бацьку яе. І яна гэта адчувае. І пэўна, разумее, што могуць людзі думаць: бацька — гэта бацька, ты — гэта ты. Ды ўсё роўна цяжка ёй выходзіць перад сваімі на сцэну — як на маўклівы суд.
— Можна яе зразумець, Іван,— кіўнуў Кастусь.
— Ды я і сам... Але раптам кінуць-рынуць усё і з'ехаць некуды... Каб што безвыходнае, то я хоць на край свету за ёю... Але ж тут нам трэба жыць!
Моўчкі зайшлі яны ў двор Стасевічаў. На двары нікога — падаліся ў хату. Сенечныя дзверы былі расчынены, наступныя, у вялікую прыхожую, што была і кухняй — таксама. Іван пастукаў па вушаку, але ніхто не азваўся. Пратупалі на ганак і ўбачылі цётку Ганну, якая з вялікім кашом травы выходзіла з саду.
— Чую, нібы хто ў двары,— загаварыла яна і, зморана апусціўшы кош на зямлю, адказала на прывітанне: — Добры вечар, хлопчыкі. Мабыць, да дзяўчат вы? Ніла яшчэ не прыехала з пасекі, а Насця памагла мне травы ў садзе падсячы і пайшла. Нікуды далёка, кажа, прайдуся полем... Во хвіліну мо як адлучылася.
— Ну, тады я пашукаю яе...— І не марудзячы, Іван шугануў у сад.
— Маркотная Насця. На адзіноту цягне яе,— прамовіла цётка Ганна, кінуўшы позірк услед Івану.— Прыходзіла маці яе, са слязьмі ўпрошвала дамоў вярнуцца... пайшла ні з чым. Во як... Дык заходзь жа, Косцік, у хату. Невядома, калі хто прыдзе, а ў хаце хоць чым забавішся.
Са звыклай увішнасцю яна тут жа памыла рукі пад рукамыйнікам, у сенцах церанула іх аб ручнік і запрасіла Кастуся ў залу.
— Хочаш, тэлевізар уключы ці газеты паглядзі. Сённяшнія, яшчэ не было каму ўзяцца за іх... Я што хачу спытаць, Косцік. Ты ж бываеш у полі, як там наш стары на камбайне? Я ж ведаю, усе яны камбайнёры, не сядзяць, стойма выстойваюць на тым мосціку. Ці яму было брацца за гэту работу? Нагу сваю дабіваць?
Не, ніхто не ўпрошваў Стасевіча стаць за штурвал камбайна, на якім працаваў Шумскі. Але калі на планёрцы ўсе зірнулі на яго, толькі зірнулі, ён сказаў: «Вазьмуся. Змагу». Яго, Кастуся, і Ніла прасіла прыглядацца да бацькі, і штодня ён знаходзіў момант спытаць у Стасевіча пра самаадчуванне, але нічога благога ў адказ не чуў і сам таго не прыкмячаў.
— Як вам сказаць, па-мойму, усё добра. Каб горш, то неяк было б відаць.
— Ён і нам кажа, што не чуе той нагі... Мо і так. То пагуляй, Косцік, а я вячэрай займуся. Скора збяруцца ўсе.
Ён застаўся адзін у пакоі і думаў нейкі час пра іх, Стасевічаў. У адным яны ўсе вельмі падобныя: умеюць трымацца так, што табе лёгка з імі. Той зусім натуральнай няёмкасці, якую мог бы чуць Кастусь перад Нілінай маці, ён амаль што не зведаў, яму здавалася, што ён змог бы нават расказаць ёй усё пра сябе, пра свае пачуцці да Нілы — толькі пажадала б таго яна. Але цікаўнасць там, дзе мала бачаць, а яна, маці, пэўна ж, усё бачыла, усё разумела...
Позірк яго спыніўся на фотаздымку, што быў прымацаваны да сцяны каля палічак з кнігамі — на ім была Ніла. Яна гаварыла, што ёй дарагі гэты здымак — першы, калі яна адчула сябе дарослай. Дарослай? Ёй было тады ўсяго семнаццаць год, і колькі яшчэ ад дзяцінства ў шырока адкрытых вачах... Але ўжо было многа і праніклівасці ў іх, той, што так уразіла яго зусім нядаўна...
Нядаўна? А засынаў з думкамі пра яе, Нілу, прачынаўся — тыя ж думкі былі з ім. Як ні прыйдзе новы дзень, а ведаў ён, што будзе гэты дзень пазначаны радасцю, якую ніхто і нішто не можа адняць у яго — Ніла з ім. Ён адчуваў гэта і верыў усё мацней: Ніла — яго лёс, з ёю яму не расстацца. Нешта значылі яму сустрэчы, спатканні з дзяўчатамі ў горадзе, але не было, не ўзнікала тады думак пра будучыню.

Цяпер жа ён уяўляў сябе з Нілай і праз год, і праз дзесяць, і нават, калі састарэюць яны,— і нічога не знаходзіў у гэтых думках-марах, акрамя радасці. Калі б толькі тое знаходзіла ў думках пра яго Ніла!..

Ён паспеў прагледзець усе газеты, калі пачуў на двары галасы. Праз хвіліну ў пакой зайшлі Іван і Насця. Іван быў узрушаны, у голасе прабівалася нервознасць:

— Сумуеш без нас? І нам нешта не зусім... А чаму без музыкі? Вечарам па радыё столькі песень, уключым мо прыёмнік? Як, Насця?

Яна, Насця, знешне была зусім спакойная. Падышла да прыёмніка, уключыла яго і там каля акна і засталася, прыхінулася спіной да падаконня. Яшчэ не зайшло сонца, і апошнія промні яго барвяністымі іскрамі зайгралі ў валасах Насці, паружовілі яе твар — так ружавеецца твар ад гарачай узрушанасці. Яна думала аб чымсьці, думала, зусім не слухаючы песні, і гэта было так відаць, што Іван сам, як ні стараўся трымацца, спахмурнеў і таропка закурыў. Але па хвіліне — другой ён здолеў перасіліць паныласць:

— Раскажу я вам пра аднаго боцмана...

— Не трэба, Іван,— папрасіла Насця.

— Ну, тады ўсё роўна вяртайся да нас. Мы тут, а ты невядома дзе.

— Пакуль і я тут...

— Чаму пакуль? — умяшаўся ў размову Кастусь.

Насця звяла бровы. І раптам ласкава, мякка, як толькі магла, яна спыталася:

— Косцік, а добра жыць у вялікім горадзе? Праўда? Ідзеш, і ніхто цябе не ведае...

— А што ў гэтым добрага, Насця? Няўтульна, калі скрозь незнаёмыя.

— І куды павяло... Куды павяло...— з дакорам зірнуў на Насцю Іван.

— Пацягнула — не завяло,— жыва паправіў яго Кастусь.— А хіба, Насця, ты ўсур'ёз падацца куды хочаш?

Яна паціснула плячыма. Павярнулася тварам да акна. Доўга маўчала, потым ціха вымавіла:

— Каму я дзе патрэбна?..

Іван адразу падхапіў:

— А як жа? Дзе нас не ведаюць, там без нас і абыходзяцца! Там нас няма! А сунься куды, то яшчэ невядома, як спадабаешся. Што, Кастусь, хіба не так?

— І так, і не так,— адказаў ён.— Але факт, Насця, што сумна ў клубе без цябе.

— Вы гаворыце, а я гэта ўсё сама бачу. Каб вы ведалі, як...—працягвала Насця.— Нікуды я не паеду. Толькі...

Яна не ўтрымалася ад слёз. Хуценька прыклала далоні да вачэй і апусціла рукі — не хацела паказаць слабасці сваёй.

У гэты момант прарыпелі веснічкі. За акном прагучаў голас Нілы:

— Насця, ты адна?

Насця адмоўна крутнула галавой. Ніла як не ўбегла ў хату. Спынілася ў дзвярах, радасна азіраючы ўсіх. Кінула чырвоную кофтачку на спінку крэсла, і, стрэўшыся позіркам з Кастусём, падыйшла да люстра, збольшага паправіла растрапаныя ветрам валасы. І гаварыла:

— Натамілася я сёння... З дзядзькам Максімам магазіны з вулляў знімаем. Усё, пара... Мала ўжо пчолкі нектару носяць. Знялі каля трыццаці магазінаў, а колькі засталося! Не, таварышы, калі вы сябры мне, заўтра прыязджайце на пасеку і паможаце нам.



— Прыедзем,— за ўсіх адказаў Кастусь.— А што ж раней не сказала? І сёння памаглі б...

— Не думала яшчэ пачынаць гэту работу. А бачу, не пойдзе адклад у лад. Трэба было двойчы, у розны час высяваць фацэлію. І папрацавалі б пчолкі нейкі тыдзень яшчэ на ўсю сілу. Ужо на той год не адгаворыцца наш агранам. Я і мерылася пасеяць фацэлію не ўсю адразу, а ён — няма сэнсу. Але ж я... Як я паслухала яго! Не, так больш не будзе...

Яна, Ніла, вядома, паспела заўважыць, што ўсім тут не так весела, як ёй. Але не спыняла сябе — не жадала самотнасці нікому.

— А вы можа куды сабраліся? Ці не ў кіно? — Ніла павярнулася да Насці.— Што-небудзь цікавае сёння?

— Не ведаю, Ніла,— ціха адказала Насця.

— Пойдзем і разведаем. Хіба доўга нам? Толькі не сумуйце, я зараз...

Ніла падалася ў свой пакой. Іван не зводзіў позірку з Насці. Раптам устаў, падышоў да яе, узяў за рукі.

— Ну што ты, Насця? Не трэба ўжо так... Ці ж ты адна засталася? Хіба мы не з табою? Пакінь думаць, пра што не трэба...

Насця квола ўсміхнулася. Іван азірнуўся на Кастуся.

Уразіў Кастуся твар Івана ў гэты момант: як бы хацеў запытацца ён пра штосьці, але вось дапаў, знайшоў тое, чаго шукаў, чаго жадаў. Нястрымнасцю, рашучасцю загарэўся позірк яго. Ён імкліва ступіў да дзвярэй, за якімі была Ніла, пастукаў:

— Ніла, можна зайсці?

— Можна.

Іван зачыніў дзверы, але хутка выйшаў з чамаданам у руцэ. Кастусь пазнаў карычневы чамадан: з ім Насця выйшла некалькі дзён назад з роднай хаты.

— Насця, твой? — запытаў Іван.

— Мой,— адказала яна.

— Вось і добра. Пойдзем дамоў. Пагасцявала крыху і хопіць. Пойдзем.

Разгублена, няўцямна пазірала Насця на Івана. Увачавідкі цямнеў яе твар.

— Што ты надумаў? — ціха прамовіла яна.

— Пойдзем, Насця. Не ў Сасноўку — у цябе тут ёсць свой дом.

Ніла не затрымалася ў сваім пакоі. Выйшла і, як Насця, няўцямна зірнула на Івана і на яго, Кастуся.

А ён зразумеў усё. І зразумела Івана Насця. Як стаяла, так і засталася яна стаяць, толькі рукі прыклала да шчок. Які момант ніхто не варухнуўся. Кастусь гатовы быў падхапіцца, загаварыць, нават засмяяцца — адбывалася нешта незвычайнае, але тое, што павінна было адбыцца,— і толькі чакаў ён, чакаў, калі Насця ўзніме вочы.

Але не чакаў таго Іван.

— Кастусь, бяры чамадан. Не цяжкі, данясеш. Насця, зірні на мяне! Хочаш, на руках цябе панясу?

Яна глянула на яго. Штосьці перамянілася ў ёй. Нібы раптам асэнсавала тое, што не давалася ёй раней. Нібы ўсё навокал набыло новыя фарбы, якіх не заўважала яна, нібы свет паярчэў, праясніўся.

— Ніла, гукні маці,— папрасіла яна.

Цётка Ганна зайшла, выціраючы аб фартух рукі.

— Што, Насцечка? — устрывожана запытала яна.

— Я хачу падзякаваць вам за ўсё. І пайду. Буду прыходзіць да вас. А цяпер пайду.

— Куды?

— Дамоў. Іван кажа, што я пайду дамоў.— Насця ўсміхнулася.— Буду блізка ад вас. Зусім блізка...

Ці верыў Іван хвіліну назад, што Насця пойдзе з ім? Не, не быў ён упэўнены ў тым. На нейкі момант моцна заплюшчыў ён вочы, на запалых шчоках яго праступілі жаўлакі. Кароткае і цяжкае імгненне... Уздыхнуўшы, ён ступіў да Насці, абняў яе адной рукой.

— Запамятайце гэта! Хто мая жонка? Яна, Насця! А вы... ты, Ніла, ты, Кастусь... Вы, цётка Ганна! І праз сто год я буду помніць вас, гэты дзень. Толькі гукніце мяне... я ваш, усё аддам, галавы не пашкадую! Верце...

— Верым, Іваначка.— Цётка Ганна раптам праслязілася.— Няхай вам шчасна будзе. Жывіце, вялікага веку вам. Каб бяда стараной, каб ніякае ліха да вас не чаплялася. А ўжо вам шчасна, то і нам святла больш... Шануйце толькі адно аднаго... Але ж ці тут вам ісці? Я вячэру гатую, от бы...

— Не! Дзякуй. Будзе час, іншым разам. А цяпер... не варта табаніць. Мы пойдзем! — рашуча сказаў Іван.

Насця нахілілася да цёткі Ганны, пацалавала яе. І першая пайшла з хаты. Кастусь і Ніла падаліся за ёй, а за імі — Іван.

Чамадан нёс Кастусь. Аглядаліся на іх зводдаль, прыглядаліся стрэчныя. Наўрад хто разумеў, што здарылася, хутчэй за ўсё думалася людзям, што ён, Кастусь, едзе некуды.

Дзесьці на поўдні як бы пагрымлівала, але чыстае, яснае было неба з краю ў край. Стомленае сонца апускалася за небасхіл — на яго можна было пазіраць без болю ў вачах...

## 22

Кастусь пачуў праз сон — нібы хтосьці стукаў у акно. З намаганнем расплюшчыў вочы, падняў галаву: за акном стаяла цётка Вольга.

— Уставайма, Косцік. Іван і Насця чакаюць цябе.

— Хіба... не рана?

— Не рана ўжо. Заспаў ты сёння. То падымайся ды ідзі да нас.

Цётка Вольга пайшла. Кастусь падхапіўся, пачаў хутка апранацца. Сапраўды, заспаў... Што дзіўнага? Да світання не расставаўся з Нілай. Ужо пачало віднець, калі яна правяла яго да гасцініцы: «Адпачні перад дарогай». Перад дарогай... Сёння яму ехаць з Вербічаў...

Рэшткі санлівасці пакінулі яго, як выйшаў у сад. Лёгкая золкасць чулася ў паветры, белымі клубамі ў зацішку, пры плоце, слаўся туман, праз густую смугу ледзь віднеўся блакіт у вышыні.

Раптам вострае адчуванне, што гэты дзень незвычайны, працяло Кастуся. Нешта павінен сказаць яму гэты дзень, чаго ён не мог бачыць, заўважаць раней. Шчымліва-трывожна стала на душы...

Іван сустрэў яго на ганку. Дзе тая скруха, што заўважаў Кастусь нядаўна ў чорных Іванавых вачах? Радасцю ззялі ягоныя вочы. Ён разгладжваў грабеньчыкам свой чуб — і нібы большага клопату не меў чалавек.

— Не дае Насця спакою — пагаліся, прычашыся... Бяда, Кастусь, жанатаму чалавеку. Ну, пайшлі ў хату.

Насця і цётка Вольга адразу запрасілі яго да стала, на якім было ўсяго: яешня і памідоры, бульба і смятана, паляндвіца і сыр. Павялося, што без яго, Кастуся, не садзіліся Бабкі снедаць.

За сталом Іван не маўчаў:

— Ты ведаеш, Кастусь? Аказваецца, жаночае сэрца не камень. Згадзілася Насця вяселле справіць. На кастрычніцкае свята згуляем. Не па парадку крыху, ды ўсё яно ішло... не надта па парадку. Як табе навіна?

— Добрая навіна.

Насця сядзела насупраць, сама такая ж вясёлая, усмешлівая, як Іван. Яе смуглявы твар неяк пасвятлеў і памякчэў, паласкавеў позірк — яна як знайшла сябе і не жадала быць іншай. З той ранейшай сваёй тужлівай задуменнасцю не бачыла б яна вакол сябе ніякае драбніцы, а то ж нешта падавала кожнаму, падсоўвала талеркі.

— Прыязджай, Кастусь,— бліснула Насця вачыма.— Цябе першага запрашаем. Вяселле ў нас будзе запозненае, але ж...

— Не бяда, што запозненае,— уступіла ў размову гаспадыня.— Людзі не асудзяць, калі на шчасце.

— Прыеду,— сказаў Кастусь.— Абавязкова.

Так пачаўся гэты дзень... А неўзабаве яны з Іванам крочылі на машынны двор. Праўда, Кастусю можна было там не паяўляцца. Ён перадаў ужо брыгаду Стасевічу, ён мог ехаць з Вербічаў, адно забраўшы ў Адзінца характарыстыку, якую разам з дзённікам і справаздачай аб праходжанні вытворчай практыкі павінен будзе прывезці ў інстытут. Але ішоў Кастусь на машынны двор, ішоў з хваляваннем, якога не чуў у сабе раней, якое было мала падобна на хваляванне ў той дзень, калі толькі знаёміўся з брыгадай. Гэты ягоны неспакой, узрушанасць таму і не сціхалі, што ведала яго брыгада, і добра ведала. Паўтара месяца — гэта ўсё-ткі час, калі ты ад раніцы да вечара сярод людзей...

Кастусь убачыў: са свайго боку падыходзіў да завулка Стасевіч. Не, ён ужо не накульгваў, як у першыя дні па прыездзе са шпіталю.

Роўная, мерная хада, крыху зведзеныя бровы — наперадзе ў чалавека рабочы дзень... І тое вельмі прыкметна ў твары Стасевіча: ад хваравітай бледнасці не засталося і следу, бо паспеў за два тыдні загарэць, як кожны, хто шмат бывае на сонцы. Наўрад ужо згадваецца яму шпітальны рэжым за тымі штодзённымі турботамі ў рамонтнай майстэрні, за працай на камбайне — шэсць дзён адстаяў ён за штурвалам, пакуль не дажалі апошнія астраўкі збажыны.

Стасевіч падаў руку Кастусю, потым Івану. Павярнулі ў завулак разам.

— Не едзецца табе ад нас? — Стасевіч зіркнуў Кастусю ў вочы.

— Ехаць трэба. Дома ўжо зачакаліся. Вось пабачу яшчэ ўсіх і выберуся.

— Ага ж,— згодна кіўнуў Стасевіч.— Хіба цяпер, бо пара — з'язджаюць на ўвесь дзень. У цябе, значыць, зараз канікулы, а там зноў у інстытут?

— Так. Перадышка маленькая і — апошні курс.

— Перадыхнеш ты дома! Адаспішся дзень-два і ўпражэшся ў нешта,— сказаў Іван.— Сяло — работы не гало.

— Не гало,— працягнуў Стасевіч: Іванавы словы былі, мабыць, пад яго думкі.— Збудзеш дажынкі — новыя ўпынкі... Во зараз бульбу падбіраць ды азіміну клінаваць... паспявай адно, варушыся мала як не ў жніво.

«Будзе работы дома. Бацьку не раз на трактары падмяню»,— падумаў Кастусь.

Яны крочылі ўжо па машынным двары, на якім было яшчэ ціха, як дзе ў полі. Трактары стаялі ў рад адзін пры адным — гэта ўжо Стасевічаў парадак; ён, Кастусь, неяк не зважаў на тое, што нехта ставіў

трактар дзе папала — хто раней выязджаў у поле, то часам круціўся па двары, як па лабірынце. Закінецца гэта ў памяць...

А люднела на двары хутка. Карнач, угледзеўшы Кастуся, падышоў да яго, паціснуў руку і ўзяўся закурваць.

— Мне было падумалася, паехаў ты ўжо.

— Як жа — не развітаўшыся?

— Ведама што... Лета ў нас пражыў.

— Хутка дні праляцелі.

— Хутка? За клопатам. Дзень вялікі гультаю, а нам часу хоць пазычай. Сам ведаеш... не страляў варон.

— Дык, мусіць, ліхам памінаць мяне не будзеце?

— Не, Кастусь. Ты сваё зрабіў. Брыгадзірыў бы ўвесь гэты час Сушняк, то...— Карнач махнуў рукой: — Не па ім воз. За ім і мне свой было б цягнуць цяжэй. Ты от хіба мяне самога,— Карнач шкрабануў пальцам шэрае, у сівізне, брыво,— не памінай ліхам. Мо часам не тое слова кідаў...

— Бывае...

— Я, Кастусь, помню. Мо больш як што іншае... Да шчырасці ў мяне з табой тады не дайшло. Пра Шумскага, Адзінца была размова...

— Я помню.

— Ты выбачай. Чалавек ты быў новы. Гэта адно. А, па-другое... Думаў я пра гэта. Часам тоішся і ад сябе. Бачыш непарадак, а носа свайго як бы шкада... от тут і адкажы па шчырасці, калі сабе самому добрага слова не сказаць. Не заўсёды яно так, але недзе і бокам ціснешся, каб не зачапіла... Жывеш і так, а як во падумаў... нядобра гэта, нядобра. Ну, ды зарубка ёсць... А хіба ўжо не прыедзеш да нас? Прыязджай, Кастусь.

І яшчэ раз паціснуў Карнач яму руку. І паспяшаўся Кастусь да Раманюка, які запыніў крок. Ах, як нагадваў ён Кастусю бацьку знешнасцю: невысокі, а плечы шырокія, хударлявы твар і глыбока схаваныя пад бровамі добрыя, уважлівыя вочы.

— Еду ўжо, Ігнат Аўдзеевіч. Хачу развітацца з вамі.

— Што ж, хлопча, у цябе свая дарога. А прывык я да цябе, нібы змала ведаю... Трымайся там на сваіх пуцявінах.

— Не інакш, Ігнат Аўдзеевіч. І вам жадаю... працаваць, не стамляцца ніколі... каб сілы багата ў руках!

— Зіма лету ўжо дарогу перабегла. Але не здамося, будзем працаваць. Жыццё маё ў гэтым, Кастусь.

Ён не стаў затрымліваць Раманюка. Пачыналі гудзець трактары, і яму, Раманюку, яшчэ пахадзіць каля свайго, перш чым выправіцца ў поле...

А штосьці зварухнулася ў ім, Кастусю, у хваляванні, з якім ішоў ён на машынны двор. Набегла пачуццё, ад якога лёгка, добра стала яму: «Свой я тут чалавек і ў гэты дзень, калі не адзін і той жа клопат у нас...» З гэтым пачуццём, з гарачай ад новых і новых поціскаў рукой павярнуў ён да Алеся Салаўя, які як не апошнім з трактарыстаў паказаўся на машынным двары. Алесь ішоў таропка, быў ён у зусім новым чорным камбінезоне, з адкрытай галавой — замяняла яму кепку густая светларусая шавялюра.

— Бачу, што думаеш,— гучна загаварыў ён.— Алесь не спяшаецца... А я ўжо ў гасцініцу злётаў і ў канторы пабыў — цябе шукаў. Ну, думаю, паехаў...

— Памыліўся ты, Алеська.

— Ага, дзе ты дзенешся! — засмяяўся Алесь.— Ды болей памылак ззаду, то меней наперадзе. Гэта мая бабка так кажа.



— Мудрая твая бабка...

— Памудрэеш і ты! Пад яе гады ведаеш, каго ўбачыш? — ткнуў кулак у свае грудзі Алесь.— Генерал-лейтэнант авіяцыі. Ужо ў адстаўцы... А пакуль што будзем перавозіць атаўку на сілос. Сілос — гэта сіла!

— Калі табе ў армію?

— Праз год, наступнай восенню.

— Ну, тады яшчэ ўбачымся раней, як ты станеш генерал-лейтэнантам. Убачымся, Алесь.

— Нілу сваю не забудзеш? — хітравата прыжмурыў вочы Алесь.

— І цябе не забуду. Ну, трымайся...

Алесь, азіраючыся, паімчаў да свайго трактара. А побач спыніў трактар Іван, саскочыў долу. Мала было ў іх слоў:

— Шчасліва табе, Кастусь.

— І табе, Іван.

І, правёўшы яго позіркам, накіраваўся да Стасевіча: «Ну вось, пабачыў усіх... Развітаюся і з вамі, Рыгор Сцяпанавіч».

Ён ішоў у кантору, не заўважаючы, што ўсміхаецца сам сабе.

Адзінец быў у сваім кабінеце. Сядзеў за сталом, як і тады, калі Кастусь упершыню ўбачыў яго. Некалькі папер ляжала перад ім, адну з іх, перш запрасіўшы Кастуся сесці, ён узяў, прабегся па радках вачыма. Зацяжна, па слову, прагаварыў:

— Вось і характарыстыка... Тут подпіс Дзянісава, мой. Прачытай. Здаецца, сказаў, як ёсць.

— Мне больш нічога не трэба, Станіслаў Сяргеевіч.

Аддрукаваныя на машынцы радкі... Кастусь хутка прабегся па іх позіркам: «...Працаваў на штатнай пасадзе... Зарэкамендаваў сябе энергічным... Умела выкарыстоўваў тэарэтычныя веды... Актыўна... арганізатарскую работу ў калектыве... За час жніва... прэміяваны... Валодае якасцямі, неабходнымі спецыялісту...» Былі, былі ўжо характарыстыкі, не па-новаму напісаў і Станіслаў Сяргеевіч. Ды хай і такія словы, калі — як ёсць... Але чаму ён, Адзінец, такі задуменна-сумны? Згадаў непрыемнасці, якія меў праз яго, Кастуся?

Ніякавата стала Кастусю пад позіркам шэрых вачэй галоўнага інжынера. Але ён вытрымаў гэты пільна-пранклівы позірк. І падалося Кастусю — штосьці вырашае ў гэты момант Станіслаў Сяргеевіч...

Яны, бадай, думалі пра адно. Помніў, добра помніў Кастусь той дзень, калі яны разам ехалі ў «газіку» з райцэнтра, помніў іх размову. Дык на чым жа вы спыніліся, Станіслаў Сяргеевіч? Вы, відаць, вырашылі зусім, варта ці не варта прыязджаць Ручаю на працу ў саўгас пасля заканчэння інстытута — на пасаду галоўнага механіка. Я сам яшчэ не ведаю, ці заманюся працаваць менавіта ў саўгас «Вербічы», гэта, можа, не самае істотнае, але мне цікава, вельмі цікава, ці хацелі б вы мець мяне ў памочніках, праваю рукой сваёй? Ці не боязна вам за той «аптымальны рэжым», які абралі вы сабе, у якім звыкліся жыць, працаваць?

У гэтую хвіліну чамусьці ўсё кідалася ў вочы Кастусю. Як заўсёды, быў дбайна апрануты Станіслаў Сяргеевіч: бездакорна адпрасаваны, чыстага шэрага тону касцюм, ледзь прыхопленая блакітным адценнем кашуля, вузкі няяркі гальштук. Аўтаручка, якая нязменна месціцца ў нагруднай кішэньцы пінжака, цяпер у пальцах Станіслава Сяргеевіча, і супроць яе, гэтай чорнай аўтаручкі, рукі выдаюць белымі, як не знарочыста дагледжанымі. Рэдка Станіслаў Сяргеевіч закасвае рукавы, каб папэцкацца ля трактара ці іншае машыны, але ніхто надта не лічыць гэта заганай галоўнага інжынера, і ён, Кастусь, не лічыць — у

галоўнага інжынера свой клопат, свае гарызонты... Але хто вам за цёмную хмару на вашых гарызонтах; такія, як Шумскі, ці вось гэты чалавек, што перад вамі,— Кастусь Ручай?

Станіслаў Сяргеевіч сунуў ручку ў кішэню, сплёў пальцы.

— Дык што скажу табе, Кастусь, на развітанне... Ты, адным словам, прыязджай. Будзем працаваць. Закончыш інстытут — і давай да нас. У гэтым мы табе паможам.

— І... нішто вас не палохае?— спытаў Кастусь.

— Не варта... усё яно ясна. Як дзень, ясна. Вось так...

— Ну, тым лепш. А я па-ранейшаму нічога пэўнага пакуль не магу сказаць вам. Але скажу, крыху пазней.

— Пачакаем. Яшчэ восень, зіма наперадзе. Ужо, значыць, едзеш?

— Ужо.

— А мне ў раён сёння. Вось падрыхтаваў выступленне. Такія-сякія думкі, тэхнікі ўсё датычыць... Дык жадаю табе, Кастусь, поспехаў. Баявога настрою.

— Вам таксама.

Цяжкаватай была яна — чыстая і моцная рука Станіслава Сяргеевіча.

Ён неўзабаве вышаў з канторы.

«Ну, вось і ўсё»,— сказаў сам сабе.

Ён знайшоў у гэтым дні тое, чаго чакаў. І ведаў ужо, што лёгкай будзе дарога дамоў, як ні тужліва стане яму: не расчараваннем пазначана будзе гэтая туга, не, не расчараваннем...

З вуліцы, на якой жыла Ніла, выйшаў на плошчу гурт дзяўчат. Яны весела і гучна гаманілі, як гамоняць між сабой толькі сяброўкі. Раптам адна з іх выбілася з гурту і накіравалася проста да яго, Кастуся. Тоненькая, бялявая... Святлана Лучок — ці не так яе завуць? Успомніў ён і вечар, на якім расказваў пра свой інстытут, і невялічкі канцэрт у полі, калі яна чытала пад пякучым сонцам свой верш.

Збянтэжана, сарамліва пазірала дзяўчына на яго, ды з усёй адкрытасцю, якую нараджае вялікая радасць, хуценька прагаварыла:

— Добры дзень! А я паступіла ў ваш інстытут. І еду ўжо на заняткі... Вось. Да пабачэння!

Ён не паспеў нічога сказаць: яна як не подбегам кінулася назад, да дзяўчат.

Пастаяўшы, паглядзеўшы ім услед — яны кіраваліся да шашы — ён павярнуў на «сваю» вуліцу. Зірнуў на гадзіннік: Ніла абяцала прыехаць з пасекі, правесці яго...

Ён адно кінуў пагляд на гасцініцу і рушыў па гэтай вуліцы: ці блізка, ці ў полі, а сустрэне Нілу.

Вуліца праставала да ўзвышша, якое прыхоўвала далеч, пакуль не выйшаў Кастусь на гравейку. Тут, на скрыжаванні, ён спыніўся. Вецер з поля біўся яму ў грудзі, блытаў валасы, мружыў вочы.

Далёка было відаць: шаша, узгоркі, пакацістыя схілы, лес. Усё такое знаёмае. І ягонае... Падумаў: дзе б ні быў, дзе б ні жыў, а тут заўсёды будзе лёгка і нагам, і вачам яго. Ён ведаў гэту зямлю. Ведаў, што заўсёды пазнае яе: скрозь зялёную ці захінутую снягамі, чорную пад веснавымі дажджамі ці ў сонечным золаце на спадзе лета.

Хтосьці ехаў па дарозе на веласіпедзе. Бліжэй, бліжэй... Ніла!

Ён пайшоў ёй насустрач.





***фёдар яфімаў***



ПАЭЗІЯ



## *Помнікі*

*Его в России ждут солдатки,*
*А он с поста сойти не может.*
*М. Дудзін.*

Дзяцей паклаўшы спаць,
без слёз і слоў
адолеўшы штодзённых спраў мароку,
яна чакала многа вечароў,
глядзела на далёкую дарогу.

З палёў густая цішыня плыла,
плыў водар траў,
салодкі, нібы згадкі.
І маладзік не шкадаваў святла
для адзінокай постаці салдаткі.

Чакала і чакае. І канец
яе бязмоўнай жончынай надзеі
тады надыдзе, можа, як разец
у мармур постаць сумную адзене.

...Калі ўсе войны сціхнуць на зямлі,
з палёгкай уздыхне усё жывое,—
якраз такія, як калісь былі,
ажыўшы, сыдуць з п'едэстала двое.
Меч пакладзе салдат.
З другой рукі
дзіця апусціць на зямлю паволі,
абдыме жонку — моцны ж ён які!..
Пакінем іх адных у час такі.
Вайна іх разлучыла на вякі,
хай больш не разлучае іх ніколі.

■

О, памяць дзяцінства...
Далёкіх прастораў абрысы,
саманная вёска,
за ёй — луг зялёна-пярэсты,
рака — вераб'ю па калена,
гарачы пясок, нібы прысак,
галоўнае ж — лес,
не забуду ніколі я лес той...
Яго мы любілі,
як любяць старэйшага брата,
як сябра,
якому адкрыць можна сэрца заўсёды.
Тут летам клубілася
пахаў духмяных багата,—
хоць чэрпай іх густа,
намазвай на хлеб, нібы мёдам.
Па лапках, галінках
дрыготка скакалі праменьчыкі,
Драмала ў паўзмроку
грыбоў беланогае войска,
на ножках махнатых
палалі суніцаў агеньчыкі,
свяціўся агрэст,
жаўтлява-празрысты, бы з воску...
Ішлі у маліны мы,
бралі мы новыя кошыкі,
за пазуху рэдзьку
і хлеба акраец хавалі.
Мы ў лес акуналіся,
дзе пырхалі лёгкія конікі
і з тоненькай бляхі
вясёлыя маршы кавалі,
а дзяцел цвікі забіваў
у лясіну тугую,—
відаць, загадала яму
гаспадыня-дзятліха,
малінаўкі ў госці
адна запрашала другую,
трава шамацела...
Было таямніча і ціха.
Ды, намі разбуджаны,
дуб па-мужчынску няўмела
нам віхры разгладжваў
сваімі лістамі-далонямі,
бяроза над намі лагодна,
ласкава шумела,
і шолах прыветлівы
чулі ў разлапістым клёне мы.
...Калі ты цяпер
з дарожнай, з вагоннай спякоты
у лес акунешся,—
як быццам рака прад табою,—
яліна знаёмая
глядзіць без ранейшай пяшчоты,
і сціснецца сэрца тваё
ад няяснага болю.
І каб даказаць,
што ты ўсё яшчэ той жа хлапчына,
І любіш свой лес,
і будзеш заўжды адналюбам,
ты проста ў мундзіры
ўпадзеш на траву, пад ляшчынай,
ты будзеш куляцца
пад мудрым задумлівым дубам.

Пераклаў з рускай Анатоль ВЯРЦІНСКІ.





***браніслаў спрынчан***



ПАЭЗІЯ



## На ворыве

Намокла чорны грак крычыць —
Дождж ноччу спорыста наярваў!
Сярод камення ў крутаяры
Бягуць узахліпкі руччы.

Ды дзень — бязбожны аптыміст:
Прамені праціналоць спіну.
Сваю грымотную машыну
Заводзіць лёгка трактарыст.

І круціць плуг зямлю крылом,
Як штопар, круціць пласт за пластам,
А хлопец молада-віхрасты
Сядзіць і курыць за рулём.

Пад ліўнямі
паводцы ніў
Гайдаць зялёны шум глыбінны...
Вось хлопец выскачыў з кабіны,
Плячыма трактар засланіў.

І ад кашулі, як ад глебы,
Шугае пара.
З веку ў век
На ворыве пад веснім небам
У запражцы адной — да хлеба —
Ідуць зямля і чалавек.

Пераклаў з рускай Васіль ЗУЁНАК.

■

Я навічок. А іскры б'юць шрапнеллю,
І майстар хмурыць строгіх броваў шнур.
Ды ўсмешкай вочы майстра праяснелі:
— Заканчвай працу, хлопча. Перакур...

Я скінуў робу, мокрую ад поту,
Змахнуў з ілба акаліну рукой.
І у акне цэнтральнага пралёта
Убачыў — луг квітнее за ракой.

Не раз пад сонцам шчодрым і гарачым
Ад прыгажосці траціў я спакой,
Ды толькі ўпершыню зямлю убачыў
Праменнай і ўрачыстаю такой.

І я заўсёды буду працы рады,
І сонцу буду рады і дажджу,
Бо на жыццё з рабочае брыгады,
З мартэнаўскага цэха я гляджу.

Пераклаў з рускай Леанід ДАЙНЕКА.



**давід сімановіч**



паэзія



## Каля помніка

Як дзіўна, стаўшы ля пліты,
Чытаць сярод імён спачыўшых
Імя вясёлай той дзяўчынкі,
З якою быў калісь на «ты».

І ўспомніць дом. Пакой пусты.
На скрыпцы трапяткія пальцы
Выводзяць Брамса... І прызнацца,
Што закаханым быў тады.

І ў светлых думках побач быць.
Імя дзяўчынкі той Тамара.
Куль усяго зямнога шара
Не хопіць, каб яе забіць.

Каб спапяліць юнацтва з ёй,
Хоць у вайны свінцовым гуле,
Усяго адной хапіла кулі,
Запалкі тоненькай адной.

Як горка сёння праз гады
Знайсці сярод імён спачыўшых
Імя вясёлай той дзяўчынкі,
Жыцця кароткага сляды.

І над яе спакойным сном,
Там, дзе схіляюцца бярозы,
Жанчыну ўбачыць з вечнай бронзы,
Бы родную зямлю з вянком.

■

Я прачынаюся начамі ад званка
І да дзвярэй таропка падбягаю.
Няма нікога там. Чыя рука
На кнопку націскала — я не знаю.

Хто мне званіў? Яшчэ ж наўкола ноч.
Спяць хлапчукі яшчэ такой парою.
А можа, гэта звоніць мой званок
Сам па сабе, энергіяй сваёю?

Ці дзён маіх суровая рука,
Калі у вочы людзям сны глядзяцца,
Напамінае кнопкаю званка.
Што час ідзе, што трэба мне спяшацца.

Пераклаў з рускай Леанід ДАЙНЕКА.





**эдуард скобелеў**



паэзія



## Настроі

■

Хто пеўніка малога навучыў
Падскочыць, крыльцамі махнуць
І крыкнуць: ку-ка-рэ-ку?

Напэўна той, хто і цябе, дзяўчынка,
Калі пяском напоўніўшы вядзерца,
Ты жменьку мне насустрач сыпанула,

Як тая весялуха маладая,
Што, напаіўшы хлопца каля студні,
Вадой апырскала яму чупрыну.

Хто навучыў?
Вядома, шчасце.

■

Падкралася знянацку сонца,
Цябе за плечы абхапіла.
Куды глядзеў твой абаронца? —
Яно мне вочы асляпіла.

■

Колькі раз было выпіта мора
І насыпаны новыя горы,
Яшчэ большыя нават за тыя,
Што ўздымаюць вяршыні крутыя.

Колькі раз паўтараліся словы,
Ні адно ўжо, здаецца, не нова,
А крануліся вуснаў тваіх —
Першы раз загучалі для нас, для дваіх!

■

Завёў цвыркун на вечнасць свой гадзіннік
І пільна, і надзейна нас вартуе,
І голас твой, і смех, і той адзіны
Шчаслівы міг, хвіліну тую
У незабыўным вольным полі.
Чаго яшчэ жадаць ад вечнасці?
Даволі.

■

Мудрэц сказаў: вось вам маё вучэнне,
Трымайцеся вы правілаў маіх.
Як мала мудрасці нам на дваіх —
Трымаемся мы толькі выключэнняў.

■

Ад сустрэч, ад слоў няпэўных —
Толькі болю горкі след.
Я лічыў цябе царэўнай,
Хоць і быў падманны свет,
Свет маёй шчаслівай казкі,
Дзе жывуць яшчэ й цяпер
Побач з ласкай — абавязкі,
І сумненне, і давер...

■

— Калі на ўласны хлеб я перайду? —
Чаляднік запытаўся ў майстра.

— Ніколі,— адказаў настаўнік.
— Чаму? — ад нечаканасці сумеўся вучань.
— Таму, што хочаш лёгкага ты хлеба.

Пераклаў з рускай Васіль ВІТКА.



# ПУБЛІЦЫСТЫКА



● Рыгор КАДЗЕТ ● Іван КАНАНОВІЧ ● Раіса САМУСЕНКАВА ● Таццяна КІШЧАНКА

● Пятрусь МАКАЛЬ ● Давід СІМАНОВІЧ ● Георгі ВАЛЧОК

● Вера ВЯРБА ● Сямён БУКЧЫН ● Рыгор КАРНІЛОВІЧ ● Ганна ПАНАМАРОВА

● Аркадзь БІРЫЛКА ● Генадзь БУРАЧЭЎСКІ, Уладзімір КОНАШ



Каруннікі будоўлі. Наваполацк.



**Абрысы другой чаргі Полацкага хімкамбіната.**

# ПЛАЦДАРМ ВЫПРАБАВАННЯЎ

Званю ў камітэт камсамола трэста № 16 «Нафтабуд».

— Сакратар камітэта Генадзь Паўлаў слухае.

— Скажыце, што ўзводзяць сёння будаўнікі?

— Новыя хімічныя магутнасці — «Палімір-50».

— Хто ўзводзіць?

— Амаль тры тысячы будаўнікоў трэста, мантажных і спецыялізаваных арганізацый Наваполацка і іншых гарадоў краіны.

— Як ідуць справы?

— На будоўлі горача. Горача ад размаху і тэмпу работ, ад напорыстай і імклівай энергіі.

...Дырэктар камбіната Д. М. Лукін, знаёмячы мяне з новабудоўляй, заўважыў, што ў практыцы савецкага хімічнага будаўніцтва падобны аб'ект узводзіцца ўпершыню. Праектная магутнасць аднаго агрэгата комплекса — 50 тысяч тон поліэтылену ў год. Гэта амаль столькі, колькі выпускаюць сёння чатыры дзеючыя ўстаноўкі. «Палімір-50» стане адным з самых магутных і эканамічных у свеце вытворчасцяў такога тыпу.

Усім тэхналагічным працэсам атрымання поліэтылену будзе кіраваць электронна-вылічальная машына. На гэтай вытворчасці можна будзе атрымліваць поліэтылен з загадзя вядомымі ўласцівасцямі, што значна пашырыць сферу яго прымянення. Напрыклад, з поліэтыленавай плёнкі павышанай эластычнасці можна вырабляць мяшкі для ўпакоўкі прадметаў з вострымі гранямі. Новыя гігіенічныя якасці дадуць магчымасць выкарыстоўваць плёнку для вырабу хірургічных пальчатак і пакетаў для працяглага захоўвання харчовых прадуктаў. Больш надзейнымі стануць поліэтыленавыя трубы, кабельная ізаляцыя. Гэты комплекс — вынік плённага супрацоўніцтва паміж СССР і ГДР. «Палімір-50» ствараецца аб'яднанымі намаганнямі спецыялістаў дзвюх краін.

Апрануўшы рабочую спяцоўку, дабіраюся да мантажнікаў. Там, дзе яны працуюць, вецер шалёна рве вопратку, скідае цябе з хісткіх апор. Унізе — шэрыя стужкі дарог, мачты электраліній, а ўверсе, амаль рукой дастаць, — сонца і воблакі...





Міхаіл Чыгірын, адарваўшыся на хвіліну ад работы, тут жа, на вышыні, расказвае:

— Наогул увесь мантаж на будоўлі — не проста мантаж. Асаблівае абсталяванне, вузлы вялікіх габарытаў, блокі прыносяць нямала турбот. Знаёмыя і звычныя для нас метады мантажу, прыёмы зваркі тут не падышлі. Давялося шукаць новыя тэхнічныя рашэнні. І сёе-тое знайшлі. Большая частка ўжо зроблена.

Потым Міхаіл расказваў аб жыцці брыгады, гаварыў аб тым, што не страшна, калі на шляху здараюцца цяжкасці. Бо калі пераадольваеш іх, заўсёды нараджаецца штосьці новае. Даведваюся, што ў мантажніка гэтай брыгады Пятра Качурова крайняя адзнака вышыні — пастаяннае месца работы. Іван Птаха ў лічаныя хвіліны можа заварыць стык. І ўсе астатнія — людзі вопытныя, старанныя, ударнікі камуністычнай працы.

На будоўлі няма другарадных аб'ектаў. Усе важныя і неадкладныя: кампрэсарная, цэхі газараздзелу, палімерызацыі і інш. Але на кожным участку абавязкова скажуць, што блок рэактараў — аб'ект асаблівы. Сапраўды, тут кіпіць напружаная праца. Сюды, як на перадавую, падцягнута тэхніка, накіраваны лепшыя калектывы.

Электразваршчык Іван Таберка павярнуўся да мяне толькі пасля таго, як дагарэў электрод. Рэзка адкінуў шчыток і сказаў:

— Выбачай, але — не да размоў... Работа не чакае.

І зноў — россып іскраў. Не падступіцца.

Прараб Юры Жыгайла, тлумачачы маўклівасць хлопца, сказаў, што ў Івана абавязацельства: у трэцім, рашаючым годзе пяцігодкі — паўтары нормы ў кожную змену.

Іван Таберка, нягледзячы на тое, што ён адзін з самых маладых электразваршчыкаў будоўлі, слова сваё стрымлівае: былі дні, калі хлопец набліжаўся да дзвюх норм.

Блок рэактараў — у складанай повязі металаканструкцый. Брыгады механазборшчыкаў Валерыя Лешчанкі і Сяргея Навумовіча неаднойчы зведалі на сабе, як гэта цяжка — збіраць яго шматтонныя кольцы. Гэтая работа патрабуе асаблівага разліку, мікроннай дакладнасці, майстэрства і спрыту. Людзі здолелі ўшчыльніць час. І за хуткі дабраякасны мантаж ім было дадзена ганаровае права першым умацаваць на сваім аб'екце сцяг ударнай будоўлі.

На «Паліміры-50» нямала выдатных працаўнікоў, брыгад, участкаў, якія працуюць, як правіла, там, дзе цяжэй, дзе без наватарскага падыходу да справы нельга. Гэта і брыгады муляроў з БУ-29 Уладзіміра Папрыгі, ізаліроўшчыц Алены Баранавай з упраўлення «Белцеплаізаляцыя», каналізацыйнікаў БУ-181 Ягора Гоціна і іншыя. І амаль ва ўсіх калектывах усесаюзнай ударнай камсамольскай будоўлі людзей аб'ядноўвае маладосць, падабенства лёсаў, агульнасць інтарэсаў, прага да работы. У рашаючым годзе пяцігодкі яны паставілі перад сабой задачу: датэрмінова, да 56-й гадавіны Вялікага Кастрычніка, здаць у эксплуатацыю свае аб'екты.

Характэрная рыса спаборніцтва на новабудоўлі — канкрэтнасць абавязацельстваў кожнага яго ўдзельніка. Абавязацельствы прадугледжваюць не толькі выкананне заданняў, але і якасць работы, умацаванне працоўнай дысцыпліны, удзел у руху за камуністычныя адносіны да працы, павышэнне эканамічнай адукацыі, грамадскую і палітычную актыўнасць. Менавіта сацыялістычнае спаборніцтва нараджае тут сапраўдныя працоўныя подзвігі.

На шчыце штаба будоўлі вывешана «маланка». У ёй паведамляецца: «Учора брыгада Юрыя Кускова за змену ўклала 120 кубаметраў бетону. З перамогай, таварышы!»

Што ж, добрая навіна. Гэты вынік аказаўся рэкордам будпляцоўкі, трэста, горада.

А чым, калі не подзвігам, можна назваць працу мантажнікаў з брыгады Мацея Блыкіна, якія «ўмудрыліся» за змену ўкласці больш чым сотню метраў дваццаці нітак трубаправодаў, выканаўшы пры гэтым восем зменных заданняў!

Пашанцавала патрымаць у руках сувенір. Кавалачак пароды, выня-

тай экскаватарам экіпажа Дзмітрыя Казлова з упраўлення механізацыі № 141. Своеасаблівы кавалачак. Гэта — як кропля з акіяна: больш чым паўмільёна кубаметраў грунту выняў гэты экіпаж толькі за гады цяперашняй пяцігодкі. Сёння на іх працоўным календары — 1975 год.

У гутарцы са мной Дзмітры Казлоў сказаў:

— Нараджаюцца такія рэкорды таму, што амаль усе будаўнікі вялікай хіміі ўкладаюць у працу частачку сваёй душы...

На ўсю сцяну рабочай майстэрні — лозунг з ленінскімі словамі: «Камунізм пачынаецца там, дзе паяўляецца самаадданы, што пераадольвае цяжкую працу, клопат радавых рабочых аб павелічэнні прадукцыйнасці працы...» У майстэрні я сустрэўся з механікам БУ-29 Станіславам Ліпніцкім. Будаваць «Палімір-50» ён прыйшоў у ліку першых. У той час, калі ўпраўленне закладвала першыя падмуркі.

Аднойчы Станіслаў пабачыў, як рабочыя вялі бітумную ізаляцыю і пакрыццё. Уся «механізацыя» іх працы зводзілася да вядра з квачом. І вырашыў ён механізаваць гэтыя працэсы. Пачаў штодня валаводзіцца з бітумным агрэгатам, альбо з «лапцем», як ахрысціў яго. Распрацоўваў такі агрэгат, які б не толькі варыў бітум, але і падаваў бы яго на дах і эканомна пакрываў яго. І яшчэ: каб працаваў той агрэгат надзейна ў любое надвор'е.

І агрэгат атрымаўся. На ВДНГ ягоны «лапаць» быў адзначаны бронзавым медалём. А як да душы прыйшоўся ён будаўнікам «Паліміра-50»!

Тут, на будпляцоўцы, я міжволі стаў сведкам і такой сцэны. Двое маладых слесараў-мантажнікаў неслі на насілках хамуцікі. І не заўважалі, што дэталі сяды-тады — пры гайданні — звальваліся на зямлю. Думаў ужо зрабіць заўвагу хлопцам, але мяне апярэдзілі будаўнікі з брыгады Яўгена Волкава.

— Не бачыце хіба? — накінуліся яны на хлопцаў. А затым акружылі іх і пачалі тлумачыць, што яны гэтай сваёй бездакзнай неахайнасцю наносяць шкоду будоўлі, а значыць, і самім сабе. Мне было прыемна бачыць, што пачуццё гаспадара праявілі менавіта рабочыя і што гэта было зроблена імі не па абавязку.





Мантажнік Яўген Семяненка.

Над іх галовамі — сонца і воблакі.



Ніткі трубаправодаў... Калі б выцягнуць іх у адну лінію, яна працягнулася б ад Наваполацка да Масквы.



Віртуоз мантажных работ, брыгадзір камсамольска-маладзёжнай брыгады Мікалай Самафалаў.



У Наваполацк Яўген Васільеў прыехаў з-пад Масквы, а Булат Малдашоў — з далёкага Казахстана.



Радасна на душы было і ад таго, што большасць будаўнікоў працуе з выключнай акуратнасцю. Кожны кілаграм бетону, раствору, арматуры ў іх ідзе ў справу.

І яшчэ адно знаёмства — з брыгадай Рамана Куляшова. У трэсце мне гаварылі: «Цяжкі калектыў...» Гаварылі раней. Тады, сапраўды, калектыў быў цяжкі, можа, нават і не калектыў. Сабраліся ў брыгадзе тыя, што не прыжыліся ў іншых. А тут яшчэ не мела брыгада пастаяннага месца — усё на перакідках працавала. Ды і самі члены брыгады працавалі па прынцыпе — абы дзень да вечара. Як жа сёння жыве гэты калектыў?

Скажу коратка: сёння камсамольска-маладзёжная брыгада Рамана Куляшова — адна з лепшых брыгад будоўлі. І заслуга ў гэтым, несумненна, брыгадзіра: знайшоў Раман ключ да сэрцаў людзей, здолеў згуртаваць іх у здаровы, працаздольны калектыў.

...Адразу за лесам — «Палімір-50». Гэта велізарная будаўнічая пляцоўка, своеасаблівы палігон выпрабаванняў, напоўнены гулам, звонам, грукатам. Ён не заціхае ані днём ні ноччу. Там людзі кожны дзень, кожную змену вядуць наступ шырокім фронтам, здзяйсняючы планы пяцігодкі. Тут сапраўды горача ад тэмпу будаўніцтва, ад размаху работ.

**Фотарэпартаж Рыгора КАДЗЕТА.**

г. Наваполацк.



Нашы «зубры» адпраўляюцца ў Набярэжныя Чаўны.




Яны крочаць па алеі працоўнай славы МАЗа: Святлана Буксман, Галіна Полаўцава, Аляўціна Ільіна, Валянціна Кумачова і Валянціна Андрэева. Наперадзе іх чакае будучая слава КамАЗа.

# МАЗ — КамАЗу



Галіна Кузняцова асвоіла на МАЗе прафесію свідравальшчыцы.

Павольна крануўся цеплавоз, здрыгануліся і паплылі, пагрукваючы буферамі, платформы—састаў, нагружаны магутнымі «МАЗамі», рушыў з Аўтазаводскай станцыі ў далёкія Набярэжныя Чаўны, што ў Татарыі. На кузавах самазвалаў—надпісы крэйдай: МАЗ—КамАЗу...

Не адзін такі састаў адправілі ўжо мінскія аўтамабілебудаўнікі на берагі Камы. А колькі «зуброў» накіраваліся туды сваім ходам! Прыедуць у Мінск камскія шафёры, атрымаюць на заводзе новенькія, ззяючыя свежай фарбай машыны і, заправіўшы бакі, вырульваюць на Маскоўскую шашу: сюды дабіраліся цягніком, а дадому—на «МАЗах». Але перш чым выправіцца ў далёкую дарогу, абавязкова напішуць на рабрыстых бакавінах кузава: «Перагон МАЗ—КамАЗ». А сёй-той з шафёраў яшчэ і прыпіску зробіць: «Запрашаем на КамАЗ!»

...У кабінеце начальніка аддзела збыту Мінскага аўтазавода Івана Рыгоравіча Пензіна заўжды людна. З усіх канцоў краіны прыязджаюць сюды шафёры па магутную аўтамабільную тэхніку: з Ташкента, Іркуцка, Воркуты, Кіева. Але найбольш частыя, бадай, тут госці—шафёры з



Майстар участка дробных дэталяў цэха шасі Іван Сяргеевіч Косінеў і яго вучаніца, будучая шліфоўшчыца КамАЗа Клаўдзія Бадрыдзінава.

КамАЗа. Вось і зараз, пры мне, у кабінет заходзяць некалькі чалавек.

— Вы адкуль, хлопцы?—пытаецца Іван Рыгоравіч.

— З КамАЗа мы,—адказваюць.

— Вам, таварышы, адпускаем тэхніку ў першую чаргу...

Камскі аўтамабільны толькі яшчэ будуецца. Узводзіцца комплекс заводаў па выпуску вялікагрузных дызельных аўтамабіляў—гігантаў айчыннага аўтамабілебудавання, які будзе выпускаць штогод 150 тысяч аўтамашын. Ужо ў наступным, 1974 годзе па дарогах краіны пабягуць першыя «КамАЗы».

А сёння КамАЗ—усесаюзная ўдарная будоўля. У ёй прымае ўдзел уся краіна. У тым ліку і МАЗ. Дапамога мінскіх аўтазаводцаў сваім малодшым калегам асабліва важкая. МАЗ накіраваў у *Набярэжныя Чаўны* групу вядучых спецыялістаў—інжынераў і тэхнікаў, удзельнічаў у распрацоўцы ўзораў аўтамабіляў, якія будзе выпускаць КамАЗ.

— Перад мінскімі аўтамабілебудаўнікамі была пастаўлена задача—распрацаваць канструкцыі самазвалаў маркі «КамАЗ» грузападымальнасцю 7,5—8 тон, у тым ліку спецыялізаванай машыны для перавозкі сельскагаспадарчых грузаў,—расказвае намеснік галоўнага канструктара завода Іван Дземідовіч.—Каб паспяхова выканаць гэтае ганаровае заданне, нашы канструктары і эксперыментальшчыкі горача ўзяліся за справу. Першым вынікам плённай работы было стварэнне вопытнага аўтасамазвала «КамАЗ-5510». Ён прызначаны для перавозкі сыпучых будаўнічых матэрыялаў. Пасля былі створаны і іншыя машыны. Вопытныя ўзоры «КамАЗаў» паспяхова праходзяць выпрабаванні. Неабходна падкрэсліць той факт, што працуем мы ў цеснай садружнасці з канструктарамі Маскоўскага аўтазавода імя Ліхачова. Зілаўцы распрацоўваюць шасі машын, а мы—самазвальную ўстаноўку. І яшчэ адно. Да гэтага часу падобныя машыны ў нас не выпускаліся. Яны дадуць магчымасць значна павысіць узровень механізацыі ў сельскагаспадарчай вытворчасці.

Сярод тых, хто творча вырашае тэхнічныя праблемы стварэння новых машын і іх выпрабавання,—канструктары МАЗа Іван Табальчук, Міхаіл Захарык, інжынер-даследчык Іван Мельнікаў, начальнік бюро Віктар Дубовік і іншыя. Гэта дзякуючы іх плённай працы на заводзе быў створаны вопытны ўзор самазвала з трохбаковай разгрузкай для работы ў саставе самазвальнага аўтапоезда.

МАЗ дапамагае КамАЗу і ў падрыхтоўцы кадраў. У цэхах Мінскага аўтамабільнага за два мінулыя гады пяцігодкі прайшлі навучанне і вытворчую стажыроўку сотні рабочых і інжынерна-тэхнічных работнікаў будучага КамАЗа. Вучацца спецыялісты з *Набярэжных Чаўноў на МАЗе* і зараз.

...У невялічкім кабінеце начальніка аддзела тэхнічнага навучання Мінскага аўтамабільнага завода У. Ц. Озерава цішыня. Чуваць, як цікае настольны гадзіннік. Уладзімір Цімохавіч *расказвае будучым рабочым* КамАЗа гісторыю МАЗа, падрабязна тлумачыць, дзе і як кожны з іх будзе вучыцца і праходзіць вытворчую практыку.

— Хто з вас абраў ці ўжо мае прафесію?—пытаецца Уладзімір Цімохавіч.—Не саромцеся, вы да нас не на адзін дзень прыехалі.

— *Я хачу быць токарам,*—гаворыць Вера Якунічава.

— А я—шліфоўшчыцай,—асмялела і Святлана Громава.

— Вось і добра. Пойдзеце працаваць у цэх шасі. Гэта адзін з лепшых калектываў на заводзе. Там вам дапамогуць авалодаць прафесіяй. А тэарэтычную падрыхтоўку атрымаеце тут, у аддзеле...

У цэху шасі на ўчастку дробных дэталяў дзяўчат з Набярэжных Чаўноў сустрэла Аксеня Мінаўна Сыраквашка. Па-сяброўску ўсміхнулася, цёпла прывіталася і павяла знаёміць з участкам. Спачатку паказала станкі, потым—зборачныя канвееры, дзе збіраюцца заднія вядучыя масты і пярэднія восі, а затым завяла дзяўчат і на галоўны канвеер. Пасля гэтага агульнага знаёмства з участкам, цэхам і заводам паказала Аксеня Мінаўна дзяўчатам іхнія вучнёўскія месцы, з настаўнікамі пазнаёміла.

Вера Якунічава трапіла да наладчыка Кіма Гянджумяна. Шмат разоў паказваў ён дзяўчыне, як працаваць на такарна-рэвальверным станку, цярпліва тлумачыў вялікія і малыя «сакрэты» работы на ім, ажно пакуль аднойчы не сказаў:

— *А цяпер паспрабуй сама...*

Падышла Вера да станка, а ў самой рукі дрыжаць. Непаслухмяныя сталі, нібы не свае. Здаецца ж, так уважліва сачыла за ўсім, кожны Кімаў рух лавіла, не раз нават думала, што нічога ў яго рабоце складанага няма, а от жа калі самой давялося... Сяк-так замацавала дэталь у шпіндзелі, матор уключыла, разец падвяла... Аж сэрца замлела, калі дакрануўся разец да дэталі, калі тоненькая змейка стружкі пабегла з-пад яго... Ды неўзабаве ўляглося першае хваляванне, супакоілася, асмялела дзяўчына. А да канца змены ўжо і зусім злаўчылася—ледзь не цэлую партыю дэталяў вытачыла.

— Ну, Верачка, малайчына,—першай павіншавала яе Аксеня Мінаўна.—Калі так справы і далей пойдуць, добры з цябе токар будзе...

А Вера ад радасці толькі і змагла што з удзячнасцю глянуць на Кіма Гянджумяна.

Мінула яшчэ колькі часу, і Вера Якунічава прыйшла ў цэх ужо не вучаніцай, а токарам другога разраду.

Стараліся і яе сяброўкі—Святлана Громава і Клава Бадрыдзінава. Асвойваць нялёгкую прафесію шліфоўшчыц ім дапамагалі наладчыкі Мікалай Няфёдаў і Уладзімір Герасімчук — першакласныя спецыялісты, якія маюць за плячыма багаты вытворчы вопыт. Вучаніцы аказаліся здольныя. Клава за час вучобы паспела асвоіць не толькі свой станок, але і іншыя, і з аднолькавым стараннем апрацоўвала гайкі задняга кола, распорныя кольцы, шпількі і іншыя дэталі. Уладзімір Герасімчук ажно ахрысціў яе — «Клава-ўніверсал». Жарты жартамі, а аднойчы дзяўчына выручыла, можна сказаць, участак. Не выйшла неяк на работу вопытная шліфоўшчыца—захварэла. На зборачным канвееры занепакоіліся: канчаліся разжымныя кулакі.

— Можа, выручыш, Клава?—папрасіў Бадрыдзінаву начальнік аддзялення задніх мастоў Іван Тарасевіч.

Клава моўчкі перайшла на новы станок, прынесла неабходны інструмент і прыступіла да работы. Адна за другой, ззяючы срабрыстай паверхняй, кладуцца гатовыя дэталі. Дзяўчына, здаецца, і не спяшаецца, а працуе спорна.

У канцы змены завітаў на ўчастак Іван Тарасевіч, паглядзеў на ладную горку апрацаваных дэталяў і вачам не паверыў, што нядаўняя вучаніца змагла зрабіць столькі.

Можна было б расказаць яшчэ пра трох сяброваk з КамАЗа, якія прыехалі ў Мінск у складзе той жа групы,—пра Надзю Кліміну, Ніну Самасветаву і Галю Гырдасаву. На МАЗе дзяўчаты асвоілі прафесію заточніц.

На аўтамабільным заводзе вучацца сотні будучых рабочых КамАЗа. Адны з іх ужо набылі прафесію і паехалі ў Набярэжныя Чаўны, іншыя яшчэ ходзяць у вучнях, і мінскія аўтазаводцы шчодра дзеляцца з імі сваімі ведамі і вопытам. А як жа інакш! Хіба не тое самае было з імі самімі чвэрць стагоддзя назад, калі будаваўся МАЗ? Хіба тады не ехалі будучыя аўтазаводцы на іншыя прадпрыемствы краіны на вучобу і стажыроўку? І зараз многія ветэраны завода з удзячнасцю ўспамінаюць тую дапамогу і сяброўскую падтрымку, якую аказалі ім калісьці на Маскоўскім і Горкаўскім аўтамабільных заводах...

Скончылася вучоба для Веры Якунічавай. На ўчастку дробных дэталяў у цэху шасі МАЗа яна паспела з многімі пасябраваць, адчуць сябе сапраўдным членам калектыву, і таму перад ад'ездам дадому ёй было крыху сумна.

— Не забывай нас, Вера,—гаварыла ёй на развітанне Аксеня Мінаўна.—Пішы, як уладкуешся там...

— Абавязкова напішу..,—гаварыла дзяўчына.—Дзякуй вам за ўсё.

А ў самой слёзы на вачах...

Веру і яе сяброваk праводзілі на вакзал усім інтэрнатам. Было шмат цёплых слоў, добрых пажаданняў, сяброўскіх абдымкаў і пацалункаў. Аж пакуль не крануўся поезд.

Ён вёз у Набярэжныя Чаўны маладых рабочых, чыімі рукамі будуць стварацца на далёкіх камскіх берагах магутныя «КамАЗы».

**Іван КАНАНОВІЧ.**



# ЯК ВОДГУЛЛЕ СУРОВЫХ БІТВАЎ...

## РЭПАРТАЖ З ІНСТЫТУТА ГІСТОРЫІ ПАРТЫІ

Дыханне гісторыі... Прыслухайцеся да яго. Чуеце: далёкі голас Маркса перакопвае: «Здань блукае па Еўропе, здань камунізму»... Чуеце: грымяць залпы, гіне на барыкадах Парыжская Камуна, гіне, але не здаецца на літасць ворагу... Чуеце: трывожны пошчак барабанаў, вые вецер вакол шыбеніцы. Нарадаволец Аляксандр Ульянаў з горда ўзнятай галавой сустракае сваю смерць. І нікому яшчэ не вядомы гімназіст Уладзімір Ульянаў гаворыць: «Не, мы пойдзем не такім шляхам. Не такім шляхам трэба ісці...»

«Мы пойдзем не такім шляхам...» Каго, якіх паплечнікаў меў на ўвазе правадыр рэвалюцыі, стваральнік першай у свеце Савецкай дзяржавы і партыі бальшавікоў тады, у змрочны 1887 год, калі яму было толькі 17? Пазней ён скажа больш акрэслена: «Мы ідзем цеснай купкай па абрывістаму і цяжкаму шляху, моцна ўзяўшыся за рукі. Мы акружаны з усіх бакоў ворагамі, і нам прыходзіцца амаль заўсёды ісці пад іх агнём. Мы з'ядналіся па свабодна прынятаму рашэнню іменна для таго, каб змагацца з ворагамі і не аступацца ў суседняе балота, жыхары якога з самага пачатку ганьбілі нас за тое, што мы вылучыліся ў асобую групу і выбралі шлях барацьбы, а не шлях прымірэння».

70 гадоў гэтым радкам—столькі ж, колькі партыі бальшавікоў. Напісаныя за год да II з'езда РСДРП, яны прагучалі ў той час як дзёрзкі выклік апартуністам, што імкнуліся, паводле слоў Уладзіміра Ільіча Леніна, «ператварыць сацыял-дэмакратыю ў дэмакратычную партыю рэформ», прыцягнуць у сацыялізм буржуазныя ідэі і буржуазныя элементы. Шлях барацьбы, а не шлях прымірэння—такую пазіцыю выбралі бальшавікі, верныя паплечнікі Леніна. І нездарма да сваёй кнігі «Што рабіць?» узяў Ільіч эпіграфам словы з пісьма Ласаля да Маркса: «...Партыйная барацьба надае партыі сілу і жыццёвасць, найвялікшым доказам слабасці партыі з'яўляецца яе расплывістасць і прытупленне рэзка акрэсленых граніц, партыя ўмацоўваецца тым, што ачышчае сябе»...

...Лета 1903 года. Над Лонданам туман. Вуліцы вялізнага горада нібы запоўнены ватай. Прабіраюцца асцярожна пешаходы, занятыя сваімі дробязнымі клопатамі. І не падазраюць нават, што дзесьці тут, зусім побач, мо ў гэтым вось пракопчаным змрочным доме, адбываецца падзея гістарычнай важнасці. Спыніся, імгненне! Паслухайце, нашчадкі!

**«...Як даказаць, ці правільны адзін з прапануемых шляхоў? Адзіны сродак—пайсці па гэтаму шляху і выпрабаваць яго на справе. На пытанне тав. Лібера я адказваю: ІДЗІЦЕ З НАМІ, і мы бярэмся даказаць вам на справе, што ўсе законныя патрабаванні самастойнасці задавальняюцца цалкам».**

**«...Хіба барацьба за ПОЎНУЮ раўнапраўнасць і нават за ПРЫЗНАННЕ права нацый на самавызначэнне не з'яўляецца АБАВЯЗКАМ усёй нашай партыі? Такім чынам, калі б якая б там ні была частка нашай партыі не выканала гэтага абавязку, то яна безумоўна падлягала б асуджэнню ў сілу нашых прынцыпаў, яна безумоўна павінна была б выклікаць ПАПРАЎКУ з боку цэнтральных устаноў партыі. І калі б гэты абавязак не выконваўся свядома і наўмысна, нягледзячы на поўную магчымасць яго выконваць, то невыкананне было б здрадай».**

**«...Не! Мы не захапляемся, мы дастаткова скептыкі, мы таму і гаворым сялянскаму пралетарыю: «Ты цяпер змагаешся заадно з сялянскай буржуазіяй, але ты павінен быць заўсёды гатовы да барацьбы з гэтай самай буржуазіяй і гэту барацьбу ты павядзеш сумесна з гарадскімі прамысловымі пралетарыямі».**

**«...Лепш каб дзесяць працуючых не называлі сябе членамі партыі (сапраўдныя работнікі за чынамі не гоняцца!), чым каб адзін балбатун меў права і магчымасць быць членам партыі. Вось прынцып, які мне здаецца неабвержным і які прымушае мяне змагацца супраць Мартава».**

**«...Наша задача—аберагаць цвёрдасць, вытрыманасць, чыстату нашай партыі. Мы павінны старацца падняць званне і значэнне члена партыі вышэй, вышэй і вышэй...»**

Ленін. Яго словы, яго думкі. Яго непахісная логіка, яго непрымірымасць—зброя ў барацьбе з любым праціўнікам. Там, у гарачай атмасферы спрэчак і дыскусій II з'езда РСДРП, нарадзілася і пайшло гуляць па свеце, аб'ядноўваць у манолітныя рады пралетарскія масы простае слова—бальшавік.



Бальшавік—значыць ленінец. Бальшавік—значыць адданы справе рэвалюцыі. Вось чаму ленінскія думкі, выкладзеныя ў Праграме партыі, за якую рашуча змагаліся бальшавікі на II з'ездзе РСДРП, для кожнага працоўнага чалавека зразумелыя і блізкія.

**«Лічачы сябе адным з атрадаў сусветнай арміі пралетарыяту, расійская сацыял-дэмакратыя ставіць перад сабой тую ж мэту, да якой імкнуцца сацыял-дэмакраты ўсіх іншых краін. Змяніўшы прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці і абароту на грамадскую і ўвёўшы планамерную арганізацыю грамадска-вытворчага працэсу для забеспячэння дабрабыту і ўсебаковага развіцця ўсіх членаў грамадства, сацыяльная рэвалюцыя пралетарыяту знішчыць дзяленне грамадства на класы і тым самым вызваліць усё прыгнечанае чалавецтва, таму што пакладзе канец усім відам эксплуатацыі адной часткі грамадства другой.**

**Неабходную ўмову гэтай сацыяльнай рэвалюцыі складае дыктатура пралетарыяту, гэта значыць заваяванне пралетарыятам такой палітычнай улады, якая дазволіць яму падавіць усялякае супраціўленне эксплуатататараў.**

**...РСДРП ставіць сваёй бліжэйшай палітычнай задачай звяржэнне царскага самаўладдзя і замену яго дэмакратычнай рэспублікай, канстытуцыя якой забяспечвала б:**

**1. Самаўладдзе народа, гэта значыць сканцэнтраванне ўсёй вярхоўнай дзяржаўнай улады ў руках заканадаўчага сходу, састаўленага з прадстаўнікоў народа і ўтвараючага адну палату.**

**2. Усеагульнае, аднолькавае і прамое выбарчае права пры выбарах як у заканадаўчы сход, так і ва ўсе мясцовыя органы самакіравання для ўсіх грамадзян і грамадзянак, якія дасягнулі 20 гадоў; тайнае галасаванне пры выбарах; права кожнага выбаршчыка быць выбраным ва ўсе прадстаўнічыя ўстановы.**

**...7. Знішчэнне саслоўяў і поўную раўнапраўнасць усіх грамадзян незалежна ад полу, рэлігіі, рас і нацыянальнасці.**

**8. Права насельніцтва атрымліваць адукацыю на роднай мове, якое забяспечваецца стварэннем за кошт дзяржавы і органаў самакіравання неабходных для гэтага школ; права кожнага грамадзяніна гаварыць на роднай мове на сходах; увядзенне роднай мовы нароўні з дзяржаўнай ва ўсіх мясцовых грамадскіх і дзяржаўных установах.**

**9. Права на самавызначэнне ўсімі нацыямі, якія ўваходзяць у састаў дзяржавы.**

**...13. Аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы.**

**14. Дармавая і абавязковая агульная і прафесіянальная адукацыя для ўсіх дзяцей абодвух полаў да 16 гадоў; забеспячэнне бедных дзяцей ежай, вопраткай і навучальнымі дапаможнікамі за кошт дзяржавы».**

(З Праграмы Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, прынятай на II з'ездзе РСДРП).

Такой была яна, першая бальшавіцкая праграма. Знаходзіліся скептыкі, што з'едліва кпілі з яе: «пражэкты» Леніна і яго партыі нежыццёвыя, быць такога не можа, каб просты народ—непісьменныя рабочыя і сяляне—здолелі кіраваць дзяржавай. Але не прайшло і двух дзесяткаў гадоў, як бальшавікі пераканаўча даказалі жыццёвасць сваіх планаў. Праграма партыі Леніна пачала выконвацца значна раней—насуперак усялякім варожым прароцтвам. Рассыпалася ў прах царскае самадзяржаўе. Народы, што насялялі Расійскую імперыю, атрымалі права на самавызначэнне. Працоўныя людзі—учарашнія слесары, вадаправодчыкі, дворнікі, кухаркі, цесляры—сталі першымі савецкімі міністрамі, дырэктарамі заводаў і банкаў, военачальнікамі.

А потым на адной шостай частцы зямнога шара ўсталявалася—моцна і непахісна—першая ў свеце дзяржава рабочых і сялян—Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік. Гэта—потым. А спачатку былі неймаверныя цяжкасці, была вялікая падпольная работа Леніна і яго паплечнікаў, была падрыхтоўка да рэвалюцыі, была сама рэвалюцыя...

Час—самая няўмольная ў свеце рэч. Якія б завірухі на зямлі ні адбываліся, ён адлічвае сваё: секунды, мінуты, гады, стагоддзі. Паміраюць людзі. Паміраюць, забіраючы з сабой тое, што бачылі на ўласныя вочы, што чулі, чаму былі непасрэднымі сведкамі. Адно пакаленне змяняе другое. Чым далей ідзе час, тым менш застаецца жывых сведак гістарычных падзей мінулага.

Жывых—менш. Але ёсць іншыя сведкі, і іх сведчанні часам нават больш аб'ектыўныя і пераканаўчыя, чым людскія. Гэта—дакументы. Захаваныя ўмелымі беражлівымі рукамі, пранесеныя праз турмы, ссылкі, агні войнаў і рэвалюцый,

яны расказваюць нам аб тым часе так выразна і пераканаўча, што мы самі міма-волі адчуваем сябе ўдзельнікамі мінулых падзей.

Уладзімір Ільіч Ленін сваёй геніяльнай прадбачлівасцю разумеў, што прыйдзе час, калі шлях партыі, яе барацьбу будуць людзі вывучаць, што на вопыце яе будуць гартаваць свае сілы рэвалюцыянеры многіх краін, што кожны, самы нязначны дакумент, звязаны з дзейнасцю партыі, стане праз гады рэліквіяй. Вось чаму неўзабаве пасля грамадзянскай вайны Ільіч прапанаваў стварыць пры партыйных камітэтах спецыяльныя гісторыка-партыйныя камісіі. Пазней яны атрымалі назву Гістпартаў.

Была такая камісія створана і ў Беларусі—па рашэнню Цэнтральнага бюро КП(б)Б ад 10 чэрвеня 1921 года. Пачаўся збор дакументальных матэрыялаў аб рэвалюцыйным руху ў рэспубліцы. Супрацоўнікі Гістпарта запісвалі ўспаміны ўдзельнікаў рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, ужо тады распрацоўвалі асобныя праблемы гісторыка-партыйнай навукі. Аднак задачы будаўніцтва сацыялізму, праблемы, якія паўставалі перад партыяй усё з большай вастрынёй, патрабавалі глыбокай і грунтоўнай распрацоўкі і вывучэння гісторыі бальшавізму, пытанняў партыйнага будаўніцтва, ленінскай спадчыны. У сувязі з гэтым Гістпарт быў пераўтвораны ў навукова-даследчы Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі. Адным з першых яго дырэктараў быў Віталь Андрэевіч Сербента.

Цяпер Віталь Андрэевіч—акадэмік, супрацоўнік Інстытута філасофіі АН БССР. За плячыма ў яго суровае нялёгкае жыццё камуніста-змагара, ветэрана вялікай партыі бальшавікоў. У нас ёсць магчымасць сустрэцца з Віталем Андрэевічам, задаць яму некалькі пытанняў. Выкарыстаем яе.

**— Віталь Андрэевіч, раскажыце, калі ласка, калі і як быў створаны сённяшні Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі?**

— 17 мая 1929 года бюро ЦК КП(б)Б прыняло пастанову аб рэарганізацыі Гістпарта ў навукова-даследчы інстытут па вывучэнню гісторыі КП(б)Б і рэвалюцыйнага руху ў Беларусі. Ініцыятыва стварэння інстытута адначасова зыходзіла з дзвюх крыніц: з таварыства гісторыкаў-марксістаў і ад супрацоўнікаў Гістпарта.

**— Успомніце, калі ласка, якой у той час была структура навуковых падраздзяленняў у інстытуце, чым ён павінен быў займацца?**

— Пры інстытуце былі створаны аддзелы гісторыі КП(б)Б, гісторыі рэвалюцыйнага руху, ленінізму, у абавязак якіх уваходзіла выданне прац У. І. Леніна і класікаў марксізму-ленінізму, архіў КП(б)Б. Інстытуту падпарадкоўваўся Музей рэвалюцыі. Аддзелы інстытута павінны былі даследаваць тэарэтычныя праблемы па пытаннях гісторыі партыі, партыйнага будаўніцтва, сацыялістычнага будаўніцтва, весці навучальную работу аспірантаў.

**— Што асабліва каштоўнага, на ваш погляд, было зроблена Інстытутам у першыя гады яго існавання?**

— Супрацоўнікі Інстытута вялі актыўную работу па выданню 12-томніка твораў У. І. Леніна, а таксама рыхтавалі навуковыя працы па гісторыі Камуністычнай партыі і камсамола Беларусі. К 1935 году былі выдадзены на беларускай мове некалькі тамоў твораў У. І. Леніна. Гэта падзея мела вялікае значэнне для палітычнага жыцця рэспублікі. Сведчанне таму—рэцэнзія ў «Правде», змешчаная 19 мая 1929 года. У ёй, у прыватнасці, гаварылася: «Няма патрэбы даказваць, што выданнем прац Леніна на беларускай мове робіцца велізарная нацыянальная, культурная і палітычная работа, а сам факт выхаду ў свет нават першага тома заслугоўвае ўвагі як паказчык культурнага і палітычнага росту БССР».

Камуністычная партыя нашай рэспублікі заўсёды была адным з баявых атрадаў КПСС. Нават у тыя далёкія гады пасля II з'езда РСДРП, калі барацьба паміж цвёрдымі іскраўцамі і іх праціўнікамі расказала РСДРП, большасць партыйных арганізацый на тэрыторыі Беларусі стала на бок Леніна. Дзякуючы супрацоўнікам Інстытута гісторыі партыі, вучоным, якія займаюцца гісторыка-партыйнай праблематыкай, мы можам сёння зрабіць экскурс у той перыяд, які знаходзіцца ад нас на адлегласці ў 70 гадоў. І няхай экскурсаводамі будуць Н. В. Каменская, М. М. Мяшкоў, С. З. Пачанін, І. І. Саладкоў, У. В. Скарабагаты, Ц. Е. Саладкоў, М. Я. Шкляр—аўтары I тома «Нарысаў гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі». Пабудаваныя на фактычным матэрыяле, на дакладных дакументах, «Нарысы...» захапляюць і сваім багатым зместам, і ўдалым падборам фактычных спасылак. Як яно было — тады, ў 1903-м?

«Сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ў Беларусі раслі і мацнелі ў барацьбе з бундаўцамі і іншымі апартуністамі. Пераадольваючы супраціўленне бундаўцаў, восенню 1903 года іскраўцы-ленінцы стварылі ў Мінску сацыял-дэмакратычную групу, якая канчаткова афармілася ў сакавіку 1904 года. Сярод арганізатараў і кіраўнікоў групы былі М. Н. Кузняцоў і Е. Я. Беленькі»...





«У канцы 1903 года, нягледзячы на перашкоды, якія рабілі бундаўцы, утварылася Гомельская група РСДРП, якая аб'яднала іскраўцаў, што працавалі галоўным чынам сярод рабочых чыгуначных майстэрань горада. У стварэнні групы актыўны ўдзел прыняў бальшавік М. К. Уладзіміраў, ...які ў 1903 годзе вярнуўся з рэкамендацыйным пісьмом У. І. Леніна з-за граніцы ў Расію і пачаў весці рэвалюцыйную работу ў Гомелі. У выдадзеным у сувязі са сваім стварэннем спецыяльным паведамленні Гомельская група РСДРП адзначала, што яна з'яўляецца адной з частак Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі, чым зусім ясна і дакладна вызначаецца напрамак і характар дзейнасці групы. У паведамленні падкрэслівaецца, што вялікай гістарычнай місіяй сацыял-дэмакратыі з'яўляецца кіраўніцтва барацьбой рабочага класа за свабоду ўсяго народа. Гомельская група РСДРП сваёй бліжэйшай задачай лічыла мабілізацыю працоўных на рашучую барацьбу супраць царскага самаўладдзя».

«Летам 1904 года іскраўцамі была створана Віцебская група РСДРП. З першых жа крокаў сваёй дзейнасці групе давялося весці барацьбу з бундаўцамі і палей-цыяністамі за ўплыў на рабочых. У жніўні 1905 года ў карэспандэнцыі з Віцебска ў газету «Пролетарий» паведамлялася: «Нядаўна споўнілася гадавіна існавання мясцовай арганізацыі РСДРП. У пачатку дзейнасць яе была вельмі складанай, даводзілася ачышчаць нашы прынцыпы ад тых скажэнняў, якім яны падвергнуліся дзякуючы агітацыі бундзістаў і паалей-цыяністаў. Паступова нашы сапраўдныя прынцыпы і погляды станавіліся больш знаёмымі рабочаму люду, і пачала расці колькасць нашых прыхільнікаў...»

У Мінску і Гомелі, Бабруйску і Віцебску, Магілёве і Гродна, у іншых вялікіх і малых гарадах Беларусі мацнеў, шырыўся ўплыў іскраўцаў на працоўныя масы, ствараліся ўсё новыя і новыя бальшавіцкія групы. Калі толькі па дакументах, што захоўваюцца ў архіве інстытута, па тых работах, што былі выдадзены яго супрацоўнікамі, прасачыць шлях станаўлення, барацьбы і развіцця КПБ, то стане зразумелым: шлях гэты быў з самага пачатку прамы і ўпэўнены, напоўнены змаганнем за ленінскія ідэі.

Таму, калі ў 1917 годзе паўстала ва ўсёй сваёй вастрыні і неабходнасці вызначаная Леніным задача ўзброенага паўстання, бальшавікі Беларусі адным з першых падтрымалі яе. Трэба было аб'яднаць партыйныя сілы ўсёй Беларусі і Заходняга фронту. Такую місію ўзяў на сябе Мінскі камітэт РСДРП(б). 17 жніўня ён апублікаваў паведамленне аб скліканні Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РСДРП(б) на 1-га верасня 1917 года. 19 жніўня ў газеце «Звезда»—органе Мінскага камітэта РСДРП(б)—было апублікавана паведамленне аб скліканні франтавой канферэнцыі РСДРП(б) адначасова з абласной. Аднак у вызначаны тэрмін канферэнцыю правесці не ўдалося—перашкодзіў контррэвалюцыйны мяцеж Карнілава. Замест канферэнцыі адбылася абласная і франтавая нарада, на якую прыбылі 52 дэлегаты, што прадстаўлялі 3651 члена партыі ад армейскіх і 2410—ад грамадзянскіх партыйных арганізацый. Старшынёй абласной і франтавой нарады быў выбраны А. Ф. Мяснікоў, намеснікам старшыні—А. В. Каменшчыкаў. Гэта нарада з'явілася пачаткам арганізацыйнага афармлення бальшавіцкіх арганізацый Беларусі і Заходняга фронту ў Абласное аб'яднанне.

15—18 верасня 1917 года ў Мінску сабралася I Паўночна-Заходняя абласная канферэнцыя РСДРП(б). Яна адыграла велізарную ролю ў падрыхтоўцы працоўных Беларусі і салдат Заходняга фронту да ўзброенай барацьбы за перамогу сацыялістычнай рэвалюцыі. Канферэнцыя выбрала Паўночна-Заходні абласны партыйны камітэт РСДРП(б). Старшынёй яго стаў А. Ф. Мяснікоў, сакратаром—В. С. Селязнёў.

Гэту падзею можна лічыць адным з важнейшых этапаў на шляху стварэння Камуністычнай партыі Беларусі. Потым былі іншыя этапы—была рэвалюцыя, была грамадзянская вайна, была барацьба за ўстанаўленне Савецкай улады ў беларускіх гарадах і вёсках.

Цяпер, з далечыні пражытых гадоў, мы глядзім на той час з вялікай павагай і да яго герояў, і да яго падзей. Але ці заўсёды задумваемся над значэннем тых падзей у нашым сённяшнім жыцці, у нашым асабістым лёсе? Стаяць на паліцах строгія фаліянты навуковых прац, рознакаляровыя брашуры і шматтомнікі, стаяць, захоўваючы на сваіх старонках жыцці цэлых пакаленняў, крушэнні эпох, нараджэнні новых гістарычных фармацый. Мы гартаем старонкі і быццам крочым назад, у сваё далёкае мінулае, у мінулае нашых бацькоў і дзядоў. І якім гонарам поўніцца сэрца, калі спыняюцца вочы на такіх вось радках: «30 снежня 1918 года ў Смаленску адкрылася VI Паўночна-Заходняя канферэнцыя РКП(б). На ёй прысутнічала 206 дэлегатаў, якія прадстаўлялі 17.771 камуніста партарганізацый Мінскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай і часткі Віленскай і Чарнігаўскай губерняў.

Выказваючы волю і спадзяванні беларускага народа, канферэнцыя 30 снежня адзінадушна пастанавіла прызнаць неабходным абвяшчэнне Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі».

Тады ж было прынята і яшчэ адно рашэнне, у якім гаварылася: «Прымаючы да ўвагі, што на чарговай VI Паўночна-Заходняй абласной канферэнцыі РКП(бальшавікоў) прадстаўлены поўнасцю ўсе камуністычныя арганізацыі, якія знаходзяцца на тэрыторыі Беларусі, канферэнцыя абвяшчае сябе Першым з'ездам Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларускай рэспублікі».

Першы з'езд КП(б)Б накіраваў у адрас ЦК РКП(б) прывітанне, дзе з асаблівай сілай падкрэслівалася непарыўная сувязь камуністаў Беларусі з РСДРП(б): «Аб'яўляючы Камуністычную партыю Беларускай рэспублікі, з'езд пацвярджае сваю непарыўную ідэйную, тактычную і арганізацыйную сувязь з Расійскай Камуністычнай партыяй, якая стварылася доўгімі гадамі сумеснай работы. З'езд пацвярджае, што камуністы Беларусі і надалей цалкам будуць кіравацца дырэктывамі ЦК РКП, лічачы яго сваім вышэйшым партыйным органам».

Больш як паўсотні гадоў прайшло з таго часу. Нямала выпрабаванняў выпала на долю беларускага народа і Кампартыі Беларусі. Але нідзе і ніколі не пахіснулася яна ў сваіх прынцыпах, у сваёй вернасці справе Леніна. Сведчанне гэтага — наша сённяшняе жыццё, росквіт нашай рэспублікі — роўнай сярод роўных у дружнай сям'і народаў вялікага Савецкага Саюза.

А гісторыя адлічвае сваё. Гісторыя дакладна і акуратна, нібы спрытны будаўнік цаглiну да цаглiны, кладзе факт да факта, падзею да падзеі, узводзіць свой будынак. Але ж мы, людзі, не можам спадзявацца на адно толькі тое, што гістарычнае (калі яно гістарычнае!) захавацца само па сабе і наступныя пакаленні будуць меркаваць аб нашай барацьбе і нашым жыцці правільна. Сам па сабе гістарычны факт яшчэ нічога асаблівага не дае для чалавечага роздуму — акрамя, хіба, звычайнай цікаўнасці ці пазнавальнасці.

Каб правільна ацаніць і зразумець тую або іншую гістарычную падзею, трэба ведаць яшчэ і прычыны, якія яе парадзілі, трэба разбірацца ў сітуацыях, у суадносінах сіл у той перыяд, карацей кажучы, трэба ведаць не толькі, што «было», а і «чаму было». І вось тут лепшы памочнік чалавеку — гістарычная навука.

...У гэтым доме на Чырвонаармейскай вуліцы заўсёды строгая цішыня. Людзі, якія тут працуюць, прывыклі да яе. Але мне здаецца, што цішыня тут — толькі знешні атрыбут. Бо кожны дакумент, кожны запіс, які трапляе ў рукі супрацоўнікаў інстытута, дыхае барацьбой, гудзе набатам, не толькі паведамляе аб грозных бітвах, а нібы сам страляе і кліча: «Наперад, за ўладу Саветаў!» Колькі тут такіх дакументаў? Тысячы! Яны захоўваюцца ў спецыяльных каробках, абыходзяцца з імі тут, як з самай рэдкай каштоўнасцю. І гэта правільна, бо каштоўнасць многіх з гэтых непрыкметных на выгляд паперак нельга вызначыць ніякімі сумамі.

І вось такая паперка кладзецца на стол да вучонага і пачынае гаварыць толькі яму зразумелай мовай аб тым, што было, аб тым, чаму было, аб тым, як было. Ідуць дні, месяцы. На стале вучонага з'яўляюцца іншыя дакументы, вядуць свой дзівосны расказ, часам спрачаюцца паміж сабой, часам нават сварацца, як і тыя людзі, што калісьці занатавалі ў іх свае думкі. А вучоны павінен аб'ектыўна разабрацца ў той далёкай спрэчцы, знайсці свае аргументы, каб прыняць адно, адвергнуць другое. Вучоны — не летапісец, які бясстрасна пералічвае падзеі, і нават не каментатар. Ён — даследчык, і таму не мае права прыняць проста так, «на веру», ніводнага гістарычнага факта, не разабраўшыся ў прычынах і выніках гэтага факта. Можа здарыцца, што давядзецца вучонаму перабраць сваімі рукамі сотні пажоўклых паперак, прачытаць тысячы ледзь прыкметных радкоў, супаставіць вялікае мноства розных версій, перш чым народзіцца правільная ацэнка той або іншай падзеі.

А потым на кніжных паліцах бібліятэк і кнігарань з'явіцца новая кніга. Будуць у яе свае чытачы, пойдзе яна сваёю «кніжнай» дарогай туды, куды і трэба ёй ісці — да чалавека, да яго сэрца і розуму.

Так прыйшлі да нас і кнігі, выпушчаныя навуковымі супрацоўнікамі Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ.

Адзін толькі просты пералік назваў гэтых кніг можа шмат расказаць аб дзейнасці інстытута. Але давайце лепш дадзім слова яго дырэктару Мікалаю Фёдаравічу Капічу:

— Найбольш актыўную і плённую дзейнасць інстытут разгарнуў у пасляваенны перыяд, калі быў пераўтвораны ў філіял Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС. Цяпер у саставе інстытута ёсць сектары: гісторыі партыі, партыйнага будаўніцтва, перакладаў, партыйны архіў, сектар навуковай распрацоўкі гісторыі ўсенароднай барацьбы супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Беларусі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны і сектар апрацоўкі дакументаў і матэрыялаў партызанскіх фарміраванняў і партыйна-камсамольскага падполля. Пры інстытуце дзейнічае рэспубліканскі Савет па каардынацыі навуковай распрацоўкі гісторыі КПСС і Кампартыі Беларусі як аднаго з атрадаў КПСС.

**— Якія ж працы, падрыхтаваныя і выдадзеныя інстытутам, вартыя асаблівай увагі?**

— Па-першае, гэта выхад у свет 42 тамоў Твораў У. І. Леніна (чацвёртае выданне). Акрамя таго, на беларускай мове выпушчаны многія асобныя работы У. І. Леніна, біяграфія правадыра, успаміны родных і блізкіх аб Леніне і іншыя. Агульны аб'ём выдадзенай інстытутам перакладной марксісцка-ленінскай літаратуры за перыяд з 1947 па 1972 год склаў каля 3 тысяч друкаваных аркушаў.

Адным з найбольш буйных дасягненняў інстытута з'яўляецца выданне «Нарысаў гісторыі Камуністычнай партыі Беларусі». Два тамы гэтай працы сталі настольнымі кнігамі навуковых супрацоўнікаў, партыйных, савецкіх і камсамольскіх работнікаў, многіх камуністаў і беспартыйных. Гісторыя гераічнай барацьбы камуністаў заходніх абласцей Беларусі ва ўмовах жорсткіх рэпрэсій з боку ўлад буржуазна-памешчыцкай Польшчы паказана ў рабоце «Рэвалюцыйны шлях Кампартыі Заходняй Беларусі (1921—1939 гг.)». У падрыхтоўцы гэтай працы вялікая роля належыць старшаму навуковаму супрацоўніку інстытута Мікалаю Сямёнавічу Арэхву.

Выдаў інстытут і шэраг іншых манаграфій, брашур, зборнікаў дакументаў і ўспамінаў, прысвечаных асобным перыядам і праблемам гісторыі КПБ.

Вучоныя інстытута — доктар гістарычных навук, прафесар Сцяпан Захаравіч Пачанін, доктар гістарычных навук, прафесар Міхаіл Яфімавіч Шкляр, кандыдаты гістарычных навук Анатоль Аляксеевіч Кузняеў, Павел Паўлавіч Ліпіла, Рыгор Дзмітравіч Мацюшэнка, Іван Андрэевіч Сяргееў, Вера Сафронаўна Давыдава, Уладзімір Сяргеевіч Пасэ, старшы навуковы супрацоўнік Мікалай Сямёнавіч Арэхва і іншыя — людзі розных пакаленняў. Адны з іх памятаюць суровыя выпрабаванні грамадзянскай вайны, другія атрымалі загартоўку на франтах Вялікай Айчыннай, у партызанскіх атрадах і падпольных групах, трэцім, самым маладым, не давялося непасрэдна са зброяй у руках змагацца за шчасце Радзімы, за перамогу ленінскіх ідэй. Але сёння, на нашым мірным фронце, яны разам са сваімі старэйшымі таварышамі робяць вялікую справу. Аб тым, што справа гэта важная, вельмі патрэбная і вельмі адказная, сведчыць вось які дакумент:

**«Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі — філіяла Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

**За заслугі ў навуковай распрацоўцы гісторыі Кампартыі Беларусі, прапагандзе ідэйна-тэарэтычнай спадчыны класікаў марксізму-ленінізму ўзнагародзіць Інстытут гісторыі партыі пры ЦК КП Беларусі — філіял Інстытута марксізму-ленінізму пры ЦК КПСС ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.**

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. Падгорны.
Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР
М. Георгадзе.

Масква, Крэмль.
17 сакавіка 1972 г.»

* * *

Гісторыя Камуністычнай партыі Савецкага Саюза... Яна пачалася, калі кіравацца звычайнымі «гістарычнымі» вызначэннямі часу, зусім нядаўна — 70 гадоў назад. Але такім багатым на грандыёзныя падзеі быў гэты перыяд, што ён можа паспрачацца з цэлай гістарычнай эпохай. Вось глядзіце: II з'езд РСДРП у 1903 годзе ставіць бліжэйшай задачай звяржэнне царскага самаўладдзя. XXII з'езд КПСС у трэцяй праграме партыі вызначае новы шлях дзейнасці КПСС — пабудову камуністычнага грамадства. XXIV з'езд КПСС, падводзячы першыя вынікі гэтага будаўніцтва, падкрэслівае: «Наша мэта — зрабіць жыццё савецкіх людзей яшчэ лепшым, яшчэ прыгажэйшым, яшчэ шчаслівейшым. Мы ідзем насустрач новым гадам самааддана і натхнёна працы, працы з поўнай аддачай усіх творчых сіл... Для нас гэта — адзіны шлях да дабрабыту і шчасця, светлай камуністычнай будучыні».

Адлічвае гісторыя свае секунды, мінуты, гады, стагоддзі. Проста адлічвае. А ўжо людзі напаўняюць іх пэўным зместам. Вось чаму гэтыя 70 гадоў жыцця і дзейнасці нашай партыі можна лічыць цэлай эпохай. Яны былі напоўнены ленінскімі ідэямі, барацьбой за народнае шчасце, яны зрабілі вялікі пераварот у свеце, у думках і поглядах людзей, яны прымусілі чалавецтва не толькі паверыць у неперамажную сілу камунізму, а і выхаваць змагарамі за яго ідэі новыя і новыя мільёны людзей.

**Раіса САМУСЕНКАВА.**

● Таццяна КІШЧАНКА,
намеснік сакратара парткома
Мінскага трактарнага завода

# ТВАЯ ЗБРОЯ, КАМСОРГ

Неяк я гутарыла з маладым камуністам—сакратаром камсамольскай арганізацыі цэха. Ужо многа гадоў запар моладзь выбірала яго сваім важаком, і ён заўсёды апраўдваў давер таварышаў. Ён сапраўды працаваў натхнёна, з агеньчыкам, і камсамольская арганізацыя, якой ён кіраваў, была лепшай на заводзе. Казалі, што сакрэт яго поспехаў—самаадданасць, а яшчэ гаварылі, што ў хлопца ёсць талент працаваць з людзьмі. У гутарцы ж са мной камсорг прызнаўся: не, яму зусім не лёгка даецца гэтая камсамольская работа. Красамоўствам, як іншыя, ён не валодае, характар мае не вельмі каб вясёлы, нават танцаваць не ўмее і не любіць. Сакрэт яго поспехаў быў, аказваецца, у тым, што хлопец працаваў надзвычай добрасумленна, а, галоўнае, ніколі не ўпускаў выпадку параіцца з моладдзю, павучыцца ў старэйшых таварышаў, у калег па працы.

І мне прыгадаліся словы паэта: «У аснове кожнага ўзлёту адна дзесятая натхнення і дзевяць дзесятых поту»...

Так, праца камсорга складаная і цяжкая. Патрабаванне да камсорга—творчасць, заўсёды пошук і настойлівая вучоба. І той, хто не здатны на гэта,—выпадковы чалавек на камсамольскай рабоце.

Сіла камсамола—у партыйным кіраўніцтве. І мы ў парткоме, разумеючы гэта, аддаём рабоце камсамольскай арганізацыі завода нямала ўвагі, пастаянна дапамагаем камсамольскім работнікам, вучым іх. Амаль усе сакратары камітэта камсамола з дня заснавання завода былі камуністамі, усе яны, як правіла, выбіраюцца ў партыйны камітэт прадпрыемства.

Асаблівы клопат парткома—падбор і выхаванне кіруючых камсамольскіх кадраў. А гэта не лёгкая і, прама скажу, адказная справа. Іншы раз лягчэй падабраць сакратара партыйнага бюро цэха, чым камсорга. Моладзь—народ своеасаблівы, яна не любіць лішняй апекі, прагне самастойнасці і балюча ўспрымае, калі ёй што-небудзь «навязваюць» зверху. Але ж, разам з тым, маладыя людзі—гэта ўсё ж маладыя людзі, якім нестае жыццёвага вопыту і ідэйна-палітычнай загартоўкі, якім лягчэй падпасці пад дрэнны ўплыў, зрабіць памылковы крок. Дапамога старэйшых ім проста неабходная. Па гэтай ужо прычыне работа па кіраўніцтве камсамолам адказная і, адначасова, далікатная. Дэкларацыйнымі павучаннямі, гучнымі заклікамі і агульнымі разважаннямі дасягнеш не шмат.

Памятаю, некалькі гадоў назад у нашым парткоме абмяркоўвалася кандыдатура на пасаду сакратара камсамольскай арганізацыі аднаго з буйнейшых цэхаў. Партбюро цэха рэкамендавала перадавога рабочага, маладога камуніста. Калі меркаваць па анкеце, дык лепшага камсорга—не знойдзеш. І ўсё ж сакратар парткома, вопытны кіраўнік, калісьці сам камсамольскі работнік, спытаўся ў парторга цэха:

— Як гэты таварыш адносіцца да камсамольскай работы і якая думка моладзі аб ім?

Парторг цэха пацісну ў плячыма:

— Хто яго ведае. Выберуць яго камсоргам, дык паглядзім, як ён будзе працаваць. Здаецца, неблагі хлопец.

Было відавочна, што камуністы цэха паставіліся да гэтай важнай і адказнай справы—рэкамендацыі камсорга—па крайняй меры, несур'ёзна, і мы вырашылі параіцца з камсамольцамі цэха. Запрасілі на партбюро камсамольскіх актывістаў, маладых спецыялістаў і спыталіся ў іх:

— Каго б вы хацелі бачыць камсоргам?

Было названа некалькі прозвішчаў—маладых камуністаў, перадавікоў вытворчасці, а прозвішча таго таварыша, якога рэкамендавала партбюро цэха, не назваў ніхто. Тады хтосьці з членаў парткома ў сваю чаргу назваў некалькі прозвішчаў, сярод якіх і прозвішча хлопца, якога рэкамендавалі кіраўнікі цэха. Камсамольцы адзінадушна адхілілі яго кандыдатуру. Яны гаварылі: ён не любіць спорт, не ходзіць у турысцкія паходы, нідзе не вучыцца. Хтосьці нават заўважыў: «тумарнік ён, ні з кім ніколі не пажартуе, у абедзенны перапынак анекдота не раскажа...»

Можа, гэта і не вялікая загана, што чалавек не ходзіць у турысцкія паходы, а тым больш—не любіць расказваць анекдоты, але думку моладзі мы ўлічылі. Сакратаром камсамольскага бюро цэха быў выбраны іншы таварыш.

Умець параіцца з маладымі людзьмі, правесці партыйную лінію так, каб прапанову партарганізацыі моладзь прыняла, як сваю—у гэтым, думаецца, і заключаецца партыйнае кіраўніцтва камсамолам. Тады і работа ў камсамольскіх арганізацыях будзе не тлець, а гарэць, і на кіруючыя пасады не будуць трапляць людзі фанабэрыстыя, чэрствыя, абыякавыя.

Выпадковы чалавек на камсамольскай рабоце—гэта, на мой погляд, найгоршая бяда. І мне прыемна адзначыць, што ў нашай заводскай камсамольскай арганізацыі такіх людзей, думаецца, няма. Важакі моладзі ў нас—лепшыя камсамольцы і камуністы, паважаныя людзі. Раскажу пра аднаго з іх—пра сакратара камітэта камсамола завода Яўгена Барта.

З самага ранняга юнацтва Яўген—хлопец наш, трактаразаводскі. Прыйшоў на трактарны ён яшчэ падлеткам. Быў вучнем слесара, затым стаў працаваць самастойна. У рамонтна-механічным цэху маладога рабочага прынялі ў камсамол. Працуючы, скончыў школу рабочай моладзі, набыў сярэднюю адукацыю. Стараннага рабочага і камсамольскага актывіста завод рэкамендаваў на вучобу ў Беларускі політэхнічны інстытут. Сучасная ВНУ—гэта, акрамя ўсяго іншага, выдатная школа грамадскай работы. І Яўген прайшоў гэтую школу: амаль увесь час быў старастам групы, узначальваў турысцкія групы студэнтаў. У час вытворчай практыкі каля года працаваў кавалём у кавальскім цэху нашага завода. Гэта таксама добрая школа жыцця.

Пасля інстытута Яўген Барт вярнуўся на родны завод. Маладога спецыяліста прызначылі канструктарам у аддзел комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці. Гэта адзін са складаных і адказных участкаў завода. Менавіта тут, у гэтым аддзеле, які ў нас называюць штабам тэхнічнага прагрэсу, вырашаюцца многія складаныя пытанні аснашчэння прадпрыемства новым сучасным абсталяваннем, замены цяжкой і ручной працы механізаванай.

Праз год камуністы аддзела прынялі Яўгена ў члены партыі, а камсамольцы абралі членам камсамольскага бюро аддзела і членам камітэта камсамола завода.

У пачатку 1970 года здарылася так, што трэба было тэрмінова вылучыць аднаго з членаў камітэта на пасаду намесніка сакратара камітэта камсамола па ідэалагічнай рабоце. Пасада гэтая не лёгкая, надзвычай адказная—на заводзе больш чым пяць тысяч камсамольцаў. Мне, як намесніку сакратара парткома, які непасрэдна займаецца ідэалагічнай работай на заводзе, партыйны камітэт даручыў мне пагутарыць з членамі камітэта. Вось тады я і пазнаёмілася бліжэй з Яўгенам Бартам. Менавіта яго прапанoўвалі на гэтую пасаду члены камітэта камсамола. Мне Яўген таксама спадабаўся—сваёй сур'ёзнасцю, развахлівасцю, сталасцю меркаванняў, разуменнем задач дня.

На плечы Яўгена лёг цяжар, які не кожнаму пад сілу. Справа ў тым, што напярэдадні новага навучальнага года камсамольская арганізацыя завода выступіла з ініцыятывай: «Кожнаму камсамольцу і маладому рабочаму—эканамічную адукацыю». На заводзе былі створаны сотні груп, у якіх моладзь асільвала азы эканамічнай навукі. Усім ім трэба было аказваць метадычную і арганізацыйную дапамогу, сачыць за ходам заняткаў. Праўда, у гэтым кірунку нямала зрабіў папярэднік, але, тым не менш, новаму чалавеку трэба было нямала пастарацца, каб утрымаць усё на належным узроўні, каб кожны юнак і дзяўчына паспяхова скончылі навучальны год. А хіба работа па выхаванні моладзі зводзілася толькі да эканамічнай адукацыі!..

На першым часе Яўген нават разгубіўся. Помніцца, аднойчы ён зайшоў у партком і паскардзіўся:

— Таццяна Васільеўна, не атрымліваецца ў мяне. Здаецца, увесь дзень нешта робіш, а ўсё адно многае ўпускаеш з-пад увагі...

Нямала давялося гутарыць з ім—даваць парады, аказваць практычную дапамогу. З часам справы пайшлі ў яго лепш. А неўзабаве партком рэкамендаваў Яўгена на пасаду сакратара камсамольскага камітэта завода.

З чаго пачынаць? Такое пытанне заўсёды хвалюе маладога сакратара. Партком параіў Яўгену пачынаць з галоўнага—з вырашэння тых задач, якія стаяць перад калектывам завода, а, значыць, і перад моладдзю. Камсамол павінен гартаваць сваю волю, праходзіць сапраўдную школу жыцця ва ўсенароднай барацьбе за паспяховае выкананне рашэнняў XXIV з'езда КПСС і планаў дзевятай пяцігодкі. Важна дапамагчы кожнай цэхавай камсамольскай арганізацыі, кожнаму

камсамольцу, кожнаму юнаку і дзяўчыне вызначыць сваё месца ў барацьбе за круты ўздым эканомікі краіны, за навукова-тэхнічны прагрэс. Працаваць сёння лепш, чым учора, а заўтра лепш, чым сёння, даваць больш прадукцыі лепшай якасці і з меншымі затратамі—вось чым павінен жыць кожны малады чалавек.

Гэта, вядома, агульныя задачы. А камітэту камсамола, важаку моладзі трэба ўмець знайсці галоўнае звяно ў гэтай рабоце, канкрэтныя формы спаборніцтва, напрыклад. Нашым камсамольцам, мне думаецца, удалося сёе-тое знайсці. Па ініцыятыве мінчан летась заключаны дагавор аб сацыялістычным спаборніцтве паміж камсамольскімі арганізацыямі Валгаградскага, Харкаўскага і Мінскага трактарных заводаў. Рэгулярна падводзяцца яго вынікі. Летась камсамольцы трох заводаў вырашылі выпусціць па 150 звышпланавых трактараў—па дзесяць у гонар кожнай саюзнай рэспублікі. Усе тры калектывы сваё слова стрымалі.

Савецкая моладзь ведае аб подзвігу разанскага камсамольца, механізатара Анатоля Мярзлова, які загінуў, ратуючы ўраджай ад пажару. Камсамольцы нашага завода вырашылі ўвекавечыць гэты подзвіг. Розныя былі прапановы. Сышліся на адной: выпусціць калону звышпланавых трактараў імя героя. Далі слова—стрымалі яго. Мне потым расказвалі нашы камсамольцы, якія ездзілі да разанскіх хлебаробаў перадаваць падарунак, з якім хваляваннем сустрэлі землякі героя беларусаў, як дзякавалі ім за выдатныя машыны. Дарэчы, нашым дэлегатам давялося выступаць пасля ва ўсіх камсамольскіх арганізацыях з расказамі аб гэтай паездцы.

Адна з важных рыс важака моладзі, мне думаецца,—здольнасць, уменне сканцэнтраваць сваю ўвагу на галоўным, уменне мабілізаваць моладзь на выкананне гэтых галоўных задач. Памойму, у нашага Яўгена ёсць гэтыя здольнасці і ўменне.

Вельмі добра, што ў кожнай камсамольскай арганізацыі ёсць свая ўдарная справа, што, акрамя штодзённых, будзённых клопатаў, у юнакоў і дзяўчат ёсць нешта сваё, за што маральную адказнасць нясуць менавіта яны. Такіх спраў у камсамольцаў нашага трактарнага—некалькі. Адна з іх—даць да канца трэцяга, рашаючага 50 звышпланавых камсамольскіх трактараў і на 50 тысяч рублёў запчастак. Ці лёгкая гэта задача? Безумоўна, не лёгкая. Усё будзе залежыць ад таго, як будзе наладжана спаборніцтва сярод моладзі, як арганізуе гэту работу камітэт камсамола.

Справа вось у чым. Шматтысячны калектыў трактарнага з месяца ў месяц перавыконвае свае абавязацельствы, дае звышпланавую прадукцыю. Разам з усімі працуюць і камсамольцы, працуюць, трэба сказаць, выдатна. Але як падлічыць іхнюю долю ў агульным нашым здабытку? Наўрад ці падлічыць гэта нават самы сучасны вылічальны цэнтр. І таму камітэт камсамола прыняў рашэнне: правесці некалькі камсамольскіх суботнікаў і ў нерабочы час выканаць свае камсамольскія абавязацельствы. Дырэкцыя і партком падтрымалі гэтую ініцыятыву. Ідэя правядзення такіх суботнікаў сведчыць не толькі пра вялікае жаданне камсамольцаў даць краіне больш вельмі патрэбнай прадукцыі, але і пра высокую палітычную свядомасць моладзі. І яшчэ адно. Камсамольскія актывісты праходзяць тут добрую школу арганізатарскай работы—яны ж самі наладжваюць гэтыя суботнікі.

Хочацца адзначыць і такі штрых у рабоце камітэта камсамола завода. Поруч з трактарным месціўся рэспубліканскі стадыён «Чырвоны сцяг». Гэтай спартыўнай базе не шанцавала з самага пачатку. Стадыён марудна будавалі, неўзабаве пасля здачы ў эксплуатацыю яму спатрэбіўся капітальны рамонт. Заводская моладзь некалькі разоў выходзіла на суботнікі, прыводзіла стадыён у належны выгляд, аднак без сапраўднага гаспадара справы на ім усё адно не ішлі на лад. Вось тады камітэт камсамола і прапанаваў узяць яго на баланс завода, зрабіць заводскай спартыўнай базай. Не адразу гэтую прапанову падтрымалі дырэкцыя, доўга раіліся ў парткоме і мы. І ўсё ж вырашылі: моладзь павінна мець свой стадыён. Аднак перад камітэтам камсамола паставілі ўмову:

— Стадыён—ваш, значыць, вы—гаспадары, вы і прыводзьце яго ў парадак. Сродкі завод выдзеліць, а рамонт арганізуйце самі.

Камсамольцы горача ўзяліся за справу. Сакратар камітэта сумесна з камсамольскім і спартыўным актывам арганізаваў некалькі суботнікаў, камсамольскія брыгады працуюць на стадыёне ў вольны час і ў будні дні. І неўзабаве «Чырвоны сцяг» будзе не пазнаць...

Актыўны ўдзел прымаюць камсамольцы і ў рэканструкцыі заводскага плавальнага басейна. Зараз яны прыбудоўваюць да яго так званы «лягушатнік»—басейн для дзяцей.

У маладых—шмат энергіі, запалу, бадзёрасці. Трэба толькі ўмець даць патрэбны накірунак гэтай энергіі, не скоўваць маладой ініцыятывы. І тады моладзь, як кажуць, можа горы звярнуць.



У гэтым сэнсе хочацца нагадаць такі прыклад з гісторыі нашага прадпрыемства. Некалькі гадоў назад мы праводзілі рэканструкцыю двух цэхаў. Не хапала рабочых рук. Вырашылі звярнуцца да моладзі, заклікаць яе ўзяць шэфства над рэканструкцыяй. У першым цэху адбыўся сход моладзі. На ім не было доўгіх прамоў і залішне гучных заклікаў. Моладзі проста растлумачылі неабходнасць рэканструкцыі цэха, не ўтойваючы таго, што рабочых рук для гэтай справы нестае. І моладзь сама зразумела, што ёй трэба рабіць. У камсамольскай арганізацыі не засталося ніводнага чалавека, які б не адпрацаваў патрэбнай колькасці гадзін на будоўлі—добраахвотна, без аніякай прынукі.

У другім жа цэху з моладдзю не пагаварылі. Юнакам і дзяўчатам проста аб'явілі, па сутнасці загадалі прыняць удзел у рэканструкцыі. І што? Сакратару камсамольскай арганізацыі давялося штодня ўпрошваць юнакоў і дзяўчат пайсці на будоўлю...

І там, і тут моладзь рабіла адну і тую ж справу, але ў першым выпадку камсамольцы ішлі на будоўлю з ахвотай і задавальненнем, а ў другім—адбывалі павіннасць.

Уладзімір Ільіч вучыў: партыйныя кіраўнікі павінны жыць у гушчы мас, ведаць настрой мас, разумець масу, заваяваць яе поўнае давер'е. Гэтыя патрабаванні тычацца і камсамольскага кіраўніка. Камсорг—гэта не адміністратар, а душа моладзі. Ён і лепшы працаўнік, і актыўны рацыяналізатар, ён і турыст, і спартсмен, і нават, калі хочаце, танцор. Бо асабісты прыклад—зброя камсорга. Давер цяжка заслужыць, калі не будзе яго асабістага прыкладу.

Колісь мне даводзілася сустракацца з камсамольскім кіраўніком, які разумеў сваю пасаду і работу, як чыста адміністрацыйную. У першыя дні работы ён скардзіўся, што ў кабінеце нельга працаваць—заходзіць моладзь, адрывае яго ад спраў. Калі я спыталася ў яго, чым жа ён займаецца ў кабінеце, хлопец адказаў ледзь не з крыўдай у голасе:

— Як гэта—чым? Планы складаю, пішу даведкі...

Можаце ўявіць сабе: мінуўся які месяц—і камсамольскага кіраўніка ўжо ніхто не турбаваў, моладзь перастала заходзіць да яго ў кабінет. Тады ён сам пачаў выклікаць да сябе камсамольцаў. За нязначную правіннасць мог гадзіну чытаць нудную натацыю, нават не запрасіўшы субяседніка сесці. Раіцца з моладдзю зусім пакінуў. Прымяняў толькі адну форму кіравання—загад.

Такога кіраўніка камсамольцы хутка папрасілі вызваліць сакратарскае крэсла.

Шчыра кажучы, штосьці падобнае ці не было ў першыя дні работы на пасадзе сакратара камітэта камсамола і з Яўгенам Бартам. Чалавека нібы падмянілі. З камсоргамі цэхаў і аддзелаў пачаў гаварыць толькі афіцыйна, карэспандэнтаў яму падавай толькі з рэспубліканскіх газет, а з прадстаўнікамі заводскай шматтыражкі і размаўляць не хацеў. На шчасце, «хвароба» гэтая хутка прайшла...

Бадай, ніводнае больш-менш важнае мерапрыемства на заводзе не праходзіць без удзелу нашага камсамольскага сакратара. Выязджае ў падшэфны раён камсамольская агітбрыгада—едзе і сакратар. Ідуць выхадным днём заводскія турысты ў паход—Жэня таксама разам з імі, з рукзаком за плячыма. Праходзіць на заводзе тыдзень школы—Яўген самы актыўны ўдзельнік не толькі як сакратар, але і як чалавек, які сам вучыўся без адрыву ад вытворчасці.

І інакш, відаць, нельга. Аб тым, як важна самому камсоргу ўдзельнічаць у мерапрыемствах, сведчыць нядаўні выпадак. На заводзе ўжо стала традыцыяй прымаць у арганізацыю новых камсамольцаў ва ўрачыстай абстаноўцы. Камсамольскія білеты юнакам і дзяўчатам уручаюць ветэраны партыі ля Кургана Славы, ля помніка Перамогі. Звычайна на гэтых урачыстасцях прысутнічае і фатограф.

Здавалася, усё было арганізавана як належыць. Ды раптам пасля чарговай паездкі на Курган Славы Яўген заявіў:

— Альбо хай фатограф не едзе зусім, альбо хай як след падрыхтуецца да прыезду туды камсамольцаў.

У чым справа? Аказваецца, у час самай урачыстасці фатограф бесцымонна ўмешваўся:

— Станьце сюды, глядзіце туды, усміхайцеся...

Уся ўвага—на фатографа, а ўрачыстасць моманту ўжо недзе на другім плане.

Здаецца, дробязь, але ж не пагадзіцца з Яўгенам было нельга...

Камсорг... Гэта, канечне, важная і адказная пасада. Але нельга згадзіцца і з тымі таварышамі, якія лічаць, што ўся работа камсамольскай арганізацыі залежыць толькі ад камсорга. Маўляў, кепскі камсорг—таму і работы няма.

Партыя лічыць, што мы павінны кіраваць камсамолам не толькі праз камсоргаў. Як адзначалася на X пленуме ЦК КПБ, партыйныя арганізацыі, усе камуністы закліканы ўплы-

ваць на кожнага камсамольца, выхоўваць у моладзі гаспадарлівыя адносіны да работы, непрымірымасць да недахопаў, падтрымліваць у юнакоў і дзяўчат агеньчык актыўнасці, здольнасць мысліць самастойна, уменне арыентавацца ў складаных сітуацыях.

А што ж параіць табе, мой малады таварыш-камсамолец, калі раптам твой камсорг страціў камсамольскі запал, стаў абыякава адносіцца да грамадскай работы? Няўжо моўчкі чакаць перавыбараў, той пары, пакуль арганізацыю ўзначаліць больш энергічны таварыш? Падумай. Камсорг—твой аднагодак, твой равеснік. Калісьці, зусім нядаўна, ён любіў спорт, у абедзенны перапынак ганяў мяч, гадзіны не мог пражыць без песні, увечары ў інтэрнаце быў не супраць згуляць у шахматы. Таму і галасаваў ты за яго. А потым, ты кажаш, ён «абюракраціўся»? Але хіба ад гэтага патух агеньчык і ў тваёй душы? Хіба толькі ад камсорга ўсё залежыць? Кінь сумаваць, таварыш! Падыдзі да камсорга і скажы:

— Не старэй, браце, пакуль час не надышоў!

Прыслухайся, камсорг! Твае таварышы дапамогуць табе падняць чырвоныя ветразі, і яны затрымцяць-зазвіняць, збудзіўшы ў тваёй душы прагу новых адкрыццяў і новых дарог...

Камсамольская работа—гэта першая сур'ёзная школа ў фармаванні кіраўніка. Большасць партыйных работнікаў завода, многія гаспадарнікі першую школу грамадскай работы, першы вопыт работы з людзьмі набывалі ў камсамоле. Партком і кіраўніцтва прадпрыемства ахвотна вылучаюць камсамольскіх работнікаў на кіруючую работу.

Вось і не так даўно па прапанове партыйнага бюро механічнага цэха № 1 на пасаду майстра быў прызначаны былы сакратар камсамольскай арганізацыі Сяргей Пачкоўскі. Участак яму дастаўся складаны. Да яго некалькі чалавек узначальвалі калектыў, але справы не паляпшаліся. Цяпер жа ўчастак—адзін з лепшых на заводзе, некалькі разоў выходзіў пераможцам у сацыялістычным спаборніцтве. У чым жа справа, што дапамагло Сяргею згуртаваць людзей? Сакрэт просты: ранейшыя кіраўнікі не раіліся з людзьмі, яны толькі загадвалі. Пачкоўскі ж згуртаваў вакол сябе моладзь, заўсёды раіцца з ветэранамі, вялікую ўвагу аддае выхаваўчай рабоце. Ён умее пагутарыць з чалавекам, падказаць, тактоўна паправіць, калі хто робіць што-небудзь не так.

І гэтыя свае якасці кіраўніка Сяргей Пачкоўскі набыў у камсамоле.

■ ■ ■





*Да 80-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра МАЯКОЎСКАГА*

# НА КОЖНЫ ДЗЕНЬ І НАЗАЎСЁДЫ

Людзі подзвігу, незалежна ад таго, у якой галіне дзейнасці яны выступаюць, прыходзяць у свет, каб застацца ў скарбніцы заўсёдных духоўных вартасцяў, каб папоўніць арсенал самых узвышаных людскіх ідэалаў.

Калі мы гаворым «Пушкін» або «Маякоўскі»—гэтыя словы гучаць дастаткова пераканаўча і без дадатковых эпітэтаў, якія часамі так старанна прышпільваюцца да імён ардынарных у безнадзейнай спробе іх узняць. Таму, хто сваё жыццё зрабіў подзвігам служэння людзям, подзвігам рэвалюцыйнага абнаўлення свету, не патрэбны словы-цягачы, якія б на буксіры выцягвалі яго ў вечнасць. Ён гаворыць з нашчадкамі—як сучаснік з сучаснікамі, як жывы з жывымі. Гаворыць пра час і пра сябе з намі ўсімі і з кожным з нас асабіста.

Колькі ж гадоў доўжыцца гэтая размова? Калі пачаўся гэты дыялог? Калі пачуўся мне ўпершыню гэты голас, які ўжо не змоўкне ніколі? Цяжка дакладна згадаць, калі мы ўпершыню адчулі смак жытняга хлеба або гаючую свежасць глытка вады, таму што гэта штодзённыя рэальнасці нашага жыцця. Лягчэй успомніць тыя пакутныя хвіліны, калі нам іх не хапала і калі да нашай свядомасці з усёй няўмольнасцю даходзіла іх незаменная каштоўнасць...

Здаецца, мая першая сустрэча з Маякоўскім адбылася, калі я, дашкольнік, пачуў, як мой старэйшы брат вучыў напамяць верш «Песня-молния», паўтараючы адны і тыя ж словы, якія не зусім былі зразумелыя мне, але ўражвалі сваёй нечаканасцю, навізной, таямнічасцю. «За море синеволное, за сто земель и вод»,—гэта гучала, як раскаты грому, успыхвала, як бліскавіца ў маі... Вобразная стыхія верша завалодвала хлапчуковай фантазіяй, якая малявала сабе незвычайную карціну сусветнага злёту дзяцей каля вялізнага вогнішча, вакол якога вядуць святочны карагод хлапчукі і дзяўчынкі з усіх краін зямлі. І як гнеўна сціскаліся мае дзіцячыя кулакі, калі я даходзіў да слоў верша, якія папярэджвалі аб небяспецы: «Китайские акулы, умерьте вашу прыть, мы с китайчёнком кули пойдём акулы крыть»...

Многае, а дакладней—усё, што напісана паэтам паўвеку і больш таму назад, у нашы дні зноў набывае надзённасць. Ці не ў гэтым адна з галоўных асаблівасцяў паэтычнага вобраза, што, нарадзіўшыся як адлюстраванне канкрэтнай жыццёвай з'явы пэўнага часу, схоплівае яе дыялектычную сутнасць, якая ў нейкіх рысах можа паўтарыцца і на іншай глебе, у іншую эпоху? Ці не гэта якасць забяспечвае сапраўдным мастацкім творам такое доўгае жыццё, перакідваючы масты паміж пакаленнямі і стагоддзямі?

Калі я ўпершыню пачуў «Песню-молнию», я не ведаў імя яе аўтара, але ён ужо ўвайшоў у маю свядомасць, каб застацца ў ёй назаўсёды. Я потым сустракаўся з ім зноў і зноў, увасобленым у «пароходы, строчки и другие долгие дела», кожны раз адкрываючы для сябе новыя рысы, новыя якасці вобраза нашага сучасніка, а гэта значыць і самога сябе. Паэзія—сродак не толькі пазнання рэчаіснасці, але і самапазнання. Тое, што здавалася мне мудрагелістым і незразумелым у раннім узросце, заззяла святлом мудрасці ў сталыя гады, дапамагаючы пранікнуць у глыбінныя куткі чалавечай душы, найтанчэйшыя зрухі якой заўсёды так ці інакш абумоўлены сацыяльным кліматам грамадства.

Шмат было гэтых сустрэч, якія ў розныя гады па-рознаму адкрывалі мне велічны і шматгранны вобраз паэта.

...Вось яго магутная бронзавая постаць узвышаецца над віхрастымі галовамі юнакоў, навабранцаў паэзіі, якія сабраліся на плошчы яго імя ў Маскве, каб прачытаць яму свае першыя вершы, каб трымаць перад ім свой творчы экзамен. Іх радкі гучаць як шчырая споведзь, як прызнанне ў любові да правафлангавага савецкай паэзіі. Атмасфера гэтага імправізаванага паэтычнага веча захоплівае і мяне, унутрана наэлектрызоўвае, і я думаю аб лёсе мастака, аб яго пасмяротнай службе:

І гэтак балюча згадзіцца,
Што бронза—
глуханямая...
Я чую—сама навальніца
Голас ваш пераймае.
Між воблакамі дрыготкімі,
Якія пярун калыша,
Ламаным радком, усходкамі
Вершы маланка піша.
Гром, нібы ў бубен, бухае
У купал неба маскоўскага.
Зямля заміраючы слухае
Раскацісты бас Маякоўскага.

Непадалёку ад месца, дзе ўзвышаецца помнік яму, я заходжу ў станцыю метро, па эскалатары, быццам па лесвіцы яго радкоў, спускаюся ў падземны палац, дзе строгія мармуровыя калоны—нібыта адмысловае ўвасабленне яго манументальных паэтычных строф. Цікава згадаць і той факт, што ў суровыя дні Вялікай Айчыннай вайны, калі варожыя самалёты даляталі да неба сталіцы, тысячы масквічоў знаходзілі сабе надзейнае сховішча пад мармуровымі скляпеннямі станцыі метро «Маякоўская». Такім чынам паэт удзельнічаў у барацьбе з ненавісным яму фашызмам, у абароне Масквы, засланяючы сабой ад смерці жанчын і дзяцей, ратуючы будучыню сацыялістычнай Бацькаўшчыны...

І яшчэ адна сустрэча, якая пакінула незабыўны след у маёй душы, яшчэ адно адкрыццё Маякоўскага. На гэты раз—у тэатры драмы і камедыі на Таганцы, на спектаклі «Паслухайце», які прысвечаны яго жыццю і дзейнасці. Своеасаблівае прадстаўленне, у якім рэжысёр Ю. Любімаў з натхнёным майстэрствам увасабляе на сцэне паэтычныя вобразы твораў Маякоўскага, сінтэзуючы слова і відовішча, слова і рух, слова і музыку, слова і жэст, узнавіла з усёй драматычнай напружанасцю хвалюючыя эпізоды жыцця паэта, уваскрэсіўшы для гледача на дзве гадзіны яго жывы непаўторны воблік. Паэта, які і сёння на пярэднім краі бітвы, бітвы за душы людзей, за перамогу прынцыпаў камуністычнай маралі, за бескампраміснасць да розных праяў мяшчанства і бюракратызму, у якое б сучаснае адзенне яны зараз не прыбіраліся б... Ролю паэта выконвалі пяць акцёраў. Гэта дало магчымасць падаць яго вобраз ва ўсёй шматграннасці, паказаць самыя розныя бакі яго чалавечай натуры, яго паэтычнага характару.

...Вось ён, апантана закаханы—на грані жыцця і смерці: інача́й паэт не ўмеў. Вось ён, бунтар супраць жахаў вайны, робіць яе мішэнню свайго знішчальнага сатырычнага агню. Вось Маякоўскі ў віхуры рэвалюцыі, у рытме свабоднай працы, у барацьбе «з дрэнню» і ў рамантычнай мары аб «горадзе-садзе»... Моцнае ўражанне пакідае інсцэніроўка верша «Юбілейнае». Мы бачым, як, сыходзячы з п'едасталаў, Пушкін і Маякоўскі вядуць у начной цішыні даверлівую гаворку—нібы таварышы. І хоць выканаўцы роляў не імкнуцца дамагчыся знешняга падабенства, аднак пранікаешся шчырым даверам да іх гаворкі...

Як гэта нярэдка здараецца з вялікімі мастакамі, Маякоўскі пакінуў нам не толькі вялікую літаратурную спадчыну, але і сваю загадку. Загадку жыцця і творчасці. І сапраўды, паэт задае нашчадкам пытанні, адказаць на якія нялёгка. Як, да прыкладу, уцiснуць у строгія берагі крытычных формул вірлівую плынь творчасці мастака, які прайшоў складаны шлях ад фармалістычнага «свавольства», стыхійнага слоўнага бунтарства да мэтаімкнёнага служэння рэвалюцыі—аднаго з заснавальнікаў паэзіі сацыялістычнага рэалізму? Калі параўноўваеш тое, што сцвярджаў паэт у сваіх ранніх творах, з грамадскім пафасам яго паэзіі апошніх гадоў, часам нават здаецца, што ты чытаеш розных аўтараў. Прага абудзіць духоўную энергію чалавечай асобы, туга па прасветленых тварах людзей прадыктуе ў 1916 годзе паэту радкі непаўторнай сілы эмацыянальнага ўздзеяння, гуманістычнай страснасці.

Нет людей.
Понимаете
Крик тысячедневных мук?
Душа не хочет немая идти,
А сказать кому?
Брошусь на землю,
Камня корою
В кровь лицо изотру,
слезами асфальт омывая.
Истомившимися по ласке губами
тысячью поцелуев покрою
Умную морду трамвая.

Праз восем гадоў мы ўжо знойдзем у паэта словы, якія зусім іначай паказваюць значэнне чалавечай асобы: «единица—нуль, единица—вздор»...

Натуральна, што кожны мастак у сваім творчым развіцці перажывае непазбежныя змены, ад нечага адмаўляючыся і нешта набываючы. Душа Маякоўскага была цалкам ва ўладзе сацыяльных бур свайго часу, адкрыта і няўхільна адгукаючыся на ўсё, чым жыла краіна, разбуджаная рэвалюцыяй.

Бадай, з усіх відаў «сыравіны» для мастацкай творчасці (гук, фарба, камень, міміка, жэст) слова валодае найбольшымі магчымасцямі эмацыянальнага ўздзеяння, змяшчаючы ў сабе калі не роўназначнасць, дык па крайняй меры падабенства ўсіх названых сродкаў мастацкай выразнасці. Адной з выдатных заслуг Маякоўскага было тое, што ён, як ніхто з паэтаў, адчуў, што ў мастацкай практыцы гэтае паэтычнае багацце слова выкарыстоўваецца толькі ў нязначнай меры. Паэт выдатна разумеў, што слова можна зрабіць «палкаводцам чалавечай сілы» толькі пры ўмове, калі выкарыстоўваецца ўвесь арсенал яго мастацкіх магчымасцяў. Пры гэтым неабходна адзначыць, што майстэрства слова не было для яго самамэтай. Пошукі арыгінальнай формы, абнаўленне верша, якое ён праводзіў з наватарскай смеласцю, дыктаваліся неабходнасцю паўнакроўна адлюстраваць новы змест эпохі.

Гаворачы пра творчыя прынцыпы Маякоўскага, часам іх трактуюць аднабакова, выдаючы як нешта такое, што разбурае традыцыю рускага класічнага верша. Думаецца, плённасць наватарскай паэтыкі Маякоўскага тлумачыцца тым, што яна грунтуецца на дыялектычнай сувязі новага і старога як абавязковага закона ўсялякага прагрэсу, у тым ліку і мастацкага. Сваёй практыкай паэт толькі рэалізаваў тыя мастацкія паэтычныя магчымасці, тыя багацці, якія былі ў традыцыі рускай паэзіі, у тым ліку і яе фальклорных крыніц. Жывы вопыт савецкай шматнацыянальнай літаратуры самым пераканаўчым чынам даказаў, як глыбока памыляліся тыя, хто прышпільваў паэту ярлык «недаступнасці», «незразумеласці», сцвярджаючы, што яго творчыя прынцыпы не маюць перспектывы развіцця і прадаўжэння. Зараз, бадай, немагчыма назваць колькі-небудзь значнага прадстаўніка савецкай паэзіі, які б у той ці іншай меры не адчуў на сабе плённы ўплыў выдатных творчых заваёў Маякоўскага. Яго паэтыка арганічна ўвайшла ў творчую практыку, стала неад'емнай часткай сучаснай паэтычнай культуры, шматлікія прыхільнікі і паслядоўнікі Маякоўскага імкнуцца з такой жа смеласцю, як і ён, шукаць новыя сцежкі мастацкага асваення жыццёвай праўды. І ў тых гарачых спрэчках, якія вядуцца зараз у паэтычным цэху аб «рабоце верша», у разважаннях, якім яму быць заўтра,—Маякоўскі ўдзельнічае як жывы паплечнік. Неўміручая спадчына, якую ён нам пакінуў,—гэта духоўнае багацце на кожны дзень, гэта любоў назаўсёды.

**Пятрусь МАКАЛЬ.**



# ВІЦЕБСКІ ДЗЕНЬ

Цягнік прыбыў на світанні. Праз сакавіцкі туман ледзь прабівалася святло прывакзальных агнёў, чуліся заспаныя галасы, шыпенне паравоза.

Іх ніхто не сустракаў. Але Маякоўскі і Лавут, яго спадарожнік, асабліва не хваляваліся: яны ўжо даўно прывыклі да такіх паездак па краіне.

— Не да бабулі ў госці, не да каханай прыехалі,— жартаваў паэт.

Ён прыехаў да сваіх чытачоў. Яму хацелася бліжэй сустрэцца з імі.

Учора амаль да поўначы шумела маладая аўдыторыя ў Смаленску, сыпала запіскамі і ўсё ніяк не хацела развітвацца з паэтам.

А сёння ўжо недзе побач звінеў у тумане ранішні віцебскі трамвай.

— Паедзем? — зірнуўшы ў той бок, спытаўся Лавут.

Але замест адказу Маякоўскі прапанаваў:

— З павагі да гэтага старажытнага горада давайце загадаем: калі першаю сустрэнецца нам жанчына — тады пойдзем таптаць туман пехатою. Калі мужчына — едзем. Але давайце спрачацца — першаю абавязкова будзе жанчына.

І не паспеў ён закончыць сваю думку, як з туману выплыў радасны жаночы твар. Маякоўскі ўсміхнуўся:

— Што я вам, Лавут, казаў? Са мною спрачацца не варта...

Туман нечакана пачаў радзець, і старажытны горад з-за шэрай заслоны ветліва ўсміхнуўся вокнамі.

— Як у антычным тэатры,— сказаў Маякоўскі.— Не стае толькі хору.

Прайшлі яшчэ крыху.

— А вось і хор...

Па вуліцы беглі хлапчукі. І кожны, размахваючы стосам газет, хацеў перакрычаць таварыша:

— «Заря Запада»! Купляйце свежы нумар газеты! Навіны міжнароднага жыцця!

Маякоўскі нахіліўся да Лавута і з усмешкаю сказаў яму:

— Не хвалюйцеся, пра наш прыезд напішуць у наступным нумары.

І раптам звонкі хлапечы галасок праспяваў зусім недзе побач:

— Сёння ў тэатры выступіць паэт Уладзімір Маякоўскі!

Далей паэт пайшоў крыху весялей. Лавут з прыемнасцю пазіраў, як змяніўся настрой у яго спадарожніка.

Спыніліся над Заходняю Дзвіною.

— Зірніце! — усхвалявана схапіў Лавута за руку Маякоўскі.— Ды гэта ж крыгаход! Зірніце — якое відовішча!

Пад мост нырнула льдзіна, за ёю, нібыта даганяючы яе,— другая, крыху меншая.

— Лавуцік, дарагі мой, давайце нікуды не пойдзем,— наўмысля жаласным голасам прасіўся паэт.— Пастаім, на крыгаход паглядзім. Вы ж толькі зірніце, якая гэта напорыстасць. А я ж тут ніколі не быў. І хто яго ведае, ці давядзецца калі зноў убачыць такое. Хіба толькі на малюнках...

І, крыху памаўчаўшы, дадаў:

— А я, ведаеце, калі пяць гадоў назад у Берлін прыехаў, якраз на выстаўку трапіў. Гляджу, аж там, на палотнах Шагала — стары Віцебск: саборы, вулічкі, маленькія хаткі. А над імі — маладыя і барадатыя людзі лятаюць. Так што з Віцебскам я спачатку знаёміўся па карцінах Шагала... А вам падабаецца гэты горад? — нечакана спытаўся ён у Лавута.

— Ды як вам сказаць...

— Ну, я ведаю, вы крытык дужа строгі. А я вось прывыкаю да гарадоў. У некаторыя нават паспяваю закахацца. І вершы ім прысвячаю — як жанчынам. Вось, калі ласка, паслухайце. Само прыйшло:

В туманы крыши спрятавши,
Стоят дома и ратуши...

Бачыце, якая загатовачка? Можа дзе і спатрэбіцца... А туман пайшоў за Дзвіну. Можа і мы пойдзем далей? Як вы думаеце, Лавут? Ці, можа, вы ўжо стаміліся свой чамадан валачы? Не прыкідвайцеся — я ж ведаю, што ён у вас парожні...

— А вы чаго сваім чамаданам размахаліся? Сілу сваю паказваеце? — пакрыўджана спытаўся Лавут.

— Не, Лавут. І мой такі ж самы парожні, як і ваш. Так што пайшлі хутчэй, таварыш галоўны арганізатар літаратурных вечароў і ранішнікаў. Ці хутка ўжо той абяцаны палац, пра які вы мне столькі гаварылі яшчэ ў Маскве?

Яны перайшлі мост. І, падымаючыся па Гогалеўскай вуліцы, убачылі шыльду. На ёй нейкі мясцовы мастак старанна намаляваў рака, куфаль піва і напісаў: «Завод імя Бебеля».

— Ну і дзівосы! — паціснуў плячыма Маякоўскі і, крыху спахмурнеўшы, хутка запісаў нешта ў сваю запісную кніжку.

Маякоўскі хутка прывык да горада. Ён з цікавасцю ўзіраўся ў вуліцы і дамы, вясёла пастукваў кульбаю і, крыху прыўзнімаючы кепку, з павагаю вітаўся з гараджанамі, здзіўляючы іх сваёю далікатнасцю.

Яго бачылі ў той дзень на Успенскай горцы і на плошчы Волі, ён праехаўся ў трамваі і зноў пасля мераў вуліцы Віцебска сваімі вялізнымі крокамі.

У кнігарні адразу звярнулі ўвагу на высокага чалавека з моднай кульбаю.

— А што ў вас ёсць Маякоўскага? — спытаўся ён так гучна, што ўсе, хто быў у магазіне — і прадаўцы і пакупнікі — павярнулі да яго галовы.

— Нічога няма...

— Як гэта нічога? Што, вам не прысылаюць кніг Маякоўскага? Ці можа яны пыляцца недзе на складзе?

— Не, іх раскупілі, таварыш.

Потым, расхрыстаўшы кароткае сваё паліто, ён пайшоў у рэдакцыю «Зари Запада».

І тут яго чакалі. Спадзеючыся на сустрэчу з Маякоўскім, у рэдакцыі сабраліся маладыя літаратары. Ён, здавалася, адразу запоўніў увесь цесны пакойчык і адразу, без усялякай падрыхтоўкі загаварыў пра тое, што яго хвалявала ў гэты дзень:

— Вось вы, маладыя, вядома, пішаце вершы...

— Пішам,— ледзь не хорам адказалі пачаткоўцы.

— Гэта добра, што пішаце. А сатыра ў вас ёсць? Хто-небудзь з вас, скажыце, напісаў пра піва і сацыялізм?

— Пра што? — не зразумелі маладыя.

— Ды пра тое, што ваш завод носіць імя Бебеля. Дзіўна, але факт. Сам бачыў... Вось вам тэма! Я сам абавязкова напішу пра гэта. Мусіць назаву «Віцебскія думкі» ці «Піва і сацыялізм». Ужо і радкі асобныя ёсць.

І, не дастаючы з кішэні запісной кніжкі, ён прачытаў:

Товарищ,
в мозгах
просьбишку вычекань,
да так,
чтоб не стерлась,
и век прождя:
брось привычку
(глупая привычка!) —
приплетать
ко всему
фамилию вождя...

Ён абвёў позіркам пакой і нечакана ўсміхнуўся:

— Што, напалохаў вас? Затое лягчэй будзе знаёміцца. Я прачытаў вам верш, а зараз — ваша чарга.

* * *

Быў суботні вечар.

І яшчэ задоўга да пачатку сустрэчы ля будынка Другога беларускага дзяржаўнага тэатра тоўпіліся віцябляне.

Нават тыя, хто проста прагульваўся, праходзячы ля вялікай афішы, спыняліся, чыталі.

На афішы, у правым яе баку, была дата — 26 сакавіка 1927 года. А якраз па цэнтры ва ўвесь рост стаялі словы: «Выступае паэт Уладзімір Маякоўскі».

Афіша абяцала даклад «Твар левай літаратуры», а таксама вершы «Размова *паэта з фінінспектарам*», «Сяргею Ясеніну», «Тэадор Неттэ».

І, выйшаўшы на сцэну, для сваёй новай, незнаёмай яшчэ віцебскай аўдыторыі, паэт-агітатар гаварыў пра маладую савецкую літаратуру, чытаў вершы.

Вечар скончыўся позна.

На вакзал Маякоўскага праводзілі новыя сябры. Весела ішлі яны, чытаючы вершы, па прыціхлых ужо віцебскіх вуліцах.

Заканчваўся яшчэ адзін рабочы дзень вялікага паэта. Дзень, упісаны ў гісторыю старажытнага Віцебска.

А ўперадзе была амаль бяссонная дарожная ноч з перасадкаю.

І *на світанні* — Мінск.

І, відаць, там, на сталічнай вуліцы, Маякоўскі сказаў Лавуту:

— Паслухайце, як цудоўна гучыць: «Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Беларусі»! Мы, відаць, пакуль што яшчэ пасапраўднаму не можам уявіць, што адбылося за такі кароткі час: народ мае сваю рэспубліку — ды гэта ж грандыёзна!

**Давід СІМАНОВІЧ.**

# «КЛОП» НА БЕЛАРУСКАЙ СЦЭНЕ

У 1962 годзе ў Рэспубліканскім тэатры юнага гледача рэжысёр Б. Дакутовіч паставіў п'есу У. Маякоўскага «Клоп»... У 1968 годзе ў тэатры імя Я. Коласа рэжысёр Б. Эрын паставіў п'есу У. Маякоўскага «Клоп»...

Гэтыя сціплыя радкі з тэатральнай хронікі паведамілі ў свой час пра значную падзею, якая адбылася ў нашым тэатральным жыцці: Маякоўскі прыйшоў па беларускай сцэне!..

*І вось праз усю залу тэатра юнага гледача ідзе чалавек, падымаецца на сцэну, дзе да яго далучаецца другі.* Гэта — механікі (Б. Піскун і М. Пятроў). Яны рыхтуюць апаратуру для важнага галасавання. Дырэктар Інстытута чалавечых ажыўленняў (Г. Ручымскі) просіць іх падключыць «адначасова ўсе раёны Федэрацыі». У руках яны трымаюць апараты, падобныя на першыя транзістарныя прыёмнікі шасцідзесятых гадоў. Пры дапамозе гэтых апаратаў дырэктар інстытута звязваецца з усёй Федэрацыяй і ставіць на галасаванне вельмі важнае пытанне пра лёс індывідуума (бачыце, не чалавека, а індывідуума), які замерз 50 гадоў таму назад... На экране з'яўляецца выява зямнога шара...

*Такім чынам, спектакль пачынаецца* з пятай карціны п'есы — гэта ўжо яе другая палова, якая традыцыйна лічыцца карцінай будучыні. Значыць, рэжысёр у сваім пастановачным рашэнні ўжывае прыём рэтраспекцыі: хааналагічную перастаноўку дзеі. Аўтарскую будучыню (у п'есе ўпамінаюцца 60—70 гг.) пастаноўшчык робіць сённяшнім, сучасным. А ўсю першую палову п'есы — так званую эпоху Маякоўскага — Дакутовіч робіць далёкім і, вядома, незнаёмым сённяшняму гледачу. Для гэтага ён знайшоў вельмі цікавы ход, які дазволіў увесці ў спектакль яркую маляўнічасць і гратэск: кіно!..

*Зямны шар знікае, і на экране з'яўля-*

юцца цітры: «Прапануем паглядзець фільм тых год «Забудзься пра камін», ці цырульня «Чырвоны вежэталь». Фільм агучаны на студыі Белтюгфільм у 1962 г.»

Тут выкарыстана назва кінасцэнарыя, які папярэднічаў напісанню п'есы «Клоп» і з'явіўся, фактычна, яго асновай. Як на кінастужцы, адзін за другім перад гледачамі праплываюць гандляры. Кожны са сваёй фізіяноміяй, са сваёй знешнасцю, тварам. Арыгінальныя, непаўторныя, партрэты!

Вось прадавец гузікаў, у шырокім балахоне і капелюшы (М. Пятроў). Гандлярка яблыкамі, дзябёлая, ружовая жанчына — сама, як той яблык (Т. Мужэнка). Ці то жанчына, ці то мужчына — абвязаны хусткаю прадавец клею (У. Раманоўскі). Інтэлігентная з выгляду прадаўшчыца духоў (Ю. Фляйто)... Потым усе яны актыўнай, разнастайнай, рознахарактарнай масай запаўняюць авансцэну, цякуць, варушацца, жывуць... З'яўляецца велічны ў рыжым парыку «гегемон» — Прысыпкін (П. Дубашынскі). На шчоках у яго — «бакі, як хвост у сабакі». З пачуццём уласнай непаўторнасці, з годнасцю ён таргуецца, прыглядаецца, ацэньвае. Яго суправаджаюць: «выкладчык эстэтыкі» Баян (У. Бандарэнка) і будучая цешча Разалія Паўлаўна Рэнесанс (С. Мацюкевіч), энергічная і настырная, як і ўсе іншыя Разаліі. Яны тут — у сваёй стыхіі, для іх тут — рай!..

Бойкі гандаль змяняецца яшчэ больш тэмпераментнай сцэнай «спрэчкі» з Зояй Бярозкінай. Базар змяняецца інтэрнатам. І, нарэшце, вяселле — апагей росту дробнабуржуазнай стыхіі, вялікая ўрачыстасць і пір пераможцаў! Маякоўскі дае тут найшырэйшую прастору для рэжысёрскай і акцёрскай фантазіі. І тюгаўцы цудоўна гэта скарысталі.

...Голая сцэна. Толькі пасярэдзіне ўзвышаецца лёгкая металічная канструкцыя, як на фатаграфіях тых гадоў. Маляўнічай групаю застылі людзі. У цэнтры — Прысыпкін, побач расфуфыраная нявеста (К. Каралёва). Стаяць яны, пэўна, вельмі даўно. Чакаюць. Каго? Нецярплівасць нарастае. Раптам на сцэну вылятае да смерці перапалоханая служанка (З. Паўлоўская). А затым урываецца чалавек у гіпербалічна шырокім чырвоным галіфэ, у зялёным мундзіры (А. Каляда). Танюсенькім галаскам, які зусім не адпавядае яго магутнай пастаці, ён паведамляе, што «наш паважаны таварыш Ласальчанка на вяселле прыйсці не можа».

Усе з палёгкай уздыхаюць. І Прысыпкін дае сігнал — можна рухацца. Пад гукі бадзёрага маршу «Мы — кузнецы» ўсе спяшаюцца ў банкетную залу. Паваротны круг высоўвае на сцэну вялізны стол, які запаўняе ўсю прастору — ад кулісы да кулісы. Госці хуценька займаюць свае месцы. Прысыпкін аб'яўляе вяселле адкрытым. Але яшчэ да афіцыйнага адкрыцця многія госці (зразумела, хаваючыся!) накінуліся на пітво і закусь: чмяканне, сапенне, бульканне.

Але вось, здаецца, наеліся. Цяпер можна дазволіць сабе далучыцца і да мастацтва — гэта ж сучасна! «Бетхавена! Шакеспеара!..» — патрабуе пасаджоны бацька, бухгалтар Ярыкалаў (С. Якуцік). Пад узрадаваныя воплескі гасцей з'яўляецца раяль. Мужчыны дружна падымаюць яго на ўзвышэнне. «Не адтапчыце ножкі маёй раялі!» — папярэджвае ўласнік гэтай «рухомасці» Прысыпкін. За раяль сядае тапёр — тонкі мужчына ў смокінгу, з прыгожай сівізной (В. Станковіч).

А над усім вяселлем пануе іскрысты, дасціпны, непераймальны Баян. Ён аж п'янее ад сваёй ролі арганізатара і тамады.

Пір набывае небывалую форму. Рамкі «свецкай прыстойнасці» даўно ўжо зніклі. Кожны робіцца такім, які ён ёсць на самой справе. Пачынаецца бойка, у часе якой нехта валіць газавую пліту. З-пад стала вырываецца вялізны сноп полымя. «Пажар! Гарым!» — крычаць на сцэне. Занавес закрываецца.

На авансцэну выходзяць пажарнікі. Маршыруючы ў рытмах «сіняй блузы», яны спяваюць:

«Таварышы, помніце,
гарэлка — яд!
П'яныя
спаляць
рэспубліку-сад!..»

Спробу наблізіць дзеянне да сучаснасці пастаноўшчык вытрымлівае да канца. Аднак па стылявым рашэнні, па настроі, па ўнутраным напружанні і, зразумела, па ўспрыманні другая палова спектакля рэзка адрознівалася ад першай. Нават магло здацца, што гэта зусім іншая п'еса. У сваім спектаклі, галоўным чынам праз гэту, другую палову, рэжысёр імкнуўся правесці думку аб тым, што з нявыхаванага, грубага хама, якога і чалавекам назваць нельга — п'е, курыць, лаецца! — грамадства хоча зрабіць чалавека. Аднак відавочная несумяшчальнасць сцэнічных з'яў, намаляваных Маякоўскім, з нашым сучасным жыццём стварала часам тую атмасферу халаднаватасці, якая сяды-тады ўзнікала між гледачамі і артыстамі. Думка аб перавыхаванні, нягледзячы на сваю актуальнасць, не магла, мусіць, прагучаць на дадзеным матэрыяле, таму што Маякоўскі гаварыў пра іншы час. І глядач гэта інтуіцыйна адчуваў. Таму ўсе спробы ўцягнуць яго ў дзеянне не знаходзілі жывога водгуку. Да таго ж кампазіцыйны прыём з перастаноўкай карцін зусім заблытаў гледача. У выніку рэзка ўскладняўся працэс успрыняцця, а значыць і эфектыўнасць сэнсавага і эмацыянальнага ўздзеяння мастацкага матэрыялу. І ўсё ж пастаноўка «Клапа» з'явілася прыкметнай падзеяй у культурным жыцці рэспублікі. Значэнне пастаноўкі ў першую чаргу заключалася ў тым, што гэта было адкрыццё беларускім тэатральным мастацтвам новага, надзвычай цікавага драматургічнага матэрыялу. ТЮГаўская пастаноўка «Клапа» з'явілася зусім новым, сучасным прачытаннем гэтай п'есы Маякоўскага. Вялікай заслугаю ТЮГаўскага спектакля з'явілася стварэнне яркіх вобразаў Баяна, Прысыпкіна, Разаліі Паўлаўны.

Спектакль атрымаў шырокі водгук тэатральнай грамадскасці краіны. Многія крытыкі, у прыватнасці маскоўскія, адзначалі гэтую пастаноўку як лепшую ў тэатрах Саюза...

Поўнай процілегласцю мінскай пастаноўцы з'явіўся спектакль «Клоп» на сцэне тэатра імя Якуба Коласа. Рэжысёр Эрын у сваёй працы над п'есай руплiва вывучыў усе матэрыялы, звязаныя з пастаноўкамі Маякоўскага ў іншых тэатрах, і асабліва рэкамендацыі самога аўтара ўсім пастаноўшчыкам, якія зацікавяцца яго п'есаю. У выніку з'явіўся зусім новы спектакль...

Фанфары. Энергічная, бадзёрая музыка! Рассоўваецца заслона. Перад гледачом — вялікая сцэнічная прастора. На заднім плане, у самай глыбіні сцэны, на высокім узвышэнні аркестр аж захліпаецца ад тэмпераментнай музыкі. Над ім — безліч намаляваных сонцаў. Упоперак сцэны — лёгкі памост і некалькі лесвіц на абодва бакі. Ад аркестра на авансцэну ідзе апрануты ў фрачны касцюм вядучы. Да яго з-за куліс стройнымі шарэнгамі выходзяць уніфармісты. «Маякоўскі!» — аб'яўляе вядучы. Уніфармісты з шырокаю ўсмешкаю, на адным дыханні падхопліваюць: «Клоп»! Гэта гучыць, як стрэл, як заяўка на арыгінальнае, цікавае відовішча. І яно атрымалася... Уніфармісты, зноў жа стройнымі шарэнгамі, знікаюць за кулісамі. Урываецца бравурны марш. Пад яго жыццярадасныя гукі ўвесь памост і ўся сцэна запаўняюцца людзьмі, якія маршыруюць, перастройваюцца, мітусяцца. Так расшыфроўваецца самая першая ў п'есе рэмарка Маякоўскага: «Дзверы ўнівермага! Чырвоны пакупнікоў змяняе стракаты натоўп прыватнікаў, якія, нібы клапы, павыпаўзалі з усіх шчылін!»

Дзеянне не спыняецца, карціна змяняе карціну. Афармленне карцін, месца, атрыбуты — усё мяняецца хутка, тэатральна, проста на вачах у публікі. Як у цырку! Усе працуюць. Нездарма ж Маякоўскі перад спісам дзеючых асоб напісаў: «Працуюць». Жанр п'есы аўтар вызначыў так: «феерычная камедыя!» Тэатр імя Я. Коласа расшыфроўвае: феерычная камедыя з цыркам, пантамімай, балетам і гэтак далей. У спектаклі ёсць усё, што патрэбна цырку,— і аркестр на ўзвышэнні, і парады дзеючых асоб, і ўніфармісты, і манежныя (клоун і мім), і распарадчык цыркавога вечара — шталмайстар. Гэта ён аб'яўляе назвы кожнай новай карціны. Гэта ён распараджаецца ўніфармістамі пры перамене дэкарацый. Гэта ён дапамагае клоунам. Гэта ён кіруе ўсёй ігрою, выкарыстоўваючы аўтарскія рэмаркі.

Вось, напрыклад, сцэна вяселля. Госці крычаць: «Горка!!! Горка!!!», а шталмайстар тлумачыць: «Эльзевіра павісае на П'еры» (У гэты час героі спектакля ажыўляюць тэкст! «П'ер цалуе з пачуццём класавай годнасці!» — гэта шталмайстар гаворыць гледачам. Потым звяртаецца да персанажу: «Але, ап!» І ў адказ адразу ж герой цалуе гераіню. У спектаклі-цырку было названа 154 персанажы (у ТЮГу — іх 105). Гэта вельмі многа. Таму кожнаму акцёру даводзілася па некалькі разоў мяняць сваё тэатральнае аблічча, мяняць імгненна, як у тэатры Райкіна. Багацце акцёрскіх знаходак, няспынная плынь тэмпераменту, дасціпнасці, весялосці і жыццярадаснасці характарызавала ўвесь спектакль. Але што самае важнае і зусім новае было ў гэтай пастаноўцы «Клапа», зробленай Эрыным з дапамогай балетмайстра А. Дадышкіліяні і іншых,— гэта свой падыход да другой часткі п'есы. Раней традыцыйна яе разглядалі як «эпоху будучыні», якая прыйдзе праз 50 гадоў пасля «эпохі Маякоўскага»,— першай паловы п'есы. Эрын трактаваў гэтую частку п'есы па-іншаму — маўляў, гэта не тая будучыня нашай краіны і сусвету, выражаная ў канкрэтным эканоміка-астранамічным плане. Калі гэта і будучыня, то толькі ў плане маральна-этычнай чысціні.

Спектакль «Клоп» у Віцебскім тэатры быў насычаны тэмпераментам, багаццем імгненных акцёрскіх знаходак, маляўнічаю ігрою. А стылявое адзінства першай і другой частак — шчаслівая ўдача гэтай пастаноўкі.

Увогуле абедзве пастаноўкі «Клапа» ў Беларусі, нягледзячы на ўсе іх адрозненні, мелі шмат агульнага.

Абодва спектаклі былі новым прачытаннем гэтага твора Маякоўскага.

У абодвух выпадках спектаклі былі напоўнены бадзёрым аптымізмам, весялосцю, тэмпераментам.

У абодвух тэатрах афармленне спектакляў было вытрымана мастакамі (І. А. Тарасавым у тэатры юнага гледача, і А. Салаўевым у тэатры імя Якуба Коласа) у адзіным стылі.

У абодвух выпадках для спектакляў была створана таленавітая музыка: Я. Глебавым — у Мінску і С. Картэсам — у Віцебску.

Абодва спектаклі з'явіліся значнымі падзеямі ў культурным жыцці рэспублікі.

**Георгі ВАЛЧОК.**




# 1973

## ЖНІВЕНЬ

**1**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) М. М. Грынчыка, беларускага літаратуразнаўцы і крытыка, доктара філалагічных навук, загадчыка кафедры беларускай літаратуры Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта.

**3**

50 гадоў з дня нараджэння М. А. Кедышкі (1923—1943), аднаго з арганізатараў камсамольска-маладзёжнага падполля ў Мінску, Героя Савецкага Саюза.

**6**

70 гадоў з дня нараджэння Б. В. Платонава (1903—1967), народнага артыста СССР.

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Б. Б. Бойкі, вучонага-фізіка, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР.

**13**

60 гадоў з дня нараджэння (1913) А. В. Багатырова, беларускага кампазітара, педагога, народнага артыста БССР.

**14**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) С. С. Бірылы, народнага артыста БССР.
75 гадоў з дня нараджэння С. Д. Палееса (1878—1957), мастацтвазнаўцы.

**15**

70 гадоў з дня нараджэння (1903) П. Ф. Раніцкага, вучонага-біёлага, акадэміка Акадэміі навук БССР.

**25**

50 гадоў з дня нараджэння (1923) Р. А. Віткоўскага, беларускага мастака-графіка.



М. А. Кедышка.



Б. В. Платонаў.



Р. А. Віткоўскі.



П. Ф. Раніцкі.



А. В. Багатыроў.






**Васіль ЗУЁНАК. «СЯЛІБА».**
**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973**

# «Я НІЧОГА АД ВАС НЕ ХАВАЮ»...

Новую паэтычную кнігу Васіля Зуёнка «Сяліба» я прачытала з асаблівым пачуццём—усё, што гаворыць і аб чым думае паэт, успрымалася, як нешта блізкае, роднаснае. Не часта надараецца, каб кніга вершаў успрымалася менавіта так, каб здавалася, што размова, якую вядзе паэт, адрасавана якраз табе і каб гэтая размова ўспрымалася, як унутрана неабходная не толькі аўтару, але і табе, чытачу.

Чытала кнігу і шмат аб чым думала. Застаючыся ў напоўненым, змястоўным паэтычным свеце Васіля Зуёнка, разважала і пра тое паэтычнае пакаленне, да якога належыць аўтар «Сялібы».

Мне добра помніцца, як уваходзілі ў паэзію многія маладыя з таго пакалення, да якога належыць Васіль Зуёнак. Здаецца, зусім нядаўна распачыналася творчасць Рыгора Барадуліна, Генадзя Бураўкіна, Юрася Свіркі, Янкі Сіпакова, Васіля Зуёнка... І вось ужо ім пад сорак. У лірычным маналогу кожнага з іх ёсць шмат свайго, адметнага (розныя таленты, розныя схільнасці, розныя характары), але шмат і агульнага. Агульным было і застаецца зыходнае і, мабыць, вызначальнае ў іх жыццёвым эмацыянальным вопыце: памяць вайны, перажытай у дзяцінстве, памяць бяды і гора, што запалі ў душу разам з іншымі ўражаннямі маленства і сышліся ў свядомасці разам з вобразамі маці, роднай вёскі, з адкрыццямі юнацтва.

І я—
гару ў агні тых дзён,
Што цудам выплылі з бяздоння—
З віроў крутых.
І можа сёння
Я толькі сам сабе відзён...

Так пісаў Васіль Зуёнак яшчэ ў кнізе «Крэсіва», а гэта і сёння адгукаецца ў маім сэрцы. Гэта, мабыць, не праміне ўвагай кожны чытач, хто належыць да паэтавага пакалення.

Памяць пра вайну нельга аддзяліць ад роздуму пра сваё месца ў жыцці, пра свой абавязак.

Было мне дзесяць.
Сёння трыццаць пяць.
І кожны год, над кожнаю хвілінай
Мільёны куль—
звіняць,
звіняць,
звіняць.
Лютуюць бомбы і шалеюць міны.
І кожны год равеснікамі мне
Становяцца ўсё новыя салдаты,
І кожны год расце мой доўг вайне.
Бо хлопцы
не вяртаюцца дахаты.

Я перачытвала першыя кнігі Васіля Зуёнка—«Крэсіва» і «Крутаяр». Яны пераконваюць, што паэт развіваецца і сталее, што ён верны абранаму шляху, свайму лірычнаму характару.

Трэцяя кніга паэта атрымалася вынашанай і сталай. Яна сведчыць, што Васіль Зуёнак упэўнена пракладае свой творчы шлях, не збіваючыся на дробязнае, павярхоўнае, няшчырае: «А што ў сэрцы нашу—не гадайце, прашу; я нічога ад вас не хаваю...»

Усхваляванасць жыццём, яго сённяшнім буднем, яго складанай духоўнай сутнасцю вызначае змест і пафас паэзіі В. Зуёнка. Лірычны герой яго вершаў—чалавек просты, стрыманы ў перажываннях, яго эмацыянальнасць падуладна пражытаму вопыту, асэнсавана розумам і глыбока захавана ў душы. Але ён—не спакойны сузіральнік, яго думка балюча рэагуе на ўбачанае, ён хоча зразумець, пранікнуць ва ўнутраную існасць жыццёвых з'яў. І калі ў першай кнізе паэта вызначэнне свайго «я» бывала яшчэ часам дэкларацыйным:

На ніве смерці і жыцця
Мне вечна
юным быць аратым,
Бо ўсіх пачаткаў
я—
працяг
І ўсіх працягаў
я—
пачатак,—

то цяпер, у новай кнізе, В. Зуёнак

задумліва асэнсоўвае кожны пражыты дзень, імкнучыся вырашыць адвечную праблему адкрыцця самога сябе і праз гэта адкрыццё пазнаць свет. Гэта вельмі пасуе стрыманай манеры споведзі аўтара, дапамагае вызначыць непасрэднасць светаадчування, праўдзівасць інтанацыі і нейкую асаблівую чалавечную развагу. У паэзіі Зуёнка ёсць свае лейтматывы, якія хвалююць паэта і якія ён творча распрацоўвае. «Паміж сэрцам маім і трывогай—як сцяна—два крутыя парогі»,—піша ён, уяўляючы мяжу паміж людской чэрствасцю і дабратой.

Паэт часта звяртаецца да тэмы вайны, разважанні аб яе жахах і невычэрпнасці людскога гора нядрэнна ўзмацняюцца замалёўкамі роднай прыроды, прыгажосць якой В. Зуёнак добра адчувае.

У кожнай сасны
баравікоў,
Як прад вайной
сыноў у мацярок,
І памяць—
звон маланкавых падкоў,
І цішыня—
узведзены курок.

Паэт як бы прыслухоўваецца да голасу ўнутранага пачуцця, да трывогі свайго сэрца за лёс блізкіх людзей, за светлы дзень Радзімы, за хараство беларускай прыроды. Яго лірычны верш становіцца больш напружаны, нервовы, страсны, унутрана сабраны і шчыра чалавечы ў прызнанні:

Хай мроіцца праз ноч світанне—
Усім-усім,
І можа,—мне...
Каб не спыніцца ля парога:
Ці двор не той?
Ці я чужы?..
Як вечнасць—
Доўгая дарога,
І вокан чорныя крыжы.

«Я знаю гэту радасць—тварыць нанова свет!»—ускліквае ён у адным з вершаў... «Я знаю бога! Я малюся ўсясільнай працы, хлебу на стале, рукам мазолістым — малюся!»,— адгукаецца сам сабе ў другіх радках.

Вялікае месца ў кнізе адведзена тэме прыроды. Чалавек нясе адказнасць за ўсё на зямлі—такая думка аўтара. За мір, за цішыню, за сонца. За нашы шумлівыя лясы і чыстыя беларускія рэкі. Стан прыроды залежыць ад мудрага чалавечага ўмяшання ў яе лёс. «Ёсць у прыроды хворачы лiхія. Хто, як не мы, ёй у бядзе паможа...» Гэта—словы з паэмы «Сяліба», якую аўтар у падзагалоўку называў як «Дыялог праз гады і расстані». Гэты «дыялог»—драматычны, страсны, унутрана напружаны. У ім быццам сыходзяцца разам усе галоўныя матывы лірыкі В. Зуёнка, сыходзяцца і ўзаемадзейнічаюць, набываюць важкі змест, кандэнсуюць паэтаў вопыт. «Дыялог»—гэта размова паэта са сваім дзяцінствам і юнацтвам, вяртанне памяці да пройдзеных сцежак. Адначасова гэта—асэнсаванне пражытага, роздум над сэнсам жыцця, уласнага лёсу і—шырэй—чалавечага існавання. У творы—гэта адзнака сталасці—ёсць моцны філасафічны пачатак, ёсць заглыбленасць у складаныя праблемы часу, але разам з тым паэма нідзе не выклікае адчування адцягненасці, уся яна пранізана імпульсамі непасрэднага пачуцця. Агульнае жывое ў прыватным, пераходы пачуцця і думкі ад непасрэднага ўражання да больш шырокага абагульнення адбываюцца на той жа хвалі жывога індывідуалізаванага перажывання:

Рэкі, душы зямлі,
Бы ў трунах ляжаць прамыя,
Бы струны—ды нежывыя.
Высечам пушчы,
Крыніцы засушым...
Як жа яны будуць—нашыя душы:
Ці не збядне́юць?
Ці не змялеюць?..

У паэме шмат цудоўных мясцін сапраўднай лірыкі. Тэме кахання, якая ў вершах В. Зуёнка падаецца наогул вельмі скупа, тут адведзена многа добрых радкоў.

Калі сэрца маё пагасне...
Знаю:
кропля не ўзвесніць грудзі
І труну маю не спапяліць...
Толькі рэхам
хай сон мой абудзіць,
Хай у сэрцы журбой зазвініць
Хоць адна
слязінка твая...

Спадзяюся, што нават па тых цытатах, якія прыведзены вышэй, можна адчуць, што паэтычны свет Васіля Зуёнка—сапраўдны і цікавы, што паэтава слова—шчырае і вынашанае. Кніга «Сяліба» падорыць кожнаму чытачу добрае знаёмства са шчырым паэтам і чалавекам. Ён, гэты чалавек, ведае цану жыццю, яго вялікаму, малому клопату і справам, ён усведамляе сваю сталую адказнасць перад жыццём, і часам ён умее знайсці і высветліць у сваёй душы запаветнае і духоўна істотнае—тое, што мае каштоўнасць і для іншых людзей.

Кнігаю «Сяліба» паэт прыйшоў у грамадзянскую і творчую сталасць. Цяпер для яго наступіў час, калі ўжо строга спрошваецца за кожнае слова. Будзем спадзявацца, што ў наступных кнігах Васіль Зуёнак вытрымае свой строгі рахунак, які так выразна акрэсліўся ў «Сялібе».

**Вера ВЯРБА.**








**Іван ЧЫГРЫНАЎ. «ПЛАЧ ПЕРАПЁЛКІ». Раман. Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1972 г.**

# ТРЫВОГІ І НАДЗЕІ ПЕРАПЁЛЧЫНАЙ ПЕСНІ

Імкненне пісьменнікаў зноў і зноў зразумець вайну, асэнсаваць яе ў новых вымярэннях прадыктавана жыццём. І не толькі тымі пакутлівымі гадамі, што крывавай навальніцай прашумелі больш як чвэрць стагоддзя назад. Але—і сённяшнім днём, клопаты і надзеі, ды, урэшце, і праблемы якога ў значнай ступені ўсё яшчэ маюць самае непасрэднае судакрананне з мінулай вайною.

Не бачаныя датуль пакуты і страты, перамогі і набыткі ўздымалі нашага чалавека на новыя ступені свядомасці, самаахвярнасці, рыхтавалі глебу, на якой прарасло новае асэнсаванне чалавечага быцця на зямлі.

З героямі рамана Івана Чыгрынава «Плач перапёлкі», сялянамі лясной вёскі Верамейкі, мы развітваемся ў тую пару, калі ў іх жыцці толькі надыходзіць паласа фізічных і маральных пакутаў, цяжкага роздуму, барацьбы... Ці не пра тое напамінае ў прытоенай вясковай начы голас перапёлкі? «Калі птушкі так плачуць са свайго гора, як жа тады павінны галасіць людзі, у якіх гора наогул бывае незраўнана больш, а цяпер дык і зусім цераз край?»...

У «Плачы перапёлкі» ахвяраў, па сутнасці, яшчэ няма. Як іх прадвесце—забіты незнаёмец, якога знайшлі за ваколіцай, у ельніку. Ворагу пакуль што яшчэ няма часу, ён лезе наперад, не зазіраючы глыбока ва ўсе куткі свайго тылу. І апынуўся ў гэтым тыле невялічкі лясны астравок—Верамейкі. Два месяцы ідзе вайна, а за гэты час на вясковую вуліцу яшчэ ні разу не ступіў нямецкі бот, хаця акупацыйныя ўлады ўжо дзейнічаюць. Праўда, за сем кіламетраў, у суседнім мястэчку Бабінавічах... Два месяцы. У звыклым штодзённым жыцці—час невялікі. Але ў жыцці верамейкаўцаў яны аказаліся вельмі ёмістымі, насычанымі не столькі знешнімі падзеямі, колькі перыпетыямі псіхалагічнымі.

І. Чыгрынаў ясна, не хаваючыся паказвае, што галоўны прадмет распачатага ім мастацкага даследавання—менавіта сялянская псіхалогія, паводзіны і жыццё сялян у гэтых, на першы погляд, дзіўных абставінах. У нетаропкасці і падрабязнасці карцін верамейкаўскага жыцця, у бясконцых размовах, дзе то гучыць затоеная трывога, то прарываецца салёны вясковы жарт, у знарок прыземленай штодзённасці быцця—ва ўсім адчуваецца нейкая няпэўнасць і нават часам разгубленасць пачатковай пары акупацыі. Ніхто ўголас не пытаецца: што рабіць, як быць, як жыць. Але рашаць даводзіцца кожнаму. Намеснік старшыні верамейкаўскага калгаса Дзяніс Зазыба, напрыклад, цвёрда ўпэўнены ў тым, што «хто з роднае зямлі ўцякае, той ворага не перамагае». Так адказаў ён старшыні Радзівону Чубару, які лічыў, што ворагу «трэба пакідаць адну спустошаную зямлю».

У Чубара яшчэ наперадзе лясныя вандраванні, нялёгкі роздум. Да яго яшчэ прыйдзе адзіна патрэбная яму ісціна. Але не лягчэй будзе і Зазыбу, які застаўся ў Верамейках. Калгас не распушчаны. Засталася калгасная маёмасць. На палетках асыпаецца жыта... І за ўсё гэта адказвае ён, Зазыба. Не толькі як намеснік старшыні калгаса, а перш за ўсё як камуніст, як чалавек, які разам са Шчорсам змагаўся ў грамадзянскую вайну і вярнуўся дадому з ордэнам.

Але галоўным для Зазыбы ўсё ж застануцца ўзаемаадносіны з аднавяскоўцамі. Сёй-той ужо намякае, што яму пры немцах будзе горш, чым іншым. Адкрыта гавораць пра канец Савецкай улады дэзерціры Раман Сёмачкін, а таксама Брава-Жыватоўскі, які з благаслаўлення бабінавіцкага каменданта прызначаны паліцэйскім у

Верамейках. Не адразу паказалі сваё сапраўднае аблічча гэтыя людзі. Хоць яшчэ з даваеннага часу цягнулася за імі, як і за добраахвотным «ад'ютантам» Брава-Жыватоўскага Мікітам Драніцам, аматарам страчыць даносы на людзей, тая «ўшчэрбнасць», якая прывяла на службу да немцаў.

Што мог супрацьпаставіць ім, агульнай няўпэўненасці і трывозе Зазыба? Сваю ўласную цвёрдасць? Мужнасці, вытрымкі Зазыбу не пазычаць. Нездарма ж яму перад адступленнем даверылі схаваць у Верамейках, а потым уладкаваць у мястэчку дзяўчыну-падпольшчыцу. У Зазыбы знайшоўся і саюзнік. Каб лепей зразумець яго, гэтага аднадумца, варта звярнуцца да той атмасферы вясковага жыцця, у якой, нягледзячы на няўпэўненасць у будучыні, на трывожнае чаканне, ні на секунду не знікала вера ў простыя і такія незаменныя чалавечыя высновы. Вера (хай не палічыць чытач гэта за красамоўства) у вышэйшы і добры сэнс жыцця, у неабходнасць яго працягу, у справядлівасць. Яна, гэтая вера, адчуваецца і за спаважнасцю сялянскіх разваг аб тым, прыйдзе ці не прыйдзе немец у Верамейкі, яна бачна і ў ярка і моцна выпісанай сцэне адведак у хаце парадзіхі салдаткі Сахвеі Меляшонкавай. З ёю мы сустракаемся на жытнёвым полі, якое даўно чакае жніва,—поле верамейкаўцы вырашылі падзяліць не па колькасці жыхароў, што засталіся ў хатах зараз, а па даваенных спісах—гэта значыць улічваючы і тых, хто знаходзіцца на фронце. Вядома ж, давялося верамейкаўцам сёе-тое і пераадолець у сабе. Жанчынам, хоць і сорамна было, не хацелася зносіць у стайню хамуты, сёдлы, якія раптам сталі «нічыйнымі». Чуліся і галасы супраць дзяльбы па даваенных спісах. Не дачакаўшыся гэтай дзяльбы, пачала жаць мнагадзетная Хадоська... Але гэта не ўзяло верх над галоўным—усё тым жа імкненнем да дабра і справядлівасці. Адчуваючы ўнутраную людскую еднасць, так і не асмеліліся выступіць, праявіць сваю варожасць Брава-Жыватоўскі і Сёмачкін. «Думаеш, я не ведаю, што цябе зачапіць нават цяпер нельга?—зласліва кінуў Зазыбу Брава-Жыватоўскі.—Ого, паспрабуй толькі, дык нажывеш сабе ворагаў, бадай, у кожнай верамейкаўскай хаце. Не толькі самога звядуць са свету, але і трэцяму калену не даруюць».

Характэрная ў сэнсе разумення ўзаемаадносін верамейкаўцаў тая размова, што адбылася паміж Зазыбам, які вязе ў мястэчка уладкоўваць Марылю, і Парфёнам Вяршковым: «...здаецца, абменьваліся яны словамі толькі з адной мэтай—каб не маўчаць пры сустрэчы,—заўважае аўтар.—А ім—і Зазыбу, і Вяршкову—стрыножанай размовы, выходзіла, якраз хапала, каб зразумець адзін аднаго». За скупасцю сялянскіх рэплік—значнасць чалавечых кантактаў, сапраўдны давер. На даверы да людзей, да свайго Зазыбы (хай і праз хістанні і сумненні) нарадзілася рашэнне калгаснікаў у фактычна акупаванай немцамі мясцовасці «раздаць сялянам калгасную маёмасць... на захаванне, да прыходу Чырвонай Арміі».

Адну за другой малюе перад намі аўтар жывыя сцэны побыту, жыцця верамейкаўцаў, і мы паступова, але ясна пачынаем адчуваць, як у прыватнае і будзённае, на першы погляд, жыццё натуральна ўваходзіць гісторыя. «Я от думаю цяпера, дак нейк ажно дзіўна размешчана ета Беларуся наша, бытта госпадзь знарок яе паклаў так. Усе праз нас з вайной ходзяць, усе праз нас»,—гаворыць Зазыбу стары Прыбыткоў. І тут жа дадае самае істотнае: «А зямля харошая, можа нават лепшая за той рай».

Адчуванне гістарычнай насычанасці часу—галоўная эмоцыя, на якой нараджаецца ўяўленне аб тых грамадскіх ідэалах, што арганічна ўласцівыя жыхарам Верамеек.

Але раман, як правіла, мяркуе пашырэнне, развіццё ці нейкае новае, узнятае на вышэйшую ступень усведамленне героем гэтых ідэалаў. Ролю такога героя, на маю думку, павінен быў выканаць у «Плачы перапёлкі» параўнаўча малады чалавек Радзівон Чубар, старшыня верамейкаўскага калгаса. Першая рэакцыя Чубара—пасля таго, як спыніліся зверху розныя ўказанні і абарвалася сувязь з раённым цэнтрам,—выйсці за лінію фронту і ўступіць у часці рэгулярнай арміі. Вандраванні Чубара па захопленай ворагам мясцовасці далі аўтару магчымасць намаляваць разнастайныя праўдзівыя і дакладныя карціны першых тыдняў адступлення: мужнасць савецкіх байцоў, якія трапілі ў акружэнне, насцярожанасць вёсак, трагедыю бежанцаў...

Чубар апынуўся ў сітуацыі досыць тыповай. Мы памятаем, што сотні людзей у пагранічных раёнах у першыя тыдні вайны сутыкнуліся з неабходнасцю браць на сябе вельмі адказныя рашэнні. Прыгадаем хаця б раман Барыса Палявога «Золата», героі якога—звычайныя людзі—з вялікімі цяжкасцямі, таксама блукаючы па варожым тыле, выратоўваюць дзяржаўныя каштоўнасці. І ў іх былі на гэтым шляху розныя сустрэчы, размовы і, канечне ж, роздум...

Чубар—чалавек свайго часу. Ён будаваў новае жыццё, аддаючы справе ўсяго сябе цалкам. У клапатлівай занятасці працоўных будняў не заўсёды выдавалася магчымасць збоку глянуць на сябе, прааналізаваць перажытае... Неабходнасць такога аналізу раптам наблізілася ў самы крытычны для героя момант, калі асабліва абвастрылася ў яго пачуццё радзімы. Мы адчуваем гэта і ў тонка выпісаных аўтарам малюнках беларускай прыроды, у паэтычнай навеле пра лася.

Душэўны боль абуджае думкі героя... Нам блізкія вытокі яго ўпэўненасці: «У гэтай вайне перамога будзе за намі, трэба верыць у тое, што гаварыў таварыш Сталін 3 ліпеня...» А побач з гэтай упэўненасцю—спроба асэнсаваць свой мінулы маральны і жыццёвы вопыт, бо «ўпершыню за сталае жыццё Чубар меў сабе магчымасць думаць пра тое, хто ён, адкуль прыйшоў у гэты свет і як жыў». Азіраючыся на ўласнае мінулае—сіроцтва, дзіцячую працоўную камуну, службу ў Чырвонай Арміі, сакратарства ў сельскім Савеце,—«Чубар найбольшую цяжкасць меў адказаць на першае пытанне—хто ён?» «Было такое ўражанне,—працягвае аўтар,—што сам ён наогул няздольны расказаць пра сябе да канца і што патрэбны нехта іншы, хто ведае яго і хто б сапраўды даў звесткі пра ўсё».

«Няздольнасць расказаць пра сябе»—гэта не ад слабасці героя. Тут ужо дзейнічае іншы вышэйшы суд—свой уласны. І тут І. Чыгрынаў збочыў з вядомай літаратурнай сцяжынкі, спрабуючы разам з героем зрабіць сацыяльна-псіхалагічныя абагульненні. Але, быццам збаяўшыся залішняй праматы, крыху адышоў назад: «Мозг у сваіх лятунках звычайна не ведае межаў, але Чубар не дазваляў яму завельмі адрывацца ад рэальнасці».

Так, зразумела, Чубару яшчэ цяжка. Ён робіць толькі першыя крокі, і аўтар не хоча падштурхоўваць героя. Але тая нітачка ўнутранай незадаволенасці, тая спроба асэнсавання Чубарам свайго «я»—як быць усё ж з гэтым? Можа, яна яшчэ наперадзе, тая самая кульмінацыя, пра якую гаварылася вышэй? Дарэчы, ці не занадта моцна сказана—кульмінацыя—у дачыненні да такога твора, як «Плач перапёлкі», самы лад якога патрабуе асцярожнасці ў выбары тэрміналагічных вызначэнняў? Але не будзем забывацца пра тое, што маецца на ўвазе кульмінацыя ўнутраная, псіхалагічная. Тым больш аўтар і сам ставіць перад героем праблемы нялёгкага маральнага парадку (напрыклад, у размове з ваенурачом).

Азіраючыся на вандроўніцкую «эпапею» Чубара, цяжка пазбавіцца ад незадаволенасці тым, што ўчынкі і рашэнні героя не вельмі звязаны з багатым кругам маральных пытанняў, які спрабуе акрэсліць пісьменнік. Уступаючы, калі можна так сказаць, у паласу непасрэднага дзеяння, Чубар робіцца нейкім аднамерным, непераканаўчым. Як бы згадзіўшыся на такую аднамернасць свайго героя, аўтар адпраўляе яго назад у Верамейкі адразу пасля размовы з сустрэтым у лесе палкавым камісарам, які хутка і без цяжкасцяў давёў Чубару, што яго месца не на фронце, а ў тыле ворага, дзе трэба арганізаваць партызанскую барацьбу. Ці толькі ў пошуках гэтага несумненна разумнага і правільнага слова блукаў па лесе і палявых дарогах Чубар? Што зразумеў ён сам за гэты час? Якія ісціны адкрылі яму ўласныя і чужыя пакуты?

Так, мы мелі права разлічваць на больш паглыбленае мастацкае адлюстраванне **развіцця яго самасвядомасці, вышэйшай сілы яго душы**. Словы, сказаныя Чубарам ваенурачу, чалавеку, якога вайна зламала,—«але ж думаць і вам таксама трэба. І не трэніраваць свой мозг у адным кірунку, а наогул думаць»,—з поўным правам могуць быць адрасаваны і самому Чубару.

Вось дзе адгукнулася імкненне «не адрывацца ад рэальнасці», прасцей кажучы, не паглыбляцца, не завастраць... А само жыццё, як высветлілася, прымушае менавіта да гэтага. І нейкай механічнасцю ўчынкаў героя прыйшлося аўтару плаціць за зробленыя паслабленні ў аналізе маральнай сферы. Вось і вяртанне Чубара ў Верамейкі ўспрымаецца не зусім як уласнае, вынашанае рашэнне... Не пераканаў аўтар і ў маральным праве Чубара распараджацца жыццём ваенурача...

Тым не менш кніга І. Чыгрынава—несумненна прыкметная з'ява беларускай літаратуры апошняга часу. Разам з творамі В. Быкава, А. Адамовіча, А. Асіпенкі і іншых яна, без скідак, уваходзіць у эпапею, якая на розных этапах паказвае жыццё беларускага народа ў гады вайны. Яе пачатковы перыяд, у асаблівасці той час, што адлюстроўвае «Плач перапёлкі»,—найменш даследаваны ў літаратуры. Тут І. Чыгрынаў ідзе адзін з першых.

«Плач перапёлкі» — новае, вышэйшае па якасці сведчанне аб І. Чыгрынаву як аб назіральным і ўдумлівым пісьменніку-псіхолагу, які валодае багатай і своеасаблівай моўнай палітрай. Плённая і аўтарская пазіцыя ў пазнанні чалавека, у аналізе народнага жыцця. І тут перш за ўсё бачацца нам вытокі новых паўнакроўных твораў пісьменніка.

**Сямён БУКЧЫН.**

**«КАМСАМОЛ І КУЛЬТУРА».** Творчая моладзь — гэта заўтрашні дзень нашага мастацтва. І кроўная справа камсамола — выхаваць яе духоўна багатай, ідэйна мэтанакіраванай, з высокім прафесійным майстэрствам. Гэтыя праблемы і разглядаюцца ў кнізе А. Камшалава. У ёй грунтоўна асвятляецца ўдзел камсамола і моладзі нашай краіны ў ажыццяўленні культурнай рэвалюцыі, расказваецца пра вялікую работу, якую праводзіць ВЛКСМ па эстэтычным і маральным выхаванні маладой творчай інтэлігенцыі. Кніга абагульняе вопыт камсамола па арганізацыі творчай вучобы пачынаючых літаратараў, мастакоў, кампазітараў, акцёраў.

**Выдавецтва «Молодая гвардия», Масква, 1973 г. На рускай мове.**

**«ЦЭНТР ВЫКЛІКАЕ МІНСК».** У канцы кастрычніка 1942 года на беразе Пцічы пад Мінскам прызямлілася група савецкіх разведчыкаў. Узначальваў яе афіцэр Савецкай Арміі, былы настаўнік з Магілёўшчыны Фёдар Калінін. Праз колькі дзён, на кожным кроку рызыкуючы жыццём, разведчыкі прабраліся ў акупаваны горад, наладзілі сувязь з партыйным падполлем. Хутка ў Цэнтр паляцелі першыя звесткі аб дыслакацыі і перамяшчэнні варожых войскаў...

Эпізоды баявой дзейнасці ў варожым тыле і ўзнаўляе ў сваёй кнізе Ф. Калінін, былы камандзір групы, а пазней — атрада франтавой разведкі. Перад чытачом паўстаюць новыя старонкі мужнай барацьбы мінскіх падпольшчыкаў і партызанаў.

Кніга выдадзена ў літаратурным запісе Э. Калядэнкі.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ГЭТА БЫЛО Ў СКІДЭЛІ».** Іх было восем, герояў-камсамольцаў. Усяго год дзейнічала іх баявая падпольная група ў акупаваным гарадку на Гродзеншчыне. Але зрабіць для вялікай Перамогі юныя патрыёты паспелі шмат. Выдадзеныя здраднікам, яны прайшлі праз нечалавечыя катаванні ў фашысцкіх засценках і памерлі як героі...

Пра подзвіг скідэльскіх маладагвардзейцаў і апавядаецца ў дакументальным нарысе В. Верхася і А. Гарэліка, які выйшаў новым выданнем.

**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1973 г. На рускай мове.**

**«ВЫТОКІ ПЕСНІ».** Першая кніга аўтабіяграфій беларускіх пісьменнікаў, «Пяцьдзесят чатыры дарогі», выйшла з друку ў 1963 годзе, другая, «Пра час і пра сябе»,— у 1966. Абедзве яны былі з вялікай прыхільнасцю сустрэты аматарамі роднага слова, і тыражы іх хутка разышліся.

Але тыя два выпускі пазнаёмілі чытачоў з аўтабіяграфіямі толькі часткі нашых літаратараў. Таму было шмат пажаданняў, каб выданне аўтабіяграфічных кніг мела працяг.

«Вытокі песні» — трэцяя кніга, у якой беларускія пісьменнікі (пераважна маладзейшага пакалення) расказваюць пра сябе, пра сваю жыццёвую дарогу і шлях у літаратуру. У ёй змешчана 55 аўтабіяграфій паэтаў, празаікаў, крытыкаў, драматургаў.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ПАМЯЦЬ»** — новая кніга прозы Барыса Сачанкі. Пісьменнік уключыў у яе дзве аповесці і некалькі апавяданняў. Старонкі аповесці «Чужое неба» ў многім аўтабіяграфічныя. Яны — з балючай памяці маленства, апаленага вайной. Вывезены разам з дарослымі ў Нямеччыну, аўтар хлопчыкам зведаў усе пакуты жыцця ў няволі. «Загадка аднаго падполля» — аповесць-быль. Юныя падпольшчыкі невялікага палескага гарадка гінуць, да канца застаўшыся вернымі Радзіме, светлым ідэалам юнацтва.

Думкай пра вялікую адказнасць жывых перад памяццю загінуўшых, перад памяццю бацькоў прасякнуты апавяданні «Ліст да маці», «Акопы», «Вочы».

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«ДРЭВА ЖЫЦЦЯ».** Кніга нарысаў Паўла Місько — пра сённяшні дзень нашай вёскі, пра яе людзей, іх жыццё і лёс, падчас нялёгкі і суровы. Добры знаўца вясковага побыту і гутарковай беларускай мовы, пісьменнік свежа і каларытна малюе вобразы сваіх герояў, трапнымі дэталямі раскрывае іх характары. Асобныя нарысы («Дзе Нёмана быстрыя воды...» і «Песня, песенька ты залатая...») прысвечаны праблеме захавання традыцый песеннай народнай творчасці ў культуры сённяшняй вёскі. Аўтар падае запісы быляў і народных песень, зробленыя ім на Брэстчыне, Гродзеншчыне, Віцебшчыне...

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«РАБОЧЫЯ ЛЮДЗІ».** Усе героі гэтай кнігі В. Мысліўца — рэальныя людзі, нашы маладыя сучаснікі. На шырокіх пуцявінах жыцця яны шукаюць сваё працоўнае прызначэнне, марыць аб светлым каханні і вялікім чалавечым шчасці. Розных па характары, прафесіі, адукацыі, іх аб'ядноўвае творчы пошук, светлы аптымістычны погляд у заўтрашні дзень. Маладыя неспакой, імкненне быць карыснымі грамадству прыводзяць іх на новабудоўлі рэспублікі — на пярэдні край нашых працоўных будняў. Адтуль, з ударных камсамольскіх будоўляў, і напісаны В. Мысліўцом усе тры нарысы аб маладых рабочых людзях: «Агні Лукомля» (з будоўлі Лукомльскай ДРЭС), «Наддзвінскі летапіс» (з Полацкага нафтаперапрацоўчага завода), «Задняпроўцы» (пра маладых лаўсанабудаўцаў).

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«РАЗВОДДЗЕ».** У паэтычным зборніку Марка Смагаровіча сабрана лепшае з ягонай лірыкі апошніх гадоў.

Зноў і зноў памяць вяртае паэта ў суровыя гады вайны, на франтавыя дарогі. Лепшыя вершы вызначаюцца замілаванасцю да роднай прыроды, любасцю да жыцця. У зборнік таксама ўвайшлі паэмы «Марыта», «Насуперак смерці», «Крутыя павароты».

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«БЛАКІТНЫЯ ВЕРБЫ».** Новая вершаваная аповесць Алеся Бажко прысвечана станаўленню савецкай улады ў заходніх абласцях Беларусі. Як зазначае ў кароткай прадмове сам аўтар, твор гэты напісаны на фактах з жыцця ягоных земляроў. Сродкамі мастацкага абагульнення выкрывае ён антынародную сутнасць беларускіх буржуазных нацыяналістаў, якія ў гады вайны верай і праўдай служылі гітлераўцам, а цяпер з-за мяжы паклёпнічаюць на Савецкую Беларусь. Твор вызначаецца і антырэлігійнай накіраванасцю.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

**«РУКА ДРУГА».** У анталогію украінскага апавядання, што выйшла на беларускай мове, уключаны лепшыя творы 48 савецкіх пісьменнікаў братняй Украіны. Тут прадстаўлена творчасць такіх майстроў прозы, як Ю. Смоліч, П. Панч, М. Стэльмах, А. Галаўко, В. Казачэнка, А. Ганчар, Н. Рыбак, Л. Первамайскі і інш. Розныя па тэматыцы і часе напісання, апавяданні даюць даволі поўнае ўяўленне аб станаўленні і развіцці «малога жанру» ў братняй украінскай літаратуры. Пра традыцыі і наватарства гаворыць у прадмове да кнігі Ю. Збанацкі. Кароткія біяграфічныя даведкі, змешчаныя ў анталогіі, знаёмяць чытача з жыццём і творчым шляхам нашых украінскіх сяброў.

Пераклады на беларускую мову зрабілі М. Лужанін, І. Шамякін, Я. Брыль, І. Навуменка, М. Ткачоў, Я. Скрыган, А. Кулакоўскі, Л. Салавей і іншыя беларускія пісьменнікі і перакладчыкі.

**Выдавецтва «Мастацкая літаратура», Мінск, 1973 г.**

Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні




**Т. П. БАГДАНАВА.**
**«Праца і сацыяльная актыўнасць моладзі».**
**Мінск, выдавецтва БДУ, 1972 г.**

# ПАРТРЭТ РАБОЧАЙ МОЛАДЗІ

Гэтая кніга павінна зацікавіць усіх, хто мае дачыненне да выхавання нашай рабочай змены. У ёй аўтар, кандыдат філасофскіх навук, дацэнт БДУ імя Леніна, з пункту гледжання сацыялогіі разглядае праблему фарміравання сацыяльнай актыўнасці рабочай моладзі ў працэсе працоўнай дзейнасці. Закранутыя пытанні вельмі актуальныя для нашых дзён. Сацыяльная актыўнасць асобы, як патрабаванне часу, цяпер становіцца галоўнай нормай камуністычнай маралі. На гэта асаблівую ўвагу звярнуў XXIV з'езд КПСС.

Аўтар, добра ўсведамляючы гэта,

Папытай у кнігарні ● Папытай у кнігарні

падыходзіць да праблемы не толькі як папулярызатар яе, а і як даследчык канкрэтных умоў, у якіх працуе рабочая моладзь. На багатым фактычным матэрыяле з жыцця маладых рабочых Мінскага камвольнага камбіната, станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава, маторнага завода Т. П. Багданава ўважліва прасочвае шляхі станаўлення творчай, сацыяльна актыўнай асобы.

З кнігі паўстае партрэт рабочай моладзі — арганічнай часткі свайго класа, з якім яна звязана мноствам сувязяў. Яе магчымасці, функцыі, роля, узровень самасвядомасці і сацыяльнай актыўнасці абумоўліваюцца характарам яе класавай прыналежнасці, станам і развіццём грамадскіх узаемаадносін.

Барацьба за моладзь, за яе розум і сэрцы распачынаецца ў брыгадах і ў цэхах і патрабуе прыязных адносін да кожнага чалавека.

Аўтар уважліва і глыбока разглядае праблему адаптацыі рабочай моладзі ў калектывах, адзначае некаторыя адмоўныя моманты, якія сустракаюцца ў выхаваўчай рабоце, з горыччу гаворыць аб фармалізме і бюракратызме ў дзейнасці асобных камсамольскіх арганізацый. «Фармалізм у рабоце з моладдзю перашкаджае некаторым камсамольскім работнікам зразумець, што савецкія юнакі і дзяўчаты не з'яўляюцца пасіўным аб'ектам выхавання, а выступаюць адначасова актыўнымі стваральнікамі свайго асабістага жыцця, сваёй асобы і ў той жа час — будучыні краіны».

Значнае месца ў кнізе адведзена даследаванню стымулаў сацыяльнай актыўнасці маладых. Аўтар лагічна канстатуе, што грамадска-актыўная дзейнасць юнакоў і дзяўчат звязана з неабходнасцю задавальнення багатых па змесце і форме, align разнабаковых матэрыяльных і духоўных патрэбаў савецкага чалавека. Менавіта ў гэтых патрэбах людзей замацоўваецца дасягнуты ўзровень грамадскага прагрэсу.

Галоўная ідэя кнігі: праца — аснова развіцця сацыяльнай актыўнасці моладзі. Актыўнасць залежыць ад адносін да сваёй прафесіі, ад задаволенасці абранай працай. Тут шмат у нас добрага. Аднак сацыялагічныя даследаванні выявілі на асобных прадпрыемствах і непрыемныя моманты. Так, на камвольным камбінаце сярод груп моладзі ва ўзросце 18—21 год і 22—25 год работай задаволены толькі кожны трэці. Кожны восьмы з апытаных маладых рабочых станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава назваў сваю працу нецікавай і выказаў жаданне яе змяніць. Патрабаванне творчай, цікавай працы, сам працэс якой нёс бы задавальненне, ёсць, напэўна, самая характэрная рыса сённяшняга маладога чалавека.

На жаль, у кнізе няма канкрэтных прапаноў, што трэба зрабіць, напрыклад, на камвольным камбінаце, каб высока ўзняць творчае задавальненне працаю, дзе знайсці на гэта сродкі. Праўда, аўтар і не ставіла перад сабой такой задачы. А дарэмна! Канкрэтная сацыялогія накіравана галоўным чынам на вырашэнне практычных задач. Ім і павінны служыць усе вывады даследавання.

У кнізе мнагавата агульных месц, дэкларацыйных разважанняў. Чаго варты, напрыклад, такі ўзор літаратурнага красамоўства: «У практычнай рабоце з моладдзю неабходна ўлічваць, што сама па сабе савецкая рэчаіснасць аўтаматычна не прыводзіць да засваення, самастойнай выпрацоўкі ўсебакова развітых патрэбаў усімі маладымі людзьмі»!..

Аўтар разумее, што яе кніга і ўсё тое, што напісана раней па гэтай тэме, — толькі пачатак вялікай працы. Таму, безумоўна, на яе ўзровень уплывае нераспрацаванасць некаторых тэарэтычных праблем. І перш-наперш гэта датычыць сацыялізацыі чалавека. Т. П. Багданава ўслед за філосафам А. В. Андрэенкавай лічыць, што сацыялізацыя чалавека працягваецца не ўсё жыццё, а толькі той перыяд, які неабходны для заснавання і замацавання комплекса норм, для фарміравання ўстойлівай сістэмы сацыяльнай арыентацыі. Гэты перыяд — прыкладна да 23—25 год...

Але ж гэтая думка не бясспрэчная! Хіба чалавек у сталым узросце не адчувае ўздзеяння асяроддзя, грамадскіх адносін? Пасля падрыхтоўчага этапу малады чалавек становіцца сацыялізаванай асобай і перастае быць толькі аб'ектам выхавання і навучання. На гэтым этапе яго сацыяльнае развіццё адбываецца найбольш актыўна, разнабакова, а колькасныя і якасныя змены ідуць на працягу ўсяго далейшага жыцця. Калі ж прыняць палажэнне, што сацыялізацыя заканчваецца ў адпаведным узросце, то лёгка стаць на пункт гледжання, нібы ў далейшым выхаванні чалавек не мае патрэбы...

Кніга, пра якую вялася гаворка, — першы вопыт сацыялагічнага даследавання праблем моладзі ў Беларусі. Прыемна адзначыць, што вучоныя рэспублікі, у прыватнасці, Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, пачынаюць іх грунтоўную распрацоўку.

**Рыгор КАРНІЛОВІЧ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік праблемнай лабараторыі сацыялагічных даследаванняў БДУ імя У. І. Леніна.**





# ПЕРШЫЯ КРОКІ

У гісторыі бальшавіцкага друку Беларусі 1905—1907 гадоў друкаванае слова маладзёжнай арганізацыі пры Мінскай групе РСДРП — як кволая ручаінка ў плыні вялікай ракі. Усяго некалькі лістовак. Аднак яны — першыя ластаўкі будучага маладзёжнага друку Беларусі, якія нараджаўся не на пустым месцы.

Вучнёўская арганізацыя РСДРП узнікла ў Мінску ў 1904 годзе, а ўжо вясной 1905 года ў яе гуртках займалася 150 чалавек. Гэта былі пераважна вучні сярэдніх навучальных устаноў горада — гімназій, вучылішчаў, духоўнай семінарыі. Захаваліся прозвішчы некаторых яе кіраўнікоў і членаў: У. Любімаў, Н. Ленскі, С. Ліпштэйн, В. Кахомскі, Ф. Гайліс, Ф. Красоўскі, К. Чапінскі, А. Судзілоўскі, Н. Цімафеева, Н. Шабад і інш. На жаль, мы не можам пакуль што сказаць нічога пэўнага пра іх лёс.

Арганізацыя вучняў, як і сама група РСДРП, пры якой яна была створана, стаяла на бальшавіцкай платформе. Члены яе памагалі распаўсюджваць і захоўваць палітычную літаратуру, знаходзіць явачныя кватэры і г. д. Аднак галоўную сваю задачу яны бачылі ў правядзенні агітацыйнай і прапагандысцкай работы сярод сваіх таварышаў. Не абмяжоўваючыся вуснай прапагандай і распаўсюджваннем выданняў Мінскай групы РСДРП, Паўночна-Заходняга камітэта, ЦК РСДРП, члены вучнёўскай арганізацыі ўзяліся за выданне і распаўсюджванне ўласных лістовак.

Выхад кожнага лістка звязаны з пэўнай падзеяй у жыцці горада. Так, першы быў выдадзены 17 лютага 1905 года, на наступны дзень пасля масавай забастоўкі вучняў усіх 30 навучальных устаноў горада (23 ніжэйшыя і 7 сярэдніх). Падлеткі выйшлі на вуліцу, каб выказаць свой пратэст супраць існуючага ладу і пануючых у царскай школе парадкаў, сцвердзіць салідарнасць з пралетарыятам, што ўзняўся на барацьбу. Магчыма, менавіта поспех забастоўкі і яе шырокі рэзананс падказалі членам вучнёўскай арганізацыі думку аб стварэнні свайго друку, дзе давалася б іхняя ўласная ацэнка падзеям дня.

У першым лістку падводзіліся вынікі забастоўкі і падтрымліваліся тыя яе ўдзельнікі, якія патрабавалі палітычнай свабоды. Апублікавана рэзалюцыя, прынятая на сходцы вучняў, што адбылася пасля дэманстрацыі. «Аб'яднаная сходка вучняў сярэдніх навучальных устаноў г. Мінска, — гаварылася ў ёй, — усведамляючы неабходнасць акадэмічнай свабоды і немагчымасць яе пры той сістэме паліцэйска-бюракратычнай апекі, што пануе ў Расіі, а таксама ва ўсведамленні таго, што толькі са знішчэннем самаўладнага рэжыму магчыма задавальненне патрэб вучняў, выказвае свой недавер гэтаму рэжыму і патрабуе знішчэння самаўладдзя.

Наступны лісток быў выпушчаны (колькасцю ў 400 экземпляраў) у сувязі з заканчэннем навучальнага года. У ім быў змешчаны зварот членаў вучнёўскай арганізацыі да ўсіх, хто заканчвае мінскія сярэднія навучальныя ўстановы. «Час вашага вызвалення з-пад ферулы педагагічнай бюракратыі, — гаварылася ў звароце, — супаў з вялікім часам усенароднай барацьбы за палітычную свабоду. Хочаце ці не хочаце, а вам давядзецца прыняць удзел у гэтай барацьбе, у разбурэнні старых і будаўніцтве новых формаў палітычнага жыцця радзімы».

Да пачатку новага навучальнага года члены арганізацыі выпусцілі яшчэ адзін лісток. Яны з вялікай страснасцю і маладой гарачлівасцю сцвярджаюць, што «душная атмасфера казённай школы» не зможа «падавіць нашы парыванні, змяніць нашы перакананні». Характарызуючы атмасферу, якая склалася ў краіне, аўтары лістка з упэўненасцю заяўлялі: «Усе жывыя сілы Расіі падняліся на барацьбу супраць ненавіснага царскага самаўладдзя. Момант вызвалення набліжаецца. Мы напярэдадні ўсенароднага ўзброенага паўстання».

Апошні вучнёўскі лісток пабачыў свет у кастрычніку 1905 года. Надрукаваны ён быў на гектографе і выкліканы «абуральнай бессаромнасцю пані Голікавай». Голікава, класная дама мінскай жаночай гімназіі, западозрыўшы адну з вучаніц у распаўсюджванні нелегальнай літаратуры, вырашыла ўласнымі рукамі абшукаць яе, пры гэтым дзейнічала па ўсіх правілах паліцэйскай навукі. Члены арганізацыі, расказваючы ў лістку пра гэты выпадак, гавораць аб «канчатковым маральным банкрутстве царскай школы». Яны заяўляюць, што ні педагагічнымі вобыскамі, ні курлоўскімі расстрэламі «не ўтрымаць моладзь ад удзелу ў вялікай барацьбе за свабоду». Яны заклікалі: «Таварышы! Ідзём за сацыял-дэмакратыяй! За партыяй, якая не ведае ганебных пагадненняў з ворагамі народа. За партыяй, якая ясна і прама глядзіць у твар вялікіх падзей, што павінна перажыць наша радзіма... Ідзём з тымі, каму спакой застою горш, чым смерць, з тымі, хто... усе сілы аддае на барацьбу за сацыялізм».

Лісткі, выпушчаныя вучнёўскай арганізацыяй пры Мінскай групе РСДРП, цікавыя для нас як дакументы, у якіх адлюстраваліся думкі і спадзяванні перадавой мінскай моладзі таго часу, яе першыя крокі на шляху да авалодання вялікай навуковай рэвалюцыйнай барацьбы.

**Ганна ПАНАМАРОВА.**



# ДОЎГІЯ ДНІ ЛЕТА

Мінчанін **Аркадзь БІРЫЛКА** — інжынер. Ён распрацоўвае аўтаматычныя сістэмы кіравання вытворчасцю.

Пятнаццаць гадоў назад сябрам Аркадзя стаў фотаапарат. Сюжэты, якія трапляюць у ягоны аб'ектыў, вельмі простыя: вясковы краявід, дзеці, коні. А фатаграфіі атрымліваюцца лірычныя, тонкія ў сваім настроі. Відаць, чым глыбей чалавек спасцігае глыбіні сучаснай тэхнікі, тым больш ён прагне той адвечнай раўнавагі, якая існуе ў прыродзе.





вернісаж «маладосці»







# МАТАЙ НА ВУС

*З народнай мудрасці*



Іголкай не выкапаеш студні.



Калі цябе пацалаваў злодзей — пералічы зубы.



Не звяртай увагі на крывы комін, калі дым ідзе роўна.




Певень, каторы будзе добра спяваць, спявае яшчэ ў яйку.



Учора вылупіўся з яйка, а сёння яму шкарлупа ўжо не падабаецца.



Словы трэба ўзважваць, а не лічыць.




З аднаго каменя не зробіш мур.



. І самы страшны бык быў калісьці цялём.

Пачулі і намалявалі
**Г. БУРАЧЭЎСКІ і У. КОНАШ.**

# нашы аўтары

**ВОЛЬСКІ Артур** нарадзіўся ў 1924 годзе ў г. Дзяржынску Мінскай вобласці. Вучыўся ў Віцебскім мастацкім вучылішчы, скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. У часе Вялікай Айчыннай вайны служыў на баявых караблях. Аўтар паэтычных кніг «Водбліскі далёкіх маякоў», «Далёкія і блізкія прычалы», «Дабрата» і многіх кніжак для дзяцей.

**БАСУМАТРАВА Святлана** нарадзілася ў 1946 годзе ў Мазыры. Займаецца завочна ў Мінскім педагагічным інстытуце імя А. М. Горкага. Працуе ў Бабруйску.

**ЯРАШЭВІЧ Эдуард** нарадзіўся ў г. Бабруйску ў 1946 годзе. Скончыў дзесяцігодку. Жыве ў г. п. Смілавічы. Аўтар кніг «Вішанька Восіпа Міхеевіча» і «Прызнанне».

**АДАМОВІЧ Алесь** нарадзіўся ў 1927 годзе ў вёсцы Канюхі на Случчыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Доктар філалагічных навук. Працуе ў Інстытуце літаратуры імя Я. Купалы Акадэміі навук БССР.
Аўтар навуковых прац «Шлях да майстэрства», «Культура творчасці», «Беларускі раман»; рамана-дылогіі «Партызаны» (на рускай мове), аповесці «Вікторыя». «Хатынскай аповесці».

**БРЫЛЬ Янка** нарадзіўся ў 1917 годзе ў Адэсе. Аўтар кніг «Нёманскія казакі», «Вераснёвая рунь», «У Забалоцці днее», «На Быстранцы», «Птушкі і гнёзды», «Вітраж» і многіх іншых.
Янка Брыль—лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР і Літаратурнай прэміі імя Якуба Коласа.

**КАЛЕСНІК Уладзімір** нарадзіўся ў 1922 годзе ў вёсцы Сіняўская Слабада на Гродзеншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага. Працуе загадчыкам кафедры беларускай літаратуры Брэсцкага педінстытута імя А. С. Пушкіна. Кандыдат філалагічных навук.
Аўтар кніг па літаратуразнаўстве «Паэзія змагання», «Час і песні», «Аповесці пра Таўлая» і інш.

**ЯФІМАЎ Фёдар** нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Нова-Троіцкая Цярноўскага раёна Варонежскай вобласці. Скончыў Суворaўскае і пяхотнае вучылішчы, быў камандзірам і палітработнікам у Савецкай Арміі. У 1967 годзе скончыў Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага. Аўтар кніг «Армия», «Утренний автобус», «Дням настоящим».

**СПРЫНЧАН Браніслаў** нарадзіўся ў 1928 годзе ў вёсцы Каніж Навамірградскага раёна Кіраваградскай вобласці. Скончыў Кіраваградскі машынабудаўнічы тэхнікум, Літаратурны інстытут імя А. М. Горкага, Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПБ. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Нёман». Аўтар паэтычных кніг «Над кручами Сожа», «В центральном пролете», «Ветер на откосах», «Плавка», «Черты лица», «Ясень».

**СІМАНОВІЧ Давід** нарадзіўся ў 1932 годзе ў г. п. Нароўля на Гомельшчыне. Скончыў філалагічны факультэт БДУ імя У. І. Леніна. Працаваў у раённай і абласной газетах. Цяпер старшы рэдактар Віцебскай студыі тэлебачання. Аўтар паэтычных кніг «Весенняя сказка», «Июнь-река», «Равноденствие», «Минуты», «Станция тревоги и любви».

**СКОБЕЛЕЎ Эдуард** нарадзіўся ў 1935 годзе ў Мінску. Скончыў Дзяржаўны інстытут міжнародных адносін. Працаваў у Міністэрстве замежных спраў СССР і БССР. Цяпер працуе ў апараце ЦК КПБ. Выдаў зборнік вершаў «Дорога» і раман «Шаги за твоей стеной».


**ЖУРНАЛ «МАЛАДОСЦЬ» № 7**

**(на белорусском языке)**

Мастацкі рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Тэхнічны рэдактар **Уладзімір КОНАШ.**
Карэктары **Пятро ЛІПАЙ** і **Марыя ВАСІЛЕЎСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: 220600, Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 29-36-48—галоўны рэдактар і нам. галоўнага рэдактара; 29-38-54—сакратарыят і аддзел крытыкі, 29-35-92—аддзелы паэзіі і прозы, 29-38-92—аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 29-37-75—аддзел інфармацыі.

АТ 08622. Здадзена ў набор 28.V.73 г. Падпісана да друку 28.VI.73 г.
Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Ул.-выд. арк. 14,5.
Тыраж 16 923 экз. Зак. 291. Цана 40 кап.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі, Мінск, Ленінскі прасп., 79.**






**А. ЗАХАРАЎ. Графічная саната.** Ліпагравюра.